# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ

5

1938

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ПЯТАЯ*









МЕНСК—1938




# УСЕ НА ВЫБАРЫ

## у Вархоўны Совет Беларускай ССР!

*Ц. Карага*

## НАД КАЛЫСКАЙ

Над калыскай маці
Галаву схіляе,
Роднаму дзіцяці
Песню напявае.
„Спі, мая дачушка,
Спі, мая малая!
Засынаюць птушкі,
Песня іх сціхае;
Месяц ходзіць нізка,
Ў вокны пазірае,
Вось і поўнач блізка
Спі, мая малая!
Заўтра дзень настане
Радасны і светлы,
Сонейка прагляне
Ласкава і ветла.
Дам табе я цацак
Застанешся ў хаце.
З бацькам на участак
Пойдзе твая маці.
Будзе радасць слаць нам
Ласкавае сонца,
Пойдзем выбіраць мы
Сталінскіх пітомцаў.
У Совет Вярхоўны
Беларусі вольнай.
Ад сябе пашлём мы
Самых лепшых, здольных.
Будуць клапаціцца
Нашы дэпутаты,
Каб заўжды шчаслівай
Кветкаю расла ты.

*Сулейман Стальскі*

# ПАСЛАННЕ СВАІМ ВЫБАРШЧЫКАМ

У Совет Вярхоўны—я пачуў
Мяне народ намеціў мой.
Я, сын краіны дарагой,
Пашану гэтую адчуў.
Куды мне лішкі шчасця дзець,
Як радасць гэтую апець?

І мне старому ці-ж старэць?
Мне дадзена такая чэсць.
І дзе яшчэ скажыце нам
Павага, слава песнярам?
У нас, дзе шчасна ўсе жывуць,
Пашану гэтую даюць.

І я хачу сказаць аб ім,
Аб слаўным, мудрым, дарагім,
Што заўжды праменем сваім
І днём, і ноччу свеціць—Сталін!

На рэчках быстрых, на марах,
У стэпах дальніх, аблаках,
Калгасах, цэхах, рудніках
Ен заўжды, ўсюды з намі—Сталін!

Ён сонца яснае—ён той,
Народ вядзе хто за сабой
На перамогі і на бой.
Ён агнявое сонца--Сталін!

Хто прошласці. развеяў муць,
Хто вольна ўсім памог дыхнуць,
Хто краскамі услаў нам пуць
Цудоўнымі—наш любы Сталін!

Няволю скінуў з нашых плеч,
Для ворага ён страшны меч,
Як бура, гураган, як смерч—
Наш родны, наш любімы—Сталін!

У шчасным сонечным краю
Яго, вялікага, пяю
І свой я голас аддаю
Таму, хто сцягам нашым—Сталін!

І не адзін-жа толькі я—
Народаў дружная сям'я
За любага правадыра
Усім сэрцам галасуе—Сталін!

І я бязмежна буду рад,
Калі увойдзе мудры нарт*)
У Совет Вярхоўны дэпутат
З дастойнымі сынамі—Сталін!

Каб гучна Сулейман спяваў
Народ яму пашану даў,
Народ яму давер'е даў
Радзімы шчаснае, ашуг.

Мая краіна—родны дом,
Цябе пяю я зноў і зноў!
Я волю выканаць гатоў
Народа роднага ашуг.

*Пераклаў М. ХВЕДАРОВІЧ*

*) Нарт—легендарны асілак горскага эпаса.

*Сулейман Стальскі*

## ПЕРШАМАЙСКАЕ ПАСЛАННЕ

Таварышы, ідзе вясна
І сілай поўніць нас яна.
Свет прачынаецца ад сна.
Шлем Першамаю наш прывет!

Гатоў любы з нас к барацьбе,
Жыццё мы творым для сябе.
Юнацтва шчаснае, ў табе
Я слаўлю маладосць. Прывет!

Улады нашае пагляд
Нам адчыніў жыццёвы сад.
Тым хто прыгнечан быў стократ,
Дзяўчатам шчасным—наш Прывет.

Паўнюткі жолабы вады
І млын працуе наш заўжды.
Для жоран хопіць тут ялы—
Багаты ураджай—Прывет.

Сталь-Сулейман бязмерна рад,
Жыццё такое стала, брат.
І час настаў такі ў нас, брат...
Я слаўлю маладосць, Прывет!

*Пераклаў М. ХВЕДАРОВІЧ*

# ПЕСНЯ АБ ПАХОДЗЕ ІГАРАВЫМ

I

Ці не добра было-б нам, брацці,
Старадаўнымі словы пачаці

Сказ аб Ігара трудным паходзе,
Святаславіча-князя прыгодзе?

А пачацца сягочасным ладам
Песні тэй,—не Баянавым складам!

Бо Баян чарадзейны, як песняй
Захацеў каму пеці пачэсне,

Расцякаўся ён белкай па дрэву,
Шэрым воўкам па полі—пасеву,

Сівакрылым арлом пад аблокі,—
Так захопліваў свет ён далёкі!

Помніў ён бо, як кажуць, старыны
І разрухі ўсе даўных часінаў:

Выпушчаў дзесяць сокалаў радам
Ды на белае лебедзяў стада,

А якая з іх сокалу ўпала,
Тая першая песню пяяла:

Ці старому тады Яраславу,
Ці харобраму князу Мсціславу,

Што ў борцы зарэзаў, як зглездзеў,
Перад войскам Касожскім Радзедзю,

Або краснаму пела Раману
Святаславічу ў хвалу й нагану.

Але, брацці, не сокалаў дзесяць
Выпушчаў ў свет Баян з пералесіц

На лябяджае стада, бы ў байцы,—
А ён клаў свае вешчыя пальцы

На певучыя струны, а тыя
Пелі славу князём, як жывыя.

Дык пачнем-жа мы, брацці, сказ гэты
Ад старога Уладзімера летаў,—

Да сучаснага Ігара-воя,
Што скуў розум свой сілаю ўдвое.

Навастрыў сваё сэрца адвагай,
Барацьбянай напоўніў дух смагай

І павёў церав сёлы і вёскі
Свае дужыя, храбрыя войскі

На зямлю Палаўчан, на змаганне
Ды за рускай зямлі бытаванне!

II

Як зірнуў тады Ігар на сонца,
Бачыць—цемра зацмення бясконца

Яго войска пакрыла, як сажай,
Тут дружыне сваёй ён і кажа:

„Ой, вы, брацці мае, і дружына!
Лепей будзе, каб кожны з нас згінуў,

„Чымся быць усім нам у палоне.
Сядзьма-ж, брацці, на быстрыя коні,

„Ды на Дон сінявокі паглянем!“
На вум князю залегла жаданне:

Не зважаючы з неба варожбаў,
Сягнуць Дону вялікага ложбаў.

„Вось хачу,—кажа, вострую дзіду
Заламаць за бяду і абіду

„Аб канец Палавецкага поля;
Хачу з вамі, Русіны, за волю

„Палажыць сваю голаў да скону,
Ці напіціся шоламам Дону“.

О, Баяне, часінаў мінулых
Салавейка! На струнах-бы чулых,

Ты апеў-бы паход слаўны гэны,
Імкнучы, салавейча нязменны.

Па выдумнаму дрэву далёка,
Дасягаючы духам аблокаў,

Часаў даўных звіваючы й новых
Сваёй славай абедзьве паловы,

След Траянавы сочачы, скоры,
Цераз поле, даліны на горы.

Ты-бы песню тады аб набегах
Спеў для Ігара, ўнука Алега:

„Ой, не сокалаў несла віхурай
Цераз поле шырокае бурай!

„А кацiлiся галiцы стадам
Да Вялiкага Дону з нападам“...

Цi запець было, вешчы Баяне,
Унуча Велеса, гэта пяянне:

„Конi ржуць за Сулою-ракою,—
Слава ў Кiеве звонiць з зарою!“

Чутны трубы з Навагрода,
Стаяць сцягi у Пуцiўлi.
Iгар брата Ўсевалода
Жджэ прыход у кожнай хвiлi.

I прышоў брат i казацi
Стане буй-тур Усяволад:—
„Ты ў мяне адзiн, мой браце,
Свет мой светлы, Iгар-волат!

„Мы з табой абодва сённi
Святаслававыя дзецi,
Дык сядлай свае, брат, конi,
Конi быстрыя, бы ўспецi.

„А мае напагатове
Ужо, як знаеш, асядланы
Яшчэ ўперад у дуброве,
Каля Курску, раным-рана.

„А мае-ж Куршчане любы
Табе ведамыя кметы:
Пад гудамi гулкiх трубаў
Спарадзiлiся ў дасветы.

„Гадавалi iх шаломы,
А канцом дзiды ўскармлёны,
Шляхi iм усе вядомы
I знаёмы яры, склоны.



„У iх нацягнутыя лукi,
Нарыхтаваныя стрэлы;
Шаблi вострыя у рукi
Пахапалi, дзержаць смела.

„Як ваўкi сiвыя ў полю,
Самi мчацца ў бой крывавы,
Каб здабыць сабе чэсць волю,
Каб прыдбацi князю славы!“

Князь Iгар тады ў залатое сядло
Сеў i паехаў па чыстым разлогу,
А сонца на небе, згасiўшы святло,
Цемрай яму заступiла дарогу.

Ноч, стогнучы жудкія грозьбы яму,
У полі маркотным птушшо разбудзіла.
А выцце звярынае ў гэтую цьму
У стада пужлівае птахаў тых збіла.

Паверх лесу кліча ўжо чарамі Дзіў,
Слухаці кажа зямлі незнаёмай!—
Корсунь, Памор'е і Сураж зацьміў,
Волзе, Пасуллю папутаў заломы.

Кажа й табе яго слухаць, балване,
Што разбаярыўся ў Тмутаракане!

А Полаўцы шляхам пабеглі нябітым
К Вялікаму Дону, як зверы, жудосна;
Калёсы у поўнач крычаць іх адны там,
Маўляў тыя лебедзі спуджаны со-сну.

Вось Ігар-князь к Дону вядзе сваіх вояў,
А птаха, бяда яго, сочыць па суччы;
Ваўкі па бярлогах варожаць благое,
І брэшуць лісіцы на шчыты бліскучы.

Арлы заклікаюць звяр'ё клякатаннем
Збіраць на пабоішчы косці людскія...
— О, Рускае племя! Далёкім сяганнем
Ты ўжо перайшло рубяжы Палаўцкія.

Доўга ў мроку ноч танула,
Заранiца світ зблiжала,
Поле мглою зацягнула,
Ранне жніва сваё жала.

Сціхнуў свергат салаўіны,
Узбудзіўся гоман галчы...
— О, харобрыя русіны!
Прад навалаю паганчай

Загародзілі шчытамі
Вялікае тое поле,
Здабываючы чэсць самі,
А для князя славы болей!

III

А во ў пятніцу рана стапталі
Палавецкае войска паганае;
У полі стрэламі там засвісталі,
Загулялі пабеду праслаўную.

Ўзялі красных дзяўчат Палавецкіх
І папоны, аксаміты, золата—
Усё, што ўпала да рук удалецкіх,
Што бітвой не было ў попел змолата.

Палавецкім багаццем-плашчамі,
Кажухамі, тканінай залотнаю
Памасцілі масты пад нагамі,
Загацілі праходы балотныя.

Сцяг чырвоны, дзіда серабрана
І бунчук па абычаю добраму
У нагароду за славу, за раны,
Святаславічу, князю харобраму!

Дрэмле Алега харобрае
У полі на шчытах гняздо.
Ой, даляцела, адважнае,
Дужа далёка яно!

А не было-ж яно зроджана
У крыўду нікому нідзе—
Ні быстракрыламу крэчату,
Ні сакалу, ні бядзе.

І ні табе, Палаўчаніне,
Чорны паганы груган!..
Крыўдзе тваёй не спакорыцца
Вольны Алегавы стан.

Гза бяжыць шэрым воўкам
Там па полі па дзікаму,
А Канчак яму сцежку
Значыць к Дону Вялікаму.

На другі дзень вельмі рана
Над зямлёй крывавы зоры
Світ усходні абвяшчаюць,
Хмары чорныя йдуць з мора.

Сонцы два прыкрыці хочуць,
Як дзве ясныя заранкі,
А во ў хмарах гэных чорных
Ззяюць сінія маланкі.

Быці вялікаму грому
Над каласамі паспелымі;
Дажджу ісці каляному
З Дону Вялікага стрэламі.

Тут паламаціся дзідам
Па-над Каял ракі доламі,
Тут пашчарбаціцца шаблям
Аб палавецкія шоламы.

О, зямля Руская! З славай
Воі твае маладзецкія
Перасягнулі далёка
Ужо рубяжы Палавецкія.

Вось ветры, Стрыбожыя ўнукі,
Павеялі стрэламі з мора
На храбрае Ігара войска,
Узгадована ў долі і ў горы.

Зямля і дудніць і трасецца,
Цякуць памутнеўшыя рэкі;
Туман пакрывае ўсё поле,
А сцягі гамоняць: на векі!

Ідуць Полаўцы ад Дону,
Ад мора ўсплылі,
Войска рускае навокал
Нетрай абступілі.

Перагарадзілі поле
Шатанята клікам,
А харобрыя русіны—
Шчытамі і пікай.

Ой, ты, яр-тур—Усяволад!
Стаў ў бок забіякай;
Засыпаеш ты варожых
Стрэламі ваякаў.

І грыміш аб іх шаломы
Стальнымі мячамі;
Дзе ўпадзеш, тур, залатымі
Свецячы шчытамі,—

Там кладуцца ў рад галовы
Полаўцаў паганых,
а вараскія шаломы
Шабляй пашчапаны...

Якая цана ранам, брацці, таму,
Хто забыўся жыцця яснаты.
На горад Чарнігаў хто ў боях забыў
І на бацькаў пасад залаты?

На мілую любу, Глябоўну сваю—
Яснавокую краску-жану,
На звычай, абычай прадзедаў стары,—
Хто ўсё гэта забыў у вайну?..

IV

Былі слаўныя, дзеяў Траяна, вякі,
Прамінулі гады Яраслава
І паходы Алега былі, працяклі—
Ўсё Алега з сыноў Святаслава.

Той Алег бо мячамі разруху каваў,
Па зямлі сеяў стрэлы разгонам,
Калі ў горадзе Тмутаракані ступаў
У залатое стрэмя ён са звонам:—

Чуў здалёку той даўны трывожлівы звон
Ярасдаваны сын, Усяволад.
А Уладзімер што-рання, пакінуўшы сон,
Зачыняўся ў Чарнігава-горад.

А Барыса таго Вячаславіча,
Маладога і храбрага князя,
На апошні суд слава паклікала,
За якою ганяўся ў адвазе.

І на векі пасцелю зялёную
У Каяльным зпаценні паслала—
Усё за крыўды-абіды Алегавы,
Што загубства разводзіў нядбала.

К тэй Каяле—рацы між Угорскімі
Іназодцамі сам палялеяў
Яраполк свайго бацьку да Кіева—
Да сялібы святое Зафеі.

Пры Алегу тады Гараславічу
Моц было міжусобіц, няладаў;
Жыццё гінула ўнука Дажбожага,
Люд свой век скарачаў у княжых звадах.

На зямлі тады Рускай узбуранай
Рэдка пеў аратай за сахою,
Груганнё зато часта пагрумквала,
У полі дзелячы труп між сабою.

А на ежу ляцеці збіраючыся,
Галкі гоман заводзілі й гулі.
Так было ў тыя войны й пабоішчы,
А такіх бітваў слухам не чулі!

V

Ад раніцы да вечара,
Ад вечара да раніцы
Лятуць стрэлы гартоўныя,
Грымяць мячы аб шоламы,
Трашчаць дзіды сталёвыя,
Шумяць харугві стужкамі
Сярод палёў няведамых,
Сярод зямель Палоўцавых.

Зямля тая ўчарнелая,
Пабітая капытамі,
Касцямі ўся пасеяна,
Крывёю ўся палітая,
Вялікай абхапілася
Зямля тугою Руская.

Што там шуміць, што там звініць
Рана, йшчэ перад зарою?—
Ігар палкі ўводзіць свае:
Жаль яму Ўсеўлада-брата.

Біліся дзень, дзень і другі,
Трэцяга дня пад палудня
Сіла змагла, сіла лягла,
Рухнулі Ігара сцягі.

Тут два браты разлучыліся
На беразе быстрай Каялы,
Тут не хапіла крывавага
Віна ды ў гульні нябывалай.

Тут баль даканчылі храбрыя
Русіны—не дарма набеглі,—
Сватоў спаілі, а самі там
За Рускую зямлю палеглі.

Ў полі далёкім ад жаласці
Маркотна ные травіца,
А пад тугой цяжкай дзерава
К зямлі сірацінай хіліцца.

I

Во, невясёлая, брацці, гадзіна настала!
Сілу пустыня прыкрыла ўжо грознай навалай;

Крыўда паўстала у ўнука Дажджбожага сілах,
Дзевай яна на Траянаву землю ўступіла.

Крыллем лябяджым па моры ўпляснула, а ў Дону
Плюскатам спудзіла шчасныя часы ў бяздонні.

Князевы споркі—людзям ад паганых загуба;
Стаў гаварыці брат да брата са злосці, нялюба:

„Гэта і гэна маё!“ Ды пачалі казаці
Князі аб малым: „во гэта вялікае, браце!“

А на сябе самі згубства каваці няўстанне...
Скрозь-жа на Русь набягалі з пабедай пагане.

О, як далёка сакол заляцеў ў гэну пору,
Птушак пужлівых збіваючы, к сіняму мору!

А ўжо адважнага Ігара войска не ўскрэсіць!
Па ім Карына заклікала, гледзя на месяц

Жэля па Рускай зямлі панясласе з трывогай,
Смагу наводзячы людзям у полымя рогу.

Жоны заплакалі рускія ў жальбах нябылых:
„Ужо нам не мысляй памысліць мужоў сваіх мілых,

„А ні прадумаці думай, ні вочмі сваімі
Іх азіраць на пуховай пасцелі жывымі.

„Срыбрам і золатам тым пагатове ніколі
Нам не пацешыцца ў долі, самотнае долі!“

І застагнаў-жа, о, браццi, град Кіеў тугою,
А той багаты Чарнігаў—напасцю благою!

Журба па Рускай зямлі разлілася разводдзем,
Ды пацякла ненасытная жальба ў народзе.

А на сябе самі князі загубства кавалі,
А тут паганыя самі адны не чакалі,

Панаваліўшыся на Рускую землю з пабедай,
Дань вымагалі па белцы з двара даўным следам.

Тыя бо два Святаславічы, храбрыя воі—
Ігар, Усяволад—няпраўду збудзілі сабою,

Што быў прыспаў іхні бацька, той грозны вялікі
Кіеўскі князь, Святаслаў. Ён-жа не для прылікі

Грозьбаю быў над варожымі сіламі злымі
З войскам харобрым сваім і мячамі стальнымі.

На Палавецкія землі нагой наступіўшы,
Узгоры і яры пакуль не стаптаў, стуль не вышаў.

І замуціў там вазёры і рэкі ў чаротах,
І засушыў там крыніцы і дрыгвы-балоты,

А паганога Кабяку з узлучыны морскай,
Як бураломнае віхрышча, выхапіў дзёрзка.

Ад тых палкоў палавецкіх, жалезных, агромных,
Ажно зваліўся Кабяк у Святаслава харомах!

Тут вэнэдыйцы і немцы, тут грэкі й маравы
Славу вялікую дружна пяюць Святаславу;—

Ігара каюць, нашто патапіў ён багацце—
У донні Каялы-ракі Палавецкай загаціў,—

Золата рускага ўсыпаўшы там вельмі многа.
Там-жа князь Ігар ссаджаўся з сядла залатога

Ды на сядло ўжо нявольніка ціха садзіўся...
У горадах сцены занылі, шум-гоман спыніўся.

VII

А на горах у Кіеве гэтае ночы
Святаславу прысніўся сон смутны, прарочы:

„Адзявалі мяне,—кажа,—з вечара зморна
На цясовай кравацi пасцілкаю чорнай;

„Віно сіняе чэрпалі мне, бы ў вяселлі,
А ў віне тым благое намешана зелле.

„А з пустых палавецкіх каўчанавых жэрлаў
Мне на грудзі там сыпалі буйныя пэрлы,

„Ды так песцяць мяне. А ўжо дошкі ў праломах
І без скрэп на маіх златаверхіх харомах.

„Усю з вечара ноч груганнё грумкацела,
На балонь каля Плеснеску ўжо даляцела,

„Пабыло на балоцістых нетрах Кісані
І да сіняга мора няслося на ранні!"

І казалі на гэты сон князю баяры:
„Ўжо туга, княжа, розум адзела твой хмарай

„Гэта з бацькава так залатога пасаду
Сакалы два зляцелі сачыцi прынаду—

Горад Тмутаракань пашукацi з разгону,
Або ўдоваль напіціся шоламам Дону.

„І ўжо сокалам гэным шаблямі паганых
Пападсечана крылле на дзікіх палянах,

„А самiх у жалезныя спуталі путы,
Ў трэці дзень патануў свет у цемрадзі лютай:

„Сонцы два пацямнелі—слупы агнявыя
Згаслі два,—з імі месяцы два маладыя.

„Святаслаў і Алег апрануліся цьмою
І на моры Яны патанулі абое,

„І вялікай буянасці хану дадалі.
Цьма пакрыла святло на рацэ на Каяле,

„А па Рускай зямлі, як гняздо тое рысяў,
Чарадою скрозь Полаўцы параспаўзліся.

„Ўжо ўзнялася над хвалай благая пахула,
Ўжо насілле над воляй уссела—сагнула,

„І ўжо рынуўся Дзіў на зямлю на прыселлі,
Вось бо Гоцкія красныя Дзевы запелі

„На пахілістым беразе сіняга мора,
Рускім звонячы золатам, сочачы зоры.

„Ўсе пяюць яны Бусавы часы і справы
Й Шараканавай помсты лялеюць праявы.

„А ўжо мы во—твая маладая дружына
Больш не знаем з табою вясёлых часінаў“.

Тады вялікі Святаслаў
Азваўся словам залатым,
Змяшаным з горкімі слязьмі,
І так сказаў баярам тым:

„О, сыны мае, Ігар і Ўсевалад!
Рана пачалі крышыці
Мячамі зямлю Палавецкую,
А сабе славу сачыці.

„Але толькі не з чэсцяй уходалі,
Бо вы не ў чэсці і хвале
На тым полі далёкім паганскую
Кроў на зямлю вылівалі.

„Вашы сэрцы ў сталь крэпка закованы—
Узброены гартам адвагі,
Але што-ж натварылі сівізне вы
Тамка маёй без развагі?

„Не даждалі багатага й сільнага
Брата майго Яраслава
На падмогу з яго многавоямі,
З войскам чарнігаўскім бравым—

„А ваякі яны ўсе сусветныя:
Там і Магуты, й Шальберы,
І Татраны у побач з Равутамі,
Там Тапчакі і Альберы.

„А яны бо з нажмі захаляўнымі
І без шчытоў б‘юцца жвава—
Пабяджаюць палкі толькі клікамі,
Звонячы прадзеднай славай.

„Але вы там сказалі: мужаймася
Самі з сваімі мячамі!
Славу самі захопім пярэднюю
Й з задняй падзелімся самі.



„А ці-ж дзіва тут, брацці, вялікае
Памаладзеці й старому!
Калі сокал угодай—ён высака
Птушку ўзбівае ад дому;

„Не папусце гнязда свайго роднага
Ў крыўду, як бача трывогу.
Але гора ўсё ў тым, што во буйныя
Князі ўжо мне ў не падмогу:

„Тыя часы ў нішто абярнуліся.
Вось бо ля Рымава зрана
Пад шаблямі крычаць Палавецкімі,
А Владзімер—у ранах!

„І туга і нуда сыну Глебаву,
А ўсё з таго, што крышыці
Не ў час шлі зямлю Палавецкую,
А сабе славу сачыці!..“

VIII

О, княжа вялікі, Ўсяволадзе!
Ці не думкай табе-б прыляцеці
Здалёку, каб трон-пасад бацькавы
Залаты ўберагчы ў ліхалецці?

Распырскаць бо можаш ты вёсламі
Многаводную Волгу на бокі
І можаш сваімі шаломамі
Да дна вычарпаць Дон сінявокі.

Каб быў ты, была-бы нявольніца
Па адным—а не болей—нагаце,
А з ёй і нявольніка кожнага
Па разане маглі-бы купляці.

Ты можаш бо з воддалі, насуха,
Над шырокімі бітваў палямі
Жывымі страляць самастрэламі—
Тымі ўдалымі Глеба сынамі.

Ты Давід і буй-Рурык! Не вашыя-ж гэта
Пазалочаны шоламы гэнага лета

У крыві, бы ў рацэ рыбы, плавалі цінай?
Ці-ж не ваша адважная колісь дружына,

Маўляў туры, рыкае ў няведамым полі,
Гартаванымі шаблямі ранена ў волю?

Уступеце, сябры, ў залатыя страмёны
За ўсю крыўду вялікую часаў сягоных

І за Рускую землю, за Ігары раны,
Святаславіча буйнага—здзекі ў паганых.

Яраславе, Асмомысле Галіцкі! Кутам
На пасадзе высока сядзіш златакутым.

Ты сваімі палкамі жалезнымі ўвышы
Падпер горы Угорскія, шлях заступіўшы

Каралю, й зачыніўшы вароты Дунаю!
Цераз воблак шыбаючы берамы з краю,

Да Дунаю суды свае судзячы спраўна!
Твае грозьбы па землях цягнуць многасла ўна,

Адчыняеш ты Кіеву насцеж вароты
Ды з свайго залатога пасаду адно ты

Султаноў за зямлямі страляеш няслаба,
О, страляй, княжа, ў сэрцы паганага раба

Канчака за зямлю Русь, за Ігара раны,
Святаславіча буйнага—здзекі ў паганых!

А ты, буйны Рамане, і ты, Імсціславе!
Думка храбрая носіць ваш розум па справе.

Плывіце вы на справу з адвагай, высока,
Быццам сокал на ветрах, лунаючы лёгка.

Птаха хочучы сходаць у бітвах з вятрамі,
Ёсць бо ў вас пад лацінскімі йшчэ шаламамі

І з жалеза наперснікі, з іхняга звону
Ўжо затрэсліся землі й шмат ханскіх старонаў—

Палаўчане, Літва, Дарамела, Яцьвягі,—
Свае кінулі ў полі і дзіды і сцягі

І галовы свае накланілі пад тыя
Вашы, князі, магутныя мечы стальныя.

Але ўжо, княжа Ігар, бліск сонца сцямніла
Нам на добрае й дзерава лісць свой згубіла!

Во па Росі й Суле гарады падзялілі.
А ўжо Ігара войска не ўскрасіць у сіле!

Дон цябе, княжа, кліча, ждучы твайго следу.
І князёў заве іншых к сабе на пабеду.

Во харобрыя князі Альговічы,—ў бойцы
Непамернай тваёй утаміліс малойцы.

Усяволад, Інгвар, Імсціславічы ўсе тры!
Не благога гнязда птахі хованы ў ветры,—

Сабе ўладу не ў шчасці-ж пабедным прыдбалі?
Залатыя ў вас шоламы што заняпалі?

Што замоўклі ў вас Ляцкія дзіды з шчытамі?
Полю загарадзеце вароты страламі

Вы за Рускую зямлю, за Ігара раны,
Святаславіча буйнага—здзекі ў паганых!

IX

Ужо бо Сула не цячэ ручаінай
К Пераяслаўлю быстрай, срабранай;
Дзвіна ўжо балотам цячэ безупыну
Да Палаўчан, пад воклік паганаў.

Адзін Ізяслаў толькі—сын Васількова
Сам пазваніў мячамі сваімі
Аб шлемаў літоўскіх стальныя аковы,
Ўскалыхнуўшы днямі былымі.

Свайму пераняў славу дзеду Ўсяславу,
Сам пад чырвоным шчытам пабіты
Мячамі літоўскімі, лёг на крывавай
З Хоццем траве. А кажа тады той:

—„Дружыну тваю апранулі, князь, крыллем
Птахі, а зверы кроў палізалі“
Не быў тут брат Брачыслаў, над кавыллем,
А ні другі—Усявалод. У жалі

Адзін ён жамчужную з храбрага цела
Выпусціў душу праз ажарэлле.
Заныла гамонка, вясёласць знямела,
Трубы ў Гародні смутна запелі.

Яраславе і ўнукі вы ўсе Усяслава!
Апусцеце ўжо сцягі свае,
Пахавайце мячы пашчарбаны, бо слава
Ужо дзедава вас не спаўе!

Вы бо сваркай сваёй напусцілі
Скрозь паганых па Рускай зямлі—
Па нядзеле Ўсяслава, з чаго і насіллі
Да зямлі Палавецкай пайшлі.

У сёмы Траянавы век
Уздумаў Усяслаў варажыць
Аб мілай дзяўчыне сабе,
Што з славай яго заручыць.

Пусціўшыся ў хітрыкі, ён
На борздага ўсеўся каня
І скочыў, памчаўся чым-свет
Да Кіева-града, дадня.

І кіеўскі дзідаю там
Пасад дакрануў залаты;
Ад іх скочыў зверам лютым
З Белгорада ў поўнач тады

Ахутаўся сіняю мглой,
А раннем, узняўшыся да зор,
Навограду браму лязом—
Сякераю насцеж адпёр.

Разбіў Яраслававу там
Прыдбаную славу мячом
І скочыў праз поле і лог
К Нямізе з Дудутак ваўком.

На Нямізе снапы сцелюць
Галавамі,
А малоцяць-жа стальнымі
Іх цапамі.

На таку жыццё кладзецца
Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.

Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;
Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй.

А былі яны гусценька
У процьмах вузкіх
Там засеяны касцямі
Сыноў рускіх.

Усяслаў князь людзям суд судзіў,
Гарадамі князёў надзяляў,
А сам поначы, свету на здзіў,
Ваўкалакам ці воўкам гуляў.

Ён бо з Кіева да пятухоў
Горад Тмутаракань дасцігаў
І вялікаму Хорсу без слоў
Воўкам шлях борзда перабягаў.

Таму ў Полацку рана званы
Пазванілі ў Зафеі святой
Да завутрані,—ён-жа праз сны
Ужо ў Кіеве звон чуе той.

Хоць і вешчая, кажуць, душа
У дзёрскім целе ягоным была,
Але часта бяды без нажа
Нацярпеўся, што доля дала.

Яму першаму вешчы Баян
І прыпеўку дасціпна злажыў:
„Хітры, быстры, ні птах той быстрак
Суду Божага не пераэжыў!“

О, стагнаці ўжо Рускай зямлі,
Як успомніць князёў з былых пор!
Уладзімера таго не маглі
Прыкаваці да кіеўскіх гор.

А цяпер яго сцягі ніштo:
Адны Рурыку славу шумяць,
А другія—Давідавы ўжо...
Але стужкі іх розна вісяць.

X

Пяюць дзіды на Дунаі,
А ў Пуціўлі Яраслаўна
Безуцешнаю зязюляй
Наракае раным-рана:

„Паляту я ў даль зязюляй
Па Дунаю за дубровы,
Памачу ў рацэ Каяле
Рукавок я свой бабровы.

І зляту да князя ў полі,
Дзе ў зялёнай лёг пасцелі,
Ды крывавыя ўтру раны
На яго магутным целе“.

Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

„О, вецер, вятрыска!
Чаму, уладар, лётам
Сваім гэтак вееш
У вочы сіротам?

„Чаму ты на крыллях—
І вольны і смелы—
На мужніх ваякаў
Мчыш ханскія стрэлы.

Ці-ж веяці мала
Табе пад аблокі!—
У гары, ў паднябессі
Шырокім, далёкім?

„Або ў сінім моры
Лелеяць, гайдаці
Чаўны з караблямі
Да ціхае гаці?

„Чаму ты, ўладару,
Мне радасць асіліў,—
Вясёласць развеяў
Па дзікім кавыллі?“

Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

„О, Днепра Славуціч!
Ты ў каменных горах
Праз Полаўцаў землі
Дол высек у мора.

„Кабякаву войску
Чаўны Святаслава
Сабой ты лялеяў,
Акрылены славай.

„О, мне прылялей-жа
Уладару, ў Харомы
Саколіка-мужа
З зямлі незнаёмай!

„Каб слёзаў я рана
Ў тузе небывалай
К яму цераз поле
На мора не слала!“

Яраслаўна рана плача
Ў Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

„О, светлае сонца!
Трысветлае! Ўсюды
Цяплом і красою
Яснееш, як цуды.

„Чаму-ж, уладару,
Свой промень пякучы
На мужные войска
Нанесла, не ждучы?

„На полі бязводным
Ты смагай пагнула
Ім лукі, а тугай
Заткала утулы?!

XI

Пырснула мора на поўнач,
Смерчы ідуць чарадой;
Ігару князю дарогу
Знача бог чорнаю мглой:

Знача з зямлі Палавецкай
Шляхі да Рускай зямлі,
Дзе жджэ на Ігара доўга
Бацькаў пасад дарагі.

Патухла вячэрняя зорка.
Князь Ігар і спіць, і не спіць—
Ад Дону вялікага думкай
Да Дону малога бяжыць.

Апоўначы свіснуў савою
Аўлур на каня за ракой,
Уцяміць загадвае князю,
А Ігар князь знікнуў, як стой.

Той клікнуў—зямля загручэла,
Трава зашумела быллём;
Упул Палавецкія вежы
Спалохаў, зварушыў жыллём.

А князь Ігар ужо гарнастаем
Паскакаў па траве к трысьнягу,
На вадзе выплыў гогалем белым,
На каня ўзваліўся ў бягу.

І саскочыў з яго босым воўкам,
Пакаціўся да логу Данца,
Й паляцеў сакалом пад імгламі,
Забіваючы там без канца.

На сняданне, абед і вячэру
Белых лебядзяў, шэрых гусей
Як ляцеў сакалом гэтак Ігар,
Тады воўкам Аўлур з сілы ўсей.

Пакаціўся, сцюдзёныя росы
Абтрасаючы вокал сабой...
... Коні быстрых сваіх падарвалі,
Лятучы пуцявінай пустой.

І кажа рака-Донец: „Ігару-княжа!
Не мала во бітвы далі
Вялічча табе, а Канчаку дакукі,
А радасці Рускай зямлі!"

А Ігар-князь кажа: „О, Донча! Ня мала
Вялічча сабе ты прыдбаў.
Што князя на хвалях лялеяў і шчыра
Зялёну траву падсцілаў

„Яму на сваіх берагах серабраных,
І цёпла атуліваў млгой
Пад ценем зялёнага буйнага дрэва,
Ды пільна сцярог з цемнатой.

„Яго на вадзе сваёй гогалем белым,
А чайкай паверх ручаёў,
Ды качкай-чарнедзяй на ветрах шумлівых
Паказываў сцежку і вёў.

„А Стугна-рака ўжо куды не такая,
Худы бо ў яе перацёк:
Чужыя папіўшы, глынуўшы крыніцы,
І хвалі разліўшы—дзе ўток,—

„Яна маладому князю Расціславу—
Без часу і не на дабро—
Пры беразе цёмным наскрозь зачыніла
Дарогу сабой на Дняпро.

„Тужыць Расціславава маці і плача
Па князі сваім маладым...
А кветкі заныл, а дрэва са смуткам
К зямлі пахілілась благім"...

Ой, не сарокі ўстракаталі!
А гэта Ігаравым следам
Гза з Канчаком у побач едзе,
Як па жніво сусед з суседам.

Тады ўжо груганы над косцьмі
Не грумкалі, і галкі змоўклі,
Не сакаталі і сарокі,—
Па лозах распаўзліся, замоўклі...

Па лесе тукатам няўтомным
След дзятлы к рэчцы адбіваюць,
А салаўі вясёлай песняй
Блізкое ранне выйгрываюць.

І гаворыць Гза Канчаку:
— „Калі сокал ляціць у гняздо,
Залатымі страламі сваімі
Мы застрэлім сакольца яго!"

А Канчак-жа адказвае Гзе:
— „Калі сокал ляціць да гнязда,—
Краснай дзевай сакольца тады
Мы апутаем,—што за наўда!"

А Гза кажа на то Канчаку:
—„Калі дзеваю краснай яго
Мы апутаем, то ўжо тады
Мець не будзема мы ні таго

„Маладога сакольца ў сябе,
А ні краснае дзевы, ды нас
На палёх Палавецкіх пачнуць
Кляваць птахі ў невясёлы час!“

XII

І сказаў-жа аб днёх Светаслава
Той Баян-песнятворца старын
І далёкай пары Яраслава
І Алеглавых даўных часін:

„Хоць і цяжка табе многасмелай
Галаве без плячэй у людзёх,
Але трудна й табе жыці, целу,
Без сваёй галавы на грудзёх!“

Так і Рускай зямлі незнарокам
Цяжка мераць без Ігара дні.
Сонца свеціць на небе высокім,
А князь Ігар на Рускай зямлі.

Красны дзевы пяюць на Дунаю,
Галасы іх плывуць і лятуць
Неўгамонна ад краю да краю,
Цераз мора да Кіева йдуць.

Ігар едзе праз спуск Барычоўкі
К абразу Пірагошчы святой.
Рады князю староны і вёскі,
Гарады весяляцца з сабой.

Пеўшы песню старым князем, справам,
Потым пець маладым песняй бур:
Святаславічу Ігару слава!
Слаўся храбры Ўсяволад буй-тур!

І Ўладзімер, сын Ігара воя,
Малады князь—на страх Палаўчан!
І князём і дружыне здароўя
Выступаючым за хрысціян

У няведамай дзікай краіне,
Пашматаўшы паганых палкі.
Слава буйным князём і дружыне
На далёкія векаў-вякі!“

*Пераклаў ЯНКА КУПАЛА.*

*Кузьма Чорны*

# МАКАРКАВЫХ ВОЛЬКА

Апавяданне

Каапературатар Сафрон Дзядзюля вельмі заўзята расказваў, што прыцемкам, спускаючыся з высокага сельсовецкага ганку, ён убачыў такі малюнак: нейкая незнаёмая жанчына шпарка вышла з-за дубовага паркану, які абгароджваў царкву і могільнік навакол яе, і ўпэўнена пашла да таго месца, дзе калісьці была брама. Не знайшоўшы іншага спосабу ўвайсці ў могільнік, жанчына пералезла цераз жэрдкі, якія на месцы брамы былі наглуха папрыбіваны канцамі да слупоў. Паркан быў высокі і Сафрон Дзядзюля не мог бачыць, што жанчына рабіла на могільніку. Ён толькі заўважыў, што яна адразу накіравалася кудысьці за царкву, дзе чатыры вязы густа ўсцілалі зямлю жоўтым лісцем. Ужо зусім было цёмна, калі жанчына вышла з могільніку. Стоячы за рогам паркана, Дзядзюля бачыў, як яна некалькі разоў азірнулася на царкву і цяпер ужо зусім паволі пашла ў вуліцу. Неўзабаве жанчына зайшла мусіць у адну з канцавых хат, бо раптам яе нідзе не відаць стала.

Постаць і хада гэтай жанчыны непрыемна нагадалі Сафрону Дзядзюлю адну асобу, раптоўная думка пра якую разварушыла даўную прошласць. Успаміны гэтыя былі прыкрыя. Але з-пад гэтай прыкрасці даволі ўпарта высоўвала галаву ганарыстае задаваленне.

Гэта было таму назад год дзесяць. Сафрон Дзядзюля сватаўся да Макаркавых Волькі. Вольцы тады было яшчэ не больш восемнаццаці год і гэта была самая лепшая танцорка і заўзятая весялуха на ўсю вёску. Сям'я Макаркавых была бежанская. Яшчэ ў імперыялістычную вайну тут з'явіўся высокі чалавек з жонкай і малою дачкою. Прыехаў ён на сытым маладым кані. Сафрон Дзядзюля быў тады яшчэ падростак і разам з іншымі, такімі як ён падшывальцамі цёрся каля бежанскай фурманкі, пакуль высокі гаспадар яе хадзіў па хатах і апытваў прытулку. Бачачы на возе толькі адну бабу з малой дзяўчынкай, Сафрон так асмялеў каля чужога каня, што надумаўся навырываць з яго хваста валасні сабе на вуду. Конь хоць быў у аглоблях, але ўхітрыўся так зачапіць нагой Сафрона, што той адразу адцураўся валасні. Дзяўчынка на возе зарагатала. Сафрон адбегся, хапіў сукаваты пошвырак і смальнуў каню ў бок. Бежанец астаўся ў вёсцы і праз пэўныя гады Сафрон Дзядзюля пачаў ныць па чорнавалосай Вольцы. Ён хадзіў за ёю доўга, але ў яе і ў думках не было ісці замуж, і не толькі за яго, але за каго-б там не было. Яна хацела ехаць вучыцца і

от аднойчы, не ведаючы як ад яго адчапіцца, яна сказала яму, ні то стала, ні то жартам:

— Я за цябе не пайду, бо ты такі...

— Які? Ну які?

— Ты такі, што абы дзе сеў, то пасля цябе заўсёды астаецца куча смецця, попелу з папяросы, пяску і гразі з-пад ног.

— Ну, а больш?—перабіў ён, увесь чырвоны ад злосці.

— Калі ты возьмеш у рукі якую-небудзь рэч, то адразу пачнеш на ёй цвіком, шклом ці хоць запалкай вырысоўваць сваё прозвішча і зглуміш тое, што трымаеш у руках.

— А яшчэ?

— Стол, за якім ты сядзеш, заўсёды астаецца пасля цябе зрэзаны нажом і сколаны. А на кожным лісце паперы, які трапіцца табе пад руку, ты сто разоў распішашся...

— Ну, кажы далей!

— Што-ж далей?.. Ну, ты пусты ганарлівец... і яшчэ—кожнага любіш абсмяяць... От зімой, я памятаю, мая маці несла ваду і, пакаўзнуўшыся, упала, а ты пасля рагатаў, што пакуль яна ўставала, у яе голыя калені відны былі.

Апошнія словы Волька сказала гнеўна, гнеў гэты явіўся ў яе нечакана, пры ўспаміне аб гэтым выпадку.

Усё гэта было праўда і тым больш зняважыла высокія дзядзюлевыя пачуцці. Праз паўгода Волька паехала вучыцца на рабфак, а яшчэ праз паўгода ёй наўздагон пашла заява аб тым, што яна „лісіца ў воўчай скуры“ і не проста пашла вучыцца на рабфак, а „пралезла“ туды, і калі яна „працягвае“ там вучыцца, то „гэта не правільна“, бо бацька яе заўсёды трымаў сытыя коні. „Пад гэтага каня страшна было падыйсці“,—такія гэта былі кулацкія стаеннікі. Усім было вядома, што ў тыя часы Вольчын бацька меў толькі і занятку, што з ранку да вечара вісець крукам у сельсовеце, дамагаючыся даведкі, што ён ніякі не кулак. Ён гаварыў, што ў часы бежанства сыты конь у яго быў таму, што ён, каб уцячы ад гарматнага агню, прадаў, што меў, да апошняй ніткі і купіў каня.

Але Дзядзюля быў вялікім актывістам. Хоць работа ў яго дома і стаяла, але затое ён быў практыкам у тым, каб лезці ў цэнтр „вялікіх“ спраў. Ён пакрысе лез у кааперацыю, у малочную арцель, а пасля і ў сельсовет. Нейк так выходзіла, што ён заўсёды трапляўся пад рукой, заўсёды ўсё ведаў, заўсёды пра ўсё мог тонка здагадацца і нават самыя лепшыя працаўнікі так да яго прывыкалі, што трацілі патрэбу падумаць пра яго, а што гэта за чалавек такі? У гэтай справе Сафрон Дзядзюля быў сапраўдны талент, талент, можна сказаць, глыбокі і тонкі. З некаторага часу ён пачаў нават дабірацца да раённага цэнтра, каб прымасціцца там, калі не на службу, то на годнасць раённага актывіста. Але райвыканком быў ад яго дому далёка і Дзядзюля задаволіўся тым, што пакінуў за сабой агульна прызнаную годнасць то „душы ўсіх спраў“, то „цэнтра ўсіх спраў“ у сельсовецкім маштабе. Вядома, з такога чалавека кпілі ў кожнай хаце, але за вочы. У вочы-ж ніхто не хацеў з ім звязвацца, кіруючыся прыказкай, што „воўк сабакі не-

баіцца, але звягі не любіць“. Скончылася тым, што словы „душа“ і „цэнтр“ з'ядналі разам і пачалі зваць Дзядзюлю „цэнтральнай душой“. І от гэтая цэнтральная душа здолела так усадзіць свой нос у сельсовецкія справы, што Вольчын бацька ніякай даведкі не дабіўся. Злосны на ўвесь свет ён напісаў дачцы горкую праўду, што не мае больш сіл і цярплівасці.

Даходзілі чуткі, што Вольку з рабфака звольнілі.

Але дадому яна аднак не прыехала. Яна нібыта недзе асталася на працу, а вечарамі хадзіла ў вячэрнюю школу. Як-бы там не было, яна аднойчы ўлетку прыехала дадому на два тыдні з прычыны хваробы маці. Маці памерла і была пахавана ў тым далёкім кутку могільніка пад вязамі, куды цяпер хадзіла прыцемкамі незнаёмая жанчына. Пасля смерці маці Волька была яшчэ дома дзён чатыры. Яна крыху змянілася—пасталела, выраўнялася з паставы і стала яшчэ прыгажэйшая як была.

Дзядзюля бачыў яе здалёку і як толькі яна паехала ў свой горад, следам за ёю пайшла заява, што яна ў свой час была звольнена з рабфаку, як кулацкая дачка. Здарылася так, што бацька яе тыдняў за пяць да яе прыезда купіў быў на гадоўлю цяля. Пасля пахавання жонкі, выпраўляючы Вольку ў горад, ён цяля прадаў і грошы аддаў ёй. Яна не хацела браць, але ён упрасіў яе: яму было прыемна хоць так выказаць сваю сардэчнасць да свае дачкі, якая толькі адна і асталася цяпер у яго. Такім парадкам у дзядзюлеву заяву было ўпісана, што апошнім часам Вольчын бацька займаецца спекуляцыяй цялятамі.

Зноў пачалі даходзіць у вёску чуткі пра Вольку. Гаварылі, што начальнік тае установы, дзе яна працуе, прыслаў сюды ў сельсовет запытанне. Але ніхто не ведаў, што Дзядзюля зноў уцёрся ў гэтую справу. Поўны задаваленння, ён слухаў гаворкі, што Волька нібы без працы. Але праз нейкі час Волька пачала раптам прысылаць бацьку грошы. Устрывожаны Дзядзюля пачаў збіраць весткі пра Вольку, але бацька яе раптоўна памёр і пахавалі яго суседзі: Волька не прыехала. Больш таго, яна нават не адказала на тэлеграму, якую ёй далі. У тым, значыцца, горадзе яе ўжо не было. Рад—няволя, а Дзядзюлю прышлося забыцца на ўсю гэтую справу. Праз некаторы час Волька прыслала бацьку грошы, але іх ніхто з пошты не забіраў і яны пашлі назад. Узнепакоеная Волька напісала бацькаваму суседу і той адказаў, што бацька памёр і пахаван побач магілы маці. Пра Вольку больш нічога не было чуваць.

Жывая карціна ўсяго гэтага і паўстала перад Дзядзюлям, калі незнаёмая жанчына нагадала яму Вольку. З задавальненнем думаючы аб тым, што ён сваімі заявамі адпомсціўся Вольцы за колішнюю знявагу, Дзядзюля спакойна клаўся спаць, акругліўшы свае думкі фразай: „Цяпер мы з ёю квіты“.

Назаўтра быў ясны дзень. Стаяла восень. Высока ўзнімалася неба і сонца залівала зямлю. Прыемны лёгкі холад адчуваўся ў подыху ветра.

Сафрон Дзядзюля зранку ішоў на сваю працу. Цяпер ён быў начальнік усёй каапэрацыйнай сеткі па сельсовеце. З таго часу ён пастарэў і дробная хада яго набыла большую выразнасць: цяпер

ужо кожны мог заўважыць, што ступае ён дробна і ціха. Апрануты ў бобрыкавае пальто, ён нёс свой партфель, мінаючы шырокія завулкі новага калгаснага пасёлка. За апошнія гады на ранейшай вуліцы асталося не больш палавіны хат: хто будаваўся, хто выходзіў на шырэйшую разлегласць. Стаяла многа новых дамоў. Сафрон Дзядзюля таксама жыў ужо ў новым сваім доме, з чорным і чыстым ходам. З поўдня ад пасёлка, як вокам акінуць, цягнуўся нядаўна засаджаны калгасны сад. З другога боку ішлі калгасныя гаспадарчыя пабудовы. Маладыя тапалі, клёны і каштаны стаялі жоўтыя паабапал дарогі. Каб Волька Макаркавых з'явілася сюды, то яна ўжо зусім не пазнала-б роднай сваёй мясцовасці.

Кааперацыйнае праўленне было ў новым доме, за калгасным садам. Пешаходная сцежка вілася праз самы могільнік. Падыходзячы да паркану, Сафрон Дзядзюля заўважыў раптам, што на царкоўнай сцяне вісіць нейкае пальто. Зацікаўлены, ён пералез цераз жэрдкі і падышоў. Царква была зусім трухлявая. Гнілая шалёўка не трымалася на цвіках і сыпалася ўніз спарахнелымі кавалкамі. Доўгія цвікі скрозь тырчалі па сцяне. На адным з гэтых цвікоў і вісела пальто.

Пальто было жаночае, на ваце, з прышытым поясам і коцікавым каўняром. Шустры верабей шаргануўся аб гэты мяккі каўнер, улятаючы з заўзятым шчэбетам у вакно, якое ўжо было без рамы і шкла. Сафрон Дзядзюля стаяў задзёршы галаву, здзіўлена разглядаючы пальто. Раптам ён пачуў шоргат рыдлёўкі аб жвір. Азірнуўшыся, ён убачыў жанчыну. Пазнаў ці здагадаўся, але ён з першага моманту быў упэўнен, што гэта тая самая, учарашняя. Каб бліжэй яе разгледзець, ён інстынктыўна падаўся ў той бок і раптам спыніўся, як ашаламонены: перад ім была Макаркавых Волька.

Гэта была маладая жанчына. Прывабнай сталасцю поўнілася ўся яе пастава, рухі і рысы. Яна працавала. Рыдлёўкай капала яна зямлю і даводзіла да парадку дзве магілы пад жоўтымі вязамі. Постаць яе была мажная і хараство, здаецца, яшчэ большае як тады, калі яна была маладой дзяўчынай.

Ахоплены незразумелай трывогай Сафрон Дзядзюля ціхом павярнуўся і шмыгануў за рог царкоўнай сцяны, поўны радасці, што яна яго не заўважыла. Выглядаючы паловай твару з-за сцяны, ён бачыў, як Волька некалькі разоў разгіналася, каб адпачыць, а пасля зноў бралася за працу.

Штосьці новае было ў ёй. Гэта не была тая ранейшая простая і вясёлая Волька. Наіўнасці тут ужо не было. Хоць Дзядзюля і не разбіраўся лішне ў тонкасцях тых адлюстраванняў, якія кладзе душа на твар, усё-ж ён, стоячы тут за сцяной, падумаў, што гэтая жанчына ўжо мусіць глыбока ведае цану з'явам свету і людскім учынкам. У гэтую хвіліну ў яго з'явілася такое пачуццё, быццам яго асарамацілі перад усім светам. Сціснуўшы зубы, ён шпарка выскачыў з могільніка і рушыў да свае канцэлярыі.

Да самага вечара ён быў неспакойны. За поўгадзіны да канца свае работы ён сядзеў у самым цёмным кутку канцэлярыі і нехаця корпаўся ў паперах. Сонца спускалася за стагі саломы і, увай-

шоўшы ў гэты пакой знадворку, адразу здавалася, што тут зусім змрочна.

Ціхом адчыніліся дзверы і хтосьці ўвайшоў. Дзядзюля не падняў галавы. Ён толькі ўздрыгануўся, калі пачуў проста перад сабою пявучы голас:

— Выбачайце, мне параілі зайсці да вас. Справа такая, што я прыехала сюды пабыць на магілах сваіх бацькоў. Я хацела прывесці магілы ў парадак. Чалавек, у якога я начавала, зробіць балясы, каб агарадзіць магілы, але ў яго няма цвікоў. Ён гаворыць, што ў краме цвікоў так мала, што іх не кожнаму прадаюць. Я і прашу вас, каб вы адпусцілі цвікоў, іх трэба не многа.

Змяніўшы голас так, каб яго не пазналі, і заціскаючыся глыбей у цёмны кут, Дзядзюля абазваўся.

— Можна падумаць, што вы вельмі шануеце памяць сваіх бацькоў! Аднак-жа на пахаванне бацькі не прыехалі.

— Я тады толькі што скончыла медыцынскі інстытут і адбывала ў раёне першую практыку. Тэлеграма да мяне не дайшла.

— Няма цвікоў,—хрыпла раўнуў Дзядзюля.—Ніводнага цвіка няма. І не будзе!

Маладая жанчына шпарка вышла. Сафрон Дзядзюля, сцяўшы зубы, падняўся. Ён аж счарнеў ад злосці і гневу. Як! Не гледзячы на ўсе заявы, яна скончыла інстытут і цяпер ужо доктар? Гэта жывы здзек з яго! Можна сказаць, што ніколі яшчэ раней ён не ненавідзеў Макаркаву Вольку так, як цяпер. Пануры, як кавалак хмары, ён дацягнуўся дадому, і, каб асвяжыць гарачую галаву, перад сном вышаў у адной бялізне на двор. Неба схмурнела, ужо ішоў халодны асенні дождж. Сумысля ён прайшоў пад дажджом па садзе. Рвануўся вецер, дождж лінуў густа і пакуль Дзядзюля дабег да сеней, ён увесь быў мокры. Падлазячы ў сенцах пад коўдру, ён адчуваў холад. К канцу ночы ў яго пачало балець горла, зранку яму зусім нездаровілася, а пад вечар высока паднялася тэмпература. Ён пачаў гаварыць з гарачкі і сям'ю яго апанавала трывога.

Быў вечар. Волька сядзела ў свайго колішняга суседа за сталом. Ёй было прыемна слухаць успаміны гэтай сям'і аб бацьках яе. У хату ўвайшла жанчына і пачала расказваць, што Дзядзюля вельмі хворы, а па доктара далёка ў такое надвор'е ехаць і ў Дзядзюлі ў хаце аж рукі ломяць з адчаю. Маладая жанчына адразу ўстала і папрасіла правесці яе да Дзядзюлі.

Трэба сказаць, што Дзядзюля быў смелы і храбры толькі там, дзе ўсё добра і лёгка ішлося. Цяпер ім апанавала нешчасце і ён размяк як гнілая салома. Аслабелы, ён ляжаў і думаў пра тое, што нічога лепшага няма як жыць на свеце. Хвароба напалохала яго, ён баяўся.

— Слухай,—замагільным галасам прагаварыў ён да жонкі.— Гэтая Волька, што прыехала—доктар. Ідзі пакліч яе.

У гэты момант адчыніліся дзверы і на парозе з'явілася Волька. Дзядзюля затрапятаўся.

— Дзе хворы?—сказала яна сваім шырокім пявучым галасам.

— Я, я хворы,—прашаптаў Сафрон Дзядзюля.—Калі ласка, ратуйце, век буду дзякаваць. Так дрэнна мне прышлося...

Маладая жанчына пачала яго аглядаць. Будучы паслухмяным як ягня, Дзядзюля бесперапынна выказваў просьбы—клапаціцца аб яго здароўі.

— У вас пачынаецца запаленне лёгкіх,—сказала маладая жанчына.—Як гэта вы маглі так захаладзіцца?

— Мяне прамачыў дождж—прахрыпеў Дзядзюля.

— Тут ёсць дзе дастаць банькі?—запытала Волька.

— Ёсць тут у адной хаце.

— Дастаньце іх, я пастаўлю. А зранку трэба будзе лекарства. Рэцэпт я напішу.

— Вы мяне выбачайце,—ныў Дзядзюля.—Я вам цвікоў не даў. Прызнацца вам, то я забыўся, што яны ёсць. Я гэтую памылку выпраўлю, абы толькі паправіцца. Лячыце мяне, як мага, прашу вас.

— Дык гэта я ў вас прасіла цвікоў? А я і не пазнала. Нічога, хвароба не страшная, паправіцеся.

Волька пашла. Праз гадзін дзве Дзядзюлева жонка прышла сказаць, што банькі прыгатаваны. Ліў дождж. Волька ішла лячыць Дзядзюлю. Яму было горш. Хрып ішоў з яго горла.

— Аптэка ад вас далёка?

— На станцыі, шэсць кілометраў.

— Я напішу рэцэпт, а вы ідзіце зараз-жа запрагаць каня. Трэба адразу дастаць лекарства. Дайце на чым напісаць рэцэпт.

Дзядзюлява жонка пачала шукаць паперы і вінавата сказала:

— Ні кавалка паперы ў хаце няма, у яго ўсе справы ляжаць у канцэлярыі. Хіба можа ў шуфлядзе каля вас, там нейкі звязак старых яго папераў, можа там знойдзецца.

Заплакала дзіця і жанчына пабегла ў бакоўку. Волька адчыніла шуфляду і дастала адтуль жмут папераў. Гэта былі ўсялякія старыя рахункі і пратаколы, было некалькі пісьмаў. Волька шукала адкуль-бы адарваць кавалак неспісанай паперы. Нарэшце асобна яна ўбачыла некалькі паперын, перавязаных ніткай і разгарнула іх. Глянуўшы ў іх, яна жахнулася, яна чытала чарнавікі дзядзюлевых заяваў на яе. „Вось чаму я гэтулькі пакутавала, цярпела ганьбу і не меншы здзек!“ Дрыжачай рукой яна адарвала ад аднаго чарнавіка палоску паперы і пачала пісаць рэцэпт. Увайшла Дзядзюлева жонка і ўбачыла, што Волька ставіць Дзядзюлю банькі.

Назаўтра Дзядзюлю стала лепш. А яшчэ цераз дзень ён ужо зусім бадзёра глядзеў з свае пасцелі на вакно. Неба было зноў яснае, заходзіла сонца і ў яго праменнях стаялі дрэвы за акном. Насупроць аконнай шыбы, на тонкай галінцы вісела яшчэ некалькі апошніх лісткоў. Дзядзюля глядзеў на іх, але не заўважаў іх. Як цвік з-пад малатка, яго мазгі прабівала думка, што на яго накладзена пячаць ганьбы: у цяжкую для яго хвіліну Волька прышла ратаваць яго. Не гледзячы на ўсе яго заявы, яна стала доктарам. Так, як ніколі, яна цяпер сталая, разумная, упэўненая ў сабе.

— Чартоўка паршывая!—замармытаў Дзядзюля.—Доктар, называецца. Паставіла банькі, напісала рэцэпт і ўсё. Ні разу не прышла паглядзець, толькі два разы нейкую бабу прысылала запытацца, як мне. Толькі назва, што дактары, а сваіх абавязкаў не разумеюць! А можа не хочуць разумець!

У той-жа самы вечар, падцягнуўшы да падушкі табурэт з лямпаю, Сафрон Дзядзюля пісаў карандашом на лісце паперы, вырваным з вучнёўскага сшытка. „Заява... Гэтая гора-урач дэталёва нават не азнаёмілася з хваробай. Ёй безумоўна трэба было дастаткова ўвайсці ў лячэнне, а яна абмежавалася толькі тым, што паставіла банькі і напісала рэцэпт. І ні разу не зайшла праверыць змагаючагася з захворваннем арганізма... І яшчэ трэба дадаць, што гэтая асоба рэлігійная, што не можа быць у адпаведнасці з званнем совецкага ўрача, як та: гэтая асоба, не гледзячы, што ў свой час выключалася з рабфака як дачка кулака і спекулянта цялятамі, павінна была із'улеч для сябе ўрокі, якіх не із'улекла, пакольні гаварыла чалавеку, у якога спынілася, што ёй прыемна было пабыць на могільніку каля трухлявай царкоўнай сцяны. Гэта яна матывавала тым, што на яе ўсплывалі успаміны маленства, калі яна каля гэтай сцяны гуляла ў малыя гады з дзецьмі. Але тут падаплёка упаўне ачавідна..."

Дзядзюля раптам задумаўся: куды-ж пасладць гэтую заяву? Невядома, адкуль яна сюды прыехала?

Зусім паправіўшыся, Дзядзюля ішоў на працу. Зазірнуўшы на могільнік, ён убачыў дзве, акуратна абкладзеныя дзярном магілы Вольчыных бацькоў. Магілы былі абгароджаны новымі балясамі. „Недзе-ж такі дастала цвікоў",—падумаў Дзядзюля. Удзень зайшоў у кааперацыю былы сусед Вольчыных бацькоў.

— Паехала?—запытаў Дзядзюля.

— Паехала,—адказаў чалавек.—Але не надоўга. Ёй тут вельмі спадабалася, а ў раёне якраз не хапае аднаго доктара. Казала, што будзе прасіць, каб яе сюды назначылі.

„Вось цяпер і вядома, куды пасылаць заяву,—падумаў Дзядзюля.— Раённым органам".

У тыя самыя дні Волька пісала сваёй сяброўцы:

„... Тысячы момантаў з майго маленства паўсталі перада мной як жывыя. Я пазнавала дрэвы, каменні, узгоркі... Я прывяла да парадку магілы бацькоў і доўга хадзіла па родных дарогах. Тут усё так блізка і знаёма майму сэрцу. Я шаную тое, што было ў маёй душы з маленства і люблю сучаснае. Тут мне будзе весела і радасна працаваць. Сярод тых людзей, якіх я ведала заўсёды і тым цікавей мне цяпер бачыць іх у сапраўдным чалавечым жыцці...

Не абышлося і без непрыемных успамін. Я дазналася, праз каго я тады гэтулькі перацярпела зняваі і крыўды. Але гэты прыкры эпізод увесь у мінулым: не перашкодзіў-жа ён мне скончыць інстытут. Я гэтага чалавека лячыла. Як мне было агідна дакранацца да яго рукамі! Я хацела толькі аднаго: каб ён хутчэй паправіўся і каб больш не лячыць мне яго. Прышоўшы дадому, я доўга мыла рукі і думала: зусім можа быць, што ён зноў пачне займацца падобным шальмоўствам. Нашто? Так сабе, з ласкі на пацеху... Адным словам—чорт з ім...

Пасля сапраўднага асенняга дажджу, зноў стаіць яснае надвор'е і яшчэ цвітуць позьнія кветкі..."

---

*Э. Самуйлёнак*

## БУДУЧЫНЯ*)

Іліко абудзіўся. Праз шчыліны ў дзвярах працэжваліся ў камору струменчыкі святла. Светлыя ніці пранізалі пыльнае, цёмнае паветра і хлопчык бачыў усё змрочнае нутро свайго памяшкання. На першым плане была вялізная, абсмаленая дзяжа, далей цёмнай грудай, аблытаныя павуціннем ляжалі непатрэбныя гаспадарчыя прылады. У адным куце ляжаў ворах старых шпалераў, у другім куча коркаў. Гваціял кожную раніцу прыносіў іх у падоле з духану і калі збіралася шмат, складаў у кошык і нёс некуды прадаваць. Па кутах каморы, у гэтым пыльным ламаччы, жылі пацукі. Калі ўвечары Іліко адчыняў дзверы, там пачыналася шумлівая беганіна. Хлапчук кідаў у ламачча старыя каробкі з-пад кансерваў. Беганіна сціхала на нейкі час, але потым, укрыўшыся з галавой, Іліко ўсё роўна чуў шорах цопкіх лап і заціяты піск гэтых агідных стварэнняў.

Апіраючыся на локаць, Іліко агледзеў напоўсоннымі вачыма сваю несамавітую кватэру і зноў лёг на войлачную пасцілку. Ён не спяшаўся ўставаць. Сёння нядзеля, а па святах усім дазваляецца спаць да познага. Так сказаў Іліко сам гаспадар. Тым больш, учора яны з Гваціям зрабілі вялікую работу: абкурылі серай усе бочкі, што Іліко вымыў за мінулы тыдзень. Бочкі вывязлі на ўзбярэжжа, каб не псаваць паветра ў горадзе, у кожную бочку паклалі па кавалку серы і пасля падпалілі. Узняўся такі смурод, што сам Гваціял не раз падбягаў да вядра з вадою і, намачыўшы хустку, прыкладаў яе да твару. Гаспадар, без якога нідзе не абыходзілася, носу не паказаў праз цэлы дзень і Іліко плёскаўся ў вадзе колькі было ахвоты. Усё-такі абкурванне бочак нельга лічыць вельмі цяжкай работай, хаця ўсе казалі, што гэта шкодзіць здароўю. Учарайшы дзень прайшоў добра. Іліко нават сніў мора: ясная далеч, сінія, цяжкія хвалі, цёплы вецер, белыя птушкі ўзлятаюць над морам і строма падаюць уніз, кранаючыся крыллем грэбняў успененых хваляў. Іліко і Вано стаялі на беразе, а Гваціял выкідаў на пясок сеці і ў іх мокрай тканіне трапяталі вялікія, блакітныя рыбы. Такія рыбы прыносіў нядаўна рыбак. Потым прайшоў стары Топурыя, і Іліко нечакана абудзіўся. Цяпер яму было шкада свайго сну.

Але заснуць зноў не ўдалося. У калідоры пачуліся крокі, нехта ўзяўся за клямку, дзверы адчыніліся і ўедлівы тутунёвы дым уплыў у камору.

---

*) Працяг. Пачатак у № 4.

— Уставай, Іліко,—сказаў Гвацiя.—Хутчэй, бо ў гаспадара сёння рана снедаюць. Бяжы да Габунія... Саламея дасць табе кошык. Чуеш, Іліко? Уставай!

Іліко ўскочыў і пачаў апранацца. Гвацiя стаяў на парозе, смактаў сваю цыгарку і нездаволена сапеў. Ён быў чамусьці ў дрэнным настроі. Іліко марудзіў. Вочы не маглі прывыкнуць да яркага святла дню.

— Каб яны ўсе пагарэлі!..—сказаў Гвацiя.—Праз ноч на вакзале адседзеў... Чаго ты шукаеш? Паяска? Вунь твой паясок, ты на ім стаіш!

Іліко падпяразаўся, кінуў у кут сваю посцілку і выйшаў у калідор. Гвацiя быў апрануты па святочнаму. На ім была доўгая чырвоная кашуля, сіняя камізэлька з светлымі гузікамі, на галаве шапка з бліскучым казырком і шырокім верхам, на нагах начышчаныя боты.

— Ай, як прыгожа!—сказаў Іліко, з зайздрасцю аглядаючы пышнае адзенне Гвацiя.—Батоно і мне абяцаў пашыць кашулю з чырвонага сукна... і камізэльку. А колькі боты каштуюць?

— Не купіш...—адказаў Гвацiя, падштурхоўваючы хлапца да выхаду.—Ідзі, бо спознішся, тады будзе табе камізэлька!

Грукаючы босымі пятамі, Іліко збег уніз па драўляных усходах. На двары стаяла лінейка, буфетчык Гурген адвязваў вялікі чамадан, прымацаваны да яе задка тоўстымі вяроўкамі.

— Хто гэта прыехаў, Гвацiя?—звонка, на ўвесь двор закрычаў Іліко.—Цяжкая скрыня, дзядзька Гурген?

— Ціха!—нечакана зазлаваў Гвацiя, хапаючы Іліко за плячо.— Што ты гэта заўсёды пасля сну нібы дурны!? Хто прыехаў... Князь прыехаў! Ідзі на кухню, сырны чарвяк! А то зараз выйдзе гаспадар... У доме спяць, няма чаго крычаць на ўвесь горад.

Іліко пайшоў на кухню. Яму было крыўдна, Гвацiя вельмі балюча сціснуў руку. Вясёлы настрой адразу знік. На парозе кухні Іліко азірнуўся і з дакорам паглядзеў на Гвацiя, але той не звяртаў на яго ўжо ніякай увагі. Ён дапамагаў Гургену. Іліко моўчкі сышоў уніз па слізкіх, каменных прыступках. У прасторным падвале кухні было гулка і халаднавата. У печах яшчэ не палілі. Саламея і Эзабэдзі абскубвалі курэй, яны спяшаліся і ў паветры лётаў пух, па падлозе было раскідана пер'е.

— Іліко!—заклапочана, не ўзнімаючы галавы, сказала Саламея.— Бяры на стале кошык, пад кошыкам паперка. Там Гурген напісаў, што трэба ўзяць. Хутчэй бяжы да Габунія!

Іліко падышоў да стала і зняў з яго вялікі кошык. На дне, пад цыратавай покрыўкай нешта было. Аказалася, што Саламея цішком паклала для яго ладны кавалак сыру. Іліко ўзяў запіску, схаваў яе пад шапку, паставіў кошык на плячо так, як гэта бачыў ён, носяць кошыкі рыбакі, і моўчкі пайшоў з кухні. Яго не цешылі ніякія прысмакі, ён чуў сябе вельмі пакрыўджавым.

На двары Гвацiя і Гурген усё яшчэ завіхаліся ля чамадану. Іліко прайшоў міма, павольна і цяжка ступаючы, з кошыкам на плячы, але ніводзін не глянуў на яго.

— Пачакай!—зазлавана падумаў Іліко, выходзячы на вуліцу.— Ён думае, што калі ў яго чырвоная кашуля...

Але тут думкі хлапца пайшлі іншым кірункам. На вуліцы пачуўся нейкі дзіўны шум і з-за вугла, узнімаючы пыл, выляцела нейкае бліскучае страшыдла. Яно з гулам і рычаннем пранеслася міма на высокіх колах, прарэзліва ўскрыкнула і хутка знікла адразу-ж за духанам, пакінуўшы на вуліцы хмару пылу і востры пах. Іліко паспеў толькі ўбачыць за шклом шырокіх вокнаў начальніцкія шапкі і залатыя гузікі. Спуджаны і здзіўлены хлапчук стаяў як скамянелы, пазіраючы ўслед гэтаму страшнаватаму і ў той-жа час прыгожаму почвару.

— Ідзі, Іліко, ідзі!—крыкнуў з двара Гвацыя.—Гэта аўтамабілі, не бойся!

— Там людзі паехалі...—сказаў Іліко, неўпэўнены яшчэ, ці людзі гэта былі.

— А ты думаў, што буйвалы на ім ездзяць? Ідзі, кажу!

Іліко нясмела ступіў на вуліцу, дзе ў пылу застаўся шырокі шурпаты след. Хлапчук азіраўся на кожным кроку, пакуль не дайшоў да гарадскога саду і тут толькі ўспомніў, што да рынку яшчэ далёка. Зняўшы кошык з пляча, ён пабег праз сад шырокай пясчанай дарожкай.

У садзе было пуста. Рослыя дрэвы стаялі нерухома, буйныя кроплі расы блішчэлі на кустах і на бурай, ужо апаленай сонцам, траве. Воддалі чуўся глухі шум мора. Шчабяталі птушкі. У порце зычна крыкнуў гудок. Міма Іліко праехаў на веласіпедзе нейкі франт у капялюшы і ў панчохах. Іліко не звярнуў ніякай увагі на такую дробязь, што круцяць нагамі і такім чынам едуць. Цудоўная машына, дзівосны аўтамабіль не выходзіў у яго з галавы. Ён забыўся на крыўду, забыўся нават на кавалак сыру, што калаціўся ў кошыку. Іліко вельмі хацелася яшчэ раз, хоць-бы здалёк, пабачыць гэтае дзіва, але аўтамабіль недзе знік, а яму трэба было спяшацца. Іліко бег, падскокваючы то на адной, то на другой назе і то абдумваў, як-бы цікавей расказаць пра гэта Маро, то стараўся загадаць, з чаго зроблена машына і хто яе гэтак хутка вязе. Накont паравоза Іліко ведаў усё, што трэба, яму расказаў Гвацыя: чалавек у чырвонай шапцы і начальнікі з ліхтарамі папіхаюць паравоз ззаду і ён сам ужо едзе з гары па жалезных рэйках, цягнучы за сабою вагоны да наступнай станцыі. Там яго папіхаюць зноў. Такім парадкам Іліко прыехаў у Поці і гэтак-жа можна ехаць куды захочаш. Пра параходы яму расказвала Маро: яны жалезныя і вялікія і не тонуць, бо ў сярэдзіне пакладзена шмат коркаў і сухога трысцця. Аўтамабіль ж заставаўся пакуль што загадкай.

Раптам Іліко спыніўся зацікаўлены. Узбоч ад дарожкі, на зялёнай, абшарпанай лаўцы ляжала куча лахманоў і над ёй нахіліўся шырокаплечы мужчына ў паласатай кашулі без рукавоў. Прыглядзеўшыся, Іліко ўбачыў, што на лаўцы ляжыць хлапчук, што лахманы, гэта ягонае адзенне і хлапец няйначай хворы, бо ляжыць нерухома і твар у яго жоўты як воск. Такі твар быў у брата Іліко, калі ён хварэў на ліхаманку і пасля памёр. Іліко падышоў і спыніўся, здалёк прыглядаючыся да хворага. Ён ляжаў з адкрытымі

вачыма, дробны тварык ягоны быў худы незвычайна. Скура на шчоках сцягнулася, шчыльна аблягаючы косць, лоб выдаваўся вельмі вялікім, вочы запалі глыбока пад бровы і глядзелі адтуль абыякава, пустыя і загаслыя. Нос быў зусім белы і востры, нібы ў мёртвага. Калі Іліко падышоў, хлапец павольна павярнуў галаву і глянуў на яго. Але і цяпер погляд ягоны заставаўся нежывым. Ён глядзеў на Іліко так, як-бы там, дзе ён стаяў, нікога не было. Мужчына азірнуўся на Іліко, паправіў клумак пад галавой у хворага і коратка сказаў:

— Хадзі сюды, бічо!

Іліко паслухмяна падышоў, з няменшай цікавасцю прыглядаючыся да мужчыны. У яго палова твару была цёмнай, як-бы пафарбаванай. Вялікая сіня-чырвоная пляма займала ўсю шчаку. Валасы ў гэтага мужчыны былі ярка-рыжыя, ён быў агромны, вельмі дужы і выдаўся Іліко злым. Хлапчук падышоў да яго нясмела. Хворы ляжаў усё так-жа і абыякава глядзеў на Іліко.

— Куды ты ідзеш?—спытаў мужчына.

— Да Габунія, па мяса...—хутка адказаў Іліко.—Ён гандлюе мясам на рынку, мы ад яго заўсёды бярэм. Я жыву ў Сімона Гамрэкелі, вунь на тэй вуліцы. Там яшчэ жыве Гвапія. Можа ведаеце яго? Такі, з вусамі... Я прыехаў сюды вучыцца гандляваць таварамі...

Усё гэта Іліко выказаў адным духам. Але мужчына нічога не адказаў, толькі паглядзеў на кошык Іліко.

— Што ў цябе там?

— Там?.. Нічога... Я іду па мяса да Габунія—раптам Іліко ўспомніў пра сыр і спяшаючыся дадаў.—Там кавалак сыру. Мне яго паклала Саламея... Яна заўсёды...

— Давай сыр!—жыва сказаў мужчына, хапаючыся за кошык.—Давай яго сюды!..

Хворы заварушыўся, узняў галаву і ўпяршыню Іліко заўважыў у яго вачах бляск. Хлапец, не адрываючыся, глядзеў на кавалак сыру, што трымаў у руках мужчына, падыходзячы да яго. Іліко пачуў некалькі слоў на рускай мове. Ён ужо навучыўся адрозніваць гэтую выразную, чоткую адрывістую мову, ад іншых, але не разумеў яшчэ ні слова. Аказалася, што гэты мужчына гаворыць па расійску гэтак-жа добра як і на роднай мове Іліко. Мужчына адламаў кавалак сыру і падаў хлапцу. Той прагна схапіў сыр тонкай рукой і нешта сказаў слабым голасам.

— Дзякаваць, дзядзечка...—сказаў хлапец.

— Ну, ну мурзаты!—усміхнуўся мужчына.—Цяпер будзе табе лягчэй... Еш памалу, ён салёны і больш не прасі. Больш пакуль што не дам... У цябе, брат, кішка ў кішку ўлезла, многа есці нельга, зашкодзіць. Народ, чорт іх матары, дзіця з голаду зайшлося, каб хто скарынку хлеба хаця-б са злосці кінуў! Ляжы, ляжы, не ўставай... Пакрысе, не спяшайся...

Хлапец, сціскаючы ў жмені кавалачак сыру, прагна грыз яго і вочы ягоныя, дагэтуль загаслыя, глыбока роўнадушныя, блішчэлі дзікаватымі, галоднымі агеньчыкамі. Іліко, усхваляваны, моўчкі глядзеў на яго. Па таму, як хлапец узяўся есці, Іліко здагадаўся, што ён не хворы, а вельмі галодны, настолькі галодны, што аслабеў

і лёг. Іліко зазірнуў у кошык яшчэ раз, нават патрос яго, але там больш нічога не было. Такім чынам Іліко ўжо нічым не мог дапамагчы і толькі стаяў і моўчкі глядзеў, слухаючы незразумелую размову. Мужчына больш не звяртаў на яго ўвагі.

У садзе было па-ранейшаму ціха, на дарожках нікога не было. Раса падсыхала, сонца ўзнімалася вышэй, непадалёку шумела мора. Але горад яшчэ спаў. Толькі ў порце, яшчэ раз, зычна закрычаў гудок. Хлапец скончыў есці і ўмольна глянуў на мужчыну. Але той пакруціў галавой, хаваючы сыр у кішэню.

— Нельга, больш, нельга! Паляжы ціханька, адпачні, потым са мной пойдзем. Там у мяне адляжышся! Эх! Ужо другі гудок! Ляжы ціха, мурзаты, зараз трэба ісці... Потым яшчэ падкармлю, не крывіся! Стаў богу свечку, што на мяне трапіў, тут пад купецкімі ганкамі ты напэўна і кончыўся-б!... Эх, мурзаты, мурзаты! Хапіла табе гора відаць у поўнай форме!

Хлапец закрыў вочы і ляжаў ціха. Тагды мужчына ўспомніў пра Іліко, які ўсё яшчэ стаяў тут са сваім кошыкам.

— Гэта бяздомны хлопчык,—сказаў мужчына.—У яго няма ні бацькі ні маці, ён адзін ходзіць па свеце і трапіў сюды аж з Украіны. Ты напэўна, агарак, не ведаеш, дзе Украіна?

Іліко шчыра сказаў, што не ведае. Пасля таго, як мужчына загаварыў з ім, ёй пасмялеў і цяпер толькі чакаў моманту, каб запытаць пра аўтамабілі.

— Хлопчык два дні не еў,—сказаў мужчына, вымаючы з кішэні кароценькую люльку.—Ён толькі піў ваду каля фантану. Ты ведаеш, агарак, што гэта значыць, два дні не есці! Іш ты які здаровы супроць яго, шчокі, як арбузы... Ты што, сваяк Гамрэкелі? Што ты там у яго робіш?

— Я прыехаў сюды вучыцца гандляваць таварамі,—важна адказаў Іліко.—Але пакуль мне пашыюць камізэльку і чырвоную кашулю, то я заняты іншай работай...

— Ну? На рынак ходзіш? Падлогі мыеш?

— Я мыў бочкі!—горда адказаў Іліко.—Сто бочак вымыў!

— Іш ты!—засмяяўся мужчына.—Дык ты, значыцца, будзеш купцом? Адкуль-жа ты, гэткі асілак, прыехаў, што адразу сто бочак... А?

— Я прыехаў з сялення Сагвасаліо,—адказаў Іліко.—У мяне таксама няма ні бацькі, ні маці. Я жыву адзін.

— З Сагвасаліо?—перапытаў мужчына.—У каго-ж ты там жыў?

— У Арцёма Коркія.

Мужчына ўважліва паглядзеў на Іліко, потым выняў з кішэні шчапотку тытуню і напхаў люльку. Ягоны пагляд Іліко палічыў за знак недавер'я і абразіўся.

— Я ўсіх ведаю Коркія,—сказаў ён.—І старога Арцёма і Кетэ, і цётку Анну і аднарукага Міха. З Вано мы заўсёды лавілі рыбу... Раз мы злавілі сазана. Цэлых пяць пудоў... А тады яшчэ аднаго... Я сам яго забіў. Калі бабуля Анна памерла, я ў іх цэлы месяц жыў. Я толькі не ведаю Бесо... Калі я быў яшчэ малы, Бесо пайшоў у салдаты, у бальшэвікі...

— Ну, добра, добра...—сказаў мужчына.—А ці далёка ад Сагвасаліо сяленне Сабокучаво?

Іліко не паспеў адказаць. Ззаду пачуліся крокі. Па дарожцы да іх набліжаліся чацвёра ваенных, пяты ў цывільным відаць адстаў, і, спяшаючыся, подбегам здаганяў іх. Іліко падхапіў свой кошык, які быў паставіў на зямлю, і адышоў у бок. Гэта былі тыя самыя начальнікі, што нядаўна праехалі ў аўтамабілі. Яны ішлі цяпер проста да іх, мерна ступаючы, падобныя адзін да аднаго, прыбраныя ў прыгожае адзенне, вельмі строгія і маўклівыя. Іліко хацеў ужо скочыць у кусты, але ваенныя спыніліся як адзін і паднеслі рукі да казыркоў. Мужчына выняў люльку з роту і кіўнуў галавой. У гэты момант падаспеў пяты, у вузкіх штанах і ў смешнай куртцы з двума хвастамі. Ён стаміўся відаць, бо аціраў твар, бягучы, і хутка схаваў хустачку некуды пад хвасты, як толькі падбег да начальства. Адзін з вайсковых паказаў вачыма на хлапчука, што ляжаў на лаўцы. Цывільны адразу-ж нешта спытаў у мужчыны і той адказаў яму. Іліко не разумеў ні слова і стаяў воддалі, утаропіўшыся вачыма ў шырокія начальніцкія грудзі, прыбраныя ў залатыя гузікі і розныя бліскучыя штучкі.

— Я чыноўнік міністэрства замежных спраў,—сказаў цывільны па расійску.—З кім маю гонар гаварыць?

— Гонар невялікі...—усміхнуўся мужчына.—Мае прозвішча Курыдзе... Канстанцін Курыдзе, партовы рабочы...

Чыноўнік патрымаўся за сваю эспаньёлку, падумаў і адвярнуўся да вайсковых.

— Гэта партовы рабочы, пане генерал,—сказаў ён па англійску.—Грузін.

Вайсковыя казырнулі зноў. Курыдзе выбіў сваю люльку аб пазногаць, схаваў у кішэню і зноў пакланіўся.

— Ён мала падобны да грузіна...—заўважыў генерал.—Асабліва, колер валасоў... Будзьце ласкавы, спытайце ў гэтага чалавека, што здарылася з яго дзіцем?

— Чыё гэта дзіця?—спытаў чыноўнік па грузінску і гэта былі адзіныя словы, якія зразумеў Іліко з усёй паследуючай размовы.—Вы гаворыце з начальнікам англійскай ваеннай місіі ў Грузіі. Будзьце, калі ласка, больш ветлівымі. Гэта ваша дзіця?

— Гэта бяздомнае дзіця,—холадна адказаў Курыдзе.—Ідучы на работу, я знайшоў яго тут, на гэтай самай лаўцы. Ён знясілеў ад голаду.

Чыноўнік паторгаў сваю бародку і зноў павярнуўся да вайсковых.

— Сын гэтага чалавека, генерал, нечакана захварэў, і вось ён прынёс яго ў больніцу. Але цяпер яшчэ рана і яны чакаюць на бульвары, пакуль пачнецца прыём.—Чыноўнік з укосу глянуў на Курыдзе.—Хутчэй за ўсё ў дзіцяці прыступ малярыі. Вельмі частае з'явішча на гэтым узбярэжжы... З вашага дазволу, пане генерал, панове афіцэры, тут паблізу, у гэтым-жа садзе будаўніцтва сабору. Першая і адзіная ў Еўропе жалеза-бетонная пабудова духоўнага прызначэння... Перакрыццё купала, прашу звярнуць увагу, таксама будзе жалеза-бетонным... Свайго роду унікум. Прашу!..

Вайсковыя пераглянуліся, генерал у знак згоды кіўнуў галавой.

Але тут Курыдзе зрабіў крок наперад і стаў перад генералам, трымаючы рукі ў кішэні. Відаць, ён вырашыў не быць асабліва ветлівым.

— Гэты чалавек ілжэ!—на чыстай англійскай мове сказаў Курыдзе, ва-ўпор гледзячы ў шэрыя халодныя здзіўленыя вочы генерала.—Як поўны генерал і поўны гаспадар Грузіі, маеце ўсе падставы прагнаць яго з двара і ўзяць сабе другога лакея.

Чыноўнік змярцвеў. Ягоны выхалены твар стаў шэрым. Вырачыўшы вочы, ён з жахам глядзеў на Курыдзе, не будучы ў сілах сказаць хоць-бы слова. Генерал прыўзняў брыво і глянуў на сваю світу. Адзін з афіцэраў ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Да... дазвольце...—ускрыкнуў чыноўнік.—Дазвольце... Якое права...

Генерал глянуў на яго і ён сціх. Гэта было сцвярджэннем слоў Курыдзе, які стаяў перад генералам усё ў тэй-жа спакойнай позе. Генерал не спяшаючыся аглядзеў яго з ног да галавы і адзін момант затрымаў погляд на кішэнях. Курыдзе ўсміхнуўся, выняў з кішэні люльку, з другой тытунь і адступіў на крок. Генерал зноў павёў брывом. Чыноўнік парываўся нешта сказаць, але яго замарожваў генеральскі погляд. Іліко аж прыадкрыў рот, стараючыся ўгадаць, што такое раптам здарылася. Толькі хворы ўсё так-жа абыякава глядзеў на незнаёмых людзей. Непрыемная пауза прадоўжвалася. Яе парушыў сам Курыдзе.

— Прашу выбачэння,—сказаў ён.—Пан генерал прыехаў у Поці, каб паглядзець, як ідзе пагрузка чыатурскага марганца на англійскія параходы... Я гэта разумею. Але я асмельваюся на хвіліну затрымаць увагу пана генерала: гэта не маё дзіця. Гэта бяздомнае дзіця з Украіны, яно страціла сваіх блізкіх і шукае дапамогі і прытулку. Але з пажарышча яно трапіла ў абакрадзены дом і вось вынікі...—Курыдзе паказаў на ворах лахманоў.

Вочы генерала пасвятлелі, шчака ўздрыгнула, ён пабарабаніў пальцамі па тугім паясе з таўстой, лакіраванай скуры, але стрымаў сябе і ўсміхнуўся.

— Гэта частае з'явішча не на адным толькі ўзбярэжжы...—дадаў Курыдзе.—І прычыны яго вядомы шмат каму...

Курыдзе ўсунуў у кішэню сваю люльку. Пляма на шчацэ пацямнела і выдавалася чорнай. Ён стаяў вялікі, нескладны супроць шчагалеватага, падцягнутага генерала, які ветліва і паблажліва ўсміхаўся, пазіраючы сабе пад ногі.

— Пане генерал!—рэзка крыкнуў чыноўнік.—Я лічу патрэбным звярнуцца...

Генерал зноў глянуў на яго і зноў у зрэнках з'явіліся ільдзінкі і зніклі. Чыноўнік змоўк.

— Вельмі прыемна чуць ад вас англійскую мову...—ціха сказаў генерал да Курыдзе.—Тым больш... гм... вы, калі судзіць знешне... Цяжка меркаваць аб адукацыі... Аднак... Вы жылі ў Англіі?

Генерал усміхаўся, але белыя ільдзінкі выразна прасвечвалі ў яго зрэнках.

— Я жыў у Англіі...—коратка адказаў Курыдзе.

— Так... Вельмі вам удзячны.—Генерал, ускінуўшы руку да казырка, адвярнуўся.—Вы, здаецца, хацелі паказаць нам...

Чыноўнік падбег да генерала. Курыдзе ўчуў апошнія генеральскія словы.

— Так, так... Жалеза-бетонны сабор...

Яны пайшлі. Іліко глядзеў услед пышнаму начальству. Чалавек з двума хвастамі, які ішоў ззаду, выдаваўся папросту смешным. Іліко хацеў сказаць пра гэта Курыдзе, які яшчэ больш спадабаўся яму, бо па ўсім відаць, моцна зрэзаў хвастатага перад начальнікамі, але, убачыўшы ягоны суровы, нават злы твар, не асмеліўся. Курыдзе хвіліну стаяў моўчкі, потым павярнуўся да Іліко.

— Ну, ты купец, сто бочак, сып адгэтуль!—сказаў ён.—А то гаспадар дасць табе ў скуру... Табе яшчэ рана з генераламі кампанію вадзіць...

Падышоўшы да лаўкі, ён лёгка ўзяў на рукі хворага, моўчкі абмінуў Іліко і хутка пайшоў некуды проста праз кусты. Іліко падхапіў свой кошык і, не шкадуючы ног, памчаў па дарожцы. Усё гэта было так цікава, што ён і не заўважыў, як сыйшоў ладны час. Сонца ўжо ўзнялося вышэй за гарадскія дахі і добра грэла, па вуліцы за садам грукалі колы і надрыўна крычаў ішак. Гэта ехалі на рынак сяляне з бліжніх вёсак. Якраз у гэтую пару заўсёды прасынаецца гаспадар. Іліко наддаў ходу.

У той момант, калі Курыдзе знік у кустах, генерал лёганька, непрыкметна азірнуўся скосу і потым глянуў на чыноўніка. Той адразу зразумеў, у чым справа.

— Прашу выбачэння, пане генерал,—сказаў ён.—Адну хвілінку... Адно мгненне...

Ён хутка пайшоў наперад, завярнуўся на бліжэйшую сцежку, азірнуўся і рушыў размашыстай рыссю, падскокваючы на крутых заваротах. Праз пару хвілін бегу наперадзе мільгнулі чыгунныя краты агарожы, чыноўнік звярнуў са сцежкі, каб скараціць шлях, пераскочыў праз куст і, выляцеўшы на дарожку, ледзь не збіў з ног хлапчука з кошыкам.

Іліко, убачыўшы хвастатага, ірвануў наперад з усяе сілы. Хвастаты бег за ім. Каля адкрытых варот саду нерухома стаяў аўтамабіль, але цяпер Іліко не спыніўся-б, хаця б усе цуды зямлі стаялі на яго дарозе. Цыбаты і хвастаты начальнік бег за ім крок у крок. Яны амаль што разам выскачылі з варот саду і пасля гэтага Іліко прыпусціў так, што ногі амаль не датыкаліся да зямлі. Такім ходам, далёка пакінуўшы за сабою хвастатага, Іліко дамчаў да рынку і знік у натоўпе.

Чыноўнік прыбыў туды значна пазней. Вусаты і пузаты чын, відаць з ранейшых гарадавых, стаяў ля латка з зелянінай і еў рэдыску. Чыноўнік падбег да яго, нешта сказаў чыну на вуха, у таго акругліліся вочы і хвосцік рэдыскі некалькі часу нерухома тырчэў з роту.

— У паласатай матроскай фуфайцы...—шаптаў чыноўнік.—З плямай на шчацэ... Прозвішча Курыдзе... У порце.

Чын кіўнуў галавой, выплюнуў хвосцік і, прытрымліваючы кабуру, патрухаў з рынку. Чыноўнік пайшоў павольна, acціраючы твар. На яго з цікаўнасцю глядзелі жанчыны, якіх парадкам ужо сабралася на рынак.

— Я ведаю!—сказала адна з іх, агледзеўшы чыноўніка.—Гэта яны ў Валіко Лакацарыя з учорайшага вечара ў карты рэзаліся! Відаць, пабіліся?! Гэты зусім п'яны.

Чыноўнік міністэрства замежных спраў з высока ўзнятай галавой ішоў праз натоўп і перад ім расступаліся. У гэты час ваенная місія вялікай саюзнай дзяржавы аглядала пабудову сабора, адзіную ў Еўропе жалеза-бетонную пабудову духоўнага прызначэння.

* * *

Яшчэ падыходзячы да варот, Іліко адчуў галасны плач Маро на двары. Кошык цяпер быў цяжкім і Іліко, спяшаючы, амаль не перакуліўся праз высокі парог падваротні. Па сярэдзіне двара стаяў незнаёмы хлапец, круглатвары, з кручкаватым носам, коратка астрыжаны, з даўгімі нейкімі вострымі адтапыранымі вушамі. Хлапец не спадабаўся Іліко з першага погляду, а тое, што ён рабіў, не спадабалася яшчэ больш. Ён трымаў за шыю кацянё Маро, высока ўзнімаючы яго ўгару. Пушысты звярок трапятаўся ў яго руках, бо хлапец мусіць душыў яго за горла. Маро бегала наўкола і галасна плакала. Убачыўшы гэта, Іліко кінуў свой кошык і ў два скокі апынуўся побач з хлапцом.

— Ты!—крыкнуў Іліко, сціскаючы кулакі.—Пусці кацянё, свіння!

Хлапец быў амаль што на галаву вышэйшы за Іліко. Ён зняважліва агляну́ў яго цераз плячо і заспяваўшы нейкую песню, выбрыкваючы нагамі, затанцаваў па двары. Іліко не паўтараўся. Ён падбег да хлапца і з разгону ўдарыў яго кулакамі ў бок. Хлапец войкнуў і выпусціў кацянё. Маро моўчкі падхапіла яго і пабегла на кухню.

— Яшчэ хочаш?—закрычаў Іліко, захоплены лёгкай перамогай.—Яшчэ хочаш?—Свіння, жаба, ішак!

Хлапец размахнуўся і спрытна даў Іліко пад падбародак. Іліко з візгам рынуў на яго і праз момант абодвы качаліся па зямлі блізка таго месца, дзе ўначы стаялі буйвалы. Спачатку на двары нікога акрамя двух байцоў не было. Потым з кухні выглянула Эзабедзі і ўбачыла Іліко, які сядзеў верхам на панічы і малаціў яго кулакамі па патыліцы.

— Гвацыя!—закрычала Эзабедзі.—Гвацыя, бяжы сюды!.. Іліко б'е маладога батоно!

Малады батоно зароў на ўсё горла. На двор выбег Гвацыя. Іліко злез з пераможанага праціўніка і той павольна ўставаў, выпэцканы ў бруд, з чырвоным абсопленым тварам.

— Ага!—падскокваючы крычаў Іліко.—З'еў? Хадзі яшчэ, наб'ю морду! З'еў?

— Іліко!—крычаў Гвацыя, падбягаючы.—Іліко!—Пайшоў прэч, што ты робіш, паскуднік! Вось я табе...

У гэты момант малады батоно моўчкі ўдарыў Іліко, той не ўстаяў на нагах і яны зноў пакаціліся па зямлі, Гвацыя бегаў навокал, мерачыся злавіць Іліко за нагу. На дапамогу яму паспяшалі Саламея і Эзабедзі, буфетчык Гурген выскачыў з кухні апошнім,

на хаду адвязваючы фартук. Байцоў хутка развялі-б, але тут пачуўся голас гаспадара.

— Не паддавайся, Гіо!—крычаў Сімон, стоячы на парозе.—Пад нагу яго! Пад нагу! Так! Прапаў Іліко! Гвацiя, адступіся! Не замінайце ім! Не чапайце, кажу! Ну, Гіо?! Так! Р-раз! Малайчына Гіо! Ах, забаўна!

Сімон павольна сыходзіў па лесвіцы, з цікаўнасцю прыглядаючыся да бойкі. Цяпер Іліко стала горш. Гіо аказаўся наверсе. У Іліко з носу ішла кроў, удары сыпаліся адзін за адным. Абараняючыся Іліко бачыў блізка ад сябе ашчэраныя рэдкія зубы, выпуклыя, непрытомныя ад злосці вочы, таўсташчокі нейкі дзіўна знаёмы твар. Потым цопкая рука пракралася да горла Іліко, ён ірвануўся з усіх сіл і ўскочыў на ногі. Задыханы, размазваючы рукавом кроў па твары, ён чакаў, пакуль хлапец узнімецца на ногі. У гэтую хвіліну нехта схапіў яго за каўнер і аж прыўзняў ад зямлі, гэта быў гаспадар. Іліко ўбачыў спуджаныя твары Саламеі, Гвацiя і астатніх і ў той жа момант свет страсянуўся ў яго вачах і ў вушах зазвінела ад моцнага ўдару.

— Шчанюк!—зашыпеў Сімон, яшчэ раз пляснуўшы Іліко па шчацэ.—Ты з кім гэта? Ты паглядзі, што ты зрабіў маладому батоно!.. А? Сын сабакі, ты языком выліжаш ягонае адзенне!..

Малады батоно стаяў, растапырыўшы рукі, аглядаючы парваную на калене панчоху. Сімон тузануў Іліко за руку.

— Я тебе пакажу, як з кулакамі кідацца на гаспадара!—крыкнуў Сімон.—Ты гразь з-пад ягоных ног! Ты ў мяне доўга не забудзешся!

І ён пацягнуў за сабой амаль няпрытомнага хлапчука, на хаду адшпільваючы таўсты скураны пояс.

— Батоно!—закрычала ўслед Саламея.—Батоно! Ён не ведаў, што гэта паніч! Батоно!

Сімон адкрыў дзверы ў свіран, з размаху ўкінуў туды Іліко і не азіраючыся пераступіў парог. На двары стала ціха, потым праз маленькае, забранае ў краты вакенца свірана прарваўся тонкі пакутны дзіцячы голас. Саламея, затыкаючы вушы, пабегла з двара, Эзабедзі заплакала, ламаючы рукі, хмуры Гурген павярнуўся і моўчкі пайшоў на кухню. Гіо, пераступаючы нагамі ад задавальнення, з цікаўнасцю прыслухоўваўся да таго, што робіцца ў свіране. Задушаны тонкі дзіцячы голас не сціхаючы вёў адну, высокую страшную ноту. І тады чыста звярыны рык разлёгся па двары. Гэта ўзбунтаваўся Гвацiя. Ён прыбег да свірана і ірвануў да сябе дзверы. Яны не падаліся, зашчэпленыя знутры. Гвацiя ўдарыў у дзверы нагой.

— Гвацiя, што робіш?—крыкнуў ад парога кухні Гурген.— Гвацiя!

Гвацiя адбегся і зноў грукнуў у дзверы. Іліко сціх, дзверы адчыніліся і на парозе з'явіўся з рэмянём у руках распяразаны Сімон. Уоачыўшы Гвацiя, Сімон адступіў. Бледны, як мярцвяк, з дзіка вырачанымі вачыма, Гвацiя быў страшны. Ён стаяў сціснуўшы кулакі, калаціўся ўсім целам і не мог сказаць ні слова. Сустрэўшыся з поглядам Гвацiя, Сімон адступіў яшчэ на крок.

— Што ты?—прашаптаў Сімон,—што ты!

— Звер!—закрычаў Гвація, тупаючы нагамі.—Звер!.. Звер!..

— Гурген!—крыкнуў Сімон, хаваючыся за дзверы.—Ён звар'яцеў!..

Гвація ўскочыў у свіран. Сімон пабег у кут, але Гвація заступіў дарогу і прыцісвуў яго да сцяны. Сімон не абараняўся. Паралізаваны страхам, раззявіўшы рот, ён глядзеў у дзікія вочы Гвація, нават не адчуваючы болю, хаця Гвація з незвычайнай сілай сціскаў жалезнымі сваімі пальцамі ягоныя рыхлыя плечы.

На двары ў тры галасы крычалі Гіо, Эзабедзі і Гурген. Мадам Гамрэкелі паспешна сыходзіла па лесвіцы. Збіты Іліко прапоўз каля ног Гвація і схаваўся за скрыню.

— Звер!..—Звер!..—шаптаў Гвацiя, трасучы Сімона.—Звер!

Раптам Сімон крутнуўся, нырнуў галавой пад рукі Гвація, вырваўся і пераскочыў парог, ледзьве не збіў з ног Гургена, што бег на дапамогу, і азіраючыся, хутка пайшоў праз двор. Гвацiя выскачыў са свірна, але не здаганяў Сімона.

— Звер!—хрыпла крыкнуў ён, патрасаючы кулаком.—Галзіна!.. Я знішчу тваё гняздо! Ты ў мяне жабраком па свеце пойдзеш. Звер! Смярдзючы клоп! Я цябе спалю!.. Звер!..

Сімон, убачыўшы, што Гвацiя не здаганяе яго, спыніўся і нешта крыкнуў. Гвація не ўчуў, але хутка нахіліўся, узняў з зямлі кавалак цагліны і з усяе сілы шпурнуў у Сімона. У акне кухні рассыпалася шыба. Сімон адным махам узбег па ўсходах і, грукнуўшы дзвярыма, знік у доме. Гвацiя схапіўся за галаву і хістаючыся пашоў на вуліцу.

Цэлую гадзіну яшчэ ў доме Гамрэкелі не сціхаў шум. Сімон хадзіў па пакоях, падкідаючы нагой крэслы, мадам Гамрэкелі ляжала на канапе і Маро падносіла ёй то адзін, то другі флакон, Эзабедзі ў калідоры абмывала маладога батоно, Гурген прыбіваў да вакна кухні ліст фанеры. Ля варот стаялі суседзі, абмяркоўваючы падзеі ў сям'і Гамрэкелі. Яны бачылі як Саламея павяла праз двор збітага Іліко і цяпер спрачаліся ці мае гаспадар права пакараць свайго парабка. Суседзі Гамрэкелі былі паважанымі ў горадзе людзьмі. Шмат хто з іх меў крамы, іншыя займаліся падрадамі, астатнія служылі ў дзяржаўных і прыватных установах. Апошнія і трымаліся думкі, што гаспадар не мае права біць сваіх слуг.

— Пачакайце, паважаны Малакія!..—чулася ля варот.

— Выбачайце, мой дарагі, мы жывем у дэмакратычнай рэспубліцы... Закон...

— Ха! Дык па вашаму, трэба саступаць з дарогі кожнаму хаму?

— Мы маем на ўвазе няпоўналетняе дзіця...

— Самі вы няпоўналетняе дзіця!

— Закон... На падставе закону...

— Вы мне адкажаце за зневагу!

— Ой! Каб я баяўся кожнага канцылярскага пацука?!

— Вы жулік! Вы думаеце, нікому невядомы вашы махінацыі з лесам у Очэмчыры?

— Панове! Хвілінку ўвагі! Пакіньце спрэчкі... Высокія прынцыпы дэмакратыі, пакладзеныя ў аснову...

— Я не жадаю разважаць аб дэмакратыі ў прысутнасці жулікаў!

— Што вы сказалі?

— Схавайце свой кулак! Я зараз пакліччу паставога!

Скончылася на тым, што прыйшоў Гурген і, моцна грукнуўшы, закрыў фортку. Гэта неяк адразу ахаладзіла страсці, паважаныя грамадзяне гораду успомнілі, што неўзабаве паніхіда па інспектары і разыйшліся, лянiва пабрэхваючы адзін на аднаго. Надыходзіў час снедання, і на кухні кожнага, больш ці менш прыстойнага дому, больш ці менш прыемна пахла.

Памалу супакоіліся і ў доме Гамрэкелі. Сімону надакучыла раскідаць крэслы, ён патрабаваў гарачай вады і сеў галіцца. На маладога батоно ўздзелі новы гарнітур і мадам Гамрэкелі вывела яго ў сад. Эзабедзі чысціла ў калідоры сурдут Сімона, Саламея рыхтавала снеданне, Гурген сядзеў за канторкай у духане і падлічваў учарашнюю выручку.

У каморы ляжаў Іліко, побач з ім, на падлозе сядзела Маро. Іліко дрыжэў, галава была гарачай, усё цела было як-бы налітым тупым болем. Так нешчасліва скончылася гэтая багатая падзеямі мітуслівая раніца. У каморы было цёмна, сонца ішло ўжо высока і сонечныя зайчыкі зніклі. Пахла цвіллю і пылам, было душна і крыху нават боязна. Але Маро і не думала аб тым, каб пайсці адгэтуль. Яна паціху гладзіла кучаравыя валасы Іліко і шаптала ўвесь час.

— Не плач, Іліко, не плач...

— Я н-не... не плачу...—заікаючыся, стогнучы, шэптам адказваў Іліко.

— Не плач, Іліко, не плач...

Больш Маро нічога не магла прыдумаць, каб суцешыць і супакоіць Іліко. Іліко то засынаў і ляжаў ціха нейкі час у забыцці, то ўздрыгваў, як-бы хто штурхаў яго і пачынаў паціху стагнаць. Гады маленькая рука лашчыла ягоныя валасы, цёпла краналася твару і Іліко чуў ціхі шэпт:

— Не плач, Іліко, не плач...

— Я н-не... плачу...—адказваў Іліко, і цяжкая дрымота зноў ахінала яго. Нарэшце ен заснуў. Маро баялася паварушыцца, нават не знімала рукі з галавы Іліко. Так прайшло некалькі хвілін. У тугілівай цішыні, Маро чула нейкія шолахі, здавалася, што нехта стаіць паблізу, ля галавы Іліко, нехта гаворыць паціху, ледзь чутна. Вузенькія, цмяныя палоскі святла ў шчылінах дзвярэй час ад часу знікалі амаль зусім. Раптам Іліко выразна сказаў на ўвесь голас:

— Я іх зарэжу!

— Каго, Іліко?—спалоханая спытала Маро.

Іліко не адказаў. Ён спаў. Гэта было вышэй за сілы Маро. Яна заўсёды баялася, калі людзі гавораць у сне.

— Каго, Іліко?—спытала зноў Маро.

Адказу не было. Была тужлівая цішыня, душная цемра, нейкія шолахі паблізу, страх сціснуў сэрца дзяўчынкі. Не дыхаючы, яна ўстала, вобмацкам прайшла да дзвярэй і на шчасце, адразу знайшла клямку. Дзверы заскрыпелі і Маро апынулася ў калідоры. Тут было светла. Праз запэцканае мухамі вузкае вакно Маро ўбачыла на двары Гургена. Ён хадзіў з вядром каля новага дэрэжані, на якім гаспадар ездзіць па святах, і абліваў вадою чырвоныя колы. На ім быў скураны фартух, які насіў Гвація. Быў ясны сонечны дзень, белыя рэдкія хмаркі плылі ў сінім небе, на падваконніку падскоквала маленькая шэрая птушка. Яна глянула на Маро чорным дробненькім вочкам, успырхнула і знікла.

Маро супакоілася адразу, як толькі апынулася ў калідоры. Цяпер ёй было шкада Іліко, які застаўся адзін у цёмнай каморы. Яна адважна адкрыла дзверы, якія былі самі зачыніліся, і зазірнула ў камору. Іліко ляжаў нерухома, адвярнуўшыся да сцяны і твару яго не было відаць. Толькі кучаравыя валасы выглядалі з-пад коўдры.

— Іліко!—паклікала Маро.—Іліко!

Іліко не адказваў. Ён спаў. Маро пайшла ў кут, прынесла адтуль дошку і паклала яе ў створку дзвярэй. Цяпер дзверы шчыльна не зачыняліся, у каморы было святлей і Іліко было не так страшна спаць. Пасля гэтага Маро сыйшла ўніз і аказалася, што ў самую пару. Мадам Гамрэкелі пасля снедання прайшла ў спальню апранацца і загадала паклікаць Маро. Дзяўчынцы не ўдалося нават забегчы на кухню, каб расказаць маці пра Іліко. Цыбаты вырадак Гіо сустрэў яе на двары, таргануў за касу і, пабяцаўшы ўсёроўна задушыць яе кацянё, перадаў ёй загад мадам Гамрэкелі. Маро пабегла ў дом.

Час ішоў, набліжаўся поўдзень. Гурген вывёў на двор коняй і ўзяўся запрагаць. Ён не быў звычным да гэтай работы і акрамя таго не вельмі быў смелым з конямі. Справа ішла вельмі марудна. Нарэшце Гурген неяк ублытаў коняй у запрэжку і, праклінаючы ўсё на свеце, пайшоў апранаць фурманскае адзенне. Адзенне гэтае складалася ўсяго толькі з шарсцянога чырвонага пояса, але для Гургена і гэтага было досыць. Ён быў сталага ўжо веку і наймаўся да Гамрэкелі за буфетчыка, а не за фурмана. У яго не хапіла духу адмовіцца, калі гаспадар сказаў, што яму прыдзецца замяніць Гвацію і цяпер ён пакутваў, уяўляючы сабе, як гэта ён выедзе на козлах на смех усім знаёмым. Сімон таксама быў у дрэнным настроі. Акрамя ўсіх непрыемнасцяй, што адбыліся ў гэтую раніцу, на рукаве сурдута аказалася пляма, якую ніяк нельга было звесці. Акрамя таго, Сімон непакоіўся. што яны спозняцца і лепшыя месцы ў царкве будуць занятымі. Сімон не любіў быць апошнім. Ён нерваваўся, хадзіў па калідоры ля дзвярэй спальні, крычаў, каб мадам Гамрэкелі хутчэй канчала завіўку, бо ў доме пахне паленым сабакам і дабіўся нарэшце таго, што са спальні, велічна выйшла мадам Гамрэкелі і абвясціла, што не паедзе ні на якія пахаванні Сімонавых сяброў, гэтакіх-жа п'яніц, як і ён сам. Узняўся крык, мітусня пачалася нанова і было ўжо далёка палова дню, калі вароты сядзібы Гамрэкелі расчыніліся і пануры Гурген,

уга напяўшы лейцы, вывез на вуліцу свайго батоно з жонкаю і нашчадкам.

А Іліко ўсё спаў. Ён не прасынаўся, калі прыходзілі Саламея і Маро, а пасля іх Эзабедзі. Ён не чуў, як праходзіла па вуліцы пахавальная працэсія, ён спаў доўга і непрабудна шмат гадзін.

* * *

Пахаванне падатковага інспектара было пышным. Жалобная працэсія павольна рухалася па вуліцах, блішчэлі рызы духавенства, плыў сіні дым ладана. Найбольш паважаныя грамадзяне гораду прыстойным, хоць і не стройным гуртам ішлі за катафалкам, за імі рухаўся вялікі натоўп цікаўнага народу. Побач ішло для парадку некалькі чыноў у белых пярчатках, ззаду ехала чарада карэт, фаэтонаў і проста лінеяк. Калі працэсія пераходзіла вуліцы, паставыя бралі пад казырок. Усё было вельмі ўрачыста.

Сімон быў наперадзе. Ён дарэмна непакоіўся, што застанецца незаўважаным. Хаця ён і спазніўся, хаця паніхіда і пачалася ўжо, калі фаэтон Гамрэкелі пад'ехаў да царквы,—усё-ткі ўсё ўладзілася, калі не лічыць таго, што спярша так і не ўдалося прабіцца бліжэй да катафалку, на месца, якое загадзя быў намеціў Сімон. Паважаныя грамадзяне гораду стаялі сцяной і энергічна адказвалі на Сімонавы штуршкі. Давялося пастаяць каля царкоўнага старасты. Калі выносілі труну, Сімона таксама адцёрлі. Ён быў падвярнуўся якраз у пару і падставіў плячо, цвёрда ўпэўнены, што цяпер месца за катафалкам забяспечана, але вышла замінка, таўсты Пачулія выкарыстаў гэта і адціснуў Сімона ў бок. У той самы момант, калі страчаны былі ўсе надзеі і не было ўжо ніякіх магчымасцяй прабіцца наперад, Сімон раптам заўважыў удаву. Яна разгублена стаяла зусім адна, на яе неяк забыліся. У адзін момант Сімон прабіўся праз натоўп і ўзяў жанчыну пад руку. Пры выхадзе нехта з сваякоў прыклеіўся з другога боку, астатнія-ж тапталіся навокал, непрыязна пазіраючы на Сімона. Але ніякіх спосабаў адарваць яго ад удавы не было і яны павалакліся ззаду. Сімон ішоў перад усімі, беражна і далікатна вёў удаву і калі зрэдку азіраўся, то бачыў лысіну Пачулія, які зайдросна адводзіў вочы ўбок, дзівячыся, відаць, з Сімонавага спрыту.

Найбольш эфектным быў Гунава. Ідучы за катафалкам, і пасля, на могілках, стоячы пад дрэвам, воддалі ад усіх, ён часта сустракаў зацікаўленыя погляды і чуў сваё імя. З прысутных тут, ён адзін меў самае блізкае дачыненне да гэтай урачыстай падзеі. Доказам была ягоная правая рука, што вісела на чорнай перавязі. У форме, гладка выгалены, крыху бледны, з лёгкай балеснай грымаскай на твары, Гунава выдаваўся маладзейшым за свае гады і карыстаўся павышанай увагай жанчын. Ён ўсміхаўся ім стомлена і сумна, ранены герой, што стаіць над магілай друга.

Яму і на самай справе было дрэнна. Рука, параненая вялікай самадзельнай куляй, тупа ныла, не сціхаючы ўвесь час. Даўгі гранёны ствол стрэльбы, які цмяна бліснуў пры святле месяца на грэблі Сабокучаво, смертаноснае чорнае вочка, што глянула яму

ў твар, застанецца ў памяці надоўга, як адзін з страшнейшых момантаў у яго жыцці. Але не гэта прыгнятала Гунава, калі ён слухаў гісторыі пра геройскае ўзяцце бунтоўнага сялення; побач з ім ішоў чалавек, які быў сведкай і ўдзельнікам гэтых геройстваў. Мучаідзе застаўся сядзець. Калі Гунава, убачыўшы стрэльбу, заверашчэў заячым голасам і ўпаў на дно фаэтона, да таго яшчэ як той, што хаваўся ў кустах, стрэліў. Ён-жа узняў Гунава на ногі і падтрымліваў яго пакуль асобаатрадчык жыў і крычаў на ўсё балота, што яго забілі, наганяючы гэтым яшчэ больш страху на салдат, якія расстралялі ў паветра палову сваіх патронаў. Мучаідзе, перад якім выстаўляў сябе Гунава, як узор энергіі і бясстрашнасці, адпойваў яго смярдзючай балотнай вадой, калі пасля перавязкі, Гунава качаўся ў прыпадку істэрыкі і бляваў, як кацянё, і ён-жа, прыехаўшы у Поці, паднёс асобаатрадчыку на ўспамін цяжкую, свінцовую, самадзельную кулю, якая прабіла Гунава руку і увязла ў мяккіх падушках сядзення. Гунава ўзяў гэтую кулю, хаця ўспамінаў было і без таго досыць. Цяпер Мучаідзе ішоў побач з ім, Гунава папросту здзіўляла скромнасць гэтага чалавека. Варта было Мучаідзе расказаць толькі адзін эпізод на грэблі, каб слава асобаатрадчыка лопнула, як мыльны пузыр. І ён меў усе падставы зрабіць гэта, аднак, дагэтуль, відаць, маўчаў.

Гунава шкадаваў нават, што ў свой час дакучаў гэтаму чалавеку.

Пры такіх неспрыяючых абставінах даводзілася асобаатрадчыку вытрымліваць марку.

Інспектару праспявалі вечную памяць. Дзячок вытрас кадзіла, дзякан хрыпла адкашляўся. Пачалі разыходзіцца. Заплаканая ўдава і сваякі запрашалі на памінкі, і тыя, хто на запрашэнне разлічваў, збіраліся ў гурткі і гутарылі ўсё аб тым-жа бунтоўным сяленні Сабокучаво і аб справах, якія завялі падатковага інспектара на той свет. Сімон, урачысты настрой якога значна знізіўся пасля кароткай сутычкі з мадам Гамрэкелі (прычынай было няпрошанае Сімонава кавалерства) цяпер, наслухаўшыся гутарак аб забойствах і пажарах, спахмурнеў канчаткова. Ён прыпомніў пагрозу Гвація і рады быў ужо, калі змучаная ўдава з плаксівай усмешкай падышла да яго і запрасіла на памінальны абед. Лепш за ўсё ён паехаў бы адразу дадому, бо усялякія няшчасці заўсёды якраз і пачыналіся з таго, што адбылося сёння паміж ім і Гвація. Але ехаць на абед усё-такі давялося. Гіо перадалі на рукі Эзабедзі, якая згодна раней дадзеных інструкцый прыйшла на могілкі. Сімон узлез у фаэтон, побач з ім села мадам Гамрэкелі і ў знак неласкавасці ўперлася локцем у ягоны бок. Пануры Гурген, насцёбваючы ленаватых коняй, павёз гаспадароў на старую інспектараву кватэру. Пераязджаючы пляц, мадам Гамрэкелі, не адварочваючыся да Сімона, тонам загаду сказала:

— Каб яго мае вочы больш не бачылі!

— Каго гэта?—нясмела спытаў Сімон.

— Гэтага вар'ята Гвація!

Замест адказу Сімон паказаў вачыма на ўнылыя плечы Гургена, але мадам Гамрэкелі не звярнула ніякай увагі на Сімонаў сігнал.

— Я не хачу, каб майму дзіцяці нейкі п'яніца прабіў галаву цаглінай,—рашуча сказала мадам Гамрэкелі.—Я загадаю, каб яго-ныя лахманы сёння-ж выкінулі на вуліцу. Проста сорам, што ты не ўмееш сябе трымаць, як гаспадар!

— Я быў-бы вельмі рады, душка,—лагодна адказаў Сімон,— каб нячыстая сіла ўзяла вас усіх ад маёй галавы!

— Хам!

На гэтым размова скончылася і фаэтон неўзабаве спыніўся ля дома інспектаравай удавы. Памінальны абед быў нудны, як і трэба было чакаць. Гунава не прыехаў, спаслаўшыся на неадкладныя справы і неабходнасць перавязкі. Гэта таксама не спрыяла настрою Сімона. Ён думаў пагаварыць з Гунава наконт сваіх спраў, бо ўчора яшчэ канчаткова вырашыў з зямлёй Коркія не звязвацца. Падзеі, якія адбыліся ў Сабокучаво, адбілі ў Сімона ахвоту пашыраць свае плантацыі ў Сагвасаліо і нават каб знайшоўся пакупнік, ён магчыма, падумаўшы, прадаў-бы і тыя вучасткі, што меў.

— Я-ж не магу там сядзець са стрэльбай у вінаградніку,— гаварыў учора Сімон жонцы, на сямейнай нарадзе.—Гунава ездзіць у вёску з салдатамі, дык такая ў яго служба, ён за гэта і медалі атрымоўвае! А мне медаляў ніхто не дасць! Альбо кошык вінаграду, альбо дзіра ў чэрапе. Хай ён згарыць, такі гандаль! І на ліха я з гэтымі Коркія звязаўся яшчэ!?. Сто рублёў упёк чысценькімі! Праўду кажуць разумныя людзі: у вароны вока не было, а яна ў бога веяк прасіла...

Тут, на абедзе, Сімон і меркаваў завесці з Гунава размову наконт звароту ста залатых, але той, як-бы ведаючы, не прышоў. Саламон Пачулія ўвесь час аб нечым шаптаўся з лясніком Саатсазавым, відаць заводзіў нейкую справу. Калі Сімон, каб распачаць гутарку, узняў кубак за яго здароўе, Пачулія толькі паківаў галавой і адвярнуўся. Па правую руку Сімона была ягоная ўласная жонка, па левую—дзяк, царкоўны пацук з зарослым воласам вушамі і з барадой, што пачынала расці ледзьве не ад патыліцы. Сімон сядзеў адзін і, не зважаючы на пагрозныя погляды мадам Гамрэкелі, налягаў на віно. Але ад гэтага не было весялей.

Да дому прыехаў Сімон пануры і занепакоены. Гвацiя не было яшчэ. Сімон загадаў Гургену далажыць, калі прыдзе Гвацiя, і вылезшы з фаэтона, пайшоў проста ў спальню. Гурген, які згаладаўся праз дзень на козлах, быў злы не менш за гаспадара, нічога не адказаў і ўзяўся выпрагаць коняй.

Гвацiя з'явіўся ўвечары, калі было ўжо цёмна і прайшоў у вазоўню, дзе ён заўсёды спаў улетку. Гурген паслаў Эзабедзі сказаць аб гэтым гаспадару і Сімон неўзабаве выйшаў з дому. Ён пастаяў на двары, нешта абдумваючы, і павольна падышоў да варот вазоўні. Цямнела. Чуліся далёкія галасы, недзе грала музыка. Глуха шумеў моркі прыбой, на гарызонце ўспыхвалі дрыгатлівыя зарніцы. Было душна.

Сімон нясмела ўзяўся за клямку. Вароты скрыпнулі. У вазоўні было цёмна і здавалася, пуста. Сімон азірнуўся. На двары нікога не было. Толькі сабака бразгаў ланцугом у куце, ля стайні і скогліў, пачуўшы гаспадара.

— Гвацiя!—цiха паклiкаў Сiмон.

— А!—адразу-ж адказаў Гвацiя з цёмнай вазоўнi.

— Гэта я...—сказаў Сiмон, азiраючыся яшчэ раз. Але двор быў пусты, нiхто iх размовы не падслухоўваў.—Вось што, Гвацiя... Ты ў мяне служыш ужо шмат гадоў, здаецца, крыўды асаблiвай ад мяне ты не меў, хаця, жывучы, усяк бывае, можа я цябе калi i пакрыўдзiў.. Але куды-ж гэта варта, дарагi мой, што ты кiдаешся на мяне, гатовы задушыць, шпурляеш у мяне цэглай, б'еш вокны, выстаўляеш мяне на смех перад людзьмi!?. А? Куды гэта варта, мой дарагi?!. І ўсё-ж я гатовы даравадь табе гэта, чуеш, Гвацiя?!

Гвацiя прабурчэў нешта незразумелае. Яму было вiдаць, сорамна.

— Я гатовы табе даравадь усё гэта,—паўтарыў Сiмон, расчулены уласнай мiласэрнасцю,—бо ты ў мяне жывеш ужо шмат гадоў i я да цябе прывык, ты для мяне ўсё роўна, што з роднай сям'i. І я табе дарую твой дрэнны ўчынак, а ты павiнен заўсёды памятаць, што я твой гаспадар. Увосень, калi ўсё будзе добра, я пашыю табе новы гарнiтур i набаўлю пенсiю... Самае лепшае, гэта калi ў доме мiр i спакой... Праўда, Гвацiя?

Гвацiя маўчаў.

— Можа ён ужо да другога наняўся?—з непакоем падумаў Сiмон.—Гэтакага работнiка кожны возьме. Хоць бы сабе той самы Саламон... Нешта ён сёння ўсё пасмейваўся ў гэтыя чортавы свае вусы!

— А можа ты да другога ўжо наняўся?—спытаў Сiмон.

Гвацiя не адказаў.

— Ну, тады бог табе суддзя!..—з дакорам сказаў Сiмон.— Хай ён рассудзiць!.. Дык праўда, ты мяне ўжо не маеш за гаспадара? Чуеш, Гвацiя?

— А!—адказаў Гвацiя.

— Я пытаюся ў цябе: цi гаспадар я табе цi ўжо не? Можа я дарэмна час трачу з чужым чалавекам... Што ты слова да мяне сказаць не хочаш? Гвацiя!

— А!—данеслася з вазоўнi.

— Я ў цябе пытаюся!..

— А!..

Сiмон плюнуў. Толькi цяпер ён зразумеў, што Гвацiя п'яны. Ён яшчэ раз, каб праверыць сваю здагадку, паклiкаў яго i Гвацiя азваўся гэтак-жа, як i раней. Сiмона ўзяла злосць. Бразнуўшы клямкай, ён зачынiў вароты i пайшоў у дом.

— Сам з сабою ў дурня згуляў!—зазлаваны, думаў Сiмон праходжваючыся па пакоi —Добра, што нiхто не чуў, смяяцца няма каму... Ой, што са мной робiцца!

Паступова ён супакоiўся. Зрэшты, нiякай бяды не выйшла. Гвацiя напэўна будзе спаць да самай ранiцы, а заўтра ўжо ён з iм пагаворыць. І не так як цяпер, трымаючыся за вароты, а па гаспадарску, за сталом, ва ўласным доме. І можа трэба прыстукнуць нават па стале кулаком, каб адразу паставiць на месца. А потым пакрысе, мякчэй, каб дайсцi да згоды. І ўсё будзе добра. Сiмон пахадзiў па пакоi, загасiў лямпу i лёг. Душная цемра адразу

абступіла яго, потым успыхнула за вакном зарніца, на момант напоўніўшы пакой бледным трапяткім святлом. Недзе далёка прагрукаў гром і зноў дрыготлівым адценнем далёкага святла праляцела ўначы бледная зарніца. Над морам збіраліся хмары.

— А калі ён прачнецца?!—падумаў Сімон і сеў на ложку.— У п'янага думка прычэплівая, а там, у вазоўні, у куце стружкі ляжаць! Э! што гэта я! Калі ён прачнецца, то будзе ўжо цвярозы! Лепш за ўсё было-б, каб я ў вазоўні яго замкнуў...

Зноў ісці ў вазоўню ў Сімона не знайшлося адвагі. Замест гэтага ён лёг на ложак і заплюшчыў вочы. Але заснуць ён доўга не мог. Чуліся шолахі, нечыя ціхія крокі. Нарэшце ён выразна адчуў пах дыму. Сімон ускочыў, падбег да дзвярэй і доўга стаяў там. Але ў доме было ўсё спакойна, з суседняга пакою даносіўся магутны ўсхрап мадам Гамрэкелі, недзе скрэблася мыш, у калідоры стрыкаў сьвярчок. Зарніцы ўспыхвалі раз-по-разу, асвятляючы вялізную хмару, што ішла за мора. Было душна.

Сімон лёг, потым зноў уставаў некалькі разоў і так пакутваў да самага світання. Раніцой хмара ўзышла на горад і зашумеў дождж, раскаты грому сатрасалі паветра, грозна гуло ўзбунтаванае мора, кідаючыся на нізкі пясчаны бераг. Усё ахутаў туман. Патокі мутнай успененай вады імчалі па вуліцах Поці.

Пад шум дажджу Сімон, нарэшце, заснуў.

## V

Два дні ўзапар ішлі дажджы. Яны змылі попел з дрэў у садах Сабокучаво, абмылі галоўні на пажарышчы, патокі вады знеслі ў балоты пыл і смецце, на вуліцы сялення застаўся жоўты, перамыты пясок. Прыгожым бывала Сабокучаво, раней, у такія паслядажджавыя дні. Зелень садоў і агародаў была яркай і свежай, на вуліцы, па лужах, на вільготным пяску са звонкім гоманам бегалі дзеці, усё было чыста вымытае, і дамы, і дрэвы, і самая зямля. Калі вецер зносіў апошнія хмары, у сінім небе з'яўлялася лагоднае сонца, тады вальней дыхалася і людзі больш ахвотна браліся за работу. Вось гэткім-жа быў і дзень, у які пахавалі Гуджу Кверквелія. Толькі Сабокучаво выглядала цяпер інакш.

Апаленыя дрэвы пагублялі пад дажджом апошняе лісцё і стаялі голыя, чорныя, узнімаючы ўгару абгарэлае галлё. Усюды ляжалі яшчэ раскіданыя галоўні, вугалле хрусцела пад нагамі, трава паблізу зруйнаваных сядзіб зжоўкла, звялая кукуруза валам ляжала ўздоўж вуліцы, каля спаленых платоў. У пустых садах гулі осы. Іх набралася аднекуль шмат і яны жэрлі мёд у абгарэлых вуллях, выкідаючы праз лёткі хворых і мёртвых пчол. Пад лагодным, ясным сонцам, абмытыя цёплым летнім дажджом ляжалі спапялелыя руіны і цяжкі прыгорклы агідны пах ішоў ад іх.

Праводзіць Гуджу Кверквелія ў апошнюю дарогу сабралася ўсё Сабокучаво, прыйшлі нават з суседніх сяленняў. Эліа Бокучава, які звярнуўся дахаты неўзабаве пасля выезду карнага атраду, выкапаў магілу для Гуджу Кверквелія на самым высокім, пачэсным месцы могілак сялення. Цесляр Піпія зрабіў труну. Спірыдон Га

нарджыя, стараста, зарэзаў двух баранаў на памінкі па Гуджу Кверквелія. Прыяцель старасты, Гвазава, той самы, што частаваў абедам асобы атрад, афяраваў адкормленага бычка і абяцаў жонцы Мітрафана Бокучава аддаць ёй казу з уласнага стада. Абодвы яны, і Ганарджыя, і Гвазава, вельмі клапаціліся цяпер аб сем'ях, што пацярпелі ад пажару. Асаблівай ахвоты да благачэсных учынкаў дадавалі ім чуткі аб тым, што нехта з мужчын напаткаў учора ў балотах Тарыела Кверквелія і што ён абяцаў сёння прыйсці ў Сабокучаво. Спачатку Ганарджыя быў вырашыў ад'ехаць куды нібы на пэўны час, але потым пакінуў пра гэта думаць, бо калі выехаць, то трэба будзе некалі і прыехаць, а тым часам, ад гаспадаркі застанецца гэткае-ж папялішча як і ад хаты Кверквелія. На заступніцтва вышэйшага начальства Ганарджыя меў слабую надзею, бо хадзілі чуткі, што Тарыел і астатнія пераняли на грэблі атрад Гунава і мала хто з асобаатрадчыкаў выбраўся з балот. Шмат было ўсякіх чутак і праверыць іх было нельга, адзін спасылаўся на другога, а той на некага яшчэ. Было вельмі трывожна ў зруйнаваным сяленні і Ганарджыя з Гвазава, параіўшыся паміж сабою, шчыра ўзяліся за апякунства над пацярпеўшымі.

Астатнім не было чаго баяцца помсты Тарыела Кверквелія. Іх клопаты аб суседзях, што засталіся без даху над галавой, былі справай добрай волі. Тыя, каго бяда абмінула, лічылі сваім абавязкам дапамагчы суседу ў няшчасці. Цяпер не было лютага начальства і хмурых салдат, не было патрэбы хаваць сваю спагаду. Такім чынам, пагарэльцаў размясцілі па хатах, жывёлу іх развялі па загонах і для тых, у каго дабро згарэла цалкам, амаль кожны прынёс што мог. Усімі гэтымі справамі распараджаўся Эліа Бакучава, які ўцёкшы са старастаўвага пограбу, унікнуў асобаатрадчыцкай расправы. Ганарджыя меў катэгарычны загад Гунава аб арышце Эліа і дастаўцы яго ў Поці, але ён пра гэты загад і не ўспамінаў нават. Эліа нейкім чынам дазнаўся аб тым, што стараста нашэптваў на яго асобаатрадчыкам, і цяпер Ганарджыя папросту баяўся глянуць у той бок, дзе хадзіў Эліа, і быў рады, што Бокучава пакуль што не сказаў яму яшчэ нічога дрэннага.

Стараста Ганарджыя быў куды цішэйшым, чым у тую раніцу, калі праязджаў Гунава.

На могілках раслі старыя каштаны, ліпы, і там, дзе падрыхтавалі месца для Гуджу, раскінуў магутнае галлё стогадовы дуб. Сяляне маўклівым натоўпам акружылі магілу, наперадзе стаялі старыкі, пацяху ўсхліпвалі жанчыны, не асмельваючы голасным плачам трывожыць спакой мёртвых. Чуваць было шорханне рыдлёвак, іншым разам звінела жалеза ад удару аб камень, зямля з глухім шумам асыпалася ў яму. Нарэшце ўсё было скончана. Але людзі не разыходзіліся, каб нейкай хвілінай маўчання ўшанаваць таго, хто сыйшоў у зямлю. Схіліўшы галовы, яны ўспаміналі Гуджу Кверквелія.

Белае воблака плыло ў сіняй вышыні, кідаючы на зямлю сваю лёгкую, празрыстую цень. Разамлелыя ў цяплыні дрэвы прасцiралі пышнае веццe над месцам мёртвых. Пахла прымятая трава. Урачыстая і сумная, задуманая цішыня была тут.

Раптам рух прайшоў у натоўпе, пачуліся здзіўленыя галасы, натоўп падаўся наперад, потым заднія адыйшліся, людзі адступілі ад ямы і староста Ганарджыя раптам убачыў Тарыела. Ён быў не адзін. За яго плячыма, апіраючыся на вінтоўкі, цесным гуртком стаялі астатнія. Ганарджыя адчуў, як мярцвее твар.

Было ціха. Нават з жанчын ніхто не сказаў ні слова, ніхто не парушыўся з месца. Усе глядзелі на прышоўшых, як на нейкую незвычайную з'яву, хаця гэта былі людзі, якіх усе ведалі з маленства і якія ўсяго чатыры дні таму назад пакінулі сяленне. Тарыел узняў галаву і, сустрэўшы дзесяткі пільных, чакаючых поглядаў, зноў панурыўся. Ля яго ног быў жоўты пясчаны насып, змятая, абсыпаная пяском трава... і яшчэ раз глянуў навокал сябе Тарыел, і ў яго цёмных, расшыраных вачах быў такі выраз, як-бы ён нікога перад сабой не бачыў. Тарыел прыкрыў твар далонню.

— О, Гуджу!—усклікнула адна з жанчын, Тація—старэйшая, удава, што ўмела лепш за ўсіх аплакваць мёртвых.—О, Гуджу!.. Сын твой плача над тваёй магілай!..

— О, Гуджу!..—падхапіла другая,—ці бачыш ты нас, нешчаслівых, якіх ты пакінуў гараваць на зямлі!

Жанчыны загаласілі, вочы мужчын затуманіліся, твары спахмурнелі. І тады Тарыел адняў далонь ад вачэй.

— Браты!—гучна сказаў ён.—Пакіньце плакаць!

— Багародзіца, маці...—прашаптаў староста, нечакана сустрэўшыся з поглядам Тарыела.

Бучу, з распушчанымі, у знак жалобы, валасамі развёўшы рукі, плачучы, кінулася да Тарыела. Жонка Мітрафана Бокучава, узняўшы над галавой дзіця, старалася прабіцца праз натоўп да мужа, што стаяў за плячыма Кверквелія. Але глянуўшы на Тарыела, Бучу затрымалася і з натоўпу не выйшла, жонка Мітрафана таксама засталася там.

Тарыел стаяў выпрастаны ва ўвесь свой магутны рост. Запалыя вочы яго гнеўна глядзелі з-пад зведзеных чорных брывей, пад смуглай скурай загарэлых худых шчок рухаліся жаўлакі. І хаця ўсе бачылі дробную светлую кроплю слязы, што павольна сцякала па шчацэ, гэта не зменшвала ўражання пагрозы, якой дыхала ўся постаць Тарыела. Ён зусім не быў падобны да таго добрадушнага Кверквелія, якога кожны дзень прывыклі сустракаць на полі ягоныя суседзі. З павязанай галавой, з падсумкам ля пояса і з вінтоўкай у руцэ, грозны і суровы стаяў ён наперадзе маўклівай, цеснай грамадкі ўзброеных людзей. І паступова ўціхлі плач, рух і гоман.

— Гамарджо, браты!—сказаў Тарыел, дакранаючыся рукой да павязкі, звыклым гестам, якім ён раней знімаў капялюш. Прывітальны гул прайшоў у натоўпе.

Тарыел ступіў крок наперад.

— Вялікае гора перажываю я зараз...—раздзельна, як бы задуманы сказаў ён.—Цяжка сыну стаяць над магілай забітага бацькі!.. Але наколькі-ж памнажаецца гора чалавека, калі ён бачыць навокал сябе няшчасце многіх!.. Добрыя мае суседзі! Дзе нашы хаты? Дзе тыя стрэхі, пад якімі не адзін з нас упершыню пабачыў свет?!

Хто спаганіў нашы сады, нашу пацеху?! Чые коні патапталі нашы нівы? Які страшны звер лютаваў у нашым ціхім сяленні?

Натоўп глуха ўздыхнуў, адна з жанчын заплакала ўголас і сціхла.

— Браты!—амаль шэптам сказаў Тарыел.—Завошта нам такая кара?.. Мы ўзрошчвалі хлеб, мы сваім потам і цяжкай працай кармілі сваіх дзяцей... За гэтыя два гады мы згалелі дашчэнту, нас абабралі і зрабілі жабракамі... Як было далей жыць? Хіба ёсць такі баязлівец, што адбярэ ад дзіцяці кавалак хлеба, каб адкупіцца ім ад сабакі?! І вось што яны зрабілі з намі...

Тарыел паказаў на чорныя рэбры крокваў, што відаць былі з узвышша могілак. Пачакаўшы, Тарыел загаварыў зноў і голас яго паступова мацнеў.

— Вось тут ляжыць бацька мой, што загінуў у агні страшнаю смерцю! У чым ён быў вінаваты, гэты чалавек? Чаму так страшна прападае той, хто аздабляе зямлю працай сваёй?! О, бацька! Ты некалі расказваў пра Аліхані!..*)... То быў царскі слуга і ён меў наш народ за сабак! А цябе жывым спалілі тыя, хто крыжам распінаецца за наш народ?! Памятаеце, добрыя людзі, што казаў нам два тыдні таму назад чалавек з гораду? Ён казаў, што мы шчаслівы народ, што нас вядзе нейкі прарок Ной, хай будзе праклятым імя ягонае за тое, што яны зрабілі з намі!..

І зноў усе глядзелі на абгарэлыя руіны і была цяжкая цішыня.

— Няма звера страшнейшага за тыгра!—крыкнуў Тарыел бляднеючы.—Ён самы крыважэрны звер на свеце! Але і ён хаваецца ў логава, калі, ломячы лес, ідзе разгневаны буйвал. Скончылася наша цярплівасць! Мы пойдзем да памешчыка Абхазава і скажам: аддавай нам, Абхазава, зямлю, гэта наша зямля, дзяды нашы і бацькі карчавалі лес і сеялі збожжа, а ты адабраў і зямлю, і хлеб! Мы прыдзем да купца і скажам: аддай, купец, нашы грошы! Ты гандляваў нашай працай і нажыўся на ёй! А тыя, хто быў прычынай смерці бацькі майго, хай шкадуюць, што нарадзіліся на свет! Гэта кажу я, Кверквелія, над магіламі тых, якія далі нам жыццё і навучылі першаму слову!..

Больш Ганарджыя не слухаў. Гоман заглушыў далейшыя словы Кверквелія, натоўп рушыўся наперад, пачуўся голас Эліа Бокучава, і стараста, штурхаючыся локцямі, выбраўся з тлуму. Азірнуўшыся, ён убачыў разгубленага Гвазава, які круціў галавой ува ўсе бакі, мусіць шукаючы яго, старасту.

— Тут-жа... на месцы...—шаптаў стараста.—Багародзіца, маці...

Хаваючыся за дрэвы і азіраючыся на кожным кроку, ён падбег да агарожы, не шкадуючы вопратку, пралез праз шыпшыннік і апынуўся на полі. Тут у рост чалавека стаяла густая, сакавітая кукуруза. На могілках чувацць быў гоман. Стараста, расхінаючы пругкія цвёрдыя сцяблы, прыгнуўся і знік у гушчары.

---

*) Ген. Аліханаў—начальнік карнай экспедыцыі ў Заходняй Грузіі у 1905 годзе.

* *
*

Нават жонка ў той дзень да самага позняга вечару не ведала, куды падзеўся стараста. А ён сядзеў у садзе, у пограбе, не ў тым, адкуль уцёк ад асобаатрадчыкаў Элія Бокучава, а ў старым, які выкапаў старастаў бацька яшчэ ў даўнія гады. Тут не было дубовых акутых дзвярэй і мураваных сцен, не было нават даху. Стараста сядзеў у абрытай яме, поўнай смецця і, прыкрыўшыся трухлявай саломай, з вялікай трывогай і непакоем прыслухоўваўся да таго, што рабілася на гары. То чуліся блізкія галасы і ў доме моцна грукалі дзвярыма, то здавалася, што нехта ходзіць па садзе, недалёка ад пограбу, і раз на самай справе, над галавой зашалясцела трава і на стараставы плечы пасыпалася зямля. У старасты адразу перасохла горла, заняло дыханне, ён сядзеў невядома колькі часу не рухаючыся, упёршыся падбародкам у калені. Нарэшце угары пачулася скомленне. Гэта быў уласны старастаў сабака. Ганарджыя зарычаў на яго, мядзведзем прыўзнімаючыся з ямы, і сабака, утуліўшы хвост, адскочыў і ўзяўся брахаць. Брахаў ён доўга, хаця стараста паціху пасвістваў з ямы і шэптам супакойваў яго. Пасля сабака неяк суняўся.

Нарэшце надышоў вечар. Стараста з ямы бачыў вершаліны таполяў, афарбаваныя ў яркую чырвань. Сонца ішло ўжо нізка над балотамі. Над стараставай галавой мітусілася машкара. У сяленні мычалі каровы, па вуліцы прайшло стада коз, пабразгваючы бляшанымі званочкамі. Пачынала змяркацца. Светла-зялёная пышная вершаліна раскідзістага арэхавага дрэва, што расло поблізу, стала цёмнай. Прамільгнуў над ямай нетапыр. Стараста не спяшаўся вылязаць. Ён вельмі добра памятаў апошнія словы Кверкверкелія на могілках і не давяраў вячэрняй, мірнай цішыні, што панавала ў сяленні. Выбраўся ён са свайго сховішча, калі ўжо было зусім цёмна.

Пастаяўшы каля ямы, стараста павольна рушыў у кут саду, дзе сыходзяцца разам два завулкі і дайшоў ужо да паркану, як у двух кроках ад яго, на вуліцы нехта кашлянуў, пачулася чырканне крэсіва, пасыпаліся іскры і ў гэтым імгненным святле, на момант з'явіўся і знік вусаты, горбаносы твар Кверкверкелія. Стараста абамлеў і стаў як урыты, наўгад схапіўшыся рукой за сук бліжэйшага дрэва.

Яшчэ і яшчэ раз чыркнула крэсіва. З Тарыелам стаяў яшчэ нехта.

— Не паліць...—сказаў Кверкверкелія.—Крэмень збіўся...

— У мяне, здаецца, яшчэ са дзве запалкі...—азваўся той, што стаяў побач. Голас быў вельмі знаёмы, толькі стараста не мог згадаць, хто гэта. Успыхнула запалка і асвятліла твар Эліа Бокучава, чалму, нахмураны лоб і густыя кучмастыя бровы Кверкверкелія.

— А стараста ўцёк такі, сабака!—сказаў Бокучава.—Казалі, ён уцёк з могілак адразу як вы прышлі...

Стараста адчуў, як слабнуць ногі.

— Э! Што там стараста!—адказаў Тарыел.—Хай ужо ціха

будзе ў сяленні, а то прыгоняць полк войска, зямля ў раны паб'еццa! Але ты яму скажы: калі ён будзе яшчэ шаптаць на вуха Гунава—на першым дрэве павесім, сабаку! Маім словам скажы!.. Чорт з ім, не будзем больш гаварыць пра яго!..

— Дзе я дапільную, пойдзе ён шаптаць альбо не...—нездаволена прабурчэў Эліа.

— Ты яму толькі скажы мае словы!.. Ён не дурны, яму галава даражэйшая за медаль, ён ведае, што я свайго слова датрымаю!..

Яны памаўчалі. Стараста за парканам стаяў ні жывы, ні мертвы.

— Ціхая ноч...—задумана сказаў Кверквелія.—Ад зор будзе светла, пакуль узыйдзе месяц... Трэба ўжо ісці... Вось жыццё, брат Эліа! Кінуць бяздомных дзяцей на чужыя рукі, валачыцца па лесе, туляцца па шакалліх сцежках!.. Ці думаў я калі, што гэтак прыдзецца жыць?

— Хто-ж думаў!—адказаў Эліа,—чалавек заўсёды аб лепшым думае...

Кверквелія маўчаў. У цемры тлеў чырвоны агеньчык люлькі.

— Дык слухай, Эліа!—зніжаючы голас сказаў Тарыел.—Калі будзе патрэба нас бачыць, ты ідзі на ўзгор'е Нам-Дэві і распалі там вогнішча, як толькі сцямнее.

— Добра...

— А да цябе будзе прыходзіць Топурыя. Ён можа прыйсці і ў дзень, гэта не страх. Ён такі чалавек, што ніколі не сядзеў на месцы і ніхто не здзівіцца, што ён зайшоў у Сабокучаво.

— Дык ён будзе з вамі?

— З намі... Але ён будзе хадзіць па сяленнях, трэба-ж нам ведаць, што робіцца на свеце.

— А хіба яго не пазналі? Там... на грэблі...

— Напэўна не. Ён стрэліў з кустоў!

— Як ты думаеш, Тарыел: Гунава моцна паранены?

— Хто ведае?!. Можа ўжо здох, будзь ён пракляты! Ён выкуліўся са свайго дэрэжані і роў, як бугай. Так расказваў Топурыя.

— Ха! А тут плялі, што вы амаль да аднаго ўсіх перабілі!

— Можа гэта калі і здарыцца... Але нас там не было, мы сядзелі ў лесе... Хіба мы ведалі, што яны падпаляць сяло? Мы думалі, што яны будуць шукаць нас, не знойдуць і паедуць назад. І вось як вышла... Ну нічога! Калі Гунава застаўся жывы, мы яшчэ з ім сустрэнемся, калі не,—то ешце сабакі ягоную печань! Мы знойдзем сабе работу! Кроў ім і смерць!

— Ціха! Нехта ідзе...—прашаптаў Эліа.

Яны змоўклі. Неўзабаве пачуліся глухія крокі, за парканам мільгнуў шэры цень.

— Мусіць Мітрафан,—сказаў Тарыел.—Ты, Мітрафан?

— Я!

Гэта быў брат Эліа, адзін з чатырнаццаці.

— Ты сабаку вядзеш?—спытаў Эліа.

Мітрафан закашляўся. Голас у яго быў хрыплы, відаць, ён застудзіўся ў балотах.

— Вяду! Не зашкодзіць сабака!

Стараста адпусціў сук, за які трымаўся дагэтуль, ступаючы

на наскі, зайшоў за дрэва, шчасліва абмінуў калючы барбарысавы куст і апынуўся на дарожцы, што вяла на двор. Цяпер хаця-б і знюхаў яго Мітрафанаў сабака, ніякага падазрэння ў Кверкверлія ўзнікнуць не магло: чалавек ходзіць па гаспадарчых справах, ва ўласным садзе. Стараста пасмялеў і, пасвістваючы ўзышоў на двор. Ягоны парабак Бахва з ліхтаром хадзіў каля буйвала і нешта бурчэў сабе пад нос.

— Буска нагу набіў!—паведаміў ён пачухваючыся.—Няйначай у балоце, на корч... Мы праз, дзень вас шукалі, рады няма! Стаіць, падла, на трох нагах.

— Давай мне ліхтар, Бахва,—сказаў стараста.—А сам прайдзі паціху вуліцай, на кут саду, там нехта гамоніць, мне здаецца, там хлапчукі каля паркану збіраюцца. Ды добра паглядзі, можа яны там далей, у завулку. Толькі паціху ідзі, глядзі не сморкайся на ўсю вуліцу, а то паразбягаюцца...

— А што там яны ў садзе зробяць...—ляніва адказаў Бахва, перадаючы гаспадару ліхтар.—Яшчэ нічога спелага ў садзе няма. Як разумныя людзі кажуць: што сабаку ў кузні ўзяць?!.

— Ты ў мяне пагавары!—зашыпеў стараста.—Разумныя людзі кажуць... Ты слухай, што я кажу!

Пакрыўджаны Бахва павольна павярнуўся і адразу-ж знік у густой цемры, за жоўтым кругам святла ад ліхтара. Праз нейкі час бразнула клямка. Бахва вышаў на вуліцу. Стараста абыйшоў каля арбы, да якой быў прывязаны буйвал. Яго не турбавала цяпер, што ягоны лепшы буйвал хворы. Ён быў заняты іншымі думкамі.

— Буска!—сказаў ён па прывычцы.—Буска!

Буйвал пераступіў з нагі на нагу, пацягнуўся мордай да рукі старасты, цёпла фукнуў на яе, адрыгнуў жвачку і пачаў шумна жаваць. У выпуклых цёмных вачах яго, як у мутнай вадзе, цмяна адбівалася святло ліхтара. У доме адчынілі акно.

— Гэта ты там, Спірыдон?—пачуў стараста голас жонкі.

— Я!

— Чаго ты там стаіш? І дзе ты дагэтуль быў? Мы з ног збіліся, цябе шукаючы!

— Буйвал хворы, вось і стаю...—адказаў стараста.—Мяне шукаць няма чаго, не малое дзіця. Прыстрой мне есці і зачыні вакно, камароў набярэцца.

Вакно зачынілася. Неўзабаве скрыпнула падваротня і Бахва, чухаючыся і пазяхаючы, з'явіўся перад гаспадаром.

— Нікога там няма,—сонна сказаў ён.—А-а-о-ў! Пуста... Вам нейначай здалося!

— Пайшлі ўжо!—адзначыў стараста сам сабе. Ён ужо вырашыў што і як трэба рабіць.

— Хадзі сюды, Бахва,—сказаў ён, гасячы ліхтар.—Хадзі, мне трэба з табой пагаварыць.

Ён павёў парабка ў дом, на чыстую палову, у той самы пакой, дзе нядаўна засядаў Гунава са сваімі памоцнікамі. Стараста загадаў падаць лямпу, пасадзіў Бахву за стол, а жонку папрасіў выйсці. Калі яна, агрызнуўшыся пару разоў, выйшла, ён прычы-

ніў дзверы. Бахва быў настолькі здзіўлены, што нават забыўся аб сне. За ўсе тры гады службы, Бахва ні разу не быў у гаспадара за сталом на чыстай палове, тым больш уначы.

— А дзе Хэчо?—спытаўся стараста, калі яны ўдваіх засталіся ў пакоі.

— Спіць...

— То і добра.

Хэчо, другі старастаў парабак, быў на многа ўвішнейшы за Бахву, але гэтая яго ўвішнасць і цікаўнасць якраз можа пашкодзіць справе.

— Вось што, Бахва,—сказаў стараста.—Раскажы ты мне, брат мой, што было ў сяленні, калі прыйшлі з магілак...

Вочы хлапца акругліліся.

— А вы хіба не былі ў сяленні?

— Гэта не твая справа, дзе я быў.

Бахва расказаў. На могілках Кверкверлія ўгаварыў сялян у павет не ездзіць і недоімак не плаціць. Усе згадзіліся. Пасля былі памінкі па Гуджу. Тарыел і ўсе астатнія прасілі суседзяў не крыўдзіць іх сем'яў, і ў патрэбе дапамагчы. Надвечар усе разышліся. Тарыела апошні раз парабак бачыў на захадзе сонца, ён развітваўся з жонкай і тая вельмі плакала. Куды яны пайшлі з сялення, ніхто мусіць не ведае, бо ні Тарыел, ні другія нічога пра гэта не гаварылі. Эліа са два разы пытаўся ў Бахвы, дзе гаспадар. Гвазава даў на памінкі віна і нават Бахву дастаўся добры кубак. Вось і ўсё, што расказаў Бахва.

— Так!—сказаў стараста, калі Бахва скончыў.—Так!

Ён пабарабаніў пальцамі па стале і аб нечым задумаўся. Бахву зноў пачало скоўваць соннае адрантвенне. Вочы закрываліся самі і ён нават дрэнна бачыў гаспадара. Твар старастаў расплываўся бясформеннай плямай. І таму Бахву здалося, што ён спіць, калі ўчуў, што кажа да яго гаспадар.

... Ты хочаш зарабіць ад мяне новыя боты?

Бахва з вялікім высіленнем стараўся зразумець у чым справа.

— Добрыя, новыя боты,—гаварыў стараста,—з мяккімі халявамі!

— Х-ха!—адказаў Бахва, упэўнены, што гаспадар жартуе.

— Калі ты ўсё зробіш, як трэба, я табе падарую яшчэ добры пояс.

Цяпер Бахва прачнуўся як след.

— А што мне рабіць?—жыва спытаў ён, ужо уяўляючы сабе, як гэта ў новых ботах і з новым поясам ён з'явіцца на гулянне.— Гэта-ж мусіць і работа вялікая?

— Работа невялікая. Трэба толькі ўсё зрабіць так, як я табе скажу. Ідзі зараз і прынясі з вазоўні сядло.

— Сядло?

— Не новае, а леташняе. І вазьмі са скрыні нож. Толькі глядзі, не грукай, не абудзі Хэчо!

Бахва, ступаючы на наскі, знік за дзвярыма. Калі ён, трымаючы нож у зубах і заціскаючы ў жмені страмёны, прывалок у пакой сядло, гаспадар сядзеў за сталом і пісаў. Бахва спыніўся,

не ведаючы што рабіць далей. Гаспадар паказаў яму што рабіць, трэба было павымаць медзяныя цвічкі, якімі была прымацавана покрыўка пярэдняй лукі сядла і асцярожна, нажом прыўзняць покрыўку. Калі Бахва скончыў работу, гаспадар яшчэ пісаў, нахмурыўшы лоб, падпіраючы языком шчаку. Ад гэтага старастаў вус стаў старчма. Пісаў ён доўга яшчэ, і калі скончыў, Бахва спаў, паклаўшы галаву на сядло. Але на гэты раз, ён абудзіўся адразу.

— Вось што,—сказаў стараста, закладаючы пад лакіраваную покрыўку складзеную ў некалькі разоў паперу.—Вось што, Бахва. Зацягвай акуратна абшыўку зноў і ўбівай цвічкі ў старыя гнёзды. Толькі паціху, не грукай! От, гэтак. А цяпер слухай...

Работа Бахвы і сапраўды была не вялікай. Ён павінен быў выехаць заўтра на ўсходзе сонца і як мага хутчэй прыбыць на бліжэйшую станцыю чыгункі, да якой было сорак з лішнім вёрст. Там, у мястэчку, жыве гандляр Хэту Ганарджыя, родны брат гаспадара. Прыехаўшы, Бахва павінен завесці каня пад павець, паклікаць Хэту і паціху, так, каб ніхто не чуў, сказаць, што ён нешта прывёз ад брата Спірыдона і паказаць, дзе гэтае „нешта“ знаходзіцца. Больш нічога ад Бахвы не патрабавалася.

— Толькі, калі ўжо цябе сустрэнуць на дарозе і пачнуць распытваць, тады ўжо глядзі, Бахва!—гаварыў стараста.—Хто-б цябе не сустрэў, кажы, што едзеш па лекарства на станцыю... Не, лепш скажы, што гаспадар паслаў цябе... гм!.. Ты вось што скажы: ты едзеш дапамагчы брату гаспадара перавезці тавары, ён нейкую краму там адкрывае у нейкім далёкім сяленні... Чуеш? Так і скажы: гаспадароў брат адкрывае новую краму і я еду дапамагчы яму перавезці тавары. Ну, як ты скажаш?

Бахва паўтарыў слова ў слова. Стараста аж здзівіўся.

— Калі-ж цябе сустрэне Кверквелія,—гаварыў стараста далей,—ці хто-небудзь з іх... гэтых самых, што пайшлі ў разбойнікі, то памятай, Бахва! Калі ты слова не скажаш так, як трэба, альбо не дай бог, скажаш, што ў цябе нешта ў сядле, яны цябе зарэжуць на месцы! Ты гэта памятай!.. Няма чаго баяцца, ніхто не ведае, што ў цябе ў сядле. Калі сустрэнеш іх, трымайся смела. Як толькі спытаюць, куды ты едзеш і па якіх справах, адразу і скажы: еду да батоно Хэто, да брата майго гаспадара; ён адкрывае новую краму, буду яму дапамагаць перавозіць тавары. І ўсё. А калі ты будзеш баяцца, будзеш заікацца і забудзешся, што трэба казаць, яны адразу пазнаюць, што ты не так сабе едзеш і пачнуць дапытвацца. І калі ўжо так выйдзе, то паўтарай, што едзеш да Хэту і ні слова больш. Пра тое, што ў сядле,—ні слова! Жывым назад не вернешся! Разумееш, Бахва? Калі-ж у цябе нічога не спытаюць, прывітайся і спакойна едзь сабе далей. Ну, што ты скажаш калі сустрэнешся з Кверквелія?

Доўга павучаў і страшыў стараста Бахву і адпусціў толькі тады, калі пераканаўся, што хлапец і думаць баіцца пра паперку, якая зашыта ў сядле, і напэўна ўжо нікому пра яе не скажа.

Перад усходам сонца Бахва выязджаў. Стараста сам прывёў каня да варот, яшчэ раз праэкзаменаваў Бахву і выпусціў повад з рук. Бахва адразу пагнаў каня і хутка на вуліцы засталося

толькі воблачка пылу. Стараста закрыў вароты і павольна пайшоў у дом. Яго грызла трывога, хаця з падслуханай учора гутаркі ён ведаў, што баяцца няма чаго. Але цяпер завяліся новыя справы і яны здаваліся настолькі рызыкоўнымі і небяспечнымі, што стараста, калі праводзіў Бахву, гатовы быў ужо завярнуць каня назад і пакінуць усё, каб толькі быць спакойным. Ён гэтага не зрабіў, і цяпер адчуваў сябе не лепш, чымся ўчора ў паграбе.

Сонца ўзнімалася над балотамі ранішнімі туманамі. Неба было чыстым. Пачынаўся дзень.

## VI

Калі Тарыел з таварышамі пайшоў у Сабокучава, Топурыя выбраўся дадому. Яны ўмовіліся аб мейсцы, дзе сустрэнуцца, развіталіся і стары накіраваўся лесам тэй-жа дарогаю, якою прыйшоў сюды ў памятную раніцу, калі гнаў вепра. Ішоў ён па лёгкаму: за плячыма боўталася незараджаная стрэльба, у руках быў кій. Здабыча Топурыя была падзелена на пятнаццаць роўных частак, і цяпер у сумцы старога застаўся толькі невялікі кавалак смажанага мяса. Топурыя сам прапанаваў падзяліць вяпровую тушу, бо ў людзей на другі дзень, калі пайшоў зацяжны дождж, было ўсяго па аднэй кукурузнай ляпешцы, а ў Мітрафана Бокучава— жменя солі, якая змяшалася ў кішэні напалову з тытунём. Топурыя мала дбаў аб тым, што не давялося яму спатрэбіць здабычу так, як меркаваў раней. Шкада было толькі, што не засталося ні адрабінкі пораху. Стрэльба была пустая і калі Топурыя, як-бы знарок трапіў на логава вяпровага вывадка, а праз некалькі крокаў убачыў самы вывадак на пашы, яму стала вельмі прыкра і крыўдна. Ён стаяў на ўзгорку і пазіраў на вывадак, што пасвіўся ў рэдкім лесе, на беразе таго самага ручая, дзе ляжаў выварацень спавіты хмелем. Свіння, калышучы вялізным хібам, спакойна ўзрывала зямлю пад карэннямі сухога бука, вёрткія шэрыя парасяты бегалі навокал маткі, двое з іх нечага не паладзілі і завяліся біцца. Утуліўшы вушы, папіхаючыся кірпатымі лычамі, упіраючыся ў зямлю кароткімі, растапыранымі ножкамі, наставіўшы рэдкую шчацінку хібкоў, яны заядла наскоквалі адзін на аднаго. Шэрыя тоўстыя камякі, папіскваючы, качаліся ў высокай траве, і Топурыя ціха засмяяўся, забыўшыся на сваю ненабітую стрэльбу. Але неўзабаве бітва скончылася. Адзін з парасят ухапіў другога за вуха і рэзкі візг працяў паветра. Свіння прыўзняла з ямы свой цяжкі закручасты лыч і раптам убачыла чалавека. Разлеглася грознае глухое рохканне, грузным але зграбным скокам свіння выскачыла з ямы і кінулася ў кусты, да ручая. Парасяты, падкідаючы круглыя азадкі, памахваючы абвіслымі хвасткамі, памчалі следам за маткай. Затрашчала галлё, усплёснула вада і потым усё сціхла. Вывадак перабраўся на той бок ручая. Топурыя пайшоў сваёй дарогай. Наўрад ці страляў бы ён зараз, каб і зараджанай была яго стрэльба! А таго апошняга набою, які выпусціў тры дні назад,—не шкадаваў.

Увечары Топурыя падыходзіў да сялення. Над балотным нізкім гушчаром відаць ужо было стромыя вершаліны тапаляў Сагвасаліо. Вецер апаў, распаленае, агромністае сонца ў далёкім

марыве нізка стаяла над гарызонтам. Хмары машкары гулі над грэбляй, нямоўчна верашчэлі жабы, над балотамі ўзнімаўся душны гніласаты туман.

Топурыя спыніўся на мастку. Ціхая балотная рэчка павольна струменіла між абымшэлых паляў. Абрывістыя, дрыгвяныя берагі тлустымі чорнымі скібамі нізка ляжалі над цёмнай вадой. Прыглушаная і зацененая трысцём і кустамі, павольна гнала свае атручаныя гніллю воды, ціхая балотная рэчка. Воддалі, на плоскім узгорку, зялёным астраўком узвышалася над балотамі Сагвасаліо. Недзе пабразгвалі бляшаныя званочкі. Пасвілася стада коз. Усё было аддаўна знаёмым, прывычным і не магло быць інакшым. Заўсёды, калі звяртаўся Топурыя з далёкіх і блізкіх сваіх вандраванняў, ён любіў пастаяць тут, аглядаючы родныя мясціны. Тут жыў ён шмат гадоў, неспакойны і лятуценны вандроўнік, тут, седзячы ля свайго адзінокага ачага, ён марыў аб незвычайных прыгодах, аздабляючы вымыслам сваё беднае на падзеі і ўражанні жыццё. Так прайшло шмат гадоў, так прайшла і аддалілася маладосць...

І вось усё змянілася раптоўна і нечакана. Тое, аб чым Топурыя марыў, стала рэчаіснасцю. Амаль што ні адна з расказаных ім гісторый не была так багата падзеямі, як апошнія чатыры дні, пачынаючы з таго, калі ён выйшаў на паляванне. Гэтыя падзеі парушылі спакой яго ціхіх дзён. Так, у ясны вечар, на захадзе сонца налятае бура.

Цяпер трэба пакінуць Сагвасаліо і невядома, калі зноў пераступіць Топурыя парог сваёй пахілай хаты і распаліць агонь на старым ачагу. У лясах прадгор'яў на яго чакаюць таварышы, горстка людзей, акружаных ворагамі. І магчыма, ніколі не прыдзецца Топурыя стаяць на хісткім мастку, над ціхай рэчкай і глядзець, як палымнеюць у развітальным ззянні сонца, стромкія таполі над стрэхамі роднага сялення...

Задуманы і засмучаны Топурыя павольна сыйшоў з масту. Стада коз выходзіла з кустоў на грэблю. Звінелі званочкі. Сонныя сойкі нездаволена крычалі, успырхваючы над заraслямі і адразу зніклі і прыціхлі, калі над грэбляй пранеслася шырокакрылая балотная сава.

Ззаду пачуўся босаногі тупат і не паспеў Топурыя азірнуцца, як яго схапіў у абдымкі Вано.

— Дзядзька Топурыя!—крычаў Вано ў захапленні.—Я ведаў што вы сёння прыдзеце! Э, гоп!

Ён учапіўся за світку Топурыя і кружыў яго на месцы, бегаючы навокал. Хлапец быў дужы, Топурыя не адразу ўдалася вырвацца і Вано здаўся толькі тады, калі стары схапіў яго за чуб.

— Вано!—строга сказаў Топурыя.—Хіба так вітаюць старэйшых? Ты павінен быў падыйсці і прывітацца як след, а ты хапаеш мяне за адзенне, як-бы я з табой разам пасвіў коз. Гэта непрыгожа!

Топурыя аказаўся сёння вельмі суровым, але Вано ведаў, што дзед рады іх сустрэчы, зусім не злуе, і пасля напэўна раскажа што нібы цікавае. Каб хутчэй дайсці да згоды, Вано схітраваў:

— Я больш не буду!—прашаптаў ён, апускаючы вочы, панурым

усім сваім выглядам выказваючы жаль.—Я не ведаў, што гэта непрыгожа...

— Ну, добра!—адразу змякчэў Топурыя.—Ты слаўны хлапец, але павінен ужо ведаць, як абыходзіцца са старэйшымі. Вось я табе пра гэта і сказаў, няма чаго крыўдзіцца. Ты ўжо не малы, вунь які малайчына вырас... Ты павінен ужо быць разумным...

Усё гэта Вано прапусціў міма вушэй. Яны пайшлі грэбляй, Вано трымаўся за шырокі рукаў світкі Топурыя і то адставаў, то забягаў наперад, тузаючы старога. На грэблі было накідана хворасту і Вано баяўся пакалоць ногі. Топурыя ўсё яшчэ павучаў яго як трэба сябе трымаць пры старэйшых, а Вано вельмі хацелася расказаць пра сваё. Нарэшце Топурыя змоўк.

— У чаплі ўжо ёсць дзеці,—паспешна сказаў Вано.—Нашага ката ўкусіў Макараў сабака, а калі быў дождж Уча зноў паламаў свой хлеў. Ён вельмі баіцца грому. А дзе вы былі, дзядзька Топурыя?

Грэбля скончылася. Дарога ішла лугам. Высокія травы, завялыя і паніклыя ўдзень ад гарачыні, цяпер узнімаліся ў вільготным дыханні адпачываючай зямлі. Моцна пахла лугавая мята.

— Прыязджаў нейкі чалавек на ішаку—забываючыся на сваё пытанне, гаварыў далей Вано,—прадаваў запалкі і тытунь. Ён, казалі, прыехаў аж з самага Сенакі. Кетэ купіла ў яго гузікі.

Тут Вано ўспомніў пра сваё стада.

— Я скажу, каб Гогі прыгнаў коз...—паспешна сказаў ён.— Я зараз прыду, дзядзька Топурыя!

Апошнія словы ён выкрыкнуў ужо на хаду. Топурыя пайшоў сваёй дарогай. Яму ўжо не было сумна. Вясёлая сустрэча з хлапцом развеяла думкі, якія падказала яму журботная цішыня балот. Асабліва ён быў здаволены тым, што ў сяленні пакуль што ціха і з сям'ёй Коркія нічога дрэннага не здарылася. Топурыя быў пераконаны што начальнік нездарма пытаў у яго пра Арцёма і пра Бесо. Едучы назад Гунава, мусіць, толькі таму абмінуў Сагвасаліо, што пасля падзей на грэблі, у яго ўжо не ставала ахвоты нападаць з войскам на сяленні і крыўдзіць бедных людзей. Можа быць, што ён і зусім не прыедзе сюды! Як-бы там ні было, Топурыя вельмі трывожыўся аб сям'і Коркія, і каб не дажджы, ад якіх вышлі з берагоў балотныя рэкі, ён даўно ўжо быў-бы тут, у Сагвасаліо.

На вуліцы ў Сагвасаліо нікога не было. Усе яшчэ працавалі на полі. Топурыя ўзышоў на маленькі, пусты свой двор, агледзеў сваю старую пахілую хату на палях (у месяцы дажджоў сюды надступала вада), зняў з плеч стрэльбу і прыставіў яе да сцяны. Сумам і беспрытульнай адзінотай веяла ад старой хаціны і на душы Топурыя зноў стала невесела. Ён прайшоўся па двары, заглянуў праз плецень у сад, але і там не знайшлося для яго нічога лепшага. Там была засень, нейкая непрыветлівая, вячэрняя, змрочная засень. Зноў журботная цішыня адзіноцтва падступала да Топурыя, але неўзабаве пачуўся знаёмы босаногі тупат, і Вано, збочыўшы галаву, порскаючы і выгінаючы шыю, уляцеў у двор.

— Я перагнаў Даціко!—крыкнуў ён, тупаючы нагамі.—Ён ехаў

на жарабку, а я бег сам. Ой, я не магу стрымаць сваіх коняй! Дурны Даціко, ён ледзьве не зваліўся з жарабка! Гогі зараз прыгоніць коз! Жарабка завуць „Лурджа“! Гэта не іхні жарабок, да іх прыехаў сваяк з сялення Бандза! Што ў вас у сумцы, дзядзька Топурыя!

Цяпер Топурыя стала весялей.

* * *

Змяркалася. На далёкім цёмным ускраі неба дагасала чырвоная смуга зары. Нават, калі зусім сцямнела, і нічога нельга было бачыць поблізу, зара ўсё яшчэ тлела ўдалечы, павольна занураючыся ў змрок. Вано стаяў ля вакна, глядзеў на загасаючую зару, на невыразныя абрысы дрэў, што знікалі ў цемры, і яму было нудна і сумна. Ён не любіў начы і баяўся цемры. У хаце нікога не было. Топурыя пайшоў некуды на агароды па хворасг і чамусьці не звяртаўся. Вано шкадаваў ужо, што папрасіўся застацца ў яго на вечар. Стары напэўна нічога не прынёс, бо сумку нядбайна кінуў у сенях і расказваць што нібы цікавае таксама мусіць не будзе, бо сёння ён нешта не ў гуморы. У цёмнай хаціне было душна, енчылі камары.

Нарэшце Вано пачуў на двары голас Топурыя. Стары клікаў дапамагчы яму ўцягнуць хворасг у хату, бо аднаму нязручна: да парогу было высока, а замест ганку і прыступкаў, у зямлю было ўкапана бервяно з засечкамі. Неўзабаве яны вобмацкам нацягалі хворасту ў хату. Топурыя распаліў трут, Вано старанна дзьмухаў у ахапку хворасту, што ляжала на ачагу і нарэшце з'явіўся агонь. Тоненькі, трапяткі агеньчык лізнуў адну галінку, затрымаўся на другой, змрок уздрыгнуў, адступіў ад ачага і хутка ў хаце стала светла, па сценах і абкуранай столі рухаліся цені і толькі за вакном была глухая, непранікнёная, але цяпер не страшная цемра. Ля агня было ўтульна, хаця крыху дымна і душна.

— Стары пляцень раскідаў,—сказаў Топурыя.—Ліха з ім! Мне ўсёроўна не патрэбна. Хай гарыць!

Вано хацеў спытаць, чаму непатрэбным стаў пляцень, але Топурыя ў гэты момант пайшоў у сені. Ён прынёс цвілы сыр, кавалак падсмажанага мяса і некалькі чэрствых кукурузных ляпёшак.

— Нам, Вано, трэба падмацавацца,—сказаў стары, месцячыся ля агню.—Ты за чаплямі паляваў, я хадзіў па іншых сякіх-такіх справах, і хаця нічога мы не прыдбалі, аднак есці хочацца... Ну, што-ж, запасы спатрэбім, а там ужо неяк будзе...

Вано з ахвотай узяўся за вячэру, але сам Топурыя не еў амаль што нічога. Ён сядзеў вельмі задуманы, папраўляў галавешкі і ўвесь час курыў. Ён як-бы не заўважаў, што Вано сядзіць з ім побач, як-бы забыўся на яго.

— Злуе на мяне...—думаў Вано, не трацячы аднак апетыту.— А можа ён хворы? Зараз я ўстану, падзякую і пайду. Ён хворы, няйначай, бо ў яго нешта вус торгаецца. Яго мусіць камары пакусалі, ад гэтага бывае гарачка. Я зараз пайду...

Але нікуды ісці Вано не мог, бо баяўся цемры і быў вельмі

рады, калі Топурыя, нарэшце, узняў на яго свае засмучаныя вочы і лагодна спытаў:

— Ну, што-ж, маленькі ты мой, нудна табе? Можа ты хочаш, каб я табе што нібы расказаў?

Ад гэтага ціхага, старэчага голасу, ад лагоднага пагляду і мяккай прыязнай усмешкі ў Вано адразу стала хораша і цёпла на душы. Ён паківаў галавой, спяшаючыся глынуў, і падрыхтаваўся слухаць, выгодна прылёгшы ля агню. Больш за ўсё на свеце любіў ён цікавыя гісторыі Топурыя.

— Ну, дык вось што я раскажу табе...—пачаў Топурыя, укладаючы на агонь жменю хворасту.—Я раскажу табе, мой дарагі, пра бедных і багатых. Хаця ты яшчэ і недарослы, але па ўсім відаць, што калі вырасцеш і будзеш мужчынай, розум твой будзе светлы і праніклівы. І я хачу, каб ты з малых год ужо ведаў, як людзі жывуць на свеце, як усталявана жыццё і як яго трэба разумець. Ты яшчэ і не чуў пра гора, ты жывеш пры бацьках, і яны ўсяк стараюцца цябе аб бяды абараніць. Хаця ты і не заўсёды як след пакормлены, аднак тваё маладыя дні ціхія і радасныя. Ты жывеш, як птушка ў сонечны дзень, і твае вочы нічога апрача радасці і вясёласці не хочуць бачыць... А на свеце, дарагі мой Вано,—адно гора, адна бяда... Вось зараз, я табе раскажу пра аднаго беднага чалавека, пра ягонае нешчаслівае жыццё, каб ты ведаў, якая злая пошасць ідзе па зямлі ад багатых людзей. А іх, Вано, адна толькі горстка супроць усяго народу! Над усім яны запанавалі, жыцця і смерці нашай гаспадары!.. Вось як ёсць на свеце, дарагі мой Вано...

Топурыя змоўк. Вано таксама маўчаў, здзіўлены. Топурыя ніколі так не пачынаў сваіх гісторый, ніколі не быў так засмучаны і не гаварыў такім голасам, нібы ў хаце, акрамя іх, быў нехта хворы.

— Гэта было вельмі даўно, дарагое маё дзіця...—гаварыў далей Топурыя.—Твайго бацькі яшчэ не было тагды на свеце, а ён ужо не маладога веку... Жыў тут у нашым сяленні адзін бедны селянін... Сям'я ў яго была невялікая—жонка і сын, маленькі хлопчык, меншы, можа, ён быў тады за цябе. Зямлі гэты чалавек меў якраз столькі, колькі маю я зараз. Акрамя сваёй зямлі ён павінен быў абрабляць яшчэ зямлю князя, тады была яшчэ паншчына і да чалавека ставіліся гэтак-жа, як і да буйвала: калі буйвал здаровы і дужы, то яго лепш гаспадар шануе і даглядае, чым хворага і слабога. А селянін гэты дужым і здаровым не быў і таму жыў далёка горш ад іншых, хаця і ім не было чым хваліцца. Вось, аднойчы, едзе князь з усёй сваёй світай праз нашае сяленне, п'яны і дурны, як свіння. Ехаў ён з палявання, амаль нічога яны не забілі, п'яныя паразганялі толькі ўсю дзічыну па лясах. У нашым сяленні яны спыніліся, пасярэдзіне вуліцы расклалі агонь і як ад гэтага не выйшла пажару, проста дзіва!.. Доўга яны гулялі, што толькі не вырабляў князь!.. І нарэшце прыйшла яму злая думка, не лепшая за другія, што былі ў ягонай пустой галаве. Паклікаў ён аднаго селяніна і кажа: „узнімі гэты камень! Калі ўзнімеш—адпушчу на волю і зямлі дам“. Той чалавек аж закалаціўся, так узрадаваўся, бо адразу, на вока, пазнаў ён, што камень гэты будзе яму па сіле. І ён гэты камень узняў і патрымаў нават на руках нейкую хвіліну.

„Вольны!“—кажа князь „адпушчаю цябе з-пад свае ўлады сваім княжым словам! А цяпер паспрабуй шчасця ты!..“ І паказвае пальцам, якія не гнуўся ад пярсцёнкаў, на таго, беднага селяніна, пра якога я табе кажу. „Я не ўзніму гэтага каменя, батоно“,—адказвае селянін,—„у мяне сілы не хопіць!“ Тады князь адварочваецца да сваіх гасцей і ўсёй сваёй разбойніцкай світы і кажа: „Вы чулі, кажа, каб мой мужык, зямля з-пад маіх ног, жывёліна недастойная, пасмеў, калі нібы адмовіцца выканаць мой загад? Парайце мне, дарагія госці, што з ім рабіць?!“ Тады гэты селянін, не чакаючы на парады княжых гасцей і не спадзяючыся на ратунак, падышоў да каменя і паспрабаваў яго ўзняць. І ён узняў яго ад зямлі, але выпрастацца не здолеў, твар ягоны зсінеў і з роту пайшла кроў. Ён упаў тут-жа каля каменя і памёр, як толькі яго перанеслі праз парог хаты. А князь і ягоная світа, гарлаючы „орыраша“*) паехалі з сялення...

Апошнія словы Топурыя сказаў ціха, амаль шэптам. Вугалле тлела на ачагу, у роўным, чырвоным святле бачыў Вано задуманы твар старога. Топурыя змоўк, відаць, успамінаў нешта. Змрок падступаў да ачага, пад столлю нылі камары—ім было дрэнна ў дыме.

— І вось, што было далей...—пачаў гаварыць Топурыя.—Праз год, не больш, памерла жонка таго селяніна, маці хлапчука, і ён застаўся адзін на свеце. Такі, мусіць, быў яго лёс, што павінен быў ён пражыць сваё жыццё ў адзіноце. Чужыя людзі ўзялі яго да сябе, але прыйшоў неўзабаве чорны год, напала на людзей нейкая страшная хвароба і хлопчык у другі раз застаўся сіратой.

Мала было ў тыя гады людзей у нашым сяленні, Вано... Але зноў, з году ў год множыўся народ, прэз нейкі час прапала паншчына і хаця шмат людзей яшчэ брала ў магілу злая Ужмуры**) усё-ж, да тэй пары, калі хлопчык-сірата стаў дзяцюком, у нашым сяленні было народу амаль столькі-ж, колькі і цяпер. Цярплівы і дужы наш народ, Вано! І вось, слухай далей: стаў гэты хлопчык дарослым чалавекам. Асілкам ён не быў, але да работы быў здатным і з твару быў не брыдкі. Працаваў ён парабкам у багатых, бо з тэй зямлі, што ён меў, пражыць было цяжка, акрамя таго, аднаму гаспадарку весці дрэнна. Ён аддаваў сваю зямлю суседзям амаль што дарма, а сам альбо служыў парабкам, альбо хадзіў на заробкі: у Поці,—тады будавалі порт—у Очэмчыры на пагрузку лесу... Усюды ён хадзіў, стараючыся зарабіць на жыццё. Так ён выбраўся са свайго гаротнага дзяцінства: перахварэў і абмінуў смерць, бываў спрацаваны і не страціў маладога свайго выгляду, галадаваў і не папсаваў здароўя. Быў ён вясёлы і спрытны, але характару быў ціхага і таму яго часта крыўдзілі. Але ён на гэта не зважаў. Так ён і жыў сабе, адзінокі хлапец. І хутка яму адзіноцтва надакучыла, бо надышла такая пара, быў ён у такім ужо веку, калі чалавек павінен мець сваю ўласную сям'ю, каб потым на старасці не прападаць у адзіноце. Табе не варта было-б пра гэта гаварыць, бо

*) „Орыраша“—песня без слоў.
**) Ужмуры—ліхарадка.

ты яшчэ малы і табе рана пра такія справы ведаць, але раз ужо так прышлося, нічога не зробіш, слова гэтага не выкінеш: спадабалася яму адна дзяўчына у недалёкім адгэтуль сяленні, і ён хацеў яе ўзяць за жонку. Ён таксама ёй прышоўся да спадобы. Але ім не было з чаго пачынаць жыць, бо ён меў толькі тое, што было ў яго на плячах і яна была не з багатай сям'і. Тады яны ўгаварыліся, што ён пойдзе на заробкі, падшукае такое месца, дзе можна больш зарабіць. Людзі яму параілі ісці на Чыатурскія марганцавыя капальні, і ён пайшоў туды. Ты ведаеш, што такое марганец? Ён патрэбны для таго, каб рабіць жалеза, вось для чаго ён патрэбны... Шмат зазнаў там гора гэты хлапец, Вано!.. Ён поўзаў у чорныя страшныя норы, дзе поўна вады і ўсякага бруду, і гэтыя норы ішлі глыбока пад зямлёй, аж у самае нутро гор. Ён сядзеў у глыбокіх ямах і капаў цяжкі, чорны марганец. Плацілі вельмі мала, так што амаль увесь той заробак можна было спатрэбіць на ежу. Начальства здзеквалася над рабочым людам, старалася ашукаць яго, гатова было вырваць ад чалавека з рук тое, што ён ужо ад іх зарабіў. Такое там было гора, так было там цяжка працаваць, што гэты чалавек, пра якога я табе кажу, Вано, мог вытрымаць толькі адзін год і два месяцы. Ён зарабіў крыху грошай, вельмі мала, але ўсё-ж з гэтага можна было распачынаць жыць. Я табе скажу, Вано, што ён, чалавек гэты, жывіўся амаль што адным хлебам з вадой, і рэдка, хіба толькі па святах, купляў сабе кавалак мяса. Ён вельмі стаў худы і напэўна быў непрыгожы, але гэта мала яго абыходзіла, ён быў рады, што вызваліўся з капальняў, і што мае цяпер з чаго пакрысе пачынаць тое жыццё, аб якім ён думаў год і два месяцы ў чыатурскіх, страшных падзямельных норах. І вось ён прыйшоў, гэты чалавек на сваю радзіму, а яе, Вано, тэй дзяўчыны, ўжо не было...

— Яна памерла?!—выкрыкнуў Вано, шырока раскрыўшы вочы, прыціскаючы рукі да грудзей.—Памерла?

Топурыя сумна ўсміхнууся.

— Не, Вано... Яна засталася жывой і здаровай. Але яна спадабалася аднаму багатаму, а ёй спадабалася ягонае багацце. Яна хутка забылася на таго беднага чалавека і стала жонкай багатага. Брат яе, Гуджу Кверквелія, добры чалавек і друг мой, адзін сустрэў мяне на парозе...

— Дзядзька Топурыя!—ускрыкнуў Вано.—Дык гэта-ж вы пра сябе кажаце!

— Што, пра сябе?!—нездаволена спытаў Топурыя.

— Вы раней казалі пра нейкага чалавека, а цяпер кажаце пра сябе.

— Вано!—сурова сказаў Топурыя.—Не перабівай мову старэйшым! Я больш нічога не скажу табе.

Ён паклаў на ачаг ладны жмут хворасту, стала вельмі дымна, і каб Топурыя і хацеў гаварыць далей, не здолеў-бы. Але ён і на самай справе не хацеў гаварыць. Вано выкрыў ягоную маленькую хітрасць, і гэтая акалічнасць псавала ўвесь строй апавядання. Гаворачы аб сабе ў трэцяй асобе, Топурыя хацеў пасля расказаць Вано пра ўсе падзеі у Сабокучаво, уключаючы падзеі на грэблі,

але цяпер, калі хлапчук здагадаўся, што справа ідзе аб самім Топурыя, пра гэта казаць было нельга. Топурыя разумеў, што небяспечна давярацца дзіцяці і шкадаваў, што так няўдала выйшла з-за ўласнай неасцярожнасці. Сёння, у развітальны гэты і можа апошні вечар, стары Топурыя хацеў расказаць свайму маленькаму другу пра ўсё, што ён зразумеў у жыцці, хацеў пераказаць яму здаўна ношаныя і адчутыя свае думкі і шчыра быў пераконаны, што Вано захавае іх у памяці надоўга, можа на ўсё жыццё. У тым парадку, у якім Топурыя задумаў сваё апавяданне, падзеі ў Сабо-кучаво і асабліва, падзеі на грэблі, мелі вялікую значнасць і служылі-б дастойным завяршэннем яго гісторыі.

— Што было далей, дзядзька Топурыя?—знарок плачучым голасам, каб загладзіць сваю віну, спытаў Вано, але яму давялося некалькі разоў паўтарыць сваю просьбу і ён на самай справе гатовы быў плакаць, але Топурыя пачаў гаварыць зноў.

— А далей, дрэнна было, Вано!—сказаў ён.—Не лепш, чым і дагэтуль. Толькі ты пакінь сваю дрэнную прывычку лезці ў размову, калі гаворыць старэйшы за цябе. Ты неслухмяны, вось што я табе скажу!.. Далей-жа было так: гэты чалавек, я, значыцца, вельмі бядаваў, усё мне абрыдала і не хацелася нават жыць на свеце. Я прагуляў і параскідаў тыя грошы, што меў, бо так заўсёды бывае з чалавекам, калі ён згубіць сваю дарогу, і калі апамятаўся я,—зноў нічога ў мяне не было. Ты гэтак ніколі на рабі, Вано, калі здарыцца бяда ў жыцці! Я тады быў неразумны яшчэ, таму не бяры з мяне прыкладу!.. Дык вось, зноў застаўся я, які і быў, і з мяне смяяліся людзі, што я такі няўдалы чалавек. Можа яны і мелі рацыю, але мне гэта крыўдна было, а найбольшую крыўду зрабіла мне тая дзяўчына, за якую я гатовы быў жыццё аддаць. І тады я надумаўся дабіцца багацця, каб паказаць сваю сілу ўсім людзям і той, якая мяне так пакрыўдзіла. Гэта была таксама дурнота, бо ніколі чалавек са свайго мазаля багацця не створыць, найлепшае, калі ён не будзе кожны дзень галодным. Багацце, Вано, набываецца найбольш такімі справамі, што і разбойнік ад іх адмовіцца, каб душу сваю дарэшты не папсаваць. А мне, у маладой сваёй блазноце ўсё гэта выдавалася проста: я пайду ў матросы, там, людзі мне казалі, можна лёгка зарабіць добрыя грошы, і акрамя таго, шмат можна чужых земляў пабачыць, увесь свет можна морскай дарогай аб'ехаць. Здавалася мне, што ў чужых землях людзі лепшыя жывуць, самыя гэтыя чужыя землі цудоўна прыгожыя і там нейкае адменнае жыццё, напэўна я знайду там сваё шчасце, і назад звярнуся багаты і ў вялікай славе. Вось, узяў я свой клумак і павалокся ў порт, у Поці, у матросы пайшоў. Доўга я бадзяўся ў порце, ніхто мяне ні на адзін карабель не браў, капітаны толькі смяяліся, на мяне пазіраючы, а з аднаго карабля мяне так ссадзілі, што ледзьве адляжаўся. Гэта быў нейкі вельмі багаты, белы карабель, і мне, дурню, здалося чамусьці, што на гэтым караблі і давядзецца мне плысці, шчасця свайго шукаць. Узышоў я на гэты карабель і раптам сустракае мяне высокі і здаровы начальнік, з залатымі пагонамі, з рудай барадой, што расла з-пад самага горла, і ні слова не гаворачы, з усяе сілы ўда-

рыў мяне па твары, і нагой, як сабаку, скінуў са сходняў на бераг. Я ўжо не думаў жывым астацца, бо я зваліўся з вышыні добрага дрэва і моцна пабіў бок. Да таго-ж яшчэ і зубы ён мне патрушчыў, скрыпелі, калі трэба было есці...

Топурыя ціханька засмяяўся, узяў з ачага вугалёк і паклаў у сваю люльку.

— Але гэта ўжо не такая была і бяда, бо есці ўсё роўна не было чаго... Ледзьве не апруцянеў я з голаду і ўсё-ж не пакідаў порту, нейкая надзея мяне трымала, што як-бы та ні было, а ўсё-ткі павінен я свайго дабіцца. Вось і дабіўся: нарэшце прынялі мяне на вельмі стары карабель, ён ледзьве на вадзе трымаўся і проста дзіва было, як гэта ён даплываў даверху нагружаны лесам ад Очэмчыры да турэцкага гораду Трапезунда і прыплываў назад. Але я пра гэта мала дбаў, я быў рады, што нарэшце трапіў на карабель і вывучыўся на матроса. Апрача мяне было на караблі яшчэ з дзесятак матросаў і капітан. Што гэта быў за чалавек, Вано, гэты капітан, страшна ўспомніць! Проста дзіва, што такі чалавек нарадзіўся ад жанчыны, не ад звера... Але ён памёр ужо, як і ўсе тыя гаротныя матросы, з якімі я ездзіў на караблі ў Трапезунд. Шмат гадоў яны ляжаць на дне мора, толькі аднаго капітана мора не прыняло да сябе і выкінула на бераг, мусіць таму, што вельмі дрэнным быў ён чалавекам. Але, не будзем пра гэта гаварыць, яны ўжо даўно памерлі...

— Дзядзька Топурыя,—з цікаўнасцю спытаў Вано.—Гэта вы тады князя Давіда ўратавалі?

— Што?—перапытаў Топурыя.—Якога князя Давіда?

— Вы пра яго раней казалі... Там яшчэ была князёўна, вы яе таксама ўратавалі...

— Вано!—усклікнуў зазлаваны Топурыя.—Ты хочаш, каб я табе расказваў, ці не?! Князь! Адкуль там мог узяцца князь!

Топурыя памаўчаў і потым дадаў, ужо больш спакойна:

— Ты ўжо не малы, Вано, і павінен ведаць, што расказваецца для цікавасці і што ёсць праўда.

І калі Вано не спадзяваўся на працяг гісторыі, Топурыя пачаў гаварыць зноў:

— Слухай далей і больш не перабівай мне мовы. Проста брыдка, што ты ўтыкаешся са сваімі здагадкамі праз кожнае маё слова. Пачакай, пра што гэта я гаварыў?

— Што карабель затапіўся...—нясмела сказаў Вано.

— Так, Вано, пра карабель. Вельмі гэта страшная была хвіліна, мой дарагі, калі тапіўся карабель. Нават не раскажаш, і ўспамінаць не варта. Скажу табе толькі, што пасля гэтага адпала ў мяне ахвота шукаць шчасця на моры, проста глянуць баўяся я на гэтую ўзбаламучаную ваду. Не знайшоў я шчасці ні на сушы, ні на моры і прываloкся назад у сяленне галодны і босы, які і быў раней... І зноў з мяне смяяліся людзі і ўжо не лічылі мяне за разумнага. Вось якое шчасце я выстараўся, Вано!.. Нават у сваім сяленні, сярод сваіх людзей мне месца не было! І вось, пачаў я ўнікаць людзей, і нейкі час як-бы хвароба ў мяне такая была: дрэнна мне пры людзях! Воддалі ад іх, у балотах, у лесе, мне

куды лепш! І ціха там, і спакойна, як-бы для лесу я народжаны быў... Так і прызвычаіўся я жыць адзін, а пасля стаў упраўным паляўнічым і з гэтага зарабляў сабе на хлеб. Гэтак, год па году і сыйшло маё жыццё да старасці... А тая дзяўчына, што мяне пакінула, праз нейкія два гады памерла. Даўно гэта было! Муж яе, той багаты, аказаўся вельмі дрэнным чалавекам, як і ўсе багатыя. Ён увесь час папракаў яе беднасцю, шкадаваў для яе кавалка хлеба, здзекваўся над ёю так, як толькі багаты над бедным здзеквацца можа, я пра ўсё гэта ведаў, але што-ж я мог рабіць, хаця ў мяне сэрца на кавалкі ірвалася! І яна неўзабаве памерла, пакінуўшы таму багатаму, сына. Ён вырас ужо, цяпер ён дарослы і сталы мужчына і гэткі-ж багаты, як і ягоны бацька. Вось, калі ты ўбачыш чалавека, якому прозвішча будзе Спірыдон Ганарджыя, то ведай, што гэта яе сын...

Пасля гэтага Топурыя доўга маўчаў. Агонь на ачагу дагасаў, тлелі, акрываючыся попелам вуглллі, успыхвалі і загасалі дробныя іскры. Вано не варушыўся, каб не патрывожыць думак старога, хаця і вельмі знямела нага. У чырвоным агні дагасаючага агню твар Топурыя быў падобны да твару той маленькай, мядзянай фігуркі, якую Гогі знайшоў учора на кургане і пра якую казалі, што гэта даўнейшы бог. У Топурыя быў цяпер якраз такі, нібы з медзі выліты твар, з рэзкімі маршчынамі і гарбатым носам. Толькі барада ў бога была кучаравая і шырокая, непадобная да клінаватай бародкі Топурыя.

— Так, мой дарагі Вано, ходзячы міма людзей, я звёў свой век...—пачакаўшы гаварыў далей Топурыя.—І таму, што я жыў воддалі сам па сабе, ні ў якія справы не мяшаўся і ніхто да мяне ўжо нічога не меў, мне лепш было здалёку відаць, чаму так дрэнна робіцца на свеце. Багатыя прыціскаюць народ, Вано, вось ад чаго на свеце гора, і слёзы, і нявінная кроў! Чаму я застаўся ў горкія дзіцячыя гады сіратой? Таму, што п'янай свінні, якая мела вялікую ўладу, захацелася ў дрэнны час пахваліцца перад другімі гэтай самай сваёй, зверскай уладай і ад гэтага памёр чалавек... Чаму, калі спытацца, блізка пяць дзесяткаў гадоў бадзяюся я адзін па лясах, жыву не так, як усе астатнія і памерці давядзецца не ў дзяцей і ўнукаў на руках, а можа дзе ў лесе, на звярынай дарозе?! А вельмі проста, маё дарагое дзіця, багаты адабраў ад мяне і жонку, і сям'ю, багатыя людзі здзекваліся нада мной і кпілі з мяне, і білі мяне, і марылі голадам, і ўвесь час я на іх працаваў, не маючы ад гэтага ніякай карысці, мне стала брыдка жыць з людзьмі і я ўцёк ад іх у лес. Нават бедныя, такія самыя, як і я, не давалі мне месца побач з сабой, бо я быў слабейшы за іх, а жыццё наша, Вано, так усталявана няправідзіва, што слабаму доўга не жыць! І можа ў пару я ўцёк тады ў лясы, вось што... А хіба я адзін такі на свеце пакрыўджаны чалавек? Не, Вано, такіх людзей многія тысячы, увесь бедны народ пакрыўджаны і нешчаслівы, а багатых супроць усяго народу, я табе казаў ужо—адна толькі жменька. Такую сілу багацце мае, што гняце сабе пад ногі ўвесь свет, дужэйшы душыць слабейшага і бедныя людзі прападаюць, як мухі ў дажджлівы месяц

экэніа!*) Вось што я зразумеў, Вано, вось што пазнаў я ў сваёй адзіноце: усё гора, усе няшчасці на свеце—ад багатых. Бяда ідзе па зямлі ад багацця, як злая зараза ад мерцвяка, што памёр ад дрэннай хваробы! І калі я гэта зразумеў, калі я ўсё гэта пазнаў, то пачаў думаць, якім спосабам бедны народ можа пазбавіцца ад уціску багатых. Многа думаў я, Вано, седзячы іншым разам дзе нібы ў лесе, пры агні, адзін уначы. Ох, шмат было начэй такіх!.. І нарэшце, пазнаў я і гэта: толькі ўсёй сваёй сілай можа скрышыць бедны народ сілу багатых! Толькі тады ён пераможа багатых, калі ўвесь, як адзін чалавек, паўстане супроць іх! Але гэта марныя думкі былі тады, Вано... Народ наш ціхі і прыбіты, ён адвеку прывык насіць ярмо і я нават нікому не гаварыў пра тое, што ведаю, бо хто-ж паслухае чалавека, які бадзяецца ў адзіноце, нічога за душой не мае і даху над сваёй галавой не любіць! Я маўчаў і ўсё думаў і спадзяваўся, што скончыцца нарэшце цярплівасць народу, прыдзе для багатых грозны час!

Топурыя памаўчаў, потым сказаў звычайным тонам:

— Пакладзі яшчэ хворасту, Вано...

І калі зноў пасвятлела ў цёмнай, душнай хаціне, Топурыя гаварыў далей:

— Чалавек не бязмоўная жывёла, Вано,—гэта чалавек! І я чакаў і ведаў, што цярплівасць народу скончыцца, што пакорнасць зменіцца на гнеў, і той, хто быў паднявольным, страшна адпомсціць за крыўды, слёзы і нявінную кроў... Век мой выдаўся даўгім, бачыў я і ведаў шмат што. Бедаваў народ пры ўладзе князёў, бедаваў пад царам і пачынаў ужо расці ў народзе вялікі гнеў. Гналі народ на войны, пуставала зямля, сохлі вінаграднікі, пустазеллем паросталі палі, голад прыходзіў у сяленні, багатыя нажываліся яшчэ лепш, чымся ў мірныя часы і жылі тлустыя, сытыя і вясёлыя, а народ гневаўся і маўчаў. Я ўсё гэта бачыў і ведаў, Вано!.. Ніхто не падумаў-бы, што бедны дзівак Топурыя гэтулькі ведае... І калі пайшлі чуткі, што прагналі цара, па сяленнях пашлі людзі і казалі народу, што цяпер ужо вольнасць, што ўсім цяпер будзе вольна і добра жыць, бо цара ўжо няма,—народ супакоіўся і з надзеяй чакаў таго добрага, што прынесла яму вольнасць. І прыціх гнеў народны, ён змяніўся надзеяй. Папрыходзілі людзі з вайны, хто жывы і здаровы, хто калекам, як Міха Коркія, шмат хто не прышоў зусім, іх аплакалі ўдовы і дзеці. Вышлі сяляне на свае спустошаныя палі і па ранейшаму бачаць памешчыцкую мяжу, агароджаныя гандлярскія землі і каля парканаў і па межах памешчыцкіх маёнткаў ходзяць са стрэльбамі вартаўнікі. А з гораду ўсё прыязджаюць людзі і ўсё гавораць пра вольнасць і што сышоў на зямлю рай і з'явіўся новы Ной, які збавіць людзей ад гора, як той стары Ной, што збавіў іх ад патопу. Так яны балбаталі, як індыкі, народ слухаў іх і ўсё чакаў, калі прыдзе тое добрае, што яны абяцаюць... А я ўжо бачыў, што гэта мана і ніякай няма вольнасці, бо засталіся ўсе багатыя такімі, як і былі; і князь Абхазава застаўся ў сваім маёнтку жывы і здаровы і, можа, на-

*) экэніа—верасень.

ват пабагацеў яшчэ крыху, калі прадаваў сялянам зерне, каб засеяць пустыя землі; і Сімон Гамрэкелі прыкупіў зямлі да сваіх вінаграднікаў ад удавы Меліва і старой маці нябожчыка Квірквэ, якога забілі на вайне і шмат ад каго так паадбіраў, і нават начальства засталося амаль тое самае, што было і раней... і можа перш ад усіх падумаў аб тым, што гэта хітрыкі багатых людзей, што яны ашукваюць народ і што можа і цара не прагналі і ён сядзіць у сваім палацы, а яны ездзяць па сяленнях і хлусяць, каб народ забыўся на свой гнеў і паверыў ім, што зараз, пасля вайны будзе лепш. Але я пра гэта нікому не казаў, бо ведаў, што ніхто не паслухае мяне, старога Топурыя. Аказалася пасля, што цара такі прагналі, але вольнасці народу багатыя не далі, ашукалі народ абяцанкамі... І пайшло ўсё па ранейшаму: маладых людзей у салдаты бяруць, падаткі вялікія народ плоціць, гандляры танна купляюць і дарага прадаюць, зямлі мала, хлеба мала, начальства прыціскае народ, а памешчыкі выгодна сабе раскашуюць і князь Георгій, унук таго самага князя, які майго бацьку са свету звёў, ездзіць сабе на багатым кані, упіраючыся ў бокі і гатовы, як і ў даўнія часы, народ падковамі таптаць... А гэтыя індыкі ўсё балбочуць пра свайго Ноя, каб ім языкі паадсохлі. І зараз яны бадзяюцца па сяленнях, Вано, але цяпер ужо ім ніхто не дае веры!

Голас Топурыя ўзмацнеў і ён сам выглядаў цяпер нібы маладзейшым і твар яго быў не такім сумным і задуманым і страцілася падабенства да твару той медзянай фігуркі, якую Гогі знойшоў учора на кургане.

— Не, Вано!.. Цяпер яны ўжо ашуканствам не ўратуюцца! Гнеў у народзе вялікі і нястрымны, цяпер ужо кожны ведае, што багатыя ўкралі вольнасць беднага народу і што іхні Ной самы першы злодзей!.. Дрэнна ім цяпер будзе, бо народ зразумеў іхнюю ману! Ходзяць праўдзівыя чуткі, што народ у Расіі паўстаў, як адзін, супроць багатых і гоніць іхняе войска са сваёй зямлі. Кажуць, што Ной гэты хоча адгарадзіць наш народ ад Расіі, і будуць будаваць сцяну вышынёй з добрае дрэва. Калі гэта праўда, то яны не паспеюць і адной цаглінкі пакласці, як ім усім прыдзе канец. Каб яны пра гэта ведалі, то і не думалі-б пра сцяну! Кажуць яшчэ, што ў наша мора наплыло ўсякіх караблёў і прыйшло чужаземнае войска. Яны баяцца, што рускі народ прыдзе нас вызваляць. Не! Цяпер ужо ім не саўладаць з намі! У тым годзе больш за тысячу чалавек сабралася ў сяленне Гордзі і адусюль да іх пайшоў народ. Калі іх сабралася дзве тысячы, яны пайшлі ў горы збіраць яшчэ большую сілу. Іх збіраюць большэвікі, гэта па расійску азначае: вялікія людзі, якія абараняюць бедны народ. Яны ўзнялі народ супроць багатых, у Расіі і цяпер змагаюцца з іхнім войскам і гоняць яго прэч са сваёй зямлі. Вядзе войска большэвікоў мудры чалавек, вялікай сілы і смелы, як леў. Перад ягоным гнеўным тварам падаюць ніц і гінуць багатыя, як гіне туман перад сонцам. Ён не ведае літасці да іх, войска топча іх пад ногі, як нячыстае зелле, і яны ўцякаюць дзень і ноч супраць дажджу і ветру. Побач з ім ідуць яго памочнікі, адважныя арлы, людзі яснага розуму, поўныя гневу і вялікай сілы і першы з іх, самы

лепшы ягоны друг—сын нашага народу, ён паходзіць з гораду Горы і завуць яго Сталін.

Ён прыдзе вызваляць свой народ і з ім разам прыдзе Ленін, той, хто стаіць на чале ўсёй вялікай сілы большэвікоў. Калі я быў на кірмашы у Зугдзідзі, пра гэта расказваў адзін праўдзівы чалавек, яму можна верыць, бо ён прадракаў пагібель багатых і народную вольнасць. Усе яго слухалі і ўсе адразу распазналі, што ён не з тых, якія ўслаўляюць Ноя і ашукваюць нас. Гэта быў большэвік, і я табе шчыра кажу, Вано, што каб ён тады на кірмашы сказаў слова—усе, хто там быў, пайшлі-б за ім адразу, бо гэты чалавек хоча нам карысці, а не шкоды, хоча для нас добрага, а не злога. Але ён казаў, што яшчэ не пара, а калі будзе пара, пра гэта народ будзе ведаць. І мусіць, надыходзіць ужо гэты час і неўзабаве я сам пайду па сяленнях і буду казаць: „выходзьце, добрыя людзі, надышоў нашай вольнасці час і канец нашым пакутам". І цяпер ужо напэўна людзі паслухаюць старога Топурыя...

— Вы самі...—прашаптаў Вано, які ў маўклівым захапленні не зводзіў воч з Топурыя.—Вы самі пойдзеце?..

— А чаму-ж не?—спытаў Топурыя.—Чаму? Хіба я не ведаю, што казаць людзям? І хіба я буду баяцца, што мяне зловіць атрад? Чалавек, які ўсё сваё жыццё пражыў у лесе, не можа быць баязліўцам!.. Каб я баяўся, мяне даўно-б разарвалі звяры і кроку не ступіў бы я ў балотах, каб сэрца маё было-б сэрцам баязлівым. О, не, Вано! Рука мая ніколі не дрыжэла, калі я цэліў у галаву звяра, не ўздрыгнула яна і тады, калі я ўзняў сваю зброю на аднаго нягодніка... Аднак, Вано, трэба скончыць нашу гутарку, бо ўжо час позны і пра цябе ў хаце будуць непакоіцца. Шмат аб чым можна было-б гаварыць, але я табе толькі тое скажу, што ты шчаслівы нарадзіўся на свет. Я добра ведаю, што да тае пары, пакуль ты вырасцеш, не будзе на свеце звярынай улады багатых і ты шчасліва і спакойна пражывеш свой век. А так, зазнаў-бы ты вялікае гора: дзіця, з якім ты гуляеш, і якому ты часам наб'еш нават гуза, вырасла-б на твайго гаспадара, і ты павінен быў-бы служыць яму да веку, бо ў яго больш прагная душа і здатны да набыцця розум; глянуў бы на цябе ў злы час багаты чалавек і яшчэ ў дзяцінстве пайшоў-бы ты да яго ў няволю вось гэтак, як Іліко да Сімона Гамрэкелі. І жыў-бы ты не так, як хацеў сам, а як захацелася-б твайму гаспадару, і пакутваў-бы ты пад гаспадарскай рукой да старасці год і да самай смерці. А каб усё-ж паставіў-бы ты на сваім, і жыў бы як хочаш сам, то мусіў бы ты туляцца па лясах, як я туляўся. Але прыходзіць на гэтых гаспадароў канец яшчэ раней, чым ты станеш на ногі, і я добра ведаю, што і ты, і Іліко, будзеце вольнымі людзямі, як таго і варты чалавек. Вось на чым і скончу я гісторыю пра багатых і бедных, і ты, Вано, памятай пра ўсё, што я табе казаў, як мага даўжэй...

Топурыя згарнуў апаленай драўлянай лапаткай дагасаючае вугалле, прысыпаў яго попелам і адразу стала цёмна. Пасля ў цемры праступіла цмяная пляма вакна.

— Так...—сказаў Топурыя, устаючы.—Вось і ўся гісторыя... Але шмат-жа часу прайшло, пакуль яна склалася!..

Неўзабаве яны ішлі вуліцай і Вано стараўся ступаць крок у крок з Топурыя. Пад цёплым ветрам шумелі таполі, на шэрым небе цмяна святлелі затуманеныя, буйныя зоры. На вуліцы было ціха, рэдка дзе мільгаў за плятнём агеньчык, недзе скрыпелі ад ветру вароты. На тым канцы сялення ляніва ўзбрэхваў сабака.

Быў позны вечар.

---

## Частка трэцяя

### I

Гунава ад самай раніцы заклапочаны прахаджваўся па двары. Была нядзеля, але ён не мог пахваліцца добрым настроем, які звычайна бываў у яго па святах. Гунава кружыў і кружыў па двары, стары аўчар спрабаваў хадзіць за ім, потым яму надакучыла і ён са стогнам лёг пад круглым сталом, ля вядра з бутэлькай. А Гунава ўсё хадзіў, часам з укосу пазіраючы на стол, дзе прыціснутыя плоскім каменем ляжалі паперы. Адна з іх была асабліва непрыемнай і з'яўлялася прычынай дрэннага настрою Гунава. Цяпер ён мог у поўнай меры ацэньваць скромнасць Мучаідзе на пахаванні падатковага інспектара, бо ў паперы з адпаведнымі каментарыямі былі апісаны ўсе гераічныя ўчынкі Гунава ў часе карнай экспедыцыі і на аснове гэтага начальства загадвала альбо прывесці справы з бунтоўным сяленнем у парадак, альбо падаваць рапарт аб адстаўцы. Там-жа ўказвалася, якім спосабам, па думцы начальства гэтыя справы ўпарадкаваць і хаця гэта і было добрай адзнакай, бо сведчыла, што начальства яшчэ не намерана развітвацца з Гунава, усё-ж былі прычыны для таго, каб страціць настрой. Першае—тое, што цыркуляр начальніцкі, быў напісаны ў вельмі едкім тоне—Гунава папросту высмейвалі, другое—гэта меры, якія прапаноўвала начальства: абсалютная асцярожнасць, ніякіх стрэлаў і сутычак, бо з вопыту мінулага вядома і г. д... І па-трэцяе, начальства загадвала неадкладна затрымаць усіх узброеных сялян і ў бліжэйшыя дні далажыць аб выкананні. Якім парадкам без стрэлаў і сутычак у бліжэйшыя дні вылавіць чатырнаццаць (а можа і больш) узброеных людзей, якія ўмеюць валодаць зброяй, і акрамя таго невядома дзе знаходзяцца, Гунава проста ўявіць сабе не мог. Рука ягоная дагэтуль яшчэ была на перавязі, і гэта быў сумны вопыт мінулага, ужываючы выраз з начальніцкага загаду. Дадатковай непрыемнасцю было тое, што на яго рапарце аб адпачынку ў сувязі з ранай, была адмоўная рэзалюцыя. Начальніку вядома, што ён паранены лёгка, нават удзельнічаў у пахаванні інспектара, на яго ўскладаецца абавязак ліквідацыі паўстання, пакуль яно яшчэ знаходзіцца ў самым пачатку, а пасля гэтага, ён атрымае адпачынак.

Наогул-жа гэта была работа Мучаідзе, які вышаў чыстым і нават паслужыўся, а Гунава паставіў у вельмі невыгоднае становішча. Ён ні на хвіліну не сумняваўся, што калі паўстанне будзе разрастацца, яго аддадуць пад суд за тое, што ён спаліў сяленне

і на гэтым адыграюцца. Таму ён пастараўся гэтыя падзеі падаць у іншым святле, але цяпер усё пайшло прахам. Гунава ні аб чым не мог думаць і праклінаў Мучаідзе ўсімі праклёнамі, якія толькі ведаў.

Апоўдні нехта пабразгаў клямкай у падваротні. Фортка была замкнутай. Заспаная Сцепаніда выглянула з вакна і, адганяючы ад сябе мух, нездаволена сказала:

— Батоно, там нехта з вуліцы стукае... Нейкі чалавек...

— Адчыні!—гаркнуў Гунава.—Я пайду адчыняць? Карова!

Сцепаніда адвалілася ад акна, праз нейкі час выйшла з дому і неўзабаве на двор увайшоў плячысты чалавек з вялікімі абвіслымі вусамі. Убачыўшы Гунава, ён зняў шапку, пакланіўся і паказаў з-пад вусаў два даўгія жоўтыя зубы, што выдаваліся наперад. Шчокі ў яго былі чырвоныя, як намаляваныя, і вёрткія вочкі з хітраватымі жоўтымі зрэнкамі, увесь час смяяліся. Чалавек, відаць, быў вельмі здаволеным, што убачыў Гунава. Асобаатрадчык глядзеў на яго, прыпамінаючы. Яму здавалася, што ён недзе сустракаўся з гэтым чалавекам.

— Ну? Што трэба?—негасцінна спытаў Гунава.—Сёння я не прымаю!

Чалавек яшчэ раз пакланіўся, усё гэтак-жа ўсміхаючыся.

— Хэту Ганарджыя, ваша міласць...—сказаў ён, вымаючы з шапкі нейкую паперу і выпроставаючы яе.—Я па крысе займаюся гандлем, ваша міласць, Спірыдон, як старэйшы, застаўся на зямлі. Мы з ім, ваша міласць, даўно падзяліліся... Хэ-хэ...

Гунава заўважыў, што Хэту Ганарджыя не зусім цвёрда стаіць на нагах.

— Сёння я не прымаю!—паўтарыў Гунава, адварочваючыся.— Прыходзь заўтра ў канцылярыю.

Ён прайшоў па двары да паркану і калі павярнуўся, то ўбачыў, што Хэту Ганарджыя стаіць на тым-жа месцы, трымае паперу ў руках і ўсміхаецца.

— Ну? Што я табе казаў?—зазлавана крыкнуў Гунава.

— Ад брата майго Спірыдона, вельмі важная папера для вашай міласці...

Нахмураны, пакусваючы губы, Гунава падышоў і ўзяў скамечаную паперку. Ён нездаволена аглядзеў шырокі, спісаны буйнымі літарамі ліст, які пачынаўся словамі „яго светласці батоно Гунава“ і канчаўся подпісам „абшчыны Сабокучава стараста Спірыдон Ганарджыя“, затрымаўся поглядам на адным радку, потым прачытаў другі і раптам хмуры яго твар праясней.

— Хо!—сказаў Хэту Ганарджыя.—Хе-хе-хе... Ваша міласць.

Ад яго на ўвесь двор несла цыбуляй і яшчэ нейкай дрэнню, але Гунава гатовы ўжо быў дараваць яму і першае, ён толькі крыху адышоўся ў бок. У лісце, што напісаў стараста Ганарджыя і прывёз ягоны брат, быў ратунак.

„тады вылезшы з ямы, ваша міласць,—пісаў Ганарджыя,—я ўчуў, як гутарылі між сабою Тарыель Кверквелія і Элія Бокучава, які быў тады ўцёк з пограбу, і якога вы загадалі арыштаваць, але я, ваша міласць, без войска баюся. Яны ўгаварваліся, што

Бокучава будзе ў сяленні і калі яму спатрэбіцца бачыць гэтых разбойнікаў, што забыўшыся на бога і не саромячыся людзей, ваша міласць...

Гунава пакінуў два радкі.

„ ... то ён, азначаны Эліа Бокучава, будзе паліць агонь на ўзгор'і Нам-Дэві і яны тады ўначы агонь убачыўшы, прыдуць да яго. Узгор'е Нам-Дэві, ваша міласць, кэб ведалі, гэта будзе гара па правую руку, як толькі з'язджаць з лесу да нашай грэблі. На ёй расце высокая ліпа з таўстым, крывым сукам нізка ад зямлі. А яшчэ я чуў, як яны гаварылі, што ў вас стрэліў Топурыя, той самы Топурыя, стары нягоднік і валацуга, якога вашы салдацікі злавілі ў нас на агародах у той дзень, калі ў нашым сяленні, з божай волі, пажар здарыўся. Цяпер я думаю, што можа вы хворыя, ваша міласць...“

У Гунава пачала торгацца шчака. Ён яшчэ раз прачытаў: То-пу-рыя. Той самы стары, з худым гарбаносым, смуглым тварам, у шырокім капялюшы, з клінаватай сівой бародкай. У момант, як жывы паўстаў ён перад Гунава, і як тады, на допыце, у ягоных задуманых і загадкавых вачах было пакорнае: „не ведаю, батоно“.

„ ... а яшчэ, ваша міласць, дакладваю вам, што яны, значыцца, усё наша сяленне так, як вы загадалі, рабіць не хочуць, нядоімкі аплачваць не будуць і ў павет не паедуць. Як гаварыў Кверквелія, яны думаюць адабраць зямлю ад суседняга з намі памешчыка князя Абхазава ...“

Далей Гунава не чытаў, склаў паперу і ўсунуў яе ў кішэню.

— Х-хэ... ваша міласць, батоно!—сказаў Хэту Ганарджыя, пераступаючы з нагі на нагу. Ён заўважыў пад сталом вядро і ў ім бутэльку.

Гунава, не зважаючы на яго, завярнуўся і пайшоў па двару.

— Так!...—думаў Гунава,—Гара ўнізе парасла арэхоўнікам, я памятаю... Адзін узвод заляжа іменна там, ад лесу. Ад балота паставім два „Льюісы“, па дарозе, у лесе—конны ўзвод. То-пу-рыя! Ты мяне пачаставаў сваім мёдам, цяпер скаштуеш майго!

Гунава дайшоў да паркану і павярнуў назад. Хэту Ганарджыя стаяў пасярэдзіне двара, камячыў у руках шапку і ўсміхаўся.

— Прашу!—Гунава, ідучы да стала, зрабіў шырокі, гасцінны гест і ўсміхнуўся гэтак-жа шырока, як і Хэту. Той, кланяючыся на кожным кроку, падышоў да стала.

— Ваш брат—дастойны чалавек!—сказаў Гунава, наліваючы шклянку.—Тое самае я думаю і аб вас. Сцепаніда!

— Хе-хе, ваша міласць...—здаволена бурчэў Хэту, які разамлеў на сонцы.—Я—бедны чалавек!.. А Спірыдон мне і не зусім родны... Мы не адной маці, ваша міласць...

— Гэта не важна. Беднасць і благароднасць заўсёды ішлі поруч. На жаль, я не магу сам належным чынам узнагародзіць вас...

Усмешка збегла з вясёлага твару Хэту і ён сур'ёзна глянуў на Гунава. Відаць, ён не спадзяваўся, што такі начальнік не можа ўзнагародзіць.

— ... аднак...—гаварыў Гунава, заікаючыся,—такія паслугі...

(Дам яму колькі-небудзь, чорт яго бяры!—вырашыў ён раптам)—такія паслугі,—дакончыў ён,—павінны быць аплочаны, хаця яны і вышэй за грошы. Яны будуць аплочаны са сродкаў дзяржавы, бо вы, паважаны, з братам сваім, зрабілі для дзяржавы, гм...

Гунава не быў красамоўным, калі справа датычылася выдаткаў. Ен моўчкі пасунуў шклянку да Хэту. На ганак вышла Сцепаніда і абыякава паглядзела на гаспадара.

— Прынясі мой партфель, Сцепаніда,—сказаў Гунава.—І што-небудзь закусіць.

Было горача. Сонца стаяла проста над галавой і нідзе не было ніякай засені. Лісце на дрэвах абвяла, воглы душны вецер іншы раз налятаў парывамі і пасля яго было яшчэ больш горача. Хэту Ганарджыя, старанна вырысоўваючы літары, пісаў распіску. Гунава дыктаваў яму, адкінуўшыся на спінку крэсла, назіраў за чырвонымі, дробнымі жучкамі, што поўзалі па шурпатай кары каштану і думаў аб Мучаідзе.

— Дарэмна мазолілі свае сабачыя лапы, паважаны...—думаў Гунава.—Не так лёгка для Гунава яму выкапаць. Мы яшчэ паглядзім, хто атрымае ўзнагароду і хто выляціць са службы...

— Напісаў, батоно!—сказаў Хэту, сквапна аглядаючы пачку пярэстых паперак, што ляжалі на партфелі.—Як пісаць далей?

У гэты момант на дварэ з'явіўся Гамрэкелі.

— Гамарджо, Акакій!—крыкнуў ён, махаючы капелюшом.—У пару прышоў, у цябе госці. Патрымай сабаку, калі ласка.

У гэтую хвіліну Гунава шчыра пашкадаваў, што аўчар стары і прыязна адносіцца да людзей. Гамрэкелі, прыемна ўсміхаючыся, падплыў да стала і ўсеабдымным імгненным поглядам агледзеўшы чырвонашчокага Хэту, і ўсё, што было на стале, прысеў на бераг лаўкі, насупроць Гунава, які адразу-ж сабраў паперы і паклаў іх у партфель, а грошы, адлучыўшы ад пачкі некалькі паперак, схаваў у кішэню. Гэта вышла, як і хацеў таго Гунава, падкрэслена непрыязна. Але Сімон, які зразумеў дэманстрацыю Гунава, зрабіў такі выгляд, што нічога непрыкметнага ў гэтым для сябе не бачыць.

— Аднак-жа і горача...—простадушна сказаў ён, аціраючы лоб абшырнай хусткай.—Ф-фу, божа ты мой!

Гунава маўчаў. Ён ведаў, чаго прышоў Сімон і таму загадзя вырашыў стаць на пазіцыю.

— Сёння рыбакі налавілі многа рыбы,—сказаў Сімон проста для таго, каб што-нібы сказаць.—Габунія прадае адменную кефаль, проста задарма... Пашлі сваю бабу да Габунія, а не дык прыходзь сёння ў духан, я купіў, пачастую.

Гунава маўчаў. Хэту Ганарджыя з кіслай мінай пазіраў на клейкія, замурзаныя паперкі, што засталіся замест пухлай пачкі. Глупства не ўзнагарода, гэтыя ноеўскія боны! Ды і тых начальнік пашкадаваў... За гэтыя грошы дзве курыцы не купіш! Хэту Ганарджыя, які хаця і не ведаў усіх акалічнасцяй справы, але здагадваўся пра яе важнасць і спадзяваўся на багатую ўзнагароду, цяпер страціў сваю весялосць.

— Падпішыце сваё прозвішча,—сказаў Гунава, пасоўваючы да

яго абтрэпаныя боны.—А я з братам з вашым, я потым... Мы з ім потым пабачымся...

Хэту распісаўся, глыбока ўздыхнуў, падаў Гунава паперку, сабраў свае боны і, уздыхнуўшы яшчэ раз, устаў.

— Жадаю ўсяго вам найлепшага, дарагі батоно!—сказаў ён пакрыўджаным голасам і па вачах яго можна было пазнаць, што ён гаворыць няпраўду.—Дай вам бог...

Ён пакланіўся, бровы Гунава прыўзняліся і апалі, што таксама павінна было азначаць паклон. Але тут ўмяшаўся Гамрэкелі.

— На дарогу, на дарогу!..—сказаў ён, з выглядам свойскага ў гэтым доме чалавека, наліваючы ў шклянкі віно,—можа, дарога далёка?.. Як-жа так...

— Ды і не блізка...—пачаў Хэту, кланяючыся.—Так што, калі сказаць, адгэтуль да станцыі...

Але тут Гунава гучна кашлянуў і ўстаў.

— За ваша здароўе і здароўе вашага брата,—сказаў ён, хутка біручы шклянку, якую быў для сябе наліў Сімон,—таксама жадаю здароўя і для вашай сям'і...

Ён адкрыў рот, плёснуў туды віно і паглядзеў на Хэту. Той, спяшаючыся, дапіваў сваю шклянку і, як толькі паставіў яе на стол, Гунава моцна ўзяў яго пад руку сваёй здаровай левай рукой і павёў да варот з такім выглядам, як-бы хацеў яму нешта сказаць па сакрэту. На самай-жа справе ён нічога, не гаворачы, давёў Хэту да варот, лёганька, падштурхнуўшы гасця пад локаць, кланяючыся, выставіў яго на вуліцу, прыемна яму ўсміхнуўся на развітанне і закрыў фортку, гучна бразгануўшы засаўкай.

Сімон нерухома сядзеў за сталом, адчуваючы, што вышла дрэнна. Ён у гэтым упэўніўся, калі ўбачыў Гунава, які звяртаўся ад варот: асобаатрадчык ішоў з пахмурным тварам, грозна звёўшы бровы, пазіраючы сабе пад ногі. Падышоўшы да стала, ён сеў на крэсла, шумна ўздыхнуў, тарграну сябе за вус і люта глянуў на Сімона.

— Брат мой Акакій!—з дакорам сказаў Сімон, вырашыўшы пачынаць першым,—калі ты не хочаш, каб я да цябе прыходзіў, ты можаш мне пра гэта сказаць. Непрыгожа пры чужым чалавеку вырываць у мяне кубак з рук.

У Гунава зноў пачала торгацца шчака. Ён падаўся ўсім тулавам наперад, з нянавісцю пазіраючы ва ўпор, у шырокі Сімонаў твар.

— Ты хто такі?—свісцячым шэптам, з усіх сіл трымаючыся, каб не закрычаць, спытаў Гунава.—Ты хто такі, што будзеш мне мараль чытаць? Ты прыходзіш у мой дом, як у свой уласны, нюхаеш па кутках, як сабака, лезеш усюды, дзе цябе не просяць! Твая справа маім віном чорт ведама каго частаваць? Табе захацелася дазнацца, адкуль гэты чалавек і што яму трэба? Ты ўсё вынюхваеш і выглядаеш? Маўчы! Мне проста дзіва, што дагэтуль не ставала характару прагнаць цябе з двара, чортавы мех з кукурузай! Якая мне справа да цябе, мне, двараніну, афіцэру нацыянальнай гвардыі, начальніку асобага атрада?! Ты жулік, я цябе магу ў турме згнаіць! Я цябе не хачу бачыць за сваім сталом!

— Ва!—зняважліва сказаў Сімон і глянуў на Гунава адкрытым, наглым, затуманеным злосцю поглядам.—Падумаеш! Аддай маіх сто залатых і я цябе не тое што за сталом, у сваім нужніку бачыць не захачу. Аддай сто рублёў і будзь сабе генералам, а не, дык я ў суд...

Гунава моўчкі схапіў партфель і шпурнуў яго ў Сімона, але не трапіў, і партфель, зачапіўшы за бутэльку, рассыпаючы паперы, праляцеў міма. Бутэлька скацілася ў траву. Сімон ускочыў і хацеў выбегчы з-за стала, але паткнуўся на сабаку, той прарэзліва узвізгнуў і Сімон зноў асеў на лаву.

— Ломі!—крычаў тупаючы нагамі ашалелы Гунава.—Ломі! Узяць! Узяць яго!

Ён пінаў сабаку, але той заместа каб узяць, выляцеў з-пад стала і ў два скокі знік у садзе. У вакне з'явілася Сцепаніда з маўклівай цікаўнасцю прыглядаючыся да таго, што рабілася на двары. Але там больш ужо нічога не рабілася. Гунава неяк хутка сціх і сеў на сваё месца, Сімон-жа і раней маўчаў. Яны моўчкі сядзелі адзін супроць другога і Сцепаніда вельмі здзівілася і пашкадавала, што сварка так хутка ўціхла.

— Якія сто рублёў?—шэптам спытаў Гунава, адзін за адным зрываючы гузікі з сваёй кашулі.—Якія сто залатых, рудая ты жаба?

— Тыя, што ты ўзяў ад мяне пад зямлю ў Сагвасаліо,—адказаў Сімон, павольна спушчаючы ногі з лавы.

Гунава адарваў апошні гузік і кінуў у траву. Зрабіў ён гэта, па праўдзе кажучы, дарма, бо ўжо не злаваў і злаваць яму не было чаго. Якія грошы патрабаваў ад яго Сімон, ён ведаў, надта задумвацца, каб прыпомніць, калі ён узяў іх ад Сімона, не выпадала; ведаў ён таксама, што, не гледзячы ні на якія Сімонавы намаганні, грошы застануцца пры ім; Гунава быў не такі чалавек, каб лёгка выпусціць з рук кругленькую суму вагай у сто залатых. Злаваць не было прычыны і прыпадак раздражлівасці Гунава быў папросту вынікам ранішніх перажыванняў. Аднак і гэта прышлося дарэчы: даўно ўжо трэба было даць адпор залішняй Сімонавай нахабнасці; купец, нарэшце, павінен ведаць сваё месца. Гунава, упэўніўшыся, што на Сімона страху ўжо досыць, устаў, пачаў падбіраць свае гузікі і паперы. Сімон, заўважыўшы, што Гунава дрэнна ўпраўляецца адной рукой, вылез з-за стала і дапамог яму.

Гэта быў мірны гест і Гунава прыняў яго даволі паблажліва.

— Вунь там,—сказаў ён,—мне здаецца, яшчэ адзін гузік.

— Дохлы жучок, а не гузік,—адказаў Сімон, зазірнуўшы пад стол.—Гэта бываюць такія круглыя жучкі...

Яны пабралі паперы, Сімон з-за далікатнасці адварочваючы ў бок галаву, склаў іх у парадак і перадаў Гунава.

— Дзякаваць,—суха сказаў Гунава. Ён усё-ж не згаджаўся на хуткі і поўны мір.—Я з-за цябе важныя дакументы ледзьве не пагубляў! Душу ты мне вымеш!

Сімон, які ведаў, што важных дакументаў і блізка няма, і лічыў, што іменна яму ў даным выпадку выймаюць душу, цяжка ўздыхнуў.

— Аддай грошы, Акакій!—сказаў ён пакорліва,—хопіць з цябе і так... Калі мы з табой турэцкі тавар прадалі, ты роўную долю ўзяў, а ў цябе толькі і клопату было, што здабыў парусьнік. А пра шынелі, памятаеш?.. Ты-ж мне проста костку выкінуў, як жабраку, а я за ўсё чыстымі грашыма заплаціў і прыбытак вымеркаваў. Але я табе слова тады не сказаў, маючы цябе за прыяцеля, за друга. З блізкімі людзьмі я сваёй карысці вельмі не трымаюся. І вось ты цяпер мае грошы проста так сабе забраў, бо я табе ўжо казаў, што ад справы адмаўляюся. Праўда, на гэтым я не збяднею і ты не пабагацееш, але-ж тут аб тое ідзе, што грошы мае прападаюць без парадку... І ты мне яшчэ ў твар кідаеш рознымі скуратамі і сабакамі мяне цкуеш...

Сімон быў вельмі пакрыўджаны і гаварыў доўга. Гунава яго не слухаў. Плаксівасць Сімонава лёсу ста залатых змяніць не магла. Акрамя таго Гунава ведаў, што Сімон абгуляў яго і на турэцкім тавары і на шынелях, так што слухаць ягоны лямант было не варта. Адкінуўшыся на спінку крэсла, Гунава пазіраў у замглёнае, гарачае неба і думаў аб тым, што ягоныя справы ўсёткі наладжваюцца. Ён шкадаваў толькі, што паказаў нейкую бабскую запальчывасць: тупаў нагамі і цкаваў Сімона сваім недарэчным сабакам. Трэба было проста вывесці купца за каўнер. Ён заўтра прышоў-бы мірыцца і ні ў якім разе больш не дапамінаўся-б пра грошы.

Нарэшце Сімон заўважыў, што Гунава яго не слухае, і сціх.

— Я табе аддам гэтыя грошы...—задумана пазіраючы ў імглістую далеч неба, сказаў Гунава.—Пазычыў і аддам.

— Ого!—недаверліва ўсміхнуўся Сімон.

— І акрамя таго, ты можаш узяць зямлю. Што я табе—хлапчук? То ён са мной угаварваецца—бяры грошы, то ён адумаецца — аддавай іх назад. Хіба ў мяне банк? Я табе сказаў: зямля ўсё-роўна, што твая, калі патрэбны будуць якія-нібы фармальнасці, я табе дапамагу. Ты мне па ўгавору плоціш пэўную суму. І ўсё. Калі ты сам адмаўляешся ад справы, то задатак прападае, гэта нават і па закону. Я-ж табе сказаў, што лічу грошы як-бы пазычанымі, дык гэтага табе мала? У чым-жа справа? А з рэштай, ідзі да чортавай матары, у мяне і без цябе работы шмат!

Гунава ўстаў, прайшоў наўкола стала і падкінуў наском бота бутэльку. Яна пакацілася па траве.

— Ён мне гаворыць пра нужнікі, а я павінен яму рабіць рэверансы!—чмыхнуў у нос Гунава, зноў набіраючыся злосці.—Я афіцэр, дваранін і палітычны дзеяч, яшчэ раз табе кажу! Ты павінен умець сябе трымаць, хам! Ён мне гаворыць рознае паскудства і спадзяецца на прыдворнае з ім абыходжанне... Калі хочаш ведаць, ты мяне зняважыў!

Ён пайшоў па двары, памахваючы пустым рукавом кашулі. Цяпер Сімон канчаткова пераканаўся, што грошай яму не атрымаць і раптам, як гэта часта з ім бывала пры няўдачах, пакінуў пра гэта думаць. Ён адчуваў сябе так, як-бы што адбалела ў ягоным нутры, адарвалася і сціхла. Сімону стала адразу лягчэй.

— Д'ябал цыбаты!—падумаў ён, пазіраючы ўслед Гунава.—

Што ўжо схопіць, абцугамі ад яго не вырвеш. Так і трэба! А ты не развешвай вушы! З гэткімі людзьмі трэба ўмець жыць. Ай, дурны ты яшчэ, Сімон!

Гунава, зрабіўшы некалькі крокаў, павярнуўся, падышоў і зноў сеў за стол. Ён глянуў на Сімона з-пад ілба, адсунуў ад сябе партфель, абапёрся лакцём на стол і задумаўся аб нечым. Сімон маўчаў. Гунава скосу зноў глянуў на яго і мусіць Сімон выглядаў несамавіта, бо асобаатрадчык спагадліва сказаў:

— Дарма пакутуеш, Сімон... Праз тры дні я арыштую гэтага Коркія, бяры зямлю, хай не прападаюць твае грошы... Дальбог! Я проста здзіўляюся, як гэта ў мяне хапае характару з табой цацкацца!

Сімон крыва ўхмыльнуўся.

— Ты мяне ўгаварваеш схадзіць у госці да інспектара?—спытаў ён.—Вунь ты, ваенны чалавек, паехаў, дык за зброяй і штаноў не было відаць, а назад прыехаў без рукі.

Гунава паморшчыўся, але стрымаў сябе, толькі моцна, некалькі разоў пастукаў па стале.

— Ты не падумай, што я насміхаюся!—спяшаючыся дадаў Сімон, каб зноў не папсаваць гутаркі,—не падумай, што ты! Не дай бог! Я толькі сказаў, што калі цябе, ваеннага чалавека, які і зброю мае і як з яе стрэліць ведае, і то паранілі, то што-ж са мной будзе? Чым я адбаранюся ад іх? Кіем, што буйвала паганяюць? Вось што я хацеў сказаць, брат Акакій, а калі вышла на кпіны падобна, то гэта ў мяне такі ўжо язык. На гэтым выбачай!

— Ну, досыць на сёння, паважаны сусед!—суха сказаў Гунава.— У мяне шмат работы. Я табе раіў-бы ад зямлі ўсё-ткі не адмаўляцца, а ты сабе рабі, як хочаш. Бунтаў баяцца не варта, праз тыдзень там будзе райскі спакой. Аднак, як хочаш, гэта мяне мала абыходзіць.

— Я зайду можа, заўтра...—заклапочана сказаў Сімон, ідучы побач з Гунава да варот,—што ты думаеш, калі там будзе ўсё спакойна... А можа, ты да мяне ў духан прыдзеш? Заходзь, брат Акакій, пагутарым... Дарэмна пасварыліся... Чорт ведае, у гэтым жыцці не заўсёды і здагадаешся як ступіць...

— Добра, потым згаворымся...—адказаў Гунава, думаючы пра сваё.

Правёўшы Сімона, ён зноў пачаў хадзіць па двары. Ён хадзіў і насвістваў марш. Вецер сціх, у паветры сустойваўся густы пах звялых траў, у садзе нудна стракаталі конікі.

## II

Унізе, у даліне глуха шумеў ручай. Там была ўжо засень, адтуль пацягвала вільготным халадком блізкай начы. Стоячы на ўскраі вышчэрбленай вятрамі скалы, Міхаіл Ганарджыя не мог ужо бачыць дарогі, якая ішла па дне даліны па той бок ручая. На спадах лясістых узгор'яў усё больш гусцелі цені, на вяршалінах блізкіх і дальніх гор ніклі праменныя фарбы захаду. Гулкая цішыня сыходзіла ў горныя лясы і шум патоку раптам наблізіўся і стаў

выразным. Цмяныя адценні святла яшчэ насіліся ў паветры, яшчэ жылі тут, на вышыні, але неўзабаве зніклі і яны і толькі зара некаторы час яшчэ тлела на грэбнях гор, на самым ускраі неба. Ноч уладарная запаланіла горы і лясы.

Міхаіл закінуў вінтоўку за плячо. Пры гэтым ён зачапіў рукавом за калючае галлё шыпшыны, якой поўна была тут, у гарах, і абшарпаў руку. Сабака, які ляжаў ля ног Міхаіла, узняўся, пазяхнуў з працяглым узвізгам і раптам зарычаў. Міхаіл пхнуў яго нагой. Угары, у кустах пачуўся шолах, міма з грукатам пракаціўся камень, звонка шчоўкнуў аб другі, яны сарваліся з абрыва і рэха прынесла з даліны звонкі лёскат. Сабака забрахаў і скочыў наперад. Міхаілу здалося, што дзесяткі сабак брэшуць у гарах навокал, такім гулкім было рэха.

— Цішэй, пракляты!—пачуў Міхаіл голас Тарыэла.—Ты дзе, Міха?

— Тут я... Ідзі направа, а то ўлезеш у муравейнік.

— На камені ўзбіўся...—гаварыў Тарыэл, набліжаючыся.— Як-бы іх знарок хто ў кусты панапхаў. А сабаку, з сабой, усёткі браць не трэба, Міхаіл... Пайшоў прэч, нячыстае горла, яшчэ пад ногі лезе!

Тарыэл падышоў і стаў побач з Міхаілам, разглядаючыся.

— Цёмна,—сказаў ён,—не дзіва і галаву ў гарах у гэтых скруціць.

— А вось толькі пяць крокаў наперад...—адказаў Міхаіл.—Усяго будзе досыць...

— Нікога не бачыў на дарозе?—спытаў Тарыэл.

— Надвечар толькі сяляне праехалі нейкія... Карову вялі...

Тарыэл нічога не адказаў. У цемры мільгалі бледныя агеньчыкі светлякоў. Сабака мяккім комам лёг пад ногі Міхаілу.

— Я прышоў пагаварыць з табой, Міха,—сказаў Тарыэл пачакаўшы,—трэба нам неяк усё гэта абдумаць... Сядзем тут вось, на камені...

Ён нахіліўся, абмацваючы рукой скалу. Пад пальцамі хрустка крышыўся дробны, сухі мох.

— Цёплыя камені пасля дню...—сказаў Тарыэл.—Э, браце, тут-жа зусім выгадна! Сядай побач са мной.

Міхаіл сеў. Скала сапраўды была цёплай. Ад нагрэтых каменняў, ад сухіх траў узнімаўся церпкі нейкі пыльны пах. Міхаіл закашляўся.

— Нам трэба з табой падумаць аб тым, што рабіць далей,— праз некаторы час пачаў гаварыць Тарыэл.—Мы з табой старэйшыя ад усіх тут... Мяне нашы людзі, ты сам ведаеш, прызналі як-бы за начальніка, я-ж цябе, Міхаіл, і па гадах і па розуме, сам старэйшым прызнаю. Мы з табой павінны мець адзіную думку і загадзя ведаць, што і як у кожнай патрэбе рабіць. Вось я і прышоў, каб пагутарыць з табой і параіцца...

Міхаіл пачаў кашляць зноў. Ужо трэці дзень ён адчуваў сябе дрэнна, асабліва пасля захаду сонца, калі цяплыня дню змянялася вільгаццю і туманамі начы.

— Кажы, Тарыэл,—сказаў ён,—што-ж, і сапраўды можа нешта прыдумаем.

— Першае, што зрабіць трэба,—сказаў Тарыэл,—гэта паставіць усе нашы справы на вайсковы строй. Калі мы будзем трымацца як авечае стада, нас пабяруць голымі рукамі. Супроць нас вялікае можа быць паслана войска. Мы павінны мець сябе за вайсковую каманду, слухаць выбранага начальніка, усё павінна ісці на вайсковы лад. Якія ў нас цяпер парадкі? Вось якія... Арчыл Сідава прападаў цэлы дзень і ніхто не ведаў, дзе ён падзеўся. Прышоў толькі пад вечар, і аказваецца, ён хадзіў на грэблю і чакаў,- можа сустрэне каго з сялення.. Яму хацелася дазнацца пра жонку! Оція пільнаваў дарогу па той бок даліны і не ўтрымаўся, каб не стрэліць, калі на яго трапіла дзікая каза. Ну, добра, што Арчыл нікога на сустрэў, а Оція забіў казу і ніхто, відаць, ягонага стрэлу не чуў! А што было-б, каб паблізу аказаліся салдаты?! Дык вось, Міхаіл, паставім цяпер такі парадак: ніводзін без майго ці тваёго дазволу не павінен ступіць кроку. Каму пільна да жонкі няхай зараз-жа, сёння-ж, ідзе прэч! Патроны кожнаму трэба выдаць пад лік, як на фронце, а запас трэба схаваць у пэўным месцы, пра якое будзем ведаць толькі мы з табой!.. У нас блізка пяць сотняў патронаў і не варта усе іх трымаць на руках...

— Гэта добра,—сказаў Міхаіл.

— А цяпер нам трэба падумаць і пра зброю. Ніхто з нас не ўмее разабраць затвору, бо гэта не такія вінтоўкі, з якімі мы ваявалі пад Саракамышам. Я сказаў, каб ніхто не браўся пакуль што за гэта, бо калі не складзеш затвор нанова, то стрэльбу трэба выкінуць за плот. Зноў-жа, за плот яе трэба выкінуць, калі месяц насіць, ні разу не пачысціўшы затвору. Да таго-ж і змазваць зброю ў нас няма чым. Дык вось, што мы зробім: калі заўтра ўсё будзе ціха, мы з табой паспрабуем саўладаць з затворам, а Мітрафан Бокучава абяцаў зварыць такое масла, што будзе здатна для змазкі.

— І гэта добра,—сказаў Міхаіл.

З кожнай хвілінай яму рабілася горш. Кроў як-бы астыгла ў жылах, галаву ахінала гарачыня, у горле было суха, паліла смага і сэрца стукала рэзкімі, балючымі штуршкамі. Часам яму здавалася, што ён адзін сядзіць тут, на горным узвышшы, а Тарыэл гаворыць да яго аднекуль вельмі здалёку. Гэта быў прыступ ліхарадкі, даўняй хваробы Міхаіла.

— З усім гэтым я неяк сам разабраўся,—гаварыў Тарыэл,—але з астатнім, відаць, з адной маёй галавой рады не дасі. Я не магу прыдумаць, брат Міхаіл, што нам рабіць далей. Вось, мы ўсталюем вайсковы парадак, будзем як вайсковая каманда, але-ж усё роўна мы будзем чуць кожную раніцу, як у Сабокучаво пяюць пеўні, а ад гэтага, сам ведаеш, на сэрцы дрэнна робіцца!.. Ісці нам няма куды... Пайсці ў маёнтак Абхазава—там адной варты ў два разы больш, чымся нас. Ісці ў сяленні, збіраць войска,—зноў такі нас мала, у кожным сяленні Гунава, ці хто іншы паставіць нам пастку і мы ўсе прападзем, як мухі. Ды і сказаць па праўдзе—слабая надзея, што мы такім спосабам збярэм войска! Не вельмі ахвочы наш чалавек, так сабе адразу пакінуць хату і ісці з голай жменяй ваяваць супроць нажа! Гэта ён тады пойдзе, калі спаляць ягоную хату і дзяцей па свеце паразганяюць! А да тае пары, ён будзе галадаваць,

і енчыць, і чакаць на лепшае!.. Дык вось, я і думаю, брат Міхаіл што-ж нам рабіць? Сядзець на гэтай гары нам доўга няма чаго. Ніхто гэтага не вытрымае. Ісці куды-небудзь—я не ведаю, куды, і што там рабіць... Ох, Міхаіл, не так гэта лёгка аказваецца, падняць народ!

Тарыэл змоўк і задумаўся. Перамагаючы адрантвенне і холад крыві, Міхаіл Ганарджыя павольна выпрастаў тулава, упіраючыся ў калені адеклымі, налітымі млявай слабасцю рукамі. У вушах шумела так, нібы вецер выў у гарах у гэтую хвіліну; перад вачыма плылі кругі, зямля цягнула да сябе знямоганае цела Міхаіла. Ён чуў усё, што гаварыў Тарыэл і разумеў, што патрэбна адказаць яму зараз-жа, каб падтрымаць гэтага адважнага і рашучага чалавека, ад якога залежыць амаль усё. Міхаіл Ганарджыя ведаў, што гаварыць і ён сказаў гучна, каб самому пачуць свой голас.

— Не варта траціць добрага гумору, Тарыэл... Чалавек, акрамя таго, што ён дужы і смелы, павінен быць яшчэ і разважным... Іначай, ён не выглядае на дарослага мужчыну... Вось што я скажу табе, Тарыэл: ты дарэмна думаў, што так лёгка ўзняць народ! Ты вельмі добра гаварыў на могілках, аднак-жа ніхто не прышоў да нас, як бачыш?! Ты дарэмна думаў, што мы з табой узнімем і павядзем народ!.. Э, не, Тарыэл!.. Гэта нам не па сіле! Ты проста па-дзіцячаму думаў, Тарыэл!..

У гэты момант цяжкая заслона, што была між істотай Міхаіла і светам, сарвалася. Ён зноў пачуў гукі зямлі: лёгкі шум начнога ветру, шэлест дрэў, адчуў пахі траў, убачыў бледныя агеньчыкі светлякоў і блізка ад сябе—схіленую постаць Тарыэла. Ён змоўк, бо вельмі гучным выдаўся яму ўласны голас. І сапраўды, ён амаль што выкрыкнуў гэтыя словы. Пачакаўшы, Міхаіл гаварыў звычайным тонам, спяшаючыся, каб паспець сказаць усё, што трэба да тае пары, пакуль зноў сцісне ягонае сэрца лютая неадступная „ужмуры“.

— Ты залішне падумаў пра сябе Тарыэл, вось што... Мы звычайныя людзі, такім на свеце ліку няма. Паасобку мы мала чаго варты, але калі-б мы пайшлі ўсе разам—ніякая на свеце сіла не здужала-б нас. Хто павінен усіх нас сабраць, як ты думаеш?.. Хто можа мець такую галаву, каб сабраць тысячы людзей і павесці іх куды трэба? А? Вось ты, сабраў паўтары дзесяткі чалавек, і не ведаеш, што з імі рабіць! Дык як-жа ты народ узнімеш, Тарыэл?.. Я табе скажу, хто нас збярэ і павядзе. Гэта—большэвікі. Іх—цэлая партыя! Партыя, гэта азначае ўсёроўна як войска... На чале стаіць выбраны ўсімі камандзір. Яго слухаюць другія малодшыя камандзіры, а кожны салдат з гэтага войска, Тарыэл, смела можа камандаваць не дзесяткам, а сотняй такіх, як мы з табой. Вось якія гэта людзі, Тарыэл... Гэта ўсё ў большасці рабочы народ. І яны ўжо, калі бяруць стрэльбу ў рукі, то не слухаюць пеўняў і на жончын ложак не азіраюцца. Я-б табе расказаў, Тарыэл, пра адну гісторыю, якой быў сведкам, калі працаваў у Сураханах пад Баку, яшчэ ў сёмым годзе, але пра гэта потым... Я чую, што зноў да мяне падступае прыпадак... І я табе скажу толькі—дарэмна Тарыэл ты падумаў, што мы з табою павя-

дзем народ! Для гэтага трэба розум і сіла тысяч людзей, нязмерная сіла розуму, вялікі розум...

Міхаіл закашляўся, стараючыся лепш захінуцца ў світку. Тарыэл моўчкі дапамог яму. Міхаіл дрыжэў, яго пачынала трэсці.

— Я ведаю пра большэвікоў...—сказаў Тарыэл.—Але, я не ведаю, як ім даць вестку пра нас! Яны-ж у Расіі... Як яны нам дапамогуць?!

— Яны тут!..—задыхаючыся ад холаду, прашаптаў Міхаіл.—Яны тут!.. І яны, пабачыш, знойдуць нас і дапамогуць нам. А можа, я пайду ў Згудзідзі... каб даць ім вестку... У мяне ёсць там знаёмы чалавек... ён мяне прывядзе куды трэба і я буду гаварыць з ім... Яны тут, Тарыэл! Яны збіраюць народ... І мы пойдзем з імі... Іначай—загінем!..

Яны маўчалі. Тарыэл зняў з сябе світку, накрыў ёю плечы Міхаіла і сядзеў задуманы. Густая цемра залівала усё навокал, агні светлякоў сталі больш яснымі. У даліне глуха шумеў ручай. Праглядалі і гаслі зоры—неба было ў туманнай імгле. Было ціха, маўчалі ў гэтую ноч совы і шакалы.

— Можа, пойдзем да агню, Міхаіл?—спытаў Тарыэл.—Можа там будзе табе лепш, бедны чалавек!.. Міхаіл не адказаў. Тарыэл думаў, углядаючыся ў цемру. Так прайшло некалькі часу. Потым угары, у кустах пачуўся шолах, пасыпаліся ўніз дробныя камешкі. Тарыэл хутка нахіліўся і вобмацкам схапіў сабаку за карак. З гары асцярожна паклікалі.

— Ты тут, Тарыэл?

Тарыэл пазнаў голас Арчыла і адказаў яму.

— Топурыя прышоў!—сказаў Арчыл.—І прывёў нейкага чалавека.

—... а вы будзеце тут, пакуль я схаджу...—шаптаў Міхаіл, як-бы прадоўжваючы размову з Тарыэлам.—Вы пільнуйце дарогу ў Сабокучаво...

— Дапамажы мне, Арчыл!—сказаў Тарыэл, бяручы пад руку Ганарджыя.—Міхаіл захварэў...

— Мне ўжо добра...—сказаў Міхаіл, нібы прасынаючыся.—Я сам пайду.

Але самому яму існі было дрэнна і мінуў ладны час, пакуль яны, узнімаючыся ўгару, прабіраючыся праз калючы гушчар шыпшыны і спавітай дзікім вінаградам алычы, спатыкаючыся ўпоцемках, падышлі да паляны. Тут, пад старым, разветлым букам, гарэў агонь, рухаліся цёмныя сілуэты людзей. Тарыэл убачыў Топурыя, які стаяў пад дрэвам, побач з нейкім высокім, худым чалавекам. На крывым суку, што звісаў да зямлі, над галавой Тапурыя, сохла бурая казіная скурка. Жорсткае лісце старога бука выдавалася ў святле лёгкім, празрыстым. Паблісквала зброя, чуліся ажыўленыя галасы. Па асветленай паляне пралятаді цені. Навокал хмуры і цёмны, стаяў маўклівы лес.

Калі сабака дабег да агню, усе, хто там быў, пачалі углядацца ў цемру. Неўзабаве Тарыэл з Арчылам, вядучы пад рукі амаль няпрытомнага Ганарджыя, ўвайшлі ў кола святла. Цемра засталася ззаду, як чорныя дзверы ў небяспечны свет. Тарыэл дапамог

Міхаілу легчы ля агню і потым падышоў да Топурыя. У высокім худым чалавеку, які стаяў побач са старым, Тарыэл пазнаў аднарукага Міха Коркія. Яны прывіталіся. Гоман ля агню ўціх і Тарыэл заўважыў зацікаўленыя погляды сваіх таварышоў. Відаць, не ўсе з іх ведалі Міха Коркія, а тыя, хто ведаў, хацелі хутчэй даznацца, чаму ён прышоў да іх.

Топурыя глянуў на Тарыэла, на зняможанага Ганарджыя, што ляжаў пры агні з закрытымі вачыма, затрымаўся поглядам на Міха і па гэтым Тарыэл пазнаў, што стары вагаецца: гаварыць ці не.

— Ну, якія ў цябе навіны, Топурыя?—спытаў Тарыэл, адказваючы гэтым на маўклівае запытанне старога.—Бачу я, ты нам новага воіна прывёў? А ці гэта наш госць? Усё роўна, мы рады. Сядайце, мае дарагія, хаця вось тут, дзе святлей...

Ён прымусіў абодвух сесці пры агні, а сам сеў насупроць іх, на таўстым магутным корані, што выпінаўся з зямлі. Оція Гвічыя, які выстругваў ражны, намерваючыся смажыць свой паляўнічы трафей, пакінуў работу і прымасціўся побач з гасцём. Міхаіл прыўзняўся на локці, з намаганнем узнімаючы абпякараныя павекі. Астатнія паселі хто дзе мог. Тарыэл аглядзеў іх. Оція, якога ён раней вылаяў за стрэл, адвярнуўся ў бок. Ён ганарыўся сваёй здабычай і злаваў на Тарыэла.

— А дзе Мітрафан?—спытаў Тарыэл.

— Пільнуе Нам-Дэві...—адказаў Арчыл з-за вогнішча.

— Можа падыдзе сёння Эліа, — дадаў Сандро Бачылава, бяручы галавешку з агню.

Тарыэл павярнуўся да Топурыя. Але стары загаварыў не адразу. Яму як-бы цяжка было пачаць гаварыць, ён як-бы падшукваў словы. І таму, тое, што ён сказаў, адразу набыло падкрэслена трывожную значнасць.

— У Сагвасаліо прыехаў вялікі атрад, дарагія мае...—сказаў Топурыя.—Можа гэта цэлы полк, я не ведаю, як гэта называецца. Яны патравілі коньмі лугі каля сялення. Але не гэта бяда, як і не бяда, што яны раскідалі маю хату. Яны забралі з сабой, павялі ў турму Арцёма Коркія, бацьку вось гэтага маладога чалавека...

На момант ўсе глянулі на Міха і ён нікому не выдаўся маладым. На яго худым твары ляжалі цені, падкрэсліваючы маршчыны, запалыя глыбока вочы блішчэлі нездаровым бляскам. Ён схіліў галаву, рука яго шукала нешта на зямлі, знайшла сухую галінку і расцярушыла яе.

— Гэтым атрадам камандуе пракляты сабака Гунава, дарагія мае сябры!—сказаў Топурыя, узнімаючы галаву.—Памылілася мая старая рука, помста абмінула яго і ён застаўся жыць на гора людзям. Ён носіць сваю шакаллю лапу перавязанай, але ягонае звярынае сэрца засталося цэлым, вось наша гора!

Усе моўчкі пераглянуліся. Сандро Бачылава прыўзняўся, устрывожана глянуў у цемру і зноў сеў. Ясна гарэў сухі хвораст, асыпаючы ў шэры попел хрусткія вугаллі, напоўненыя жывой чырванню агню. Стала ціха.

— Дзе яны цяпер?—спытаў Тарыэл.

— Засталіся ў Сагвасаліо... Мы прышлі, каб сказаць вам. Усе

яны конныя і мы здолелі-б забегчы ім наперад. У іх ёсць вучоныя сабакі...

— Яны ледзьве не злавілі на агародах Топурыя,—сказаў Міха.—Я хаваўся ў кукурузе і бачыў як ён уцякаў у балота. Салдат зваліўся з каня, бо конь спатыкнуўся аб пляцень на Макаравым агародзе. Я пабег следам і знайшоў Топурыя. Іхнія сабакі не пайшлі ў балота і самі яны на гэта не адважыліся. Потым, надвечар, хлапчукі нам сказалі, што бацьку майго салдаты пагналі па дарозе, а ў нашай хаце п'янствуе начальства... Там сястра Кетэ... О гора!

Міха закрыў твар рукой.

— Не варта!—сурова сказаў Тарыэл.—Калі ты прышоў да нас, і думаеш з намі застацца, трымайся як след! Мы ваюем, Міха, у нас нельга плакаць!..

Міха хутка адняў руку ад твару і глянуў на Тарыэла. І раптам ён спрытна і лёгка ўскочыў на ногі.

— Тарыэл!—ускрыкнуў ён, прыціскаючы руку да грудзей.—Я баязлівец?.. Я?.. Там бацька мой!.. Там сястра!.. Прагані мяне, Тарыэл, у мяне сэрца рвецца з грудзей... Але не папракай у слабасці, прашу цябе! У мяне хопіць сілы перагрызці ім горла, я табе кажу!

Ён зрабіў крок наперад і ступіў у цёплы попел, на спаленую траву. Усе глядзелі на яго, вельмі тонкага і высокага, з нязграбна прышпіленым да боку шырокім пустым рукавом і кожны хаваў вочы, калі сустракаўся з ягоным непрытомным поглядам. Але так цягнулася нядоўга. Сандро Бачылава прыўзняўся яшчэ раз, прыслухаўся і папярэджваючы ўзняў руку.

— Нехта ідзе па лесе...—занепакоена сказаў ён.

І тады ўзняліся на ногі ўсе як адзін, нават Міхаіл Ганарджыя ўстаў, з высіленнем апіраючыся на вінтоўку.

— Адыйсці ад агню!—загадаў Тарыэл.—Топурыя і Міха, станьце за дрэва.

Сціскаючы ў руках зброю, гурток людзей чакаў, трывожна слухаючы, што дзеецца ў лесе. Але ніхто нічога не чуў. У лесе было ціха. Сандро Бачылава, схіліўшы галаву, стаяў побач з Тарыэлам. Толькі ён чуў далёкі, прыглушаны шэлест крокаў у лесе.

— Нехта адзін ідзе,—сказаў ён нарэшце.

— Няйначай Мітрафан...—прашаптаў Гвічыя.

Гэта і быў Мітрафан. Неўзабаве сабака пачуў свайго гаспадара і, віхляючы хвастом, павізгваючы скочыў ад агню і знік у цемры.

— Мітрафан!—пераканана сказаў Сандро.

— Нікуды не варта гэткая работа!—падумаў нездаволены Тарыэл.—Сядзімо пры агні, як падарожныя старцы. Трэба ставіць паставых...

Яго суцешыла толькі тое, што людзі не паверылі бесклапотна добраму слыху Сандро, стаялі пільныя і насцярожаныя воддалі ад агню да тае пары, пакуль Мітрафан не ўвайшоў ў кола святла. Мітрафана сустрэлі ажыўленым гоманам. Цяжкая цішыня, што прыціскала людзей пасля размовы з Міха і Топурыя, развеялася

і настрой змяніўся. Але і гэта было не надоўга, бо гэта была неспакойная ноч, у якую нават совы і шакалы маўчалі.

— На Нам-Дэві агонь!—коратка сказаў Мітрафан Бокучава, падышоўшы да агню і аціраючы рукавом свой спатнелы, касцісты, падобны да птушынага, твар.—Нядаўна яго запалілі, я адразу пайшоў сюды, як толькі ўбачыў.

І зноў усе прыціхлі.

— Напэўна Эліа...—сказаў маўклівы Гунія.—Больш няма каму.

Нехта паторгаў Тарыэла за рукаў. Гэта быў Топурыя. Тарыэл пайшоў за ім.

— Ты слухай мяне, Тарыэл...—зашаптаў Топурыя, калі яны адышліся ў цень.—Нам трэба ўсім пайсці адгэтуль. Не варта сядзець пры ясным агні, хаця-б сабе і ў лесе. Эліа нездарма сёння запаліў агонь на Нам-Дэві... Мусіць Гунава блізка са сваім атрадам. Можа яны праехалі дарогай міма нас, пакуль мы тут раскашуем. З даліны яны не маглі нашага агню ўбачыць?

— Дзе там!..

— Ну, дык вось што мы зробім: я пайду зараз туды адзін, а вы паціху збірайцеся за мной... Чакайце мяне на спадзе гары. Я сыйду ў даліну і ад балота ўзнімуся на Нам-Дэві. Я навылёт ведаю кожную сцежку ў арэхаўніку і прайду добра, хаця-б салдаты і блізка былі.

Тарыэл азірнуўся на вогнішча. Там паціху гутарылі аб нечым сабраўшыся ў кола.

Акрамя Топурыя ісці не было каму: ноч была цёмная, на Нам-Дэві крутыя і заблытаныя сцежкі, у падножжы непранікнены гушчар...

— Нельга марудзіць!..—сказаў нецярпліва Топурыя.—Калі мы на кожнай гары будзем паліць агонь, нас адразу знойдуць. Зараз я прывяду Эліа...

— Ну, дык ідзі, Топурыя...—адказаў Тарыэл.—Толькі прашу цябе будзь асцярожным...

Топурыя моўчкі дакрануўся да пляча Тарыэла і зараз-жа яго маленькая постаць знікла ў цемры. Толькі цяпер Тарыэл успомніў, што ў старога няма зброі. Відаць, ягоная стрэльба засталася ў хаце і яе ўзялі салдаты.

— Топурыя!—паклікаў Тарыэл.

Але Топурыя не адказаў.

Тарыэл пайшоў да агню. Оція на гэты раз не давялося скаштаваць дзічыны. Праз хвіліну вогнішча было раскідана, чадныя галоўні шыпелі ў траве, цмяны змрок ахінуў паляну. Людзі моўчкі збіраліся ў дарогу і яшчэ праз хвіліну каманда Тарыэла, як называў ён цяпер сваіх аднасельцаў, ішла па лесе ланцужком.

Была страшная цемра і вочы людзей пасля агню не маглі прывыкнуць да яе. Тарыэл, ідучы паперадзе, на кожным кроку чуў, як спатыкаюцца людзі, чапляюцца за галлё, сутыкаюцца адзін з другім, але не спыняўся і не папярэджваў неасцярожных; ён ведаў, што чалавек бездапаможны ў гэтай сібернай цемры. У яго самога садніла шчака пасля таго, як ён быў увяз у калючым кусце і балела калена ад таго, што ён наляцеў на скалу. Стала яшчэ

горш, калі пачаўся камяністы спад гары, зарослы нізкімі і густымі кустамі. Прайшоў ладны час, пакуль круты схіл скончыўся. Яны ўзышлі на адлогую паляну і ўбачылі агонь на Нам-Дэві.

Там, у глыбокай цемры гэтай начы, яснай зоркай свяціў маленькі агоньчык.

У гэты час Топурыя перайшоў ужо даліну і пачаў узнімацца на Нам-Дэві. Ён павольна ішоў угору, угадваючы крутыя завароты сцежкі, вытаптанай вяпрамі. Толькі жвір і дробныя камешкі ледзь чутна паскрыпвалі пад лёгкай нагой Топурыя. Рукой ён асцярожна адводзіў ад сябе шыроколістае галлё арэхаўніку і калі ўсё-ж не ўсцярогся і ступіў на сухую галінку і тонкі трэск прагучэў у мёртвай цішы, Топурыя доўга стаяў на месцы і напружана слухаў. Потым ён ішоў далей.

Нам-Дэві—месца злога духа Дэві, адно з узгор'яў на граніцы балот, здаўна карысталася дрэннай славай у народзе. Велізарная ліпа на ўзвышшы, на выпаленай сонцам, высушанай вятрамі паляне, мела на сябе адзнакі старадаўных ахвяр у гонар духа балот і гор, і гэтыя шматлікія засечкі, цвікі, увагнаныя глыбока ў дрэва і ўрослыя ў яго, цяпер разглядаліся як сляды кіпцюроў і самыя кіпцюры нячыстай сілы. Людзі стараліся абмінуць Нам-Деві і таму, нават у падножжы ўзгор'я, у высокай траве лугоў не было ніякіх сцежак апрача звярыных троп. Амаль што адзін Топурыя ўдзень і ўначы бязбоязна хадзіў на Нам-Дэві, дзе быў прытулак шматлікай дзічыны. І вось у каторы ўжо раз узыходзіць ён на ўзгор'е, але ўпершыню так трывожна ў яго на сэрцы.

Зараслі скончыліся, сухая трава шалясцела пад асцярожнай нагой Топурыя. Перад ім узвышаўся голы, чорны курган Нам-Дэві і на ім цёмны сілуэт дрэва, цмяна асветлены вогнішчам. Топурыя ішоў павольна і вогнішча, адценне якога ён бачыў спачатку, паступова набліжалася. Топурыя абышоў куст алычы, што рос на самай ужо вяршаліне ўзгор'я і ўбачыў ля агню Эліа Бокучава. Топурыя пастаяў, прыглядаючыся. Эліа сядзеў бокам да яго, захінуўшыся ў світку, насунуўшы на лоб капялюш, аб нечым думаў. Дагараючыя галоўні курылі дымам, чырвоны бляск агню цмяна дрыжэў у паветры. Эліа акружала ноч, дрымотны спакой, цішыня...

Небяспекі не было.

Топурыя вышаў з-за куста і накіраваўся да вогнішча. Пачуўшы яго крокі, Эліа ўздрыгнуў і азірнуўся.

— Эліа!..—узрадавана паклікаў Топурыя.

І тады здарылася незразумелае і страшнае. Эліа раптам адкінуўся на спіну і пакаціўся па зямлі. Світка звалілася з яго плеч і Топурыя ўбачыў, што тулава Эліа абкручана вяроўкамі і рот ягоны увязаны хусткай. Нечы чорны імклівы цень прамільгнуў у кустах, пачулася рычанне сабакі, Топурыя адступіў назад, хапаючыся за нож азірнуўся і ў гэты момант з-за дрэва выбеглі трох з узнятымі вінтоўкамі.

— У-ця-кай-це!—крыкнуў Топурыя на ўвесь голас, у ва ўсёй сіле адчуваючы ў гэтую хвіліну, што азначае страх.—О-о-о-у! Кверкве-э-элія!

Моцны ўдар збіў яго з ног. Але распачлівы крык Топурыя падхапіла рэха. Яно пранеслася над далінай, паўтарылася у лясах і Кверкелія з таварышамі на спадзе суседняга ўзгор'я ўчулі:

— ... У-ця-ка-а-айце!.. Кве-э-элія!

Агонь на Нам-Дэві заміргаў, яго засланілі. Потым ён зноў праглянуў спакойнай, яснай зоркай у цемрадзі гэтай страшнай начы. Кверквелія ўстаў захалануўшы ад трывогі і хвалявання

— Тарыэл!—ціха ўсклікнуў нехта поблізу.—Гэта Топурыя!

— Маўчаць!—гучным шэптам сказаў Тарыэл.—Маўчаць, хто галавы шкадуе!

Пятнаццаць чалавек, ахопленыя жудам, нерухома і моўчкі стаялі на адлогай паляне, напружана прыслухоўваючыся, углядаючыся ў цемру, дзе трапяткой, яснай зоркай свяціў здалёку агоньчык на Нам-Дэві. Ён зноў быў спакойны і ясны, як-бы не было злавеснага крыку Топурыя, як-бы не дзеялася там, у змроку, на панурым узгор'і нешта незразумелае і страшнае.

Павеяў вецер, прашумелі дрэвы, агеньчык мільгнуў, знік і з'явіўся зноў. Тарыэл чуў блізка ад сябе перарывістае, усхваляванае дыханне людзей. Не адрываючыся глядзеў ён наперад. Неўзабаве хтосьці тарганўў яго за рукаў. Па голасу ён пазнаў Мітрафана Бокучава.

— Я вазьму сабаку...—шэптам сказаў Мітрафан,—падыду асцярожна, паслухаю... Божа мой, Топурыя загіне...

— І я разам...—азваўся нехта побач... Мы пойдзем трох: Гвічыя, Мітрафан і я...

Мітрафан трымаў Кверквелія за рукаў, нецярпліва торгаючы, чакаючы адказу. Ён вельмі здзівіўся, калі дужая рука Тарыэла да болю, аж захрусцелі пальцы, сціснула ягоную кісць.

— Яшчэ адно слова!—пагрозна зашаптаў Тарыэл.—Яшчэ адно слова, чортавыя вы, саплівыя бабы! Я вам сказаў—маўчаць! Я вам сказаў—слухаць каманду! Ніводнага кроку без майго загаду! Чулі? Маўчаць, кажу я вам!

І ён з сілай адкінуў прэч руку Мітрафана Бокучава. Той здзіўлена, але зусім не абражаны, асцярожна адсунуўся ў бок ад Тарыэла.

— Трымай сабаку, Мітрафан!—учуў ён шэпт Кверквелія.— Калі ён толькі раз пісне—загубіць нас!

Мітрафан нахіліўся і ўзяў за ашыйнік сабаку, які аціраўся ля ног. Зноў усе маўчалі, слухалі, углядаліся. Маўчала трывожная ноч. Бледныя агеньчыкі светлякоў мітусіліся ў цемры. Яшчэ са два разы правеяў вецер, прашумелі дрэвы на спадзе ўзгор'я... Тарыэл Кверквелія неадрыўна глядзеў на агеньчык Нам-Дэві. Ён разумеў, што Топурыя трапіў у рукі Гунава, здагадваўся, што Эліа Бокучава таксама там, у палоне, на ўзгор'і Нам-Дэві; быў пераконаны, што атрад Гунава тут унізе, у даліне... Ён не думаў зараз аб тым, якім чынам Гунава так удала трапіў на іх сляды, ён не думаў нават аб тым, якім парадкам можна ўратаваць Топурыя, якія для гэтага трэба ўжыць меры. Ён ведаў, што гэта зараз немагчыма, што Гунава толькі і чакае, каб Тарыэл Кверквелія і чатырнаццаць чалавек разам з ім, апынуліся ў зараслях арэхаўніку на спадах

Нам-Дэві. І ён ведаў таксама, што небяспечна заставацца тут, на месцы. Тарыэл Кверквелія моўчкі стаяў на чале астатніх чатырнаццаці, якія сышліся ў маўклівы, ціхі гурток за яго плячыма. У гэтую ноч ён стаў камандзірам. Ен думаў, ён стараўся знайсці выхад, згадаць далейшыя планы Гунава, распазнаць магчымыя ягоныя ходы ў гэтай смяротнай гульні...

А па той бок даліны на ўзгор'і Нам-Дэві стаяў Акакій Гунава. Ён стаяў узбоч ад агню, трымаючы на павадзе вялізнага плямістага дога. Шырокагруды, тупаморды звер прагна нюхаў вільготнае, начное паветра, парываўся наперад і глуха рычаў, стараючыся разняць звязаную наморднікам, шырокую сваю пашчу. Гунава ледзьве стрымліваў яго, пінаючы нагой, калі дог пачынаў рычэць асабліва голасна. Але сабака супакойваўся ненадоўга. Яго хвалявалі пахі людзей і звяроў, ён чуў шматлікія гукі, якія недаступны для слыху чалавека. Вось ён чуе, як перашэптваюцца салдаты, што ляжаць ланцугом у даліне, у падножжы ўзгор'я, ягоныя чуйныя ноздры раздражнівае цеpпкі пах конскага поту (па той бок Нам-Дэві—конны атрад) яго нэрвуе смуродны дух машыннага масла (два кулямёты поблізу і два на дарозе ў даліне)—усё гэта перашкаджае адчуць як след прыемны пах вяпровага вывадку, што пасвіцца ў зараслях, на суседнім узгор'і, за поўвярсты адгэтуль... Усё гэта перашкаджае злавіць і зразумець яшчэ нейкія зусім незнаёмыя пахі людзей і сабакі, ці то шакала ў тым-жа кірунку, дзе пасвяцца вяпры. Пахі з'яўляюцца і знікаюць у безлічы іншых і гэта нэрвуе дога. Ён парываецца наперад, уздагон за імі і тады чалавек штурхае яго нагой. Так, шмат гукаў і пахаў бродзіць у цемры ў гэтую ноч і яны недаступныя для людзей... Абражаны звер глуха рычыць, упіраючыся ў зямлю магутнымі лапамі, ягоная кароткая пярэстая шэрсць узнімаецца ўгору і ападае. Ён не ведае, чаго ад яго хоча чалавек, ноч хвалюе яго, істота яго поўная прагнасці бітвы... Ззаду захрусцела сухая трава. Нехта ішоў ад агню. Гунава азірнуўся і ў цьмяным святле пазнаў прысадзісты, крываногі сілуэт свайго ад'ютанта. Следам за ім рухалася высокая постаць, захутаная у бурку. Гэта быў непасрэдны начальнік Гунава, асоба, камандыраваная з цэнтру. Дог зарычэў, Гунава тузануў повад.

— Вы тут, капітан?—ціха спытаў ад'ютант.

— Я!—шэптам, непрыязна адказаў Гунава.

Ад'ютант падышоў і стаў побач, паціраючы далонь аб далонь, як-бы нечым быў надзвычайна здаволены.

— Калючкі,—растлумачыў ён.—Паткнуўся і проста на куст.

— Слухайце, капітан,—азвалася асоба ў бурцы,—мне здаецца, мы дарэмна трацім час.

— Мне таксама,—са стрыманай злосцю, раздражліва адказаў Гунава,—мне таксама гэта здаецца... Але на жаль... спецыяльныя ўмовы, як бачыце...

Начальнік моўчкі засапеў носам. Гунава здужаў сваю злосць, перадаючы повад ад'ютанту, падышоў да начальніка бліжэй.

— Зараз былі ў даліне,—сказаў ад'ютант, бяручы повад.—

Правяралі сакрэты... Ох, калючкі, чорт іх... Скура садніць як апараная...

Гунава падышоў да начальніка, крануў тугое сукно буркі.

— Я прасіў-бы вас на пару слоў...—ужо больш ветліва сказаў ён.—Калі ласка!

Яны адышліся на некалькі крокаў. Ад'ютант застаўся з сабакам на месцы. Чырвоныя водблескі агню цмяна трымцелі на спаленай сонцам траве. Павеяў воглы, цёплы вецер.

„Раніцай можа быць дождж...—з непакоем падумаў Гунава і шэптам спытаў у начальніка:

— Як вы ацэньваеце становішча, паважаны батоно?

— Я яго не ведаю,—гугнавячы ў нос, суха адказаў той.— У вас, мой дарагі, ініцыятыва, у нас... Я тут—госць.

Гунава ўсміхнуўся. У голасе гасця адчувалася нецярплівасць.

— Так, я тут госць,—гугнявіў поўшэптам высокі ў бурцы.— У мяне, так сказаць, толькі асобныя ўражанні... У прыватнасці, мне здаецца, вельмі няўдалым, што вы праламілі чэрап гэтаму старому. Ён дагэтуль няпрытомны, а мы маглі-б ад яго што нібы даведацца, мой дарагі...

— Што-ж, рукаяць маўзера—цяжкая рэч!—адказаў Гунава.— Я не ведаў, што разбойнік Бокучава знойдзе магчымасць яго папярэдзіць. Хто-б мог падумаць, што гэты мужык такі вынаходлівы? Прызнацца, я адразу не зразумеў, чаму ён коціцца ад агню... Я толькі тады прышоў да памяці, калі стары бандыт зароў, як рэзаны бык. Ну, і з гарачкі не стрымаў рукі!.. Нічога не зробіш.

Гаварыў гэта Гунава знарок абыякавым тонам, як аб нечаканым выпадку. На самай-жа справе ён колькі было сілы ўдарыў Топурыя, добра ведаючы, што пасля такога ўдару не ўстаюць. І ён-бы ударыў яшчэ і яшчэ, нават і цяпер... Ён гаварыў пра гэта абыякава, але пальцы здаровай рукі самі сціснуліся ў кулак, ён стараўся гаварыць роўным голасам, але губы сціскаліся самі сабою. Гунава адчуў гарачы прыступ шаленства і каб не сарвацца і не крыкнуць, змоўк. Начальнік у бурцы заўважыў гэта і правільна ўгадаў настрой Гунава.

— Паквітацца з ім вы маглі і пасля, мой дарагі...—сказаў ён нездаволена.—Каб ён застаўся прытомным, ягоныя пакаранні былі-б некаторай кампенсацыяй за гэта... ну... за тое, што ён з-за нашай неразважнасці змог іх папярэдзіць...

— Мы маем зусім прытомнага Букучава!—адказаў Гунава, паступова супакойваючыся.—Можаце быць упэўнены, дарагі батоно, што ён не горш за Топурыя ведае, дзе яны хаваюцца! Тым не менш... Гм... Самі бачыце, якія мы прымалі меры! Не, батоно, мне здаецца, што для нас аднолькавая з іх карысць, ці жывыя яны, ці мёртвыя... У некаторых выпадках, я нават надаю перавагу, апошняму, і ў тым, што стары галаварэз перад смерцю крыкнуў, я, зрэштай вялікай бяды не бачу. Ва ўсялякім разе мы цяпер ведаем, што яны недзе блізка. А так, мы і пра гэта не дазналіся-б. Не будзем больш аб дробязях гаварыць. Мы яшчэ нічога не страцілі. Наадварот, мы ўжо выйгралі... І калі мы зараз не наробім памылак, наша экспедыцыя закончыцца поспехам. Прашу вас,

пройдзем да агню, я раскажу вас усё падрабязна, і, магчыма, ваш настрой палепшыцца...

Прытрымліваючы свайго начальніка падруку, Гунава павёў яго да агню. Начальнік кінуў сапець. Яму, відаць, спадабалася абыходжанне Гунава. Так яны падышлі да старой ліпы. Тут стаяў гурток салдат, ляжалі сабакі. Салдаты трымалі павадкі, курылі, хаваючы цыгаркі ў жменях, шапталіся. Убачыўшы дзве постаці ў бурках, яны загасілі цыгаркі, змоўклі.

— Агню!—сказаў Гунава.—Падкіньце дроў.

Адзін з салдат зараз-жа адлучыўся ад гуртка і пабег да груды хворасту, складзенай воддалі.

— Прашу!—сказаў Гунава, звяртаючыся да гасця.—На траўку... Па-паходнаму...

Ён скінуў з плеч бурку, спрытна ўпраўляючыся адной рукой, паслаў яе на зямлі, пад ногі гасцю. Нязграбна згінаючы калены і ўсё сваё грузнае тулава, той сеў. Гунава сеў таксама побач з ім. Салдат ускінуў на агонь бярэма хворасту. Праз хвіліну стала святлей, цемра ўздрыгнула, адступаючы далей і ніжэй, у зараслі. Пад кустом, у кроках дзесяці ад агню, стаяла чацвёра салдат з вінтоўкамі „на руку". Ля ног іх ляжала нешта, нейкі бязформенны вялікі клумак. У дрыготлівым адсвятленні вогнішча нерухомыя постаці салдат то з'яўляліся, то знікалі, ад агню нельга было добра разглядзець, што ляжыць там пад кустом. Але Гунава толькі раз глянуў туды. Ён ведаў, што гэта.

Начальнік зняў капюшон з галавы. Хаця было і душна так хадзіць, аднак ён асцярагаўся вільгаці, гэтага воглага начнога подыху. У гасця былі шырокія, абвіслыя плечы, адрузлы твар, увесь абсыпаны рабацiннем, вялікі мясісты нос і таўстыя грэблівa абвіслыя губы. Маленькія, сонныя нерухомыя вочы і жыдкія чорныя вусы, што звісалі з тоўстай, як-бы засаленай губы дапаўнялі ўражанне: чалавека толькі што абудзілі, і ён вельмі нездаволены гэтым. Ён выдаваўся вельмі непаваротлівым і добрадушным. Але Гунава ведаў, што гэта не так. Як толькі ён сустрэў сонны пагляд гасця, пасля таго, як той зняў капюшон—то зараз-жа, спяшаючыся, адшпіліў ад пояса планшэт, паклаў яго на бурку і выняў з сумкі аловак. Гунава ў душы кляў сябе самога за тое, што не стрымаўся тады і агрызнуўся на начальніка. Сонныя вочы глядзелі на яго незычліва.

— Беручыся за гэтую аперацыю, дарагі батоно,—пачаў Гунава з усёй лагоднасцю, на якую толькі быў здольны,—беручыся за гэту аперацыю, я не цешыў сябе думкай, што яны прыдуць сюды ўсе да аднаго, і, што мы іх пабярэм голымі рукамі, як ракаў пры агні. Я ўжо меў вопыт і ўпэўніўся, што яны дзейнічаюць вельмі развaжна. Таму планы свае грунтаваў на рэальнай узброенай сіле, якая знаходзіцца ў маім распараджэнні, і толькі на гэтым. На шчаслівыя выпадкі я не спадзяваўся, тым больш улічваючы абстаноўку, у якой даводзіцца... як самі бачыце...

Гунава шырока павёў рукой, паказваючы за рубеж святла, дзе чорная згусцілася цемра. Сонныя вочы начальніка на момант глянулі туды, потым зноў уперліся ў Гунава. Заспаны твар не змень-

ваў свайго кіслага выгляду. Моцна тупаючы нагамі, салдат прывалок яшчэ бярэма хворасту і ўзваліў на агонь. Хвораст затрашчаў. Віхрастым слупам узняліся угору іскры і расталі ў цемры. Ясна ўзгарэўся агонь і зноў пад кустом воддалі бліснулі стваллы стрэльбаў і абрысаваліся нерухомыя постаці салдат. Гунава падсунуў да начальніка планшэт. Той, не спяшаючы, узяў яго, паклаў сабе на калені. Але слюдзяная покрыўка адбівала святло і перашкаджала бачыць карту. Начальнік адшпіліў кнопкі і выцягнуў карту з планшэта. Разам з картай на крысо буркі вывалілася ўчацвёра складзеная паперка. Начальнік узяў яе, разгарнуў і, не пытаючы дазволу Гунава, не спяшаючыся, узяўся яе чытаць. Каб было лепш відаць, ён адсунуўся ад Гунава, павярнуўся да яго бокам і чытаў, сам сабе паўтараючы словы, варушыў тоўстай сваёй адвіслай губой. Гунава кашлянуў, сціснуў зубы, але не азваўся ні словам.

Паперка гэтая была лістом Спірыдона Ганарджыя да Гунава іменна тым лістом, які не так даўно вясёлы Хэту даставіў у Поці. Паказваць ліст начальству Гунава не намерваўся. Ён быў упэўнены ў поспеху сёнешняй экспедыцыі і да канца свае карты начальству раскрываць не хацеў, прадастаўляючы яму права здагадвацца, якім парадкам капітан Гунава ў горных лясах, у цёмную ноч трапіў на след, знайшоў і вылавіў узброеную групу бунтоўных сялян. Словам, Гунава не хацеў падзяліць лаўры з старастам Спірыдонам Ганарджыя, паводле яго намераў экспедыцыя павінна была быць для начальства неабвяргальным доказам яго, Гунава, вопыту і ўмельства. Ён хацеў прадставіць справу так, што ўсе ад пачатку да канца прадумана і зроблена ім, Гунава. Цяпер-жа, калі начальнік прачытае ліст старасты, лаўры Акакія Гунава некалькі падвянуць. Бо ўсе ягоныя, аддадзеныя ўжо распараджэнні і ягоны загадзя выпрацаваны план, які ён намерваўся зараз растлумачыць начальніку з скромным выглядам таленавітага і вопытнага стратэга—проста ад літары да літары падказаны гэтай скамечанай паперкай, лістом Ганарджыя. І толькі круглы дурань хіба, прачытаўшы гэты ліст, не ведаў-бы што трэба рабіць.

Начальнік чытаў ліст, варушыў кусцістымі брывамі, шлёпаючы сваёй адвіслай губой. Заспаны ягоны твар крыху ажывіўся. Гунава моўчкі сядзеў на ўскраі буркі, пазіраў на паперку праз начальнікава плячо і яму было прыкра і брала вялікая злосць. Але больш рабіць нічога не выпадала. Начальнік скончыў чытаць, склаў паперку, ні слова не гаворачы, узяў з рук Гунава аловак і напісаў на паперцы некалькі слоў. Пасля гэтага ён паклаў яе ў планшэт і грузна павярнуўся да Гунава.

— Так... Я слухаю вас, дарагі капітан...

Гунава скосу зірнуў на планшэт. Ён не ведаў цяпер, як пачынаць. Яго інтрыгавала і непакоіла паперка ў планшэце, асабліва надпіс, які толькі што зрабіў начальнік.

— Вы кажаце,—сказаў высокі госць, захінаючыся ў бурку,—вы кажаце, мой дарагі, што ў асноўным пакладаецеся на ўзброеную сілу. Разбярэм гэтае пытанне. Дзе па вашаму знаходзяцца гэтыя разбойнікі?

Гунава зразумеў, што яму расказваць не давязецца: прыдзецца адказваць на пытанні.

— Я лічу, што яны знаходзяцца альбо на адным, альбо на другім з бліжэйшых узгор'яў.—Гунава паказаў пальцам пункты на карце.—Па сцежках і па дарозе пастаўлены дазоры. Акрамя таго, на злучэнні дарог, у даліне,—ручны кулямёт, і над рэчкай, па той бок суседняга ўзгор'я—другі. Гэта на той выпадак, калі яны ўздумаюць уцякаць у балоты.

Гаворачы, Гунава паказваў па карце. Начальнік уважліва сачыў за рухамі сухога, тонкага пальца Гунава, падумаў, і ў знак згоды нахіліў галаву.

— Так... Калі яны на адным з гэтых двух узгор'яў, мы іх можам захапіць напэўна. Ну, а што, калі яны на трэцім, вось тут, за тры вярсты ад нас? А што, калі яны пасля крыку старога, які безумоўна паслужыў для іх сігналам, удала прайшлі міма нашых дазораў і цяпер ужо далёка адгэтуль? А? Вось у чым галоўнае, мой дарагі...

— Пане палкоўнік,—упершыню назваў Гунава свайго гасця па чыну.—Мой атрад не можа ахапіць усю Мінгрэлію! У іх шмат дарог, у нас адна. Яны ўцякаюць, мы здаганяем іх. Я прадбачыў і гэта, іменна тое, што іх можа не быць у адным і ў другім месцы, і акажуцца ў трэцім, альбо ў чацвёртым. Для нас важна тое, што мы знаходзімся ў цэнтры, у непасрэдным датычэнні да іх. Яны недзе тут, блізка, гэта мы ведаем. І гэтага пакуль што досыць... Калі яны не наскочаць уначы на нашы дазоры і шчасліва пройдуць праз акружэнне, на світанні мы пусцім сабак па слядах. Вось і ўсё. Дог, якога вы бачылі, мае два міжнародных прызы, ён спецыяльна трэніраваны на людзях, гэтаму сабаку няма цаны. Ён цэлыя суткі можа ісці па сляду, не ведаючы ўтомы. Ад яго схавацца немагчыма. Я ўпэўнены: на ўсходзе сонца, ён прывядзе нас у логава гэтай банды!

Палкоўнік сядзеў усё у той-жа позе, не паварушыўся ні разу пакуль гаварыў Гунава і нават прыкрыў вочы. Але-ж па пэўных непрыкметных адзнаках Гунава заўважыў, што госць ягоны задаволены.

— Гэта ваш сабака?—з адценнем цікаўнасці ў голасе, сцвярджаючы гэтым здагадку Гунава, спытаў палкоўнік.

— Гэта ўласнасць князя Дгебуадзе. Даведаўшыся ў гутарцы са мной аб акалічнасцях гэтай справы...

— Аб якіх акалічнасцях?

— Н-ну... што, скажам, гэтыя бандыты бадзяюцца па лясах і цяжка адшукаць іх след...

— Ага!

— ...Князь Дгебуадзе прапанаваў узяць дога. І гарантаваў поспех. З свайго боку я гарантаваў яму, што гэтая каштоўнасць застанецца цэлай.

— Ну, зразумела! Дык вы цвёрда ўпэўнены, капітан, у якасці дога?

— Бясспрэчна.

— Ну, што-ж! Значыць, яны ў нашых руках. Аказваецца, вы

грунтавалі свае планы, капітан, не толькі на рэальнай узброенай сіле... Х-хе! Я думаў аб вас горш, мой дарагі... Толькі трэба памятаць: калі з вамі ваш начальнік, ён павінен ведаць тое-ж самае, што ведаеце вы. Вы хітрун, капітан! Хітрун і ганарлівец!

Палкоўнік усміхаўся, ягоны твар як-бы аплыў, губа абвісла яшчэ больш і торгалася, кусцістыя бровы закрылі вочы, смех быў гэткім-жа кіслым, як і заўсёдная палкоўніцкая міна, але ўсё-ж ён усміхаўся. Гунава ўсміхаўся таксама, хаця вясёлага для яго не было тут нічога. Для яго было ясна, што палкоўнік бярэ на сябе старшынства ў гэтай экспедыцыі, бо бачыць бясспрэчны яе поспех і на долю яго, Гунава, такім чынам, нічога не застанецца. Але ўсё-ж ён усміхаўся да тае пары, пакуль на палкоўніцкім твары не знікла грымаса.

— Сукін сын!—са шчырай нянавісцю падумаў Гунава.—Ён мяне за нейкага смаркача мае.

Але так ён мог толькі падумаць. У даны момант ды і на ўвесь далейшы час лёс Гунава быў у руках палкоўніка. Спрачацца не выпадала.

— Цяпер мы зробім так, капітан,—сказаў палкоўнік.—Агонь трэба трымаць, як мага больш ясны. Яны сочаць за намі, гэта бясспрэчна. Агонь інтрыгуе іх, гэта бясспрэчна таксама. Калі мы згасім агонь, альбо ён будзе слабы, яны падумаюць, што мы пакінулі ўзгор'е і пачнуць адыходзіць. Нам трэба, каб на досвітках былі зусім свежыя сляды. Далей: гэтых...

Палкоўнік паказаў на куст, дзе стаялі салдаты са стрэльбамі.

— ... гэтых трэба адправіць зараз-жа. Яны будуць нам толькі замінаць. Яны больш нам непатрэбны... Ай-ай, мой дарагі!.. У вас цяжкая рука!..

Палкоўнік з жартаўлівым дакорам паківаў галавой, памаўчаў, выняў партсігар, пацёр таўстымі пальцамі папяросу і, чыркаючы запалкай, суха кінуў, хутка глянуўшы на Гунава праз плячо:

— Распараджайцеся, капітан!

Гунава ўстаў. Злосць папросту пенілася ўнутры. Палкоўнік выгодна сядзеў на ягонай бурцы. Гунава крутнуўся і пайшоў проста на агонь, як сляпы. Апамятаўся ён толькі тады, калі цяплынёй дыхнула ў твар. Хрыплым шэптам ён паклікаў вахмістра ад гуртка салдат пад ліпай. Матляючы ножнамі шаблі, з гучным звонам шпор, падбег той самы цыбаты вахмістр, які быў у Сабокучаво. Ён стаў перад Гунава і ягоны даўгі, нязграбны цень лёг на асветленай вогнішчам паляне на ўсю яе даўжыню. Гунава каротка перадаў яму палкоўніцкі загад. Вахмістр адскочыў прэч і знік у цемры, пад ліпай. Там пачаўся рух, пачуліся стрыманыя галасы. Па ўскраі паляны, па самай мяжы святла павольна ішоў ад'ютант, вядучы на повадзе плямістага дога. Ён падышоў да агню з другога боку, сабака лёг, а ад'ютант узяўся выцягваць калючкі з далоняў. Ён здабываў іх зубамі і нешта бурчэў сабе пад нос. Гунава не глядзеў на гэтую ідылію. Ён глядзеў на свайго гасця. Палкоўнік разлёгся на бурцы і спакойна курыў. Гунава пакусваў губу... Трэба-ж падумаць! Калі перад вайной

Гунава атрымаў паручыка гвардыі гэтая малпа была прыставам у адным з паліцэйскіх участкаў на ўскраіне Тбілісі!

— Распарадзіліся, капітан?—ляніва ўзнімаючы вочы спытаў госць, калі Гунава падышоў да яго.

Ляскаючы зубамі, Гунава нешта прабурчэў.

— Што з вамі?—спытаў палкоўнік.

Гунава не адказаў. Яны пamаўчалі. Потым госць пасунуўся бліжэй да Гунава.

— Пакрыўдзіліся?—спытаў ён ціха.—Нездаволены начальствам? Капітан!.. А?

— Што?

— Пакрыўдзіліся, кажу?

Гунава маўчаў, не ведаючы, што адказаць.

— Калі вы будзеце палкоўнікам, дарагі мой,—павучальна гаварыў госць, соннымі сваімі вачыма пазіраючы на Гунава,—вы будзеце браць ініцыятыву з рук першага стрэчнага, падпарадкаванага вам капітана, і распараджацца ёю, як вам прыдзецца да спадобы. На гэтым будуецца вайсковая сістэма. Гэта называецца су-бор-ды-на-цыя! Прашу вас аб гэтым памятаць, калі хочаце ісці далей па службе. Але, я ўсё-ж не з такіх, як вы думаеце... Пакідаючы за флагам сваіх канкурэнтаў, я ніколі не забываюся на тых, хто працуе са мной разам. Вы яшчэ не ведаеце ўсіх акалічнасцяй гэтай справы. Бачыце, яна далёка выходзіць за межы гэтага лесу і дасягае нават вышэйшых дзяржаўных сфер... Хочаце папяросу, капітан?..

Гунава моўчкі ўзяў з партсігара гасця таўстую папяросу. Раптоўна аднекуль наляцеў вецер, цёплы і воглы. Старая ліпа сонна зашумела, дым і вогнішча прыбіла ветрам да зямлі і Гунава закашляўся. Ад'ютант устаў ад агню і пайшоў з сабакам некуды ў цемру.

— Бачыце ў чым справа...—гаварыў далей палкоўнік.—Справа ў тым, што ў вышэйшых сферах пачынаюць вельмі нэрвавацца, як толькі акажацца, што тры мужыкі адмовіліся ад сваіх нехітрых абавязкаў, здабылі недзе стрэльбы і бадзяюцца па лесе. Гэта вельмі дрэнна ўплывае на нэрвы дзяржаўных людзей. Ваш рапарт і яшчэ некаторыя звесткі з гэтых месцаў, стварылі моцнае ўражанне. Я-б сказаў вельмі моцнае ўражанне. Падставы для гэтага сапраўды сур'ёзныя. Не больш' як паўтары гады таму назад больщэвікі сабралі тут, у Мінгрэліі дзве тысячы франтавікоў і... словам, вы добра памятаеце і ведаеце, чым гэта пахне. За апошні час мы мелі хваляванні ў Осетыі. Цяпер прышлі трывожныя весткі адгэтуль. У вышэйшых сферах зусім правільна думаюць, што ўзарваць парахавы пограб можа кожны, хто ўкіне туды запалку. І вось, я прыбыў сюды, капітан. У мяне камандыроўка са спецыяльнымі поўнамоцтвамі. Цяпер, скажыце мне: прыстойна гэта будзе, калі акажацца, што капітан Гунава ўсё зрабіў сам, а асоба, камандыраваная вышэйшымі сферамі была толькі сведкай яго дзейнасці? Я думаю, што лепш прадставіць справу ў адваротным выглядзе. Гэта азначае: *Я* начальнік экспедыцыі, *я* ўзначальваю яе і даводжу да паспяховага канца. І калі *я* пішу дакладную запіску, то не забы-

ваюся ўказаць: „пры непасрэднай і адданай дапамозе капітана Гунава, начальніка мясцовага асобага атраду, дзякуючы адвазе і ініцыятыве якога...“ і так далей... Па руках, капітан?

Палкоўнік падаў Гунава руку. Сціскаючы пухлыя пальцы гасця, Гунава яшчэ раз абмеркаваў усё, ацаніў і яшчэ раз прышоў да вываду, што інакш быць не можа. Злосць ягоная ўціхла гэтак-жа раптоўна, як была ўзнялася. Пасля таго, што ён чуў, госць ягоны выдаўся яму больш прыстойным.

— Вось і добра, мой дарагі...—сказаў палкоўнік.—Люблю разумных людзей. Наколькі гэта магчыма, стараючыся такім людзям дарогі не заступаць...

Ён памаўчаў, кінуў акурак далёка ад сябе і зноў адвярнуўся да Гунава, намерваючыся гаварыць, але ў гэты момант, трымаючы руку ля казырка, выцягнуты да апошняй магчымасці, як з-пад зямлі вырас перад імі вахмістр.

— Яны не ўстаюць, дазвольце далажыць...—сказаў ён.

— Як не ўстаюць?

— Не могуць... Стары зусім без душы, можа мёртвы.

— Пакладзіце на двуколку!—сказаў Гунава.—Канвой і каб праз пяць хвілін, тут духу не было! Толькі ціха, без гвалту!

Вахмістр знік.

— Так, так...—пачаў гаварыць палкоўнік.—Гэткім людзям я дарогі не заступаю. Можаце быць упэўнены, капітан... Што гэта?

Зноў павеяў вецер і далёкі гул пачуўся аднекуль, з глыбіні начы.

— Гром!—сказаў Гунава.—Я так і думаў... Калі да світання наляціць дождж, ён папсуе нам справу... Па дажджу сабакі не знойдуць слядоў... Чорт!

Яны прыслухоўваліся некалькі хвілін, але было ціха ўсюды, вецер суняўся, чорнае маўчанне акружала Нам-Дэві. Ясна гарэў агонь. Паблізу загаварылі ўпоўголаса, неўзабаве некалькі салдат, цяжка ступаючы, пранеслі нешта міма вогнішча і зніклі. Пачуўся шолах галля, ціхія галасы даносіліся аднекуль знізу, і потым усё сціхла.

— Колькі іх можа быць там?—спытаў палкоўнік.

— Ні ў якім разе не больш за дваццаць чалавек.

— Мала... для рапарта мала... Аднак гэта лёгка можна паправіць. Бачыце, капітан? Я з вамі гавару шчыра, як з другам!..

— Я гэта ацэньваю, як след, пане палкоўнік,—далікатна адказаў Гунава.

Яго толькі яшчэ вельмі цікавіла прыпіска на лісце Ганарджыя. Але на дзіва праніклівы госць угадаў і на гэты раз думкі Гунава і выняў паперку з планшэта.

— Вось каб не забыцца...—сказаў ён, падаючы паперкі.—Абавязкова заплаціце яму гэтую суму поўнасцю і адразу. Трэба заахвочваць людзей... Мы павінны мець як мага больш прыяцеляў сярод заможнага сялянства. Данос—гэта рызыка, рызыку трэба аплачваць.

Гунава прачытаў палкоўніцкую рэзалюцыю і здзіўлена ўзняў бровы. Сума была значнай.

— Нічога, нічога...—сказаў палкоўнік.—Грошы заўсёды зробяць сваю справу. З князям Дгебуадзе мы будзем гаварыць пасля экс-

педыцыі. І яшчэ некалькі слоў: з гэтымі асобамі, што бадзяюцца па лесе – размова будзе кароткай. Нам хопіць тых, што ўжо маем. Астатнія нам непатрэбны! Разумееце, капітан? Гэта вы возьмеце на сябе. У вас з імі ўласныя і асаблівыя разлікі, вы зразумелі капітан?

— Бясспрэчна!

— Вось і ўсё. Гэта будзе мець належны рэзананс. А цяпер, капітан, у знак згоды і дзеля добрага пачатку... Эй, Элізбар!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А на адлогай паляне, на ўзгор'і, па той бок даліны, усё так-жа, у маўчанні, стаялі цесным гуртком пятнаццаць чалавек. Яны глядзелі на ясную зорку на ўзвышшы Нам-Дэві. Тарыэл Кверквелія ўсё яшчэ думаў і не мог прыйсці да пэўнага выбару. Маўчала ноч, ціхая і трывожная, нідзе нічога не было чутно. Толькі раз нізка, над галовамі людзей, пранеслася нейкая начная птушка, тугліва ўскрыкнула і знікла, і зноў усюды было ціха, толькі шумелі дрэвы калі з балот прыходзіў вецер.

Са слоў Топурыя Тарыэл ведаў, што ў Гунава вялікі атрад конных і пешых. Значыць гэты атрад тут, паблізу. Гунава здагадваецца напэўна, дзе знаходзіцца Кверквелія і яго каманда. Атрад ягоны можа ахапіць лес, скажам, на добрых поўвярсты. Як ён паставіў салдат? Напэўна, па сцежках, што ідуць на бліжэйшыя ўзгор'і, на дарогах у абодвух далінах і на бальшаку, адразаючы гэтым адыход у горы.

—... У іх ёсць вучоныя сабакі...—успомніў Тарыэл словы Топурыя. Ён успомніў іх выразна, з яснай інтанацыяй голаса Топурыя.

Так сабакі .. Вучоныя сабакі, якія ідуць па сляду чалавека. Дык што рабіць? У даліне, у падножжы ўзгор'я—напэўна салдаты. Направа, на дарозе, што ідзе да грэблі Сабокучаво—таксама. Значыць і налева, на бальшак, шлях небяспечны. Па тым баку ўзгор'я, да ручая, у даліне, у напрамку да балот, інакш нельга ісці, як праз абрыў тым іменна месцам, дзе стаяў на варце Міхаіл Ганарджыя. Салдаты будуць на дарозе, за ручаем, па адзін і па другі бок узгор'я, але іх не будзе пад абрывам. Яны будуць сачыць толькі за дарогай, бо той, хто хоча ісці ў балоты, павінен перабрацца праз дарогу. Іх можна абмінуць, калі брысці ўніз, па ручаі, альбо хаваючыся, ісці берагам. Адзіны выхад—праз абрыў. І тады, берагам ручая, ці ўброд, па ручаі ў балоты. У горы нельга ісці ні ў якім разе... Але чаму яны не пакідаюць Нам-Дэві? Ч му яны паляць агонь?

— Яны паляць агонь для таго, каб ты як мага даўжэй глядзеў на яго, як мага даўжэй стаяў на месцы, Тарыэл!..

Так зусім правільна адгадаў Кверквелія план сваіх праціўнікаў і склаў свой уласны. Ён зразумеў, што нельга траціць ніводнай хвіліны, што трэба пакінуць узгор'е зараз-жа, і што не можа быць зараз ніякай надзеі і ніякіх спроб ратаваць Топурыя. Пасля, калі яны вырвуцца з акружэння, можна будзе думаць аб гэтых. Але-ж Топурыя! Топурыя!..

— Назад!—сказаў Тарыэл.—Хадзеце за мной, ціха толькі, прашу вас, браты!

У гэты час зашумеў лес. Трэці парыў ветру быў асабліва моцным, і ён прынёс здалёк выразны грукат грому. Гул быў мацнейшы, чым у першы раз. З мора, праз нізіну Калхіды насоўвалася бура.

Пятнаццаць чалавек павольна ішлі густымі зараслямі, што аплялі камяністы спад узгор'я. Першым ішоў Тарыэл, за ім, стогнучы амаль на кожным кроку—хворы Міхаіл Ганарджыя, пасля—Бокучава з сабакам. Ззаду рухаліся астатнія. Ніхто не спытаў у Тарыэла, куды ён іх вядзе, усе адразу паслухмяна і без слоў пайшлі за ім. Ісці было дрэнна, спад быў круты, калючы гушчар раніў рукі, чапляўся за вопратку. Так ішлі доўгі час. Калі апынуліся на паляне, пад старым букам, дзе ўвечары раскладалі агонь—Тарыэл заўважыў, што пачало днець. Цемра не была такой густой, непраглядной, як раней. Быў сізы змрок, падобны да туману, можна было ўжо адрозніць постаці людзей поблізу. І яшчэ адна змена адбылася ў прыродзе: не было ўжо цішыні. Лес шумеў не сціхаючы, трывожна, вецер пругкі і моцны дзьмуў усё з большай сілай, гул далёкіх грымотаў цяпер наблізіўся і неясны вобліск дальніх зарніц, цмяным яшчэ адценнем, раз-па-разу асвятляў лес. Бура хутка набліжалася. Гэтак-жа хутка надыходзіла світанне.

Тарыэл моўчкі правёў людзей праз паляну і зноў увайшоў у гушчар. Але цяпер было лягчэй, гэта быў спуск і не больш як праз поўгадзіны невялікі атрад апынуўся на скале, дзе ўвечары стаяў на варце Міхаіл Ганарджыя. Цяпер яны былі на супроцьлеглым, у адносінах да Нам-Дэві, баку ўзгор'я.

Тарыэл асцярожна ўзышоў на скалу. Шум узбунтаванага лесу заглушыў паток, яго было не чуваць тут, на вышыні. Нічога яшчэ нельга было бачыць у сівым змроку світання. Тарыэл пастаяў, абмяркоўваючы становішча. Ён ніколі дагэтуль не быў тут, не ведаў, ці ёсць тут сцежкі, не ведаў нават, якой вышыні гэтая скала. Ён ведаў толькі адно: іменна тут трэба сыходзіць у даліну і гэта двойчы небяспечна: скала можа аказацца вельмі крутой і тут-жа, унізе могуць аказацца салдаты. У тым, што яны ёсць поблізу, па той бок ручая, на дарозе, Тарыэл быў упэўнены. Трэба было даведацца, ці ёсць яны тут, пад абрывам. Гэта магло стаць вядомым толькі тады, калі хто-небудзь спусціцца з абрыву. Цяпер яшчэ нельга было гэтага рабіць, было яшчэ цёмна. Змрок яшчэ пакрываў даліну, узгор'і, узбунтаваныя лясы.

Тарыэл сышоў са скалы і далучыўся да сваіх, што стаялі маўклівым гуртком. Цяпер ён ужо адрозніваў кожнага з іх паасобку.

— Калі будзе добра відно, паспрабуем спушчацца ў даліну...— сказаў Тарыэл.— Вельмі цяжка нам, браты, пакідаць Топурыя ў няволі, але сілы ў нас няма супроць іх, нічога не зробіш. Мы павінны адыйсці, пакуль не позна, і потым ужо шукаць спосабаў для ратунку нашага добрага друга. А цяпер—слухайце, што я вам скажу...

І Тарыэл расказаў, што трэба рабіць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як гэта заўсёды бывае ў гарах, развіднела адразу нечакана. Гунава, які за некалькі хвілін да гэтага загадваў салдатам падкінуць хворасту на вогнішча, выпадкова глянуў міма агню, туды,

дзе ляжала глыбокая цемра—і раптам ускочыў на ногі. Цемры не было, ночы не было ўжо. У бледным змроку, як у дыме, вырысоўваліся зараслі, дрэвы, цёмная аграмадзіна суседняга ўзгор'я маячыла ў імгле світання. Узгор'е ў туманным змроку здавалася надзвычайнай вышыні, вершаліна яго гублялася недзе там, дзе павінны быць ужо воблакі. Гунава адышоў некалькі крокаў, абмінуў цяпер ужо няяснае вогнішча і спыніўся.

Гэты новы дзень нараджаўся ў трывозе і неспакоі. Тое, што палічыў Гунава за вяршаліну суседняга ўзгор'я, на самай справе было хмарай. Яна ўспаўзала над горы вялізная, чорная, засцячы бледнацмянае неба. Белыя маланкі, узразаючы цяжкую муць хмары, успыхвалі раз-па-разу. Перад хмарай, вышэй, ці ніжэй за яе, хутка імчаліся ў бледным, задымленым, бязрадасным небе круглыя, цёмныя воблачкі. Маланкі ўспыхвалі белыя, асляпляючыя, але гром грымеў як і раней здалёк і няясна. Гэта азначала, што не абудзілася яшчэ горнае рэха, што бура бушуе яшчэ ў нізіне і не захапіла яшчэ гор.

Раптам апаў вецер. Яшчэ шалясцелі зараслі, яшчэ хісталіся вершаліны дрэў, але вецер сціх. Хмара стала цёмна-сіняй, у цэнтры яе, звісаючы да зямлі, рухаўся цёмны слуп, глухі гул чуўся з-пад хмары, запальваліся белыя зігзагі маланак і дальні грукат грымотаў сатрасаў паветра. Гунава з дзяцінства баяўся буры. І цяпер нейкі няясны ўспамін трывожыў і прыгнятаў яго. Раптам, апальваючы ўскрай хмары, крыжуючыся і ўспыхваючы, прабегла маланка, у даліне, між узгор'ямі ўспыхнула белае святло, рэзкая рыса беласіняга агню з шыпеннем узнікла перад Гунава, і аглушальна ўдарыў гром. Магутны гук загрымеў у гарах, распадаючыся на грозныя, асобныя акорды, сціхаючы і паўтараючыся, у сухім паветры застаўся нейкі дзіўны і трывожны пах, у вачах Гунава ўсё яшчэ жыла трапяткая рыска страшнага агню. Ён павярнуўся і пайшоў назад, каб абудзіць палкоўніка. Але той ужо ўстаў. Ён зашпільваў бурку, соннымі, абыякавымі вачыма ўглядаючыся ў грозную хмару.

— Не варта бурку браць з сабой, палкоўнік!—сказаў Гунава, падыходзячы.—Мне здаецца, нам прыдзецца пабегаць. Ну, што-ж... Будзем пачынаць?..

Гунава гаварыў спакойна і ўсім сваім выглядам выказваў спакой, на самай-жа справе ён нэрваваўся і не мог пазбавіцца таго трывожнага, прыгнятаючага адчування, якое з'явілася ў момант мёртвай цішыні, перад ударам грому. Палкоўнік узняў галаву, уважліва аглядзеў хмару і пачаў павольна расшпільваць бурку, відаць, згадзіўся з Гунава. Ён кінуў яе на траву і хрыпла і гучна, цяпер ужо не асцерагаючыся, крыкнуў:

— Элізбар!

З-за дрэва выскачыў салдат. На паляну, да агню, вышаў ад'ютант з догам, паказваючы ўбок зарасляў і нешта гаварыў здалёк. Чацвёра салдат вывялі з кустоў сабак. Гэта былі кудлатыя мясцовыя аўчары, лютыя, але няздатныя для гону. Гунава разлічваў, што яны брэхам паддадуць ахвоты догу. Дог, амаль у два разы большы за кожнага з іх, не глянуў на сваіх памоцнікаў. Ён стаяў спакойна, дасягаючы амаль да пояса нізкаросламу ад'ютанту, высока ўзняўшы

сваю тупую, звязаную намордңікам морду. Аўчаркі абнюхваліся і рычэлі.

— Гэтых пастухоў пакінем тут,—сказаў Гунава.—Відаць не будзе з іх карысці. Прывязаць іх у кустах! Толькі перашкаджаць будуць. Людзі пойдуць з намі. Вы, ад'ютант, павядзеце дога...

Ён адвярнуўся да палкоўніка. Той аглядаў свой рэвольвер. Гунава выцягнуў з-за пояса маўзер, глянуў на каробку, на рукаяць і хутка ўсунуў зноў за пояс. Светлая драўляная рукаяць з аднаго боку афарбавалася ў нешта цёмнае. Гэткія-ж цёмныя плямы Гунава заўважыў на костках пальцаў сваёй рукі. Ён з гідлівай грымасай пацёр руку аб палу фрэнча. Пляма не сыходзіла.

— Чорт з імі!—падумаў Гунава і адвярнуўся да палкоўніка.— Пачнем?

— Можна будзе пачынаць...—адказаў палкоўнік.—Аднак-жа і надвор'е!

У гэты момант пасыпаліся першыя, буйныя і рэдкія кроплі дажджу. Гул набліжаўся, павеяў халаднаваты і вільготны вецер. Хмара акрыла неба. У мутным, туманным поўзмроку твары людзей выдаваліся бледнымі. Зноў, невядома чаму Гунава ўкалола трывога.

Салдаты выходзілі па адным з кустоў, прывязаўшы сабак. Яны знімалі вінтоўкі з плеч, правяралі затворы. Усе маўчалі.

— Пайшлі!—сказаў палкоўнік.

Ад'ютант павёў дога на сцежку, уніз. Сабака пругкім скокам, цягнучы за сабой ад'ютанта памчаў па крутой, звілістай сцежцы. У гэты час па зараслях, па сухой траве, па лугах далін шалясцеў дождж. Але гэта быў толькі пачатак. Неўзабаве гулкія патокі вады, збіваючы лісцё, зрываючы маладыя парасткі дрэў, акрываючы вадзяным туманам горы і даліны, гасячы бледнае святло пачынаючагася дню, нізрынуліся на зямлю.

Салдаты ляжалі ў высокай траве даліны. Мучаідзе, вораг Гунава, стаяў пад кустом са свістком у руцэ. Ад'ютант з сабакам, высока ўскідаючы ногі, прабег па мокрай траве і знік у туманах дажджу. Следам за ім беглі Гунава, палкоўнік і чацвёра салдат. Мучаідзе коратка свіснуў і пабег таксама. На хаду ён азірнуўся. Каля двух дзесяткаў салдат крок у крок паспяшалі за ім.

Дождж шумеў, гуў, нават грымеў. Бегчы было цяжка. Маланка асляпляла раз-па-разу, аглушальна грукацеў гром.

Яны ўжо ўзнімаліся на суседняе ўзгор'е, чапляліся за каменні, лезлі праз гушчар. Хутка яны апынуліся на адлогай паляне, парослай рэдкімі дрэвамі і нізкім, калючым хмызняком. Тут дог спыніўся, пакруціўся на месцы і раптам скочыў наперад.

— Гоў-гоў!—учулі ўсе.—Гоў-гоў!

— След!—крыкнуў Гунава.—Ад'ютант! Знімеце сабаку намордңік! Вось яны дзе, мае мілыя!

Але ад'ютант зрабіў памылку. Разам з намордңікам, ён адчапіў повад. Дог з рычаннем скочыў наперад і знік. Ягоны размераны, гучны брэх чуўся наперадзе і потым сціх.

— Не адставаць!—крычаў Гунава.—Не адставаць!

Праз нейкі час яны выбраліся на паляну, дзе пад раскідзістым букам чарнела круглая пляма загашанага пакінутага вогнішча.

І тут, узрадаваны Гунава ўбачыў дога. Сабака круціўся ля пакінутага вогнішча і, убачыўшы людзей, з хрыплым брэхам кінуўся наперад. Гунава разгарачаны, задыханы, з рэвольверам у руцэ, памчаў за ім, коўзаючыся па мокрай траве. Сабака знік у зараслях і Гунава тут-жа адчуў, што пачынаецца спад. Ён стаяў як урыты, на яго наскочыў палкоўнік. Хапаючыся за кусты, ломячы галлё, цяжка дыхаючы спыніліся салдаты.

— Блізка!—прахрыпеў Гунава.—Праверыць зброю! Асцярожна!

— Гоў-гоў!—чулася наперадзе.

І раптам дог узвыў на ўвесь голас, пачулася лютае рычанне, узвізгі, брэх і ўсё сціхла. Праз некалькі часу ўзвізг і рычанне, паўтарыліся. Дог некага напаткаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэта аказалася не так проста—сыйсці ў даліну па абрыве. Арчыл Сідава і Оція, два самыя спрытнейшыя ад усіх, доўга поўзалі па ўскраі скалы, нагамі намацваючы выступы, чапляючыся за сухія, паўзучыя карэнні. Ужо добра развіднела і грымлівая хмара ўзышла над узгор'ем і зноў пачало як-бы цямнець, ужо зашалясцелі па лесе першыя кроплі дажджу, і туманы непагоды шчыльна закрылі ўсё навакол, акрываючы даліну, падступаючы да ўзгор'я, а Сідава і Оція усё яшчэ не маглі адшукаць месца, дзе-б можна было адважыцца на спуск. Скала вісела над далінай на вышыні некалькіх сажняў, унізе нічога пакуль што не было відаць. Нарэшце Арчыл абмацаў нагой нейкі больш надзейны выступ, упёрся ў яго каленам і, трымаючыся за карэнні, пачаў на руках спушчацца ўніз. У той-жа момант тыя, хто стаяў бліжэй, ускрыкнулі. Пачуўся трэск, пук сухіх, скарэжаных і пераплеценых між сабою карэнняў папоўз у іх з-пад ног і знік за абрывам. Пасыпаліся дробныя камешкі, жарства і ўсё сціхла.

— Арчыл!—крыкнуў Оція.

— Я тут!—данёсся знізу глухі голас.—Тут сцежка... Шырокая! Во! Пяць крокаў... Раз-два-тры... Пяць з лішнім крокаў... Ідзе проста ўніз, мабыць, да ручая... Лезьце сюды смела... Тут шырока, я вам кажу.. Дайце мне стрэльбу!

Оція, не жадаючы адставаць ад таварыша, не асцерагаючыся, скочыў проста з абрыву. Пачуўся глухі стук, лёскат каменняў, потым знізу пачалі клікаць у два галасы:

— Скакайце!

— Хутчэй! Толькі направа больш старайцеся... Тут злева асыпаецца...

У гэты момант зашумеў дождж. Даліна адразу закрылася ва-зяной заслонай, зніклі дрэвы, прыляглі кусты. Была толькі мокрая скала, слізкія, аброслыя мохам камені, усё астатняе знікла. Вецер налятаў раз-па-разу, моцны і цёплы. Белыя маланкі палілі вадзяную муць, гром грымеў не сціхаючы, рэха грымотных udараў грукатала і раўло ў далінах прадгор'я. У шуме дажджу і ветру сціхлі галасы пад абрывам.

Узмахнуўшы пустым рукавом світкі, як крылом, смела скочыў уніз Міха Коркія. Шмат змарнавалі часу, пакуль аказаўся ўнізе хворы Міхаіл Ганарджыя. Хвароба папросту валіла яго з ног, ён

ужо не мог стаяць. Яго спушчалі ўніз на паясах. Пасля гэтага накідалі ўніз клумкі, торбы—сваю паходную гаспадарку, і справа пайшла хутчэй. Неўзабаве, адзін Тарыэл застаўся на скале. Астатнія сыходзілі па сцежцы да ручая, а на Тарыэла ўнізе чакаў Оція.

— Хутчэй, Тарыэл!—чуўся з-пад скалы голас Оція.—Усе пайшлі.

Каля ног Тарыэла круціўся сабака. Устрывожаны знікненнем людзей, ён бегаў па ўскраі скалы, заглядаючы ўніз і скомліў. Тарыэл не хацеў пакідаць яго тут на слядах, спрабаваў злавіць і спіхнуць уніз, да Оція, але сабака не даваўся ў рукі.

— Хутчэй, Тарыэл! Хутчэй!—як з-пад зямлі даносіўся голас Оція.—Нашых ужо не відаць.

Нарэшце Тарыэлу ўдалося ўхапіцца за касматы карак сабакі, але ў гэты-ж самы момант, у зараслях пачуўся глухі, басавіты аднастайны брэх.

— Гоў-гоў-гоў!

Сабака Тарыэлаў стаў, як урыты, потым раптоўна пругкім крокам скочыў наперад, пакінуўшы ў руках Тарыэла жмут мокрай поўсці. Праз момант ён знік у тумане дажджу, у зараслях, што цямнелі ўгары, над мокрай грудай каменняў.

Тарыэл хутка пайшоў да абрыву.

— Лезь!—недзе блізка гаварыў унізе Оція,—нашы ўжо далёка. Што ты там? Смялей! Тут не больш за два сажні...

Тарыэл маўчаў. Ён на ўласныя вочы хацеў убачыць небяспеку.

Брэх набліжаўся. Потым разлеглася лютае рычанне, узвізг, выццё, і Тарыэл убачыў вялікі ком, што каціўся да яго з гары ад зарасляў, па грудзе слізкіх каменняў. Тарыэл убачыў даўгое цела, стуленыя вушы, белыя клыкі, бурую поўсць Мітрафанавага сабакі, які ірваў за горла вялікага плямістага звяра. Ля самага абрыву Мітрафанаў сабака адскочыў у бок, звер кінуўся да яго, яны схапіліся ў дубкі на самым ускраі скалы ў некалькіх кроках ад Тарыэла, сарваліся і зніклі. Пад абрывам загрукаталі камені, пачуўся крык Оція, глухі лёскат дайшоў з даліны і ўсё сціхла. Шумеў дождж. Вада струменіла між камняў. Знізу даносіўся голас Оція. Тарыэл, нахіляючыся наперад, трымаючы на выцягнутай руцэ вінтоўку, скочыў.

Удар быў моцны. Падаючы, Тарыэл абшарпаў сабе шчаку і збіў без таго балючае калена. Оція падбег да яго.

— Што гэта?—устрывожана загаварыў ён.—Я ледзьве са страху не самлеў, думаў, што ты зваліўся... Проста ўніз загрымела, міма сцежкі... Хто гэта?

— Потым скажу! Уніз!

Яны спяшаючыся ішлі ўніз па сцежцы. Раптам угары пачуўся голас. Тарыэл узняў галаву. Некалькімі сажнямі вышэй, на самым абрыве скалы, стаяў чалавек. Ён махаў рукой і крычаў некаму адварочваючыся назад. Тарыэл добра бачыў праз зыбкую, туманную заслону дажджу гэтую танклявую постаць. Чалавек махаў рукой, у руцэ ён трымаў рэвальвер. Не больш за дваццаць крокаў адлучала Тарыэла ад таго месца, над якім стаяў чалавек. І Тарыэл выразна ўбачыў: чалавек трымаў рэвальвер у левай руцэ...

— Стой, Оція... Стой, брат!—стогнучым шэптам, задыхаючыся сказаў Тарыэл.—Гэта Гунава! Ён!..

У наступнае мгненне халодны спакой ахапіў усю істоту Тарыэла. Замерла сэрца, ён амаль не дыхаў, але галава была яснай і рукі не дрыжэлі, калі ён узняў вінтоўку.

...—Сюды!—крычаў Гунава.—Сабака саскочыў з абрыву... Яны там!

Зыбкая заслона дажджу акрывала даліну, веяў цёплы вецер, вадзяныя туманы ахіналі зямлю, горы, свет. Больш нічога не ўбачыў капітан Гунава. Мучаідзе і салдаты, коўзаючыся па каменнях, збеглі ўніз, да абрыву і ў гэты момант Гунава ўзмахнуў рукой, кінуў уніз рэвальвер, пахіснуўся і знік.

III

Познай раніцой таго дню да паўстанку падышоў цягнік. Дождж папросту шалеў. З плоскіх дахаў вагонаў вецер зрываў ваду цэлымі плахтамі, вада абмывала рэйкі і шпалы, зносячы жвір з насыпу, на каменнай платформе, у рыштках, пеніліся ручайкі. Цёмная нізкая пабудова паўстанку, некалькі хісткіх дрэўцаў ля яе, абвалены ветрам паркан—вось усё, што маглі бачыць пасажыры праз заплёсканыя вадой вокны. Але з пасажыраў ніхто паўстанкам не цікавіўся, на платформу вышлі толькі два прыезджыя і яны, захінуўшы галовы ў башлыкі, хутка прабеглі, не азіраючыся і не затрымліваючыся, да станцыйнага памяшкання. Нікчэмны, зацяганы паравозік свіснуў і голасу ягонага ніхто не ўчуў за шумам вады, толькі белае воблачка пары з'явілася і знікла пад чорным комінам. Вагоны павольна рушылі. Неўзабаве перад невысокай платформай было пуста. Праз нейкі час вадзяную муць неба асвятліла сінебелая ўспышка, шырокім магутным раскатам грозна прарычэў гром. Адзін з прыезджых, якія стаялі пад прыдашкам, дзе вісеў станцыйны звон, перахрысціўся і расхінуў пры гэтым свой башлык. На замглёны непагодай свет глянулі з-пад ружовых, прыпухлых павек светлыя вочы.

— Гэта ўжо заўсёды так,—сказаў нездаволены пасажыр.—Як Сімону Гамрэкелі брацца за работу, сам чорт яму насуперак... О, божа мой, зноў паліць! Мне здаецца, Гвація, мы тут пад гэтым праклятым звонам добрага не дачакаемся... Жалеза—яно прыцягвае... Ды кінь ты курыць, як не захлынецца чалавек!

Цёплы дождж шумеў і гуў, у небе лютавалі белыя маланкі, удары пяруноў раз па разу, здавалася, наскрозь прабівалі зямлю. Гэта быў самы разгар буры, у гэтую хвіліну капітан Гунава, які першы раз на жыцці праявіў адвагу, ляжаў мёртвы, а палкоўнік, які яшчэ ні разу адвагі не праяўляў, свістком аддаваў загад свайму войску аб спешным адыходзе. Сімон Гамрэкелі нічога аб усім гэтым не ведаў, іначай ён кроку не ступіў-бы з-пад станцыйнага звана і, дачакаўшыся цягніка на Поці, не трацячы лішняй хвіліны, ад'ехаў-бы з гэтых небяспечных месц.

— Ліха ягонай матары, начальніка станцыі,—сказаў Сімон Гамрэкелі.—Я такога паршыўца за залатыя грошы ў духан не пус-

ціў-бы... І не думае людзей пад дах запрасіць. Стой тут, пад званом, каб ён па ягонай галаве званіў! Ведаеш, дарагі мой Гвація?! Прыдзецца нам прабегчы ў пасёлак, да Самсона Кварацхелія... Толькі памалу, на прамілы бог... Кажуць, што калі хутка бегчы, то прыцягвае... Ах, ах!

Мутнае неба выбухла светлым агнём. Удар быў сапраўды страшны. З новай сілай нізрынуліся на зямлю патокі цёплай вады Гамрэкелі выскачыў з-пад прыдашка і пабег падскокваючы. Маўклівы Гвація з чамаданам падыбаў за ім.

За поўвярсты ад паўстанку, калі ісці гасцінцам уздоўж насыпу, быў пасёлак. Тут жылі чыгуначныя рабочыя, агароднікі, тут-жа была вялікая крама і абшырны дом Самсона Кварацхелія. Сімон пакрыў адлегласць ад паўстанку да дому Кварацхелія за некалькі хвілін, і, пакінуўшы мокры башлык і паліто на руках Гвація ў сенях, шчасліва трапіў у гасцінныя абнімкі гаспадара.

Праз некалькі часу ён сядзеў ужо за сталом, а чаравісты грузны гаспадар, аглажваючы пышную бараду, вёў з ім гутарку.

— Пяць вагонаў войска прыехала,—гаварыў Кварацхелія.—Цяпер гэтым разбойнікам канец. З Тбілісі начальства.. Важны такі, прыстойны начальнік... Ён павёў вайска сам, ім цяпер няма як выкруціцца... Паверыш, Сімон, я ўжо сам стаў непакоіцца... Можа яно і не так страшна, але языкі праўду на няпраўду множаць, народ трывожыцца, басота задзірае нос. Неяк днямі, прайшоў адзін, спрадвечны мой кліент, ад якога рубля за дзесяць год не дачакаешся, просіць, каб вексель ягоны перапісаў. Кажу яму:—не магу, чалавеча... Што-ж бы ты думаў, дарагі мой Сімон? Тупнуў ён нагой, плюнуў і вышаў, грукнуўшы дзвярыма. Я глянуў праз вакно, а ён азірнуўся і кулак мне паказвае, і поўная вуліца лаянкі з ягонага паганага роту... Як ты думаеш, Сімон, пасмеў-бы ён мне раней кулак паказаць?

Кварацхелія заціснуў у пальцах сваю разгадаваную бараду. Вочы яго бліснулі і твар пацямнеў. Грузна перахіляючыся праз стол, ён падліў у Сімонаў кубак. Сімон далікатна маўчаў, даючы выказацца гаспадару.

— І я пра цябе ўспамінаў, думаў: гэтулькі працы чалавек паклаў, плантацыі займеў, а цяпер усё дымам ідзе, бо кажуць у Сагвасаліо самае цяпер гняздо разбойніцкае. Праўда ці не—так кажуць... Дзякаваць богу, войска паехала адразу туды і аднаго ўжо заарыштавалі і адправілі. Гэта нейкі Арцём Коркія, у яго сыны да большэвікоў пайшлі...

— Заарыштавалі Коркія?—жвава спытаў Сімон.—Гэта праўда?

— Добра не ведаю, ці Коркія. А што арыштаваны мужык,—сам бачыў. Высокі такі, цёмны з твару, пазірае з-пад ілба. Яго павезлі ўжо, начным цягнікам. А на самым світанні, перад дажджом, яшчэ дваіх прывезлі. Адзін забіты, другі, кажуць, параненны. Той што паранены, на пошце пад замком сядзіць, а мёртвага салдаты як-раз цяпер недзе і закапваюць. Нядаўна ў мяне рыдлёўкі бралі. Кажуць людзі, войска ўсіх да аднаго іх перабрала ў балотах і мала хто жывы застаўся.

Сімон устаў, адсунуў крэсла, падбег да вакна і прынік да шыбы-

Гаспадар глядзеў на яго, прыціскаючы далоню да грудзей раскошную сваю бараду, відаць, здзіўлены нечаканай Сімонавай рухавасцю.

— Ай, цікава!—сказаў Сімон, паціскаючы круглымі плячыма, пераступаючы з нагі на нагу.—Цікава было-б глянуць хто такі... Я-ж там усіх, па ўсёй ваколіцы ведаю... Але дзе-ж тут, гэткая непагадзь!..

Сімон заглянуў у другое вакно, потым падышоў да стала. Ён як-бы павесялеў, як здалося Кварацхелія.

— Мне так думаецца,—сказаў Сімон,—што раз Арцёма заарыштавалі, то гэта пэўна яго сын... Міха. Ну, яму варта! Злы як звер, аднойчы мяне ледзьве не забіў. Ты не паверыш, мілы мой Самсон, колькі гора прыняў я ў гэтым Сагвасаліо! Заўсёды сэрца неспакойнае, глядзяць на цябе з-пад ілба, гатовыя за дзесятак агуркоў душу з цябе вытрэсці... Але цяпер іх, відаць, навучаць, як з людзьмі абыходзіцца!.

— Пэўна, што навучаць!—пацвердзіў гаспадар, пасоўваючы да Сімона талерку.—Табе, яшчэ нішто, ты ўсё-ткі ў горадзе жывеш, а я тут адзін... Проста скажу табе, што заўтрашняга дня пэўны не быў! Цяпер-жа іх супакояць... Гэта па ўсім відаць, што добра ўзяліся—бітых возяць... Варта ліхадзеям!.. Не можа як чалавек свой кавалак зямлі абрабіць, ён у разбойнікі ідзе, на людзей з сякераю кідаецца! Пачакайце, дарагія мае!

Твар Кварацхелія стаў сізым, таўстыя пальцы рук барабанілі па стале, ён пазіраў на Сімона гарачымі злымі вачыма, як-бы той быў вінаваты ва ўсім гэтым.

— Ай, добра, што гэтых Коркія пабралі!—сказаў Сімон, паціраючы далонь аб далонь.—Цяпер спакой будзе на свеце. Тых бандытаў з Сабокучаво напэўна ўжо ўсіх павязалі?! Дзе мужыку супроць войска выстаяць! А? Як ты думаеш, Самсон?

— Я так думаю, што калі гэтулькі войска прышло, то напэўна ўжо дадуць ім добрую памяць... А вось і гаспадыня наша, Сімон...

Дзверы са скрыпам адчыніліся, дзябёлая Самсонава жонка ўплыла ў пакой, нясучы вялікае блюда. Сімон сквапна агледзеў прынесенае, пахваліў гаспадыню, з прыемнасцю нюхаючы паветра, напоўненае благароднымі пахамі смажанай курыцы. Калі гаспадыня пайшла, яны з Кварацхелія далей вялі гутарку, успамінаючы даўнейшае, абгаварваючы свае справы, і кожны раз прыходзячы зноў да таго-ж самага—да падзей, што адбываліся зараз там, у балотах, у сяленнях, да падзей можа крывавых, але цяпер ужо не страшных, бо прыбыла шмат войска.

Іменна таму і адважыўся Гамрэкелі прыехаць сюды. Пасля апошняй размовы з Гунава ён прагледзеў свае гандлёвыя кнігі за мінулыя гады і падлічыў прыбытак з плантацыі. Акрамя таго, ён памеркаваў колькі выйдзе за гэты год і адпаведна—за будучыя. Атрымалася сума вельмі значная. Сімон цяпер і думаць не хацеў аб тым, каб прадаць сваю плантацыю каму-небудзь, ён гатовы быў цяпер патраціць яшчэ тры разы па сто залатых, якія і так ужо надакучыла яму дапамінацца... Сімон страціў спакой і добры гумар, туляўся ля варот Гунава, паднёс яму падарунак—

сядло, праўда не зусім новае; у хаце енчыў і лаяўся, па звычаю падкідаючы нагой крэслы і кожны вечар напіваўся ў кампаніі з Пачулія, усё намерваючыся дазнацца пра ягоныя сакрэты, якіх у Пачулія заўсёды было шмат. Гунава падарунак прыняў без асаблівай радасці і правадзіў Сімона да парогу, спасылаючыся на справы, а Пачулія, які быў у пяцьдзесят разоў хітрэйшы за Сімона, расказваў яму розныя байкі. Усё ішло міма рук. Сімон, які не прывык адкладаць на заўтра тое, што можа зрабіць сёння, аж схудзеў з твару. З мадам Гамрэкелі адносіны папсаваліся з першых-жа дзён гэтага розруху. Мадам Гамрэкелі сказала, што ў Сімонавых паводзінах адразу відаць несамавітасць ягонага роду, неблагароднасць крыві. Дгебуадзе—сказала мадам Гамрэкелі,—ніколі не баяліся мужыкоў. Мужыкі,—сказала мадам Гамрэкелі,—заўсёды былі гатовы стаць на калені перад кожным з Дгебуадзе. На гэта Сімон адказаў, што Дгебуадзе не варта было баяцца мужыка, які зайшоў на пошту, каб купіць марку, і дадаў яшчэ, што нешта не можа прыпомніць, каб перад паштовымі чыноўнікамі станавіліся на калені. Мадам. Гамрэкелі выпрасталася ва ўвесь свой грэнадзёрскі рост і абвясціла, што між імі ўсё скончана.

Невядома, што было-б далей, але неўзабаве прыехала з Тбілісі начальства і вялікі атрад рушыў у паход, а Гунава прыслаў запіску, што Сімон можа выехаць у Сагвасаліо хоць заўтра, паблажліва гарантуючы абсалютную цэласць ягонай асобы. Сімон выехаў акуратна ў тэрмін і на ўсякі выпадак узяў з сабой Гвація.

Цяпер Гвація, з якім гаспадар гутарыў за панібрата ўсю дарогу, прэў у мокрым адзенні ў цёмных сенях, перасушваючы на далонях воглы тытунь, а Сімон раскашаваў за гасцінным, прыяцельскім сталом, вельмі рады добрым навінам, якія ўдалося чуць чакаючы далейшых, яшчэ лепшых. На двары шумела непагадзь хаця ўжо аддаліўся грукат грымотаў і зменшыўся імпэт дажджу.

Пад палудзень дождж пачаў сціхаць, вецер з захаду узмацніўся, шэрая муць угары пачала праясняцца і неўзабаве праглянула сіняе пагодлівае неба. Вецер гнаў з-пад мора цёмныя, рэдкія воблакі, кружыў іх і раскідваў у надземных прасторах. У прарывы між хмар упалі на зямлю прамені нябачнага яшчэ сонца і абмытая зямля закрасавала свежасцю траў, ясным крышталём кропляў, якія блішчэлі ўсюды і на ўсім, што было толькі на паверхні зямлі. Нарэшце праглянула і сонца, азваліся птушкі, па дарогах струменілі вясёлыя, шумлівыя ручаінкі, з дамоў выходзілі людзі. Вялізарная хмара, ад ускраю да ўскраю засцячы неба, цягнучы за сабой шэры полаг дажджу, аддалялася, вецер гнаў яе на горы і хутка яна ператварылася ў сінюю смугу на далёкім, чыстым гарызонце, а праз нейкі час і гэтага не было: над прасторамі балот, высока ў чыстым небе ззяла сонца, а там, куды пайшла хмара, абрысоўваліся ўжо вызваленыя з-пад яе заслоны вяршаліны гор.

У гэтую пару як раз абудзіўся пасля прыемнага адпачынку Сімон Гамрэкелі. Яго абудзіў Кварацхелія і сказаў, што калі яму цікава, то можа глянуць на забітага: якраз цяпер яго закапваюць салдаты, на лугу, за пасёлкам. Сімон памчаў туды як быў, толькі схапіў

на хаду свой піджак, што вісеў і сох на крэсле ля парогу, і Кварацхелія яшчэ раз падзівіўся Сімонавай рухавасці і цікаўнасці.

Сімон прабег вуліцай міма платоў, за якімі панікла мокрая кукуруза і, абыходзячы ў канцы пасёлка вялікую, мутную лужу, здалёк яшчэ заўважыў на лугу, пад чыгуначным насыпам, постаці людзей у зялёным. Сімон наддаў ходу, мерачы праз луг нацянькі, і, падыходзячы бліжэй, убачыў, што капаюць чатыры салдаты, пяты стаіць воддалі і нешта камандуе, махаючы рукамі. Калі Сімон падышоў ужо зусім блізка, то аказалася, што пяты не салдат, а той самы негасцінны начальнік паўстанка, які вымусіў Сімона стаяць пад званом.

— ... паласа адчужэння...—учуў Сімон візглівы голас начальніка.—Не дазваляецца на паласе адчужэння могілкі ўтвараць!.. Я падам тэлеграму!

Сімон пераскочыў вузкую, поўную мутнай вады канаўку і паціху падышоў да салдат. Яны яго, мусіць, не заўважылі, бо ніхто з іх не ўзнімаў галавы. Яны ўпраўнымі, звычнымі рухамі землякопаў, не разгінаючыся, моўчкі закідвалі тугімі лустамі чорнай лугавой зямлі вузкую, чорную яму. Яна была ўжо амаль поўнай, крохкія камякі асыпаліся і апаўзалі ў куты і Сімону здалося, што нехта варушыцца там, у яме, стараючыся прыўзняць гэты чорны, сыпкі, вільготны цяжар. І Сімону стала ніякавата. Ён глянуў на суровыя, панурыя твары салдат, якія моўчкі рабілі сваю справу і ад гэтай маўклівай работы, ад гэтай чорнай ямы і зямлі, якая цяжка пахла перагарэлым торфам, на Сімона выразна павеяла жудам смерці, адзіноцтвам, туглівым страхам. Ягонае тлустае і сквапнае сэрца ўздрыгнула і захаланула. Рэзкі голас чыгуначніка здаўся яму страшэнна дакучным і непатрэбным тут. Упершыню на жыцці бачыў Сімон Гамрэкелі як проста закапваюць чалавека. Дагэтуль ён бываў толькі на пышных урачыстых пахаваннях. І, нядаўна яшчэ, так распалены цікаўнасцю, захоплены сваімі думкамі і меркаваннямі, ён раптам прыціх, страціў сваю звычайную рызыкоўнасць і стаяў, як урыты, воддалі ад ямы. Чыгуначнік, мусіць, нарэшце адчуў тое самае, што і Сімон, бо сціх, і моўчкіназіраў, як асыпаецца чорная зямля ў вузкую шчыліну магілы. Пабразгвалі рыдлёўкі, цяжка дыхалі салдаты. Нарэшце, начальнік станцыі махнуў рукой і пабрыў прэч па мокрай, высокай траве. Адзін з салдат азірнуўся на яго, потым хутка, скосу глянуў на Сімона і прадоўжваў працаваць. Сімон пераступіў з нагі на нагу. Ён добра адчуваў, што лішні тут, але не адыходзіў.

Яму хацелася дазнацца пра таго, хто ляжаў у гэтай чорнай яме. Гэта было неабходна для спакою ягонай, устрывожанай нечаканымі ўражаннямі душы. Здавалася яму, што будзе лягчэй, калі скажуць, што тут ляжыць Міха Коркія. Што-ж! Смерць знойдзе ўсіх, усе памрэм, хто раней, хто пазней, але жывым трэба думаць пра жыццё. Такі быў сэнс Сімонавых развažанняў пасля таго, калі ён крыху апамятаўся ад сваіх трывожных і нечаканых пачуццяў. Яму, жывому, было-б лепш, каб у гэтай яме ляжаў мёртвы Міха Коркія. А мёртваму—усё роўна, дзе ляжаць...

Салдаты скончылі сваю работу, паўтыкалі рыдлёўкі ў зямлю

і тут ужо ўсе ўбачылі Сімона. Таўсты філосаф стаяў па калена ў мокрай траве, штаны ягоныя, пашытыя для ахалоды з тонкага матэрыялу, змоклі ад расы і, абпінаючы адвіслае бруха ва ўсёй прыгажосці, паказвалі таўшчыню рыхлых ягоных лажак. На рухавым адрузлым і заспаным твары быў выраз неспакою і цікаўнасці. Сімон прыемна ўсміхнуўся. Салдаты пераглянуліся.

— Гм!—сказаў Сімон, кашлянуўшы ў кулак.—Ці нельга было-б даведацца, хто тут вамі пахаваны?..

— А табе навошта?—груба спытаў адзін з салдат, выглядам старэйшы ад усіх,—навошта гэта ведаць табе? Чалавек тут пахаваны!

— Бачыце... так сказаць...—Сімон закашляўся.—У мяне сваякі... і так сказаць, у гэтыя неспакойныя часы, гм... Гэтае самае... Што датычыцца мяне, панове, можаце не сумнявацца, я блізкі друг пана Гунава, начальніка вашага... Адным словам, мне гэта цікава... Будзьце ласкавы, скажыце мне!

Салдаты пераглянуліся, потым старэйшы, са злым, васпаватым тварам, апіраючыся на рукаяць рыдлёўкі, спытаў яшчэ больш груба:

— Дык ты што, свечку хочаш паставіць?

— Я вам кажу!—павысіў голас ужо зазлаваны Сімон, трапляючы ў сваю звычайную каляіну.—Я друг пана Гунава. Мне цікава ведаць!.. Ты глядзі, каб я табе не прыпомніў часам дурныя твае кпіны! У цябе пытаюць—ты адказвай, кіслая шэрсць!

— Што?—крыкнуў салдат, выцягваючы рыдлёўку з купіны.—А ну, прэч адгэтуль!

— Шпацыруе тут!—сказаў другі, больш спакойна.

— Мы на службе,—дадаў трэці.—Начальнік знайшоўся! Ідзі прэч, не чапляйся! Яму цікава! Чортавы кныр!

Чацвёрты павольна адышоўся і ўзяў з купіны шырокі паясны рамень. Ен узяў яго толькі для таго, каб падпяразацца, але Сімон у гэтую хвіліну якраз вырашыў, што лепш за ўсё адступіць.

— Згарыце вы, такія людзі!—сказаў ён, дробным крокам падаючыся ў бок.—Каб вас чэрці ўзялі! Цьфу! Як сабакі, каб вы паляглі тут, на гэтым балоце!

— Ну, ну!—крыкнуў васпаваты салдат.—Глядзі, мы табе направім рэбры!

Адплёўваючыся і з кожным крокам павышаючы голас, Сімон аддаліўся. Ад узвышаных ягоных пачуццяў, якіх дазнаў ён, стоячы над невядомай магілай, не засталося ані следу. Калі Сімон дабраўся да пасёлкавай вуліцы, больш нічога не было, акрамя злосці, што яго так незаслужана зляялі і жалю, што не даведаўся, ці гэта Міха Коркія пахаваны на лугу. Стоячы на вуліцы, ён пазіраў здалёк, як салдаты коцяць з насыпу белы камень.

— Помнік яшчэ ставяць!—падумаў зазлаваны Сімон.—Зрэштай—мор на вашую галаву! Арцёма ўзялі, то пэўна і аднарукі чорт папаўся. Ды гэта і ляжыць ён там, бо інакш з бацькам адправілі-б... Мне тое абыходзіць, каб яго ў сяленні не было, вось у чым справа. Бацьку-ж павезлі. То куды ён мог падзецца?.. Ай, дурны, ты Сімон! Лётаеш дзе не трэба, толькі лішнія клопаты!.

З гэтым Сімон прышоў назад у дом Кварацхелія. Тут ужо стала вядома, што атрады войска ездзяць па сяленнях і наводзяць парадак, што цяпер можнаісці і ехаць куды хочаш (хаця, і раней можна было) і што ад бунтароў і звання не засталося. Гэтыя навіны і пачастунак палепшылі настрой Сімона і ён пасля полудня выехаў з пасёлку ў адменным гуморы, не ўспамінаючы нават пра сутычку з салдатамі. Выехаў ён на лінейцы Кварацхелія, пажылая гнедая кабыла аказалася даволі такі жвавай і праз некаторы час пасёлак знік на звароце дарогі, па левы бок якой была зарослая лесам нізіна, што далей пераходзіла ў балота, а направа—плоскія ўзгор'і, адзінокія скалы, яры між імі, дзе шумелі ручаі, гушчар арэхаўніку, шыпшыны і іншага хмызняку. Сімон прыткнуўся хрыбтом да пляча Гвацыя, па звычаю насунуў капялюш на вочы, і так, гойдаючыся, паддаючыся ўсім целам пругкім штуршкам рэсораў, яму было вельмі прыемна ехаць... Звілістая дарога ішла то ўправа, то ўлева, усюды звінела вада, прыносячы на прамытую дарогу хрусткі жвір у зараслях, на розныя галасы высвіствалі птушкі, мякка грэла сонца, цёплы, лагодны вецер абвейваў твар. Дзе падзелася тая непагадзь, навальнічныя віхры, грымотныя страшныя ўдары? Дзе падзеліся тыя трывожныя неспакойныя думкі, што былі раніцой, калі Сімон мокнуў на паўстанку? Як хутка, і дарэчы сказаць, часта на лепшае, змешваюцца абставіны жыцця!

— Я ім скажу так...—думаў Сімон, гойдаючыся, аціраючыся аб цвёрдае плячо Гвацыя.—Я ім скажу... Ну, што-ж! Не хацелі Арцём з сынам жыць як людзі, супроць закону пайшлі, на ўладу агрызаліся, вось цяпер і кара па заслугах. І мне страты, бо хто цяпер даўгі сплоціць? І як вы, бедныя жанчыны, без гаспадарчага дагляду, з малым гэтым хлапцом жыць будзеце?.. Тут яны пэўне ўжо раскіснуць, пачнуць енчыць, а я тым часам ім і скажу... Ідзіце, скажу, да мяне, працуйце на маіх вінаградніках, я злога не памятаючы, вас у бядзе не пакіну. Неразважны Арцём, які мяне лаяў і праклінаў, можа і не падзякуе, вышаўшы з турмы, калі яго адтуль калінебудзь выпусцяць, але пра гэта мне малая бяда... Я пра тое клопат маю, каб вы, бедныя жанчыны, з дзіцянём з голаду не прапалі. Цяперашнім светам людзі не міргнуць вокам, хоць ля ног іхніх памры.. Але я пакуль жывы, не папушчу бедных людзей у крыўду і зроду так рабіў. Хай бог гэта бачыць! Тут яны зноў у слёзы прыўдараць, а я пасля ім скажу, што зямлю іхнюю і таго падшывальца, які ўжо ў мяне—бяру сабе ў адплату доўгу, бо голых страт мець не хачу, а ім усёроўна зямлі гэтай не абрабіць. А гэтая Кетэ, натуральна прыгожая дзяўчына!..

Тут думкі Сімонавы прынялі нейкі інакшы напрамак і ён прыпомніў некаторыя асаблівасці Кетэ, дастойныя ўвагі: гнуткі стан і сама яна гнуткая, як трысцё—лерцамі, гарачыя цёмныя вочы, разветлыя тонкія бровы, смуглы твар... Сімон засмяяўся ціханька сам сабе і зноў паглыбіўся ў свае думкі, мяркуючы і так і гэтак. Нарэшце падышла дрымота. Цяплыня разбірала размяклага Сімона і ён, грузна прыхінуўшыся да Гвацыя, пачаў пасвістваць носам. Гвацыя добрасумленна вытрымліваў націск адрузлай тушы, час ад часу паддаючы ахвоты старой кабыле Кварацхелія і, такім

чынам, прыемна адпачываючы, купец Сімон Гамрэкелі паступова набліжаўся да сваіх уладанняў.

Па дарозе за гэты час ім сустрэўся адзін толькі чалавек— гэта быў селянін, які вёз на ішаку два пустыя кошыкі з-пад кукурузы. Ён пацвердзіў тое, што чуў Сімон ад Кварацхелія: па сяленнях шмат салдат і яны шукаюць тых, хто ідзе супроць закону. Праехаўшы далей, на скрыжаванні дарог, Сімон і Гвація бачылі на той дарозе, што ішла з нізіны ў надгор'е, мноства конскіх слядоў. Сімон правільна вырашыў, што тут нядаўна, пасля дажджу прайшоў конны атрад і ў поўным спакоі душы зноў пры́ткнуўся да пляча Гвація.

Сімонава здагадка была правільнай. Тут прайшоў конны атрад, на чале з палкоўнікам, гэты-ж атрад вёз цела Гунава. Другая частка войска, пешая, пад камандай Мучаідзе, рухалася па другой дарозе ў нізіне і замест трафеяў везла на двуколцы дрэсіраванага дога князя Дгебуадзе. У благароднага сабакі былі паламаныя рэбры і папсаваны хрыбет. Пасля смерці Гунава, палкоўнік, які вельмі шанаваў сваё здароўе, загадаў адыходзіць. Ён асцерагаўся, каб не трапіць часам пад кулю. Ваяўнічы запал палкоўніка раптам астыгнуў, ён выбраўся на бальшак раней за салдат, акружыў сябе канвоем і ў такім парадку войска рушыла прэч з гэтых нешчаслівых і небяспечных месцаў. Калі сціх дождж і атрад спыніўся на адпачынак, палкоўнік склаў другі план экспедыцыі. З пустымі рукамі вяртацца яму было нельга. Ён вырашыў падзяліць атрад на два, і дзякуючы таму, што небяспека цяпер аддалілася, з гэтымі двума атрадамі прайсці праз бліжэйшыя сяленні і паглядзець, ці ўсё там у парадку. За дзве гадзіны да таго, як на скрыжаванні двух дарог з'явіўся Гамрэкелі, атрад разлічыўся і пачаў дзейнічаць. Аб гэтым зараз-жа разнесліся чуткі ад вёскі да вёскі і некаторыя з сялян спешна пакідалі свае хаты. Праязджаючы сяленні адно за другім, палкоўнік так-сяк сабраў, нарэшце, дарогай да дому, патрэбныя яму матэрыялы для рапарту.

Тым часам, Сімон праехаў больш за палову шляху і пасля таго, як абмінуў скрыжаванне двух дарог, да Сагвасаліо было ўжо недалёка. Пакрысе пачалі паскубваць Сімона гаспадарчыя клопаты. Ён думаў пра свае вінаграднікі, агароды, пабудовы і пра тое, што будзе далей.

Сонца павольна ішло да захаду, хаця грэла ўсё яшчэ моцна, птушкі ў зараслях прыціхлі, пахаваўшыся ад спёкі ў засень, на дарозе было пуста, даўно ўжо ніхто не сустракаўся, каб суцешыць Сімона апавяданнем пра войска. Але ён пра гэта ўжо мала дбаў. На гэтай пустэльнай дарозе, якая ўжо выходзіла з прыгор'яў, зніжаючыся, пераходзячы ў балотную нізіну, Сімон чуў сябе цяпер не горш, чымся на вуліцы ў Поці, у ясны дзень. Яму толькі напрыкрыла доўгая дарога і ён часта загадваў:

— А ну, паддай пары гэтай чортавай клячы, Гвація!

І вось, калі Гвація паддаў пары і лінейка, віхляючы па жвірыстых каляінах, уз'ехала на масток, праз неглыбокі яр, узбоч дарогі, на невысокай скале, аброслай шыпшынай, з'явіўся чалавек і нешта крыкнуў да падарожнікаў. Гвація моцна тузануў

лейцы да сябе, старая кабыла асела на зад, наперадзе пачуліся галасы.

— Ай!—слабым голасам сказаў Сімон і больш нічога ўжо сказаць не мог. На дарозе стаялі ўзброеныя людзі. Падпяразаныя па чорных абтрэпаных сялянскіх світках шырокімі баявымі паясамі, з вінтоўкамі ў руках, з цёмнымі смуглымі тварамі, даўно не голенымі і абветранымі, у чорных капялюшах і башлыках, яны стаялі моўчкі, заступаючы дарогу, і выгляд іх мог напалохаць нават больш адважнага чалавека, чым Сімон.

З гэтай суровай маўклівай грамады вышаў наперад высокі вусаты чалавек у чалме і падышоў да лінейкі.

— Вы адкуль едзеце, людзі?—спытаў ён, пазіраючы ва ўпор у мутныя, ашалелыя вочы Сімона.

— З По... по... (Сімон сударгава ўздыхнуў)... з Поці, батоно!

— Гэта ён!—пачуўся голас зверху.—Гамрэкелі, сабака. Папаўся, злодзей, шакал, гадзіна!

Нечая постаць мільгнула ў паветры, зашалясцеў хмызняк, і Міха Коркія, які скочыў са скалы з двухсажнёвай вышыні, апынуўся ля самай лінейкі і стаў між здзіўленым Кверквелія і абамлелым Сімонам. Люта гарэлі чорныя вочы Міха, дрыжэлі ягоныя збялелыя губы, у руцэ ён трымаў вялікі рэвальвер і гэта было самае страшнае. Сімон застагнаў. Душа ягоная гатова была пакінуць рыхлае грэшнае цела. І гэты момант надышоў. Міха Коркія ўзняў рэвальвер, мерачы проста ў шырокі лоб Сімона Гамрэкелі. Гвація выкуліўся з лінейкі і на карачках папоўз прэч. Сімон усхліпнуў і, заплюшчыўшы вочы, амаль непрытомны, ужо амаль што нежывы, адкінуўся на спінку сядзення. У жываце ягоным гучна забурчэла.

Але Кверквелія паклаў руку на плячо Міха і той быў вымушаны апусціць свой цяжкі рэвальвер.

— Ты хочаш паспрабаваць падарунак Гунава?—насмешліва і спакойна спытаў ён.—Пакінь! Мы не разбойнікі, каб пераймаць купцоў па дарогах. Аддай мне пісталет, Міха! Чуеш? Што я табе кажу?! Міха!..

Ен схапіў Коркія за кісць рукі і рэвальвер упаў на пясок. Тарыэл узяў яго, абцёр аб світку і заткнуў за пояс. Міха дрыжэў усім целам, вочы ягоныя разбегліся. Ен непрытомна пазіраў то на Кверквелія, то на Сімона, стараючыся разарваць неслухмянымі, дрыжачымі пальцамі каўнер сваёй кашулі. Астатнія ўсё так-жа моўчкі, чакалі, што будзе далей. Гвація ўмольна склаўшы рукі на грудзях, слупам стаяў пад кустом на ускраі дарогі.

— Браты!—крыкнуў Міха.—Браты!... Гэты-ж чалавек раскідаў нашу сям'ю... жыццё... загубіў бацьку майго!.. Ах, Тарыэл, Тарыэл!.. Аддай!..

Твар Тарыэла нахмурыўся, сыйшліся бровы, ён хутка глянуў на нерухомую Сімонаву тушу, што ляжала на лінейцы і адмоўна паківаў галавой.

— Тарыэл!—ускрыкнуў Міха,—чаму ты шкадуеш гэтага звяра?.. Браты, заступецеся за мяне!.. Імем бацькі прашу!..

Кверквелія павольна павярнуў галаву, глянуў на астатніх і ніхто

з іх не варушыўся з месца і не сказаў ні слова. Тады Міха раптам заплакаў уголас і з працяглым енкам рынуў на Сімона.

— Ай!—гучна крыкнуў Сімон.—Ай, ай!

Гваціа заплюшчыў вочы і калі адкрыў зноў, убачыў, што высокі ў чалме трымае аднарукага і цягне прэч ад лінейкі.

— Спакойна, спакойна, Міха!—гаварыў Тарыэл.—Спакойна, кажу табе!

І тут ён адчуў, што Міха неяк абмяк і ў пару схапіў яго за плечы. Міха пахіснуўся і ўскрыкнуў і цяжка ўсім целам павіснуў на руках Тарыэла. Гваціа бачыў, як падбеглі астатнія, абступілі іх і аднарукага аднеслі ў бок ад дарогі, у зараслі. У наступны момант чорнавусы, у чалме, стаяў перад ім.

— Скажы мне, ты хто такі?—спытаў ён.

— Слуга, батоно!—прашаптаў Гваціа.

— Скажы мне, добры чалавек: едучы са станцыі вы не сустрэлі салдат?

— Не сустрэлі, батоно... Толькі сляды бачылі. Шмат слядоў...

— Пакінь, які я табе батоно! Я табе брат. Скажы мне, толькі праўду скажы: ты не бачыў нідзе ваеннай арбы? На ёй везлі раненых сялян...

— Не бачыў, батоно... Але...

— Што?

— На станцыю прывезлі двух сялян. Адзін паранены, а другі памёр... Яго пахавалі салдаты на лугу за пасёлкам...

Гваціа са здзіўленнем убачыў, як уздрыгнуў твар гэтага спакойнага, суровага чалавека. Ён адвярнуўся ад Гваціа і стлумленым, зусім інакшым голасам сказаў.

— Браты!.. Топурыя памёр... Яго пахавалі салдаты на станцыі...

Ён схіліў галаву і стала вельмі ціха. І гэтая цішыня, здалося Гваціа, цягнулася вельмі доўга. Балючым енкам прагучэў самотны крык арла ў вышыні, вецер гойдаў гнуткі прыдарожны ляшчыннік...

— Прыкончыць гэтага!—пачуўся раптам з грамады грозны голас, і гоман прайшоў у грамадзе.—Сто іхніх галоў за нашага Топурыя!..

Тарыэл узняў галаву і гоман сціх.

— Спакойна, Оція!..—сказаў ён, ідучы да лінейкі.—Спакойна!

Каб Сімону быць яшчэ далей у такім стане адрантвення, каб яго най душы і надалей вытрымліваць такі націск жаху, напэўна раніцой спявалі-б папы ў Поці вечную памяць другой гільдзіі купцу Сімону Гамрэкелі. Але нечая рука прыўзняла яго за каўнер і пасадзіла так лёгка, як-бы гэта не было шэсць з паловай пудоў купецкага мяса. Потым Сімон пачуў словы, пасля якіх яму адразу стала лепш.

— Едзь дадому, ты, ліхадзей!—сказаў Кверквелія.—Едзь і больш сюды не варочайся. Не знасіць табе галавы, калі ты яшчэ раз паспрабуеш ступіць нагой на нашыя землі. Гэта я табе кажу, Тарыэл Кверквелія! І ніякае войска не абароніць ні цябе, ні сяброў тваіх,

таўстая свіння! Гнеў народны спаліць вас, як пярун гнілое дрэва. Едзь дадому, Сімон Гамрэкелі, і памятай, што я сказаў табе!

Сімон прышоў як след да памяці толькі пад'язджаючы да таго раздарожжа, дзе было шмат слядоў войска, якое ўжо даўно пакінула гэтыя небяспечныя месцы.

— Бог нас ратаваў, Гваці́я...—сказаў ён расчулена.—Толькі бог рукой сваёй адвёў ад мяне злую смерць... Ты, мусіць-жа, і напалохаўся, Гвацiя?

— Я ніколі не рабіў крыўды людзям,—коратка адказаў простадушны Гвацiя.—Мне няма чаго палохацца...

IV

Некалькі дзён пасля, пахмурным позным вечарам, Міхаіл Ганарджыя ўваходзіў у вузкую вулічку ўскраіны невялікага гарадка Зугдзідзі. Ён павольна ішоў па вязкай гразі міма няскончаных парканаў, пільна ўглядаючыся наперад. Міхаіл не хацеў ні з кім сустракацца. Але на вуліцы было ціха. За парканамі дзе-ні-дзе мільгаў агенчык, часам на якім-небудзь двары пачынаў брахаць сабака і зараз-жа сціхаў. Цемра, спакой, цішыня панавалі на вуліцах гарадка. Міхаіл ведаў куды ісці. Дайшоўшы да цёмнага двухпавярховага дома, ён завярнуў у завулак і неўзабаве апынуўся на агародзе. Тут каля абваленага напалову расцяганага плятня, ён адшукаў сцежку і як толькі ўступіў на яе—пачуў наперадзе звонкі стук—далёкія ўдары молату па кавадле.

— А! Грукае, стары!—павесялеў Міхаіл, і пайшоў хутчэй, коўзаючыся па цвёрдай, прыбітай і слізкай сцежцы, пападаючы нагамі ў рыхлую раллю.

Хутка ў змроку абрысаваўся невысокі курган. Гэта быў дзярновы дах кузні-зямлянкі. Запахла чадам, пад нагамі захрусцеў шлак, якога шмат было накідана ля кузні. Цяпер удары молата былі гучнымі, але яны сціхлі, як толькі Міхаіл падышоў да парогу. Зараз-жа зашумеў горан. Чырвонае святло працякала праз шчыліны зачыненых дзвярэй. Міхаіл абмацаў скабу і тузгануў да сябе дзверы. Яны не паддаваліся. Шум горна сціх.

— Хто там?—спытаў спакойны голас.

— Свае!—адказаў Ганарджыя.—Адчыні, Тэафіл!

За дзвярыма пачуліся крокі, забразгала засаўка і дзверы адчыніліся. Цяплынёй, чадам, аддаўна прывычным і прыемным пахам распаленага жалеза павеяла з кузні. Там быў паўзмрок, цмяны пурпуровы бляск ад груды вугалляў, ляжаў на абкураных сценах, на земляной падлозе. У гэтым святле паблісквал метал інструменту, раскладзенага на варштаце і развешанага па сценах. У гэтым няпэўным святле, у цмяным, пурпуровым ззянні, Міхаіл, які адным поглядам ахапіў усё адразу,—без памылкі пазнаў свайго даўняга друга Тэафіла Габісонія, які стаяў у двух кроках ад парогу, трымаючы малаток у руцэ.

— Гамарджоба, Тэафіл!—узрадаваны і ўсхваляваны, сказаў Ганарджыя, пераступаючы парог.—Такі давялося нам сустрэцца! Не пазнаеш, хіба?

Тэафіл кінуў малаток на варштат.

— Ты? Міхаіл?—ціха спытаў ён.—Які-ж гэта шчасьлівы вецер...

Ён ступіў насустрач Міхаілу, шырока развёўшы рукі. Яны моўчкі моцна абняліся.

— З дарогі?—пытаў Тэафіл, цягнучы Міхаіла за руку.—Вось тут, бліжэй да агню... Сядай проста на кавадла. І цёпла і выгодна... Ну, дай я на цябе гляну... Гэта-ж чатыры... Не, пяць ужо гадоў! Як час ідзе!..

Тэафіл хутка нахіліўся, выцягнуў з кута кошык з вугаллямі, вытрас іх у горан, пачаў раздзімаць мяхі, потым кінуў, пайшоў у другі кут, прынёс адтуль пук лучыны і паклаў на вугалле. Ён рухаўся хутка і спрытна, вельмі вялікі для гэтай маленькай кузні, але ўсё ў яго выходзіла хутка і прызвычаена, для яго хапала тут месца. Увесь час ён ажыўлены, узрадаваны гаварыў. Міхаіл, няёмка седзячы на кавадле, стомлена ўсміхаўся.

Лучына ўзгарэлася да таго ясна, што Ганарджыя пачаў баяцца, каб хто не прышоў, убачыўшы ўначы ў кузні такое сьвятло. Пра гэта ён сказаў Тэафілу.

— Ніхто не прыдзе!—упэўнена сказаў Тэафіл, раздзімаючы мяхі.—Сьпяць без задніх ног! Ды каб хто і прышоў-бы, табе што за бяда! Хіба ты не госьць у мяне? Чаго табе баяцца ў Тэафіла Габісонія пад дахам?! Ну, дай я на цябе гляну. О-о-о! Міхаіл! Ты пастарэў... На дваццаць год пастарэў!.. Што з табой!—Ты хворы?

— Так!..—адказаў Міхаіл.—І хварэю пакрыху, жыцьцё дрэннае і гады не маладыя... А ты ўсё яшчэ арол, Тэафіл!.. Усё гэткі, як і быў...

Міхаіл расчулены, радасны, глядзеў на свайго старога друга, цяплыня даўніх успамінаў грэла яго стомленую душу, як цяплыня ад агню—ягонае хворае цела. Задымленая маленькая кузня нагадвала тыя часы, калі яны з Тэафілам працавалі ўдваіх вечарамі ў гулкім кавальскім цэху, два мурзатыя хлапцы, падручныя-прыбіральшчыкі. Цяпер ён быў зноў перад ім, ягоны равеснік, па-ранейшаму поўны сіл, шчыры і вясёлы.

— Аднак, што-ж мы гэта?—сказаў Тэафіл.—Госьць сядзіць на кавадле, а гаспадар яму пад нос попелам дзьмухае! Гэта мне парадкі! Досыць ужо сёньня работы! Пойдзем, Міхаіл, да мяне ў хату, паглядзім можа ёсьць чым душу пацешыць! Ты хіба ўжо быў у мяне? Цябе сюды паслала Этэры?

— Я прышоў проста сюды,—адказаў Міхаіл.—Спадзяваўся, што ты яшчэ будзеш тут, памятаючы твой звычай грукаць молатам да паўночы. Кузню я ведаю, калі яшчэ Кірыл працаваў... І добра, што заспеў цябе тут, а то прышлося-б дзе-небудзь пад кустом заначаваць...

— Так, Кірыл, Кірыл!..—уздыхнуў Габісонія, не слухаючы далейшых слоў Міхаіла,—скончыў сваю работу Кірыл... Аднак пойдзем... Досыць тут чадам дыхаць...

Пры ўспаміне пра брата, Тэафіл спахмурнеў, прыціх. Падышоўшы да горна, ён засыпаў попелам вугалле, потым склаў у па-

радак інструмент на варштаце, некаторыя рэчы паклаў у кішэню парусінавага пінжака і адвярнууся да Ганарджыя:

— Ну, пайшлі, брат Міхаіл.

Агародамі яны ішлі моўчкі. Габісонія наперадзе, Міхаіл ззаду. Толькі ў завулку Тэафіл азірнууся, і, відаць, прыпомніўшы тое, што казаў яму Міхаіл у кузні, спытаў:

— А чаму-ж табе было-б пад кустом начаваць? Хату маю, праўда, калі няма ў каго спытаць, адшукаць не лёгка, але-ж тут заезжы двор ёсць... І не адзін нават...

— Э, заезжыя двары не для мяне!..—адказаў Міхаіл.—А чаму— я табе потым раскажу!

Габісонія спыніўся ля паркану, адсунуў дошку і першы пралез у шчыліну.—Тут бліжэй,—сказаў ён,—ідзі за мной ў след, а то памідоры патопчам.

Неўзабаве ў цемры прагляну ў агеньчык, яны прайшлі яшчэ некалькі і Тэафіл спыніўся.

— Прышлі,—сказаў ён, бразгаючы засаўкай, адкрываючы фортку.—Вось і наш палац.

Дзверы адчыніла пажылая жанчына, удава старэйшага брата Габісонія. Яна не пазнала Міхаіла, моўчкі пакланілася і пайшла у бакоўку.

— Сястра!—спыніў яе Тэафіл.—Чаму не вітаеш нашага старога друга? Бачыш, якога я табе гасця прывёў?!

Прыглядзеўшыся, жанчына здзіўлена ўскрыкнула, потым заплакала і вышла з кухні.

— Называецца, прывіталася!—спагадліва ўсміхнууся Тэафіл.— Вось так заўсёды: сустрэне каго з даўніх знаёмых Кірыла, і пачынае плакаць. Дык ты нам, сястра, падрыхтуй што-нібы паесці, госць наш з дарогі, сагрэцца чым-небудзь дай!—сказаў ён, адкрыўшы дзверы ў бакоўку.—Свечы там ёсць?

— Там!—адказала плачучы, жанчына.—На стале.

— Эх, жанчыны!—з дакорам сказаў Тэафіл, адчыняючы дзверы ў свой пакой.

— Газы няма!—гаварыў ён, запальваючы свечку.—Але такое святло якраз па нашых вачах. Цёмнае жыццё, і святло цёмнае, толькі душа светлая. Праўда? Гэтак, змоладу жывем. Распранайся, дарагі мой Міхаіл. Ты ў сваёй хаце!..

На сцяне Міхаіл убачыў старую стрэльбу, старадаўні кінжал бацькоўскі, можа яшчэ і дзедаўскі, з пацямнелай срэбнай рукаяццю і абшарпанымі ножнамі. Над сталом, у акуратнай, зашкленай раме вісеў вялікі партрэт Шота Руставелі, на паліцы ляжалі стопкі кніг, па выгляду многа ўжо чытаных. Жалезны гарадскі ложак і стары тапчан, засланы дыванам, стаялі па кутах пакою. На гэты тапчан Габісонія пасадзіў Міхаіла. Ён сеў і адразу цяжкая ўтома ахінула яго.

Упершыню за многія дні небяспечных блуканняў, Міхаіл увайшоў у дом, дзе спакойна жывуць людзі. Несамавіты, цеснаваты пакойчык Тэафіла выдаўся яму абшырным, вельмі чыстым, яму сорамна стала за сваё мокрае, забруджанае адзенне, ён прысунууся ў кут тапчана, хаваючы пад яго ногі, і прыкрыў вочы. І зараз-жа,

захісталіся перад вачыма гнуткія мокрыя вяршаліны дрэў, дождж зашумеў па лесе, Міхаіл убачыў Тарыэла Кверквелія, які гаварыў да яго. Тарыэл гаварыў нешта незразумелае і толькі па руху ягоных губ Міхаіл здагадаўся, што ён кажа:

— Топурыя... Топурыя!..—гаварыў Тарыэл, сціскаючы кулакі, і падносячы іх да твару.

Да голаса Кверквелія далучыўся яшчэ нечы знаёмы голас, ён гаварыў нешта сваё. Потым Міхаіл убачыў у гушчары тоненькі, жоўты агеньчык, маленькі нерухомы шматок святла. Недзе сквёрся сярчок. Мабыць, у дупле старога бука.

— Цік-трак-трак...

Міхаіл адкрыў вочы, убачыў жоўтую свечку на стале, цёмныя шыбы вакна, постаць Тэафіла, які нешта гаварыў. На сцяне шчоўкаў гадзіннік. Ён зноў закрыў вочы і ўсё зноў змянілася. Зноў быў лес, цёплы вецер, дождж і шум, шум... Нехта знаёмы пытаў здалёк:

— А дзе-ж твае рэчы? Ты так і прыехаў?.. Можа, забыліся ў кузні?

— Што?—спытаў Міхаіл, стараючыся ўбачыць праз гушчар хто гэта пытае? Ён нарэшце пазнаў Тэафіла.

— У цябе з сабой нічога няма?

— Няма...—адказаў Міхаіл.—Вінтоўку я схаваў... у лесе...

І адкінуў галаву на спінку тапчана.

— Што? Што?—Тэафіл хутка падышоў да стала, узяў свечку.— Што ты кажаш? Вінтоўку?... Адкуль у цябе вінтоўка?

Міхаіл не адказваў. Ён спаў. Габісонія стаяў ля яго, устрывожаны.

— Збіўся з ног, бядак!—падумаў Габісонія, аглядаючы Міхаіла.— І састарэў-жа, састарэў!

Гэты твар з вострым абцягнутым падбародкам, з жоўтым касцістым носам, з ямамі на шчаках, з цёмнымі ценямі пад запалымі вачыма, з глыбокімі рысамі маршчын—ні ў чым не нагадваў Міхаіла Ганарджыя—юнака, ці нават у тым веку, калі бачыў яго Тэафіл у апошні раз, пяць год таму назад.

— Схаваў вінтоўку!—думаў Тэафіл.—Што гэта ён трызніў?

Адказу не было. Міхаіл спаў. Падклаўшы яму пад галаву падушку, Габісонія асцярожна ступаючы, вышаў.

Абудзіўся Міхаіл апоўначы. Габісонія стаяў ля яго, трос за плечы.

— Уставай, уставай, Міха... Нельга спаць галоднаму.

Праз нейкі час яны сядзелі за сталом, адзін супроць другога. На стале была ежа, глячок з віном. Габісонія падліваў Міхаілу ў шклянку віна, гаварыў:

— Цяпер самая пара ўспомніць старое, пагаварыць аб новым, Ноч, цішыня... Нам ніхто не дакучае, і мы нікому... Пі і еш, Міхаіл, ты госць у мяне, госць, на якога я доўга чакаў...

Але Міхаіл піў мала, еў таксама. Ён аб нечым думаў, на пытанні адказваў коратка, сам ні аб чым не пытаўся, і па гэтым Габісонія пазнаў, што Міхаіл прышоў да яго не проста ў госці,

што ёсць нешта сур'ёзнае і значнае, і, напэўна, тое, што сказаў Міхаіл у сне, мае да гэтага нейкае дачыненне.

Аднак, Габісонія не выказваў ніякай цікаўнасці, ветліва і проста частаваў Міхаіла, стараўся яго развесяліць, то ўспамінаў розныя гісторыі з іх мінулага, то расказваў пра сваё жыццё.

— Вось, раблю качэргі зугдзідскім мешчанчукам...—гаварыў Габісонія.—Пасля смерці брата, прыехаў сюды ненадоўга, а застануся тут, мабыць, да тае пары, пакуль зверху ці знізу скамандваюць: „стоп, машына“! Мне жыць без прытулку надакучыла, гады ўжо не тыя. Старую сваю я пахаваў даўно, дзеці ў свет пайшлі, сам пакрысе ўжо да зямлі хілюся... Я сказаў сабе: Тэафіл, досыць вандраваць па свеце, досыць працаваць на тоўстабрухіх, ты і так не для аднаго з іх за свой век палац пабудаваў. У апошні час я працаваў на рудніках Сіманава ў Чыатурах, быў машыністам... І вось, як падумаў я так, адчуў, што і сапраўды ўжо досыць. І вось тут жыву ўжо трэці год, раблю качэргі... На жыццё хапае, да выгады вялікай я не прывык... Вазьмі гэты кавалак, Міхаіл... І нешта ў кубак ты забываешся заглянуць!..

— Дзякаваць, дружа...—адказваў Міхаіл, адсоўваючы сваю шклянку.—Не дазваляе здароўе.

Габісонія дапытліва глядзеў на яго, думаў:

— Калі ў Міхаіла ёсць што мне сказаць, то скажа, калі не—то няма ніякай патрэбы яго прымушаць. Гэта ягоная справа.

Паступова размова сціхла. Некалькі часу яны сядзелі моўчкі. Пасля Міхаіл устаў, падзякаваў за пачастунак і сказаў, што зараз ім трэба пагутарыць па вельмі важнай справе.

— Дык будзем гаварыць за сталом!—сказаў Габісонія.—Па старому звычаю бацькоў... Сядай, Міхаіл!

Але Міхаіл адмовіўся.

— Справа такая, што не за сталом гаварыць аб ёй...—сказаў ён з сумнай усмешкай.—За сталом—добры гумар. Вясёлыя размовы... А на гэтай справе—слёзы і кроў. Яны прыгнятаюць сэрца... Парады і дапамогі прышоў да цябе я прасіць, дарагі друг Тэафіл...

І Міхаіл адразу пачаў гаварыць пра сваю справу, пачынаючы з таго дню, калі ў сяленне Сабокучаво прыехаў падатковы інспектар. Габісонія больш не ўсміхаўся, як тады, калі гаварыў аб сабе, калі частаваў Міхаіла. Ён стаў сур'ёзным, нават спахмурнеў, нейкая незнаная Міхаілам дагэтуль рыска суровай увагі з'явілася на яго твары, залегла між сівых броваў, з-пад якіх пільна глядзелі блакітныя выцвілыя вочы. Ён схіліў галаву, апіраючыся шчакой на цёмную далонь вялікай жылістай рукі і слухаў.

Міхаіл, спачатку хвалюючыся, потым усё больш спакойна расказваў пра падзеі ў Сабокучаво. Адлічваючы без часу, шчоўкаў стары гадзіннік на сцяне. За вакном паступова разыходзіўся чорны змрок, меднае святло далёкага яшчэ дню, пранікала пад сховы начы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— ... І вось, надышоў дзень!—гаварыў Міхаіл, заканчваючы сваё апавяданне.—Звер Гунава, які абражаў свет сваім дыханнем, які пляміў і крывавіў зямлю, у час аблавы трапіў на смелага Та-

рыэла Кверквелія, і паганае жыццё шакала скончылася! Але Топурыя загінуў... Нам расказалі сяляне, што бачылі, як везлі на арбе Топурыя і Бокучава: Топурыя быў мёртвы, ён ляжаў з прабітай галавой, гэты дастойны і смелы чалавек, роўных якому мала бывае на свеце. Другі, Эліа, яшчэ быў жывы... Ён стагнаў яшчэ... Так расказваюць людзі... Па гэты дзень сум і жалоба ў душы кожнага з нас... Пакуль не загінем паасобку, ці ўсе разам—інакшай няма нам дарогі, як са зброяй супроць іх, што ў чорную яму загналі народ! Але мы не ведаем інакшых дарог, як тыя, што ў поле і ў лесе. Мы не ведаем, куды трэба ісці і што рабіць, і як рабіць, каб карысць была, не шкода. Слухай мяне, Тэафіл: мы з маладых год прыяцелі, я ведаю тваю шчырую душу і тваё гарачае сэрца. Я добра памятаю тыя дні, калі ты сядзеў у турме за народ, я ведаю, што ты дружыў з большэвікамі і памятаю, як не раз ты казаў мне, што яны выратуюць бедных людзей ад пакут і няволі. Я прышоў да цябе з просьбай: дапамажы нам, Тэафіл, справай ці парадай. Мы ведаем, што большэвікі ў нашым краі збіраюць народ, што яны ворагі для тых, хто вораг нам... Хай яны пакажуць нам дарогу, навучаць нас, мы пойдзем і не пашкадуем жыцця, мы адплоцім за ўсё крыўдзіцелям нашым і альбо ляжам усе, альбо адваюем волю... Іначай—смерць прыдзе на ўвесь бедны люд!

Міхаіл скончыў гаварыць вельмі ўсхваляваны. Габісонія маўчаў, задуманы, углядаючыся ў трапяткі, чадны агеньчык аплываючай свечкі. Міхаіл стаяў ля стала, чакаў. На твары старога каваля не было ўжо таго суровага выразу пільнай увагі, панурага спакою, як у пачатку Міхаілавага апавядання. Ён усміхаўся лагодна і расчулена нейкім сваім думкам і па гэтым здагадаўся Міхаіл, што ён знайшоў таго чалавека, якога спадзяваўся знайсці. Неўзабаве, сам Габісонія пацвердзіў гэта. Ён устаў і, паціскаючы руку Міхаіла, сказаў:

— Гамарджо, Міха! Мы зноў сустрэліся з табой па старой сцежцы! Я вельмі рады... вельмі рады... Што табе яшчэ сказаць?.. Вельмі рады я, Міхаіл!

Ён узняў з паліцы акуляры, уздзяваючы іх на хаду, прайшоў у кут, выцягнуў з-пад ложка скрынку, адчыніў яе і пачаў праглядаць нейкія кніжкі і паперы.

— Старыя сцежкі...—думаў Міхаіл, прыпамінаючы даўняе.

Габісонія прынёс паперы, адсунуў пасуду, паклаў іх на рог стала. У акулярах ён быў зусім непадобны да таго, каго прывык бачыць і ўспамінаць Міхаіл.

— Калі мы з табой юнакамі былі, Міхаіл,—сказаў Габісонія,— ужо тады пачалася барацьба за вызваленне народу ад спрадвечнай няволі... Я адразу стаў у рад з усімі тымі, хто ішоў на барацьбу. Ты, Міхаіл, тады адышоў у бок. Ты дапамагаў нам, калі было патрэбна, ты нават карміў маю сям'ю, калі я сеў у турму, аднак, ты не верыў у нашы сілы і не раз казаў мне, што рабочы, калі ён хоча выбіцца з нястачы, з гора, павінен старацца перш за ўсё аб тым, каб зарабіць як мага больш. Тады мы пасварыліся і ты паехаў у Баку і мы разлучыліся і шмат гадоў прайшло ад тэй пары. Можа ты памятаеш, Міхаіл, што я казаў табе на

вакзале ў Батумі, у той даждлівы, восенскі вечар? Я табе сказаў: Міхаіл, ты пашкадуеш, што страціў сваю маладосць дарма, што сілы, якія ты мог прыкласці да барацьбы за вызваленне, ты аддаў на збіранне грыўняў. Ты пашкадуеш і калі ты сапраўды сумленны чалавек, такі якім я цябе заўсёды ведаў—ты ўсё-такі зноў прыдзеш да нас, рана ці позна. Так я сказаў тады, Міхаіл, і прызнацца, успамінаючы гэтыя словы пасля, часам сумняваўся... Бо людзей, якія разважаюць так, гаспадары заўсёды наймаюць сабе за слуг і плацяць ім добра. І людзі, якія разважаюць так, робяць часамі чорную і ганебную справу. Але на шчасце нічога такога з табой не здарылася. Калі ты ўбачыў што ў Баку не лепш, чымся на фабрыцы Каплана ў Батумі, што колькі не працуй, больш як на хлеб не заробіш, ты кінуў горад і прыехаў на работу, каб прадоўжваць працу дзядоў: ускармліваць зямлю, каб яна ўскарміла цябе. Ты адышоў ад няпэўнага ў кавалку хлеба рабочага жыцця, пакінуў сваіх сяброў, ты шукаў лепшага для сябе. І што-ж бачу я цяпер, Міхаіл: ты на парозе старасці, у непагодлівы час жыцця, са зброяй у руках вышаў на барацьбу і мы зноў сустрэліся на старой сцежцы, на якую некалі ўступілі поплеч!

Габісонія ўсміхаючыся, усхваляваны, глядзеў ясным, расчуленым поглядам на Міхаіла.

— Тыя людзі, якія пражылі жыццё ў чаканні лепшага лёсу, а не ў змаганні за яго,—адчулі неабходнасць барацьбы. Тыя, што абыходзілі барыкады, цяпер са зброяй у руках узыходзяць на іх. Гэта вельмі ўцешна, Міхаіл. Гэта азначае, што барацьба, якая пачалася ў дні нашага юнацтва, падыходзіць да канца, што іскра стала полымем і гэтае полымя выпаліць крывавае балота, у якім адвеку пакутуе працоўны народ. „Шчасце ў барацьбе? Перамагае смеласць!"—сказаў той, каго мы звалі Пастырам і Настаўнікам, Сосо Джугашвілі, той, хто вучыў нас, рабочых Батумі, барацьбе за сваё рабочае права, за вызваленне ад спрадвечнай няволі. Гэта ён сказаў пятнаццаць год назад. За гэты час шмат вады вылілі бурлівыя рэкі ў Чорнае мора, за гэты час шмат крыві пралілося з грудзей лепшых сыноў рабочага класа, шмат імён слаўных загасла ў нябыцці, як загасаюць ясныя зоры на восенскім небе... І аднак, жывой засталася рабочая праўда, якая напісана на сцягах партыі большэвікоў, жывой засталася нашая сіла, бо ўсё, што ёсць лепшае ў народзе, ідзе да нас, усё, што ёсць лепшае ў жыцці, народжана сілай духу рэволюцыі. Шчасце ў барацьбе! Перамагае смеласць! І той хто загінуў за справу рабочага класа, за праўду адвечную нашу—тым слава!

Тэафіл Габісонія, выпрастаны, з маладым бляскам вачэй, глядзеў некуды ў кут цеснага пакоіка, паверх галавы Міхаіла. Ён як-бы бачыў праз сцены гэтага дому, праз змрок гэтай начы, дзе як-бы ўвасабляліся ў жывое хвалюючыя думкі яговыя. Здзіўлены незвычайнай сілай пачуццяў, якія напаўнялі Габісонія, якія жылі ў яго словах, захоплены Міхаіл глядзеў на свайго друга, не ў сілах будучы адвесці вочы ад яго яшчэ магутнай постаці, ад сівой вялікай галавы, горда ўзнятай і натхнёнай.

— Тым слава!..—паўтарыў Габісонія.—Слава тым, хто загінуў

за справу рабочага класа, хто жыццё сваё прынёс і аддаў да астатку на шчасце працоўнага народу. Лепшыя словы, якія ведаю я, словы, якія можа сказаць толькі мудрэц, паэт і барацьбіт, словы, якім пазайздросціць вялікі Шота,—гэтыя словы жывуць у памяці і ў душы маёй, агнём распаляючы сэрца маё... Вось яны, словы гэтыя для тых, хто загінуў:

І Габісонія, слова за словам, раздзельна, нібы прыпамінаючы, гаварыў далей:

— „Хвала вам, забітыя за праўду, хвала грудзям матак, што ўскармілі вас; хвала вам, тыя, што аздобілі сябе цярновымі вянкамі і, паміраючы, шапталі нам аб барацьбе дрыжачымі, збялелымі вуснамі. Хвала вашым ценям, якія бесперашкодна кружацца над намі і шэпчуць нам на вуха: адпомсціце крывёй...“

Габісонія нахіліў галаву і змоўк. Хвіліну ён стаяў з нахіленай галавой, яго вялікія вузлаватыя пальцы сціснуліся ў кулак, гэты цёмны, апалены агнямі горнаў, вялізарны кулак, ён паціху, але з сілай, апусціў на стол.

— Вось пасля гэтага...—сказаў ён, зноў узнімаючы галаву,— вось пасля гэтага, могуць быць зразумелымі словы аднаго з маіх таварышоў „не дай бог ад сёння памерці мне ў хаце на сваім ложку“. Гэта ён сказаў пасля прамовы Сосо на сходзе рабочых у Батумі, у доме Сільвестра Ломджарыя. І гэтыя словы я паўтарыў сам сабе на могільніку, калі хавалі таварышоў, расстраляных у часе дэманстрацыі. Тое, што я па памяці прачытаў табе, Міхаіл, гэта пракламацыя, якую раздалі рабочым на могілках. Пракламацыю гэтую напісаў наш настаўнік, наш Сосо, які вёў дэманстрацыю. Вось якімі словамі ўшанаваў ён памяць загінуўшых нашых таварышоў. Васемнаццаць год прайшло ад тэй пары, а яны жывыя ў сэрцы маім... Я не меў шчасця ведаць старога Топурыя, але я далучаюся да вас, да ўсіх, Міхаіл. Мы скажам—хвала вам, Топурыя, гэта пачэсная, слаўная смерць, якая ўвянчала дастойнае жыццё. А самі—пойдзем наперад... Ніякая варожая сіла не здолее скінуць нас з дарогі, бо калі мы ў славе загінем, сотні і тысячы новых байцоў стануць на нашае месца. Міхаіл! Ужо надыходзіць дзень, змрок уцякае перад яснай зарою! Міхаіл! Віно стаіць на стале! Па звычаю нашых дзядоў і бацькоў, мы ўзнімем нашыя кубкі за волю народа, за перамогу нашай кроўнай справы. У доме Сільвестра Ломджарыя за семнаццаць гадоў таму назад сустракаючы новы год, наш правадыр Сосо Джугашвілі, узняў кубак і сказаў словы, якія запалілі душы нашы верай, надзеяй і прагнасцю барацьбы. Я памятаю, як сказаў ён гэта. Адкінуўшы рукой непакорныя свае валасы, ён абвёў усіх нас ясным поглядам благародных сваіх вачэй, ён з вялікай любоўю глянуў на нашы адкрытыя сэрцы, ён хораша ўсміхнуўся нам і сказаў: „Вось ужо развіднела!“—сказаў ён.—Хутка ўстане і сонца. Гэтае сонца будзе ззяць для нас. Верце ў гэта, таварышы!“ Міхаіл! Паўтарым словы настаўніка нашага...

Прыўзняўшы кубак Міхаіла, Габісонія налівау віно. За вакном было светла. Патокі святла праліліся праз заслону гор і разарвалі змрочны полаг начы. Цёмна-сіняе, чыстае неба праглядала праз заслону тумаяоў. За ноч вятры разагналі хмары, ясная зара

Ўзышла на неба, прадвяшчаючы пагодны дзень. У знобкі ранішні час, у парных абдымках халодных туманоў, ціха было на вуліцах маленькага гарадка Зугдзідзі. Толькі на ўскраіне, у вузкім вакошцы аднаго з дамоў, жоўтай плямай яснела шыба. Двое ўсхваляваных людзей стаялі побач.

— Для нас будзеззяць сонца будучых дзён!—сказаў Тэафіл Габісонія.—У сонечным святле наша будучыня! Вышэй галаву, Міхаіл! Хай усміхнуцца твае вочы!

Габісонія, нахіліўшыся цераз стол, адкрыў вакно. Успыхнуў і загас жоўты, чадны агеньчык. Свежая раніца дыхнула ў маленькі пакоік пахамі росных траў. Вецер прынёс шолахі абуджаных дрэў, ранішнія песні птушак, вясёлыя гукі жыцця.

— Я шмат страціў, бачу зараз...—ціха і сумна сказаў Міхаіл.—Я не пазнаў таго, што пазнаў ты... Мне няма што ўспамінаць у пражытым...

— Ты страціў не ўсё...—адказаў Тэафіл.—Але каб ты надалей грузнуў у клопатах аб мізерным жыцці, ты страціў-бы ўсё, Міха!..

Праз нейкі час, зара ахапіла палову неба, разліваючы свае квяцістыя, шчодрыя фарбы па свежых прасторах зямлі, палымнеючы на вяршалінах гор, аздабляючы мора, лясы, радасны ранішні свет у дзівоскыя свае колеры. Паветра ўсё больш насычалася святлом, усё больш яснела зара. Набліжалася сонца.

Габісонія хадзіў па пакоі, часта прыглажваючы рукой даўгія свае валасы, гаварыў вясёла і толькі па асобных нотках чулася нядаўняе ягонае, вялікае хваляванне.

— Вось, на стале газеты...—гаварыў Габісонія.—Тут яго артыкулы і ў некаторых ён піша пра нас, пра Грузію... Гэтыя газеты за той год, але я хаваю іх як зрэнку ўласнага вока! Гэта мне ўспамін пра яго, а ягонае слова—крыніца новых маіх сіл. Міха! Яго гнаілі ў турмах, яго ганялі ў сібірскія марозныя стэпы, у далёкую глухамань, дзе звяры жыць не хочуць. І мы заўсёды думалі аб ім, заўсёды ўспаміналі аб ім з непакоем і скрухай у сэрцах!.. Дарэмна... Ён волат, ён перамог і турмы, і самую смерць... Цяпер ён на чале чырвоных войск разам з першымі памочнікамі вялікага правадыра большэвікоў, Леніна! Ён правая рука Леніна, ягоны лепшы друг і вучань... Так, вучань, Міха! Ён сам так сябе называе... Мы не будзем сядзець, склаўшы рукі!.. Мы ўзнімем наш ашуканы рабочы клас, які паверыў абяцанням меншавікоў у час лютаўскай рэволюцыі і падставіў шыю пад ярмо фабрыкантаў, мы ўзнімем сялянства, якое князі, памешчыкі і чыноўнікі затапталі ў гразь!.. Мы ачысцім нашую зямлю ад гэтай мерзасці! Ужо ўзнімаецца народ і блізкі час адплаты! Меншавікі! Лакеі і падхалімы, гандляры крывёй народнай, зладзеі і каты! Яны ў вочы не смелі глянуць нашаму Сосо, калі ён граміў іх здраднікаў, блуднікаў і фарысеяў у Чыатурах, у тысяча дзевяцьсот пятым годзе... Яны баяліся паказацца на рабочым сходзе, калі там быў Коба, наш Сосо, наш настаўнік... Яны брахалі на яго з падваротняў тонкімі, сабачымі галасамі, баючыся паткнуцца яму пад ногі! „Коба здзірае скуру з меншавікоў!“—гаварылі рабочыя Чатураў і гэта было ўва ўсіх на вуснах у тыя часы. Дык

то былі спрэчкі на сходах! А што будзе цяпер? Мы згняцем гэтых паўзучых гадаў, мы не пакінем іх следу на нашай зямлі! Яны дорага адплоцяць народу за ганьбу прымусу, за цяжар няволі! Горшай няма няволі, як пад пятой халуя! А яны—халуі, прыслужнікі белагвардзейцаў, памешчыцкія лакеі, прадажная чэлядзь, гайдукі!..

Пачууся скрып дзвярэй. Старая Этэры заглянула ў пакой. Габісонія змоўк.

— Усю ноч!—сказала яна, з дакорам ківаючы галавой.—Усю ноч! Тэафіл, май літасць, чалавек з дарогі!

— Таму і ўсю ноч, што з дарогі!..—засмяяўся Тэафіл.—Аднак, праўда!.. Ты маеш рацыю, сястра, амаль што як заўсёды. Ідзі, калі ласка, падрыхтуй нам ручнікі... Мы пойдзем асвяжацца...

Габісонія падышоў да стала, сабраў газеты і кнігі і схаваў у скрынку.

— Яна з сакрэтам, скрыначка...—сказаў ён да Міхаіла.—Могуць нюхаць, колькі каму захочацца... У Габісонія, тое-сёе ў галаве яшчэ засталося... Ну, пойдзем... Хай качэргі ў кузні астыгнуць...

З ручнікамі на плячах, яны прайшлі рыхлай, свежай сцежкай па агародзе. Сонца ўжо ўзнялося, прамяністая раніца надзвычайна прыгожая, звонкая і вясёлая ахапіла іх. Міхаіл успомніў: некалі, у Батумі, яны так хадзілі, да мора пасля начной работы.

У лагчыне зарослай кустамі, з высокага, абымшэлага камення, падаў светлы струмень ручая. Кусты і трава, абмытая росамі, слухалі звонкую музыку крышталёва-чыстага патоку. Тут было ціха, ясна і радасна. Нечакана Міхаіл адчуў гэтую аддаўна незнаную радасць. Яна запоўніла ягоную прыціснутую трывогай душу. Ён сказаў Тэафілу.

— Дзіўна!.. Сілу чую, брат!.. Радасць чую, дарагі мой друг!

— Інакай не можа быць!—адказаў Тэафіл.—Мы яшчэ будзем жыць на свеце! І яшчэ не такую пазнаем радасць.

* *
*

На світанні наступнага дня, Міхаіл і Габісонія ішлі лясной, вузенькай сцежкай, збочыўшы з Зугдзідскага гасцінца, як толькі прагляпуў першы пробліск зары. У лесе было амаль цёмна яшчэ. Нерухома стаялі дрэвы, сівыя ад расы, высокія глухія травы згіналіся над сцежкай, халоднымі кроплямі абсыпаючы ногі. Было ціха. Чуцён быў толькі шум далёкага ручая. Паступова яснела неба, вырысоўваліся вяршаліны дрэў, святло блізкага дню пранікала ў змрочнае нутро лесу, перамагаючы бледныя бязжызныя прыцемкі. Усё ярчэй разгаралася раніца, бледны змрок асядаў у засень, у лагчыны, нікнуў у ацяжараных расой травах. Чысты, звонкі спеў дразда прагучэў як жалейка, сакатлівыя сойкі закрычалі ў блізкім яры, абудзілася і разам падала свой голас незлічоная птушыная сям'я.

На маленькай паляне, ля старога вываратня, каваль, што ішоў першым, спыніўся. Шум патоку, які здалёк чуў яшчэ Міхаіл, быў

цяпер блізкім. Сцежка стала шырэйшай, тут пэўна праганялі пастухі стада на вадапой.

— Пойдзеш далей левым берагам рэчкі, сяленне абыйдзеш лесам...—сказаў Габісонія, знімаючы шапку, абціраючы рукавом спатнелы лоб.—А там, рэчка прывядзе цябе да бальшака; напэўна дзесяць вёрст эканоміі табе будзе. Аднак—угрэліся! Трэба адпачыць...

Ён ступіў са сцежкі ў росную траву, пастукаў наском бота ў калоду вываратня, паварушыў кійком даўнія спляценні дзікага вінаграду, што звісалі з абгнілых сукоў старога пнішча. Раса абсыпалася багата, па калодзе рос клейкі воглы мох. Каваль выйшаў зноў на сцежку.

— Няма дзе пасядзець,—сказаў ён, утыкаючы кій старчма ў зямлю і павесіў на яго шапку.—Скрозь мокра. Аднак-жа, угрэўся я!..

— Мне нічога...—сказаў Міхаіл, пазіраючы ў той бок, дзе шумела вада.—Ля сялення рэчку не трэба пераходзіць?

— Не трэба... як убачыш поле,—забірай направа, ідзі лесам па ўскраі і зноў да рэчкі выйдзеш. Пастухоў здалёк па званках учуеш, абмінеш, а так нікога, напэўна, не сустрэнеш. Людзі цяпер на полі...

Яны памаўчалі. Каваль скручваў цыгарку. Міхаіл зняў з пляча вінтоўку, аглядзеў яе, павесіў на руку на рамяні, выцягнуў з кішэні люльку.

— Згоніць мяне са свету ліхаманка...—панура сказаў ён, і толькі цяпер Габісонія заўважыў, што Міхаіл дрыжыць і голас ягоны змяніўся.—Вось ужо зноў бярэцца, чую...

— Прышлю табе хіны,—адказаў Габісонія.—Нічога... Акрыяеш! Яна мяне брала некалькі гадоў, а такі зглуміў хінай праклятую... Затвор памятаеш?

Міхаіл зноў глянуў на сваю вінтоўку.

— Памятаю! І не хітра, а ўсё-ж баяліся!..

— Не ведаючы—хітра і добра зрабілі, што баяліся. Раскідалі-б затворы і насілі-б тады ў прыгаршчах...

Сізы дымок раставаў над іх галовамі, цягнуўся ўгору, лёгкі празрысты. Аднекуль з лесу пачуўся далёкі, неясны голас. Міхаіл занепакоены глянуў на каваля.

— Нічога...—сказаў Габісонія.—Пеўні!.. У тым самым сяленні, пра якое я табе казаў.—Але ўсё-ж доўга марудзіць не будзем. Дзень ужо ясны. Часу мала... Я далей не пайду, і таму, тут-жа дамовімся аб усім астатнім. Засталося-ж у нас, Міхаіл, амаль ужо самае важнае.

Каваль уздзеў шапку, узяў свой кій, апіраючыся на яго, падступіў да Міхаіла, стаў з ім поплеч, шчыльна. Ён на многа быў вышэйшы за Ганарджыя і таму прышлося глядзець угору, каб бачыць ягоны твар. Габісонія аглядзеў паляну, паніклыя кусты, бліжэйшы гушчар. Міхаіл чакаў.

— Будзе так...— сказаў Габісонія, і далей гаварыў ціха:— Праз шэсць дзён на сёмы ты прыходзь на сто пятую вярсту чыгункі, да будкі за раз'ездам. Ведаеш?

— Знайду!—так-жа, упаўголаса адказаў Міхаіл.

— Добра. Там наш чалавек. Падыдзі ўвечары, асцярожна, без зброі, нібы з дарогі. Пастукай у дзверы, і калі спытаюць: „адкуль?“—кажы: „Прышоў з лесу!“ Слухай добра. Толькі тады кажы: „прышоў з лесу“, калі спытаюць: „адкуль“! Калі будуць пытаць: „хто там?“, альбо „што трэба“? ці моўчкі дзверы адчыняць—папрасі вады напіцца, альбо што іншае. Будзь вельмі асцярожны, бо жывеш так, што няма пэўнага дню. Калі заўважыш падазрэнае што нібы, лепш падавайся прэч, і пасля прыходзь да мяне ў кузню. Пачакай! Я не скончыў яшчэ. Калі ўсё будзе добра, ты ўвойдзеш і ўбачыш кучаравага, цёмнавалосага чалавека, ростам вышэйшага за цябе, тварам худога. Гэта будзе ён. Але ён з табой, пра нашы справы не будзе размаўляць да тэй пары, пакуль ты не скажаш паролю...

Габісонія азірнуўся яшчэ раз. Датлелая цыгарка апякла яму пальцы, ён кінуў яе ў траву, скосу, хутка глянуў у твар Міхаілу, як-бы хацеў адгадаць нешта, ацэньваў нешта і вагаўся, потым сказаў, усё гэтак-жа ціха, але выразна, падзяляючы словы:

... „Няхай жыве тысячу разоў!“—такі пароль. Памятай! І ты будзеш ведаць, што і як далей рабіць, што далей будзе. Гэта наш даўнейшы пароль, яшчэ з тых часоў, з Батумі. Сосо прыходзіў з ім да нас! Цяпер мы зноў аднавілі словы, па якіх пазнавалі сяброў, і цяпер я даверыў табе гэты пароль!..

— Я разумею...—ціха сказаў Міхаіл.—Разумею, брат...

Каваль прасвятлеў тварам, усміхнуўся, паправіў на грудзях Міхаіла пастромкі паходнага яго клумка.

— Памятай гэтыя словы, Міхаіл,—сказаў ён, цяпер ужо нічога не шукаючы на твары свайго друга.—Я баяўся, што яны абмінуць тваё сэрца, і рады, што памыліўся. Таму не буду лішні раз напамінаць табе, што ведаць пароль акрамя цябе ніхто не павінен.

— Разумею гэта, Тэафіл...

— І яшчэ: аб тых паперах, што маеш пры сабе. Калі пачытаеш сваім, ты іх дарма пры сабе не трымай. Трапяцца пісьменныя людзі, перапісвайце, раздавайце сялянам, чытайце ім, хто з вас лепш умее. Гэта пакуль што, на першую чаргу. А цяпер—здаецца, усё. Што мелі сказаць,—сказалі, што далей будзе—пабачым. Развітаемся, брат!

— Дзякаваць!—сказаў Міхаіл, паціскаючы ягоную шырокую цвёрдую руку.—Я рады, што ўспомніў пра цябе ў добрую хвіліну і цяпер—спакойны... Дзякаваць.

Яны развіталіся расчуленыя, хаваючы адзін ад аднаго свае пачуцці. Габісонія застаўся на месцы, пазіраючы ўслед Міхаілу. Вось ён ідзе пад гару, яшчэ са два разы мільганула за дрэвамі цёмная постаць... І ўжо нікога няма. Толькі хістаецца яшчэ над сцежкай пышная гнуткая галінка, убраная ў шырокае светлазялёнае лісцё.

У гэтую хвіліну першыя праменні сонца палі на вершаліны дрэў, цёплы вецер праляцеў над лесам, і яшчэ з большай сілай загучэла ранішняе, вясёлае жыццё птушак, звяроў, раслін.

***

Па возеры Палеостомі, што пачыналася адразу на ўскраінах Поці, хадзілі гладкія зялёныя, шумлівыя хвалі. Воддалі грымеў морскі прыбой. Дзьмуў свежы вецер, над неспакойнымі прасторамі вялікага возера ўзляталі белыя, трапяткія чайкі.

Шумела прыбярэжнае трысцё, гнуліся хваравітыя, абтрэпаныя гвалтоўнымі, морскімі вятрамі, дрэўцы. Па сцежцы, на нізкім, адложыстым беразе ішлі двое. Адзін з іх, пажылы, худы і высокі, хаваў твар ад ветру, прытрымліваючы рукой абмуляны каўнер каротката старога паліто, другі шырокаплечы і грузны, ішоў вольна, расшпіліўшы сваю скураную куртку, падстаўляючы ветру загарэлыя крутыя грудзі, абцягнутыя паласатай матроскай майкай. На шчацэ яго была рудая пляма, рыжыя валасы на непакрытай галаве кідаліся пад ветрам на лоб і на шчокі. Яны ішлі моўчкі. Змяркалася. Усё больш узмацняўся вецер, чайкі белымі, бязвольнымі пялесткамі несла ветрам над бурным возерам.

— Люблю вецер!—сказаў той, што быў у паласатай майцы.— Аднойчы здаецца ў тысяча дзевяцьсот дванаццатым годзе, я служыў тагды на яхце „Каралева мора"... Ліха матары, у Біскайскай затоцы наскочылі мы на пагодку!..

Ягоны спадарожнік спыніўся.

— Цяпер пойдзем назад,—сказаў ён, азіраючыся на пусты бераг.—І ты мне пра Біскайскую затоку не расказвай... Я павінен табе перадаць погляд камітэта на апошні твой фортэль, Канстанцін! Камітэт асуджае тваю гімназісцкую істэрыку! Хто цябе прасіў звязвацца з гэтым праклятым генералам? Сорам, ты, стары бальшэвік, замест работы праядаешся ў капарчынскіх рыбакоў! Ты што! Табе было даручана пасварыцца з генералам? Гэта пайшло на карысць? Генерал вывеў, мабыць, свае войскі з Грузіі?

У яго былі бліскучыя неспакойныя вочы. Ён дапытваючы, насмешліва глядзеў на чалавека ў паласатай майцы.

— Я не мог спакойна гаварыць з забойцамі Джапарыдзе!— адказаў той.—Вось і ўсё. Я зраблю што трэба, я выканаю кожнае заданне партыі. Я не шкадую сябе. Але з забойцамі Джапарыдзе я не магу спакойна гаварыць... Ведаю, што зрабіў дрэнна, але я чалавек, у мяне ёсць сэрца!.. Вось, якая штука!

Высокі паціснуў плячыма.

— Ну, добра! Пра гэта пакінем. Ёсць для цябе работа, Канстанцін, і тут ты павінен сябе паказаць...—Ён узяў пад руку свайго спадарожніка, як-бы не было гэтай кароткай сутычкі між імі і яны пайшлі вузкай, прыбярэжнай сцяжынай, да якой ужо далятала пена і цяжкія пырскі прыбою.—Слухай, Канстанцін... У Одзішы*) пачынаецца сялянскі рух... Мы маем падрабязную інфармацыю пра гэта... Камітэт даручае табе, Канстанцін..

Яны аддаліліся, павольна ідучы сцежкай, цесна адзін каля другога. Бушавала Палеостомі, усё больш люта налятаў вецер з

---

*) Одзішы—нізінная частка Мінгрэліі.

мора, гучней біў морскі прыбой за пясчанай касой, што адлучала мора ад возера, з туглівым крыкам узляталі і падалі белыя чайкі. Змеркалася...

## Частка чацвёртая

Надышла восень 1920 года. Быў яшчэ не позны час, да зімы было яшчэ далёка, але прырода, стомленая пладароддзем, чакала адпачынку: выпаленыя сонцам узгор'і—увясну багатыя пасбішчы— не радавалі вока зялёнай свежасцю траў: яны ляжалі бурымі, плоскімі камлыгамі, узвышаючыся адно над другім, аж да гарызонту самага, аж да тых далёкіх рубяжоў, дзе ў сінім марыве ўзвышаюцца ледзяныя вершаліны волатаў гор; у далінах зжоўклі сады і вінаграднікі. У ясныя дні золатам асвечаныя красавалі лясы. Восень лагодна абнімала цудоўны край, цёплае мора песціла ягоныя берагі.

Але не радаснай была прыгожая восень для народу гэтага краю...

---

### I

Андрэй Міхайлавіч падышоў да вакна і зняў прышпіленую на кнопкі газету, якая замяняла фіранку. У пакоі пасвятлела. Андрэй Міхайлавіч азірнуўся на свой шырокі, рабочы стол, але застаўся стаяць ля вакна—хацелася адпачыць. Відаць было праз вакно рознакаляровыя дахі дамоў, пажоўклыя дрэвы бульвараў, цёмна-сінюю далячынь вячэрняга неба: Андрэй Міхайлавіч добра яшчэ бачыў руіны старадаўніх сцен і баявых вежаў на спадах гор, што акружалі горад.

Тут, у завулках і вулічках прадмесця, у ціхіх, знясіленых садах, раскінутых ля падножжа гары Давіда—дрымотны спакой. Толькі з павевамі ветру далятае сюды шум гораду. Рэдка парушае тут цішыню крык прадаўцоў садавіны, грукат колаў альбо рык жывёлы. Тут—задуманыя сады, ціхія домікі, глухія парканы, зарослы травой гарбаты брук, старыя дрэвы ўзбоч тратуараў. Гара цяжка навісла над гэтымі вуліцамі, высока ўзносячы на адным з сваіх стромых выступаў белую царкву, за агарожай якой—магілы Ільі Чаўчавадзе і Александра Грыбаедава. Мта-Цмінда. Так называецца месца братняга адпачынку двух забітых самаўладдзем паэтаў, высокае месца над горадам, апошні іх прытулак...

Андрэй Міхайлавіч любіў гэты ціхі куток Тбілісі. Вось ужо некалькі месяцаў жыве ён тут, у засені гары Давіда. Дні мінаюць запоўненыя работай, час ідзе непрыкметна і так прайшло лета. У новую экспедыцыю, як называў Андрэй Міхайлавіч свае адзінокія вандраванні па Калхідзе, выбрацца не ўдалося,—не ставала сродкаў. Нечакана склалася вельмі цяжкое становішча, калі пару месяцаў таму назад Андрэй Міхайлавіч страціў службу. Аднак, гэта было для яго другарадным пытаннем. Ён ставіў сабе за пра

віла, не зважаць на дробязі побыту. Ён быў паглыблены ў вялікую работу.

На сцяне, у пакоі распята абшырнае палотнішча—карта нізіннай Калхіды, складзеная Андрэем Міхайлавічам. Цяпер ён распрацоўваў матэрыялы з апошняга дарожнага блокнота. Значны раён цэнтральнай часткі балот, сэрца прыморскай нізіны быў ужо даследваны. Старадаўныя каналы, курганы, мёртвыя балотныя рэчкі без плыні, глухія вазёры былі паказаны на карце з уласцівай для работ Андрэя Міхайлавіча дакладнасцю. І за апошні час з'явіліся ўжо накіды новых, будучых каналаў, дамб, вадаёмаў, асушальных канаў, новых рэчышчаў—першыя контуры гіганцкага плана асушэння Калхіды. Вось чаму другарадным было для Андрэя Міхайлавіча ўсё астатняе, што датычылася ягонай асобы. Адчуваючы ў сабе сілы, веды і натхненне, ён тварыў тое, аб чым марыў і да чаго рыхтаваўся многія гады, што ставіў за мэту свайго жыцця. Ён працаваў, не складаючы рук. І калі ён схіляўся над сталом, накрэсліваючы лічбы, вымерваючы звіліны сучасных рэк, альбо вырысоўваючы лініі будучых каналаў, калі ён пісаў тлумачэнні, абгрунтоўваючы тую ці іншую планавую дэталь—адступалі, адыходзілі прэч нізкія сцены цеснага пакоіка і ён бачыў перад сабою жоўтую неабсяжную балотную пространь, легендамі народаў авеяную Калхіду—гнуткае трапяткое трысцё, хворыя лясы, узвышшы курганаў... Ён ішоў з Топурыя, з імі гутарылі, частуючы сырам і малаком, сцiплыя мінгрэльскія жанчыны, пад цёплым ветрам гойдаліся стройныя мінгрэльскія таполі, буйвалы, важна нясучы разложыстыя рогі, павольна цягнулі скрыпучую арбу. Звінелі званкі стадаў, белае сонца Мінгрэліі плыло ў заімглёным небе...

І другое адкрылася погляду Андрэя Міхайлавіча ў хвіліны натхнення... Другое, далёкае недаступнае цяпер, і можа, немагчымае: раскошныя сады, поўныя квецця, цудоўных пахаў, нязмернай жыццёвай сілы, спакойныя светлыя воды каналаў, велізарны прастор плантацый, дзе ўзрастаюць небачныя расліны, багацце і прыгажосць дзівоснага новага краю, адваяванага чалавекам ад прыроды, узроджанага з прадвечнага заняпаду, выратаванага ад гнілой балотнай смерці...

Але пра гэта Андрэй Міхайлавіч баяўся думаць. Гэта трывожыла, прыносіла сумненні. Намаганнем волі ён гасіў гэтыя думкі, адкідаў лятуценні, высмейваў іх сам перад сабой, адчуваючы пры гэтым раздвоенасць і няшчырасць, бо гэта і было самае дарагое і хвалюючае, бо гэта і было тым, што ставілася за мэту жыцця. І не мала прыкрасцяў рабіў Андрэю Міхайлавічу ягоны прыяцель Валер'ян Гогіберыдзе, чалавек, які заўсёды і ўсё называў сваім імем і не любіў ашукваць сябе надзеямі.

— Кінь, Андрэй!—гаварыў ён не раз.—Гэта смела, дасканала, гэта калі хочаш, геніяльна... Але іменна таму—кінь!.. Альбо, па меншай меры, пачакай. Для каго ты робіш гэтую каласальную работу? Хто ацэніць працу тваю, твой светлы талент? Хто зразумее цябе і хто здзейсніць твае планы? Хто ператворыць у жыццё тваю гіпотэзу? Гэтыя панталоншчыкі, шарманшчыкі і каты? Гэтая

злодзейская шайка? Адзінае што яны могуць—гэта ўрадавы банкет і карная экспедыцыя. А для таго, каб асушыць Калхіду, патрэбны сілы ўсяго народа, розум, энергія і энтузіязм сапраўдных правадыроў! Ты разумееш гэта, Андрэй?

— Разумею!—адказваў Андрэй Міхайлавіч.— ўсё-ж, работу не пакіну!..

— Дзівак! Калі яны сумесна з Антантай спустошаць краіну ўшчэнт, Грузія будзе прададзена за наяўныя гэтай-жа самай Антанце! Хаця ты не палітык, цябе гэта мала цікавіць, на такой мове табе мала што растлумачыш—зразумей ты такую, для дзіцяці даступную рэч: ёсць чыатурскі марганец, тkварчэльскі і тквібульскі каменны вугаль, Аллавердскія капальні медзі, срэбра і свінца, ёсць лясы, ёсць шоўк, тытунь, віно, жывёла, мінеральныя воды і, нарэшце ўсяго не пералічыш! Ты мне скажы цяпер, Андрэй Міхайлавіч, навошта англійскаму ці французскаму капіталісту закасваць штаны і лезці ў тваё пацыйскае балота? На якога чорта ён будзе пхаць у багна свае капіталы ў калоніі за трыдзевяць земляў, калі багацце пад рукамі, а ён не пэўны заўтрашняга дню? Капіталісты добра ўлічваюць палітычныя сітуацыі і пры такіх абставінах стараюцца схапіць як мага больш і як мага ў карацейшы час. Яны не вельмі адважацца фінансаваць прадпрыемства, якое акупіць сябе праз пяцьдзесят гадоў, нават у сваёй краіне, а не тое, што ў неспакойнай калоніі... Вось чаму я і кажу табе—кінь, а то мне прыдзецца адкрываць твае мошчы ў пячоры, пад Давідавай гарой. Ты знясілееш на двух шклянках кавы!. Я пастараюся для цябе службу ў нашым бюро. Па крайнасці падкормішся, пачакаем і можа... Ці мала што можа быць, калі на свеце бушуе рэволюцыя...

Андрэй Міхайлавіч не мог супярэчыць Гогіберыдзе. Ён гаварыў праўду.

— Больш за ўсё мяне здзіўляе,—заканчваў Гогіберыдзе такія размовы, ужо злуючы,—здзіўляе мяне тваё алімпійства, тваё стаянне, як ты сам кажаш, над палітыкай. Ты-ж не камізэльку шыеш, а ствараеш рабочую гіпотэзу асушэння Калхіды! Хіба ты з гісторыі не ведаеш, колькі марна загінула найвялікшых твораў думкі і рук чалавечых, вось пры гэткіх-жа абставінах? Ты сур'ёзна мусіць думаеш, што як толькі скончана будзе твая работа, яна адразу знойдзе і прызнанне і, галоўнае, прыстасаванне ў жыцці?.. Дарэмна ты так думаеш, Андрэй! І я табе коратка скажу аб тваіх перспектывах: калі меншавікам не ўдасца прадаць Грузію, калі возьмуць уладу большэвікі—ты можаш спадзявацца на поспех сваёй працы: яны будуюць эканоміку дзяржавы на прынцыпах планавай, усенароднай, сапраўды соцыялістычнай гаспадаркі—ты пра гэта, мусіць, не ведаеш, вучоны муж? Калі-ж Грузію ператвораць у калонію Антанты, груба і проста скажу табе: праца твая—дарэмная! Бачыш ты цяпер, маг і чарадзей, пераможца стыхій, што ты залежыш ад палітыкі як і ўсе мы, грэшныя людзі?! Таму яшчэ раз кажу: пачакай, не спяшайся, бо сёння праца твая не мае будучыні! Трэба спадзявацца на шчаслівае заўтрае...

Дрэнна сябе адчуваў Андрэй Міхайлавіч пасля гэтых размоў, бо разумеў, што Гогіберыдзе правы ад першага свайго слова да

апошняга, што не мае сёння будучыні ягоны праэкт і, магчыма, ніколі не прыдзе яна, гэтая авеяная лятуценнямі ягонымі, будучыня адроджанай зямлі... У дні згрызот і неспакою Андрэй Міхайлавіч пачынаў сумаваць аб сям'і, што засталася ў далёкай Маскве, ён думаў пра жонку, з якой пражыў дваццаць з лішкам год, ніколі не адчуваючы блізкасці да яе і дружбы, пра сына, які ўступіў у Чырвоную армію два гады таму назад і пра якога Андрэй Міхайлавіч нічога цяпер не ведаў; ён пачынаў думаць, што састарэў, і калі ўсё так пойдзе далей, то мала што застанецца, чым можна было-б жыццё апраўдаць. Потым гэта праходзіла. І зноў схіляўся Андрэй Міхайлавіч над сваім рабочым сталом.

Вечар сыходзіў на горад, паветра цямнела, чорныя грамадзіны гор, як-бы прысунуліся бліжэй. Там і тут глянулі першыя цмяныя агні, і першыя бледныя зоры бліснулі ў небе. У вакно дыхнула халадком. Андрэй Міхайлавіч зноў прышпіліў газету на кнопкі, адшукаў запалкі, доўга прыпраўляў чадную маленькую лямпку, і, калі яна, урэшце, узгарэлася, паставіў яе на стол, заскрыпелі дзверы, у пакой заглянула цётка Елена Біркадзе, хатняя гаспадыня Андрэя Міхайлавіча. Яе добрадушны адрузлы твар меў выраз вялікай таямнічасці. Цётка Елена заўсёды выглядала так, нібы збіралася сказаць людзям пра нешта вельмі важнае.

— Можа вам кавы падагрэць?—спытала яна, высока ўзнімаючы бровы.—Можа газы ў лямпу падліць?

Андрэй Міхайлавіч не паспеў адказаць. На маленькай верандзе пачуліся крокі, цётка Елена знікла і неўзабаве ў пакой увайшоў Валер'ян Гогіберыдзе.

— Працуеш?—спытаў ён, хутка і моцна паціскаючы руку Андрэя Міхайлавіча.—Вельмі заняты? А я прышоў па цябе... Сёння пойдзем у тэатр, друг душы маёй!.. „У віхры вясёлых забаў растане трывога твая і сэрца папросіцца жыць...“

Гогіберыдзе выцягнуў з кішэні плашча скрутак газет, кінуў іх на стол, а плашч акуратна склаў і павесіў на спінку крэсла. Ён быў у добрым настроі. Андрэй Міхайлавіч стаяў ля сцяны, схаваўшы рукі ў кішэні, моўчкі пазіраў на Гогіберыдзе. Той быў апрануты ў сурдут, гальштук быў завязаны пышна, цёмныя валасы гладка зачэсаны, пучок чорных вусаў быў як намаляваны на верхняй губе, пад гарбатым, крыху вялікім носам. Ён быў вышэйшы ростам за Андрэя Міхайлавіча і значна шырэйшы ў плячах. На твары не было ніводнай маршчыны, ні знаку сівізны, вочы глядзелі молада, жвавыя, цёмныя і бліскучыя. Аднагодак з Андрэям Міхайлавічам, ён выглядаў куды маладзейшы за яго.

— Пойдзеш у тэатр?—спытаў Андрэй Міхайлавіч, паказваючы гэтым, што ён не мае ахвоты ісці.

— І ты пойдзеш,—адказаў Гогіберыдзе і сеў на канапу.—Годзі табе сядзець у пячоры... Сёння я атрымаў пенсію і багата пачастую цябе. Акрамя таго, жонка прыслала ліст і ён супакоіў мяне: сям'я мая ціха і мірна жыве ў благаслаўленнай Кахетыі. Дзе твой парадны мундзір, слуга падзішаха?!.

— Валер'ян, я не пайду,—рашуча сказаў Андрэй Міхайлавіч.

— Ты пойдзеш,—упэўнена адказаў Гогіберыдзе.—У мяне яшчэ засталося крыху цярплівасці і амаль што гадзіна часу. Пачытай!

Ён узяў газету, склаў яе так, каб Андрэй Міхайлавіч адразу знайшоў патрэбнае і падаў яму. Гэта было апісанне чарговых урачыстасцей у сувязі з прыездам у Грузію „кіраўнікоў еўрапейскага рабочага руху“ і „бацькоў дэмакратыі“, як называлі ў газетах Каўцкага, Дэбрукера, Макдональда, Вандэрвельдэ і астатніх лідэраў II Інтэрнацыянала, якія цяпер „карысталіся гасціннасцю грузінскага народу“. Андрэй Міхайлавіч быў ужо сведкай двух парадаў і некалькіх мітынгаў і таму прапусціў апісанне хэўсурскай джыгітоўкі, паездкі гасцей на Казбек для агляду прыродных і этнаграфічных выдатнасцей і ў Кахетыю, для спробы славутых він. Сагнаныя з гор, прыбраныя ў свае сярэднявяковыя панцыры сяляне галоднай Хеўсурэтыі, якія скакалі па вуліцах Тбілісі на зацяганых клячах, пакінулі вельмі несамавітае ўражанне, як і штучны, тэатральны бляск парадаў і многаслоў‘е мітынгаў. Гулянкі-ж высокіх гасцей і стэнаграмы іх тостаў Андрэя Міхайлавіча ні ў якой меры не цікавілі. Нарэшце, ён знайшоў тое, што хацеў яму паказаць Гогіберыдзе. У канцы абшырнай інфармацыі паведамлялася, што сёння ў тэатры Оперы, у гонар гасцей, адбудзецца ўрачысты канцэрт. Уваход па запрашальных білетах.

— Нічога асаблівага,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Няхай сабе і канцэрт...

— Два запрашальных білеты здабыты крывёй і каварствам!— не гледзячы на ўпартасць Андрэя Міхайлавіча, не траціў тону Гогіберыдзе:—Апранай сваю мантыю, чарадзей і пойдзем. Ты-ж падумай, гэта гісторыя! Гэта-ж Каўцкі, Вандэрвельдэ, гэта-ж другі інтэрнацыянал. Хоць сумная, хоць брудная, хоць жоўтая, але гісторыя!..

Гогіберыдзе, здаволены апошняй фразай, адкінуўся на спінку канапы і засмяяўся. Андрэй Міхайлавіч глянуў на яго і нечакана адчуў нярэдкую за гэтыя часы раздражлівасць—у позе ягонага прыяцеля, здалося яму, было залішне лёгкадумнай наіўнай самаздаволенасці.

— Яшчэ нядаўна зусім, ты гэтую самую гісторыю падфарбоўваў у ружовыя колеры,—сказаў ён насмешліва.—Вельмі хуткія у вас, палітыкаў, павароты!

Усмешка збегла з твару Гогіберыдзе, ён сур‘ёзна глянуў у твар Андрэю Міхайлавічу і таму стала няёмка за свой выразны намёк на колішнія сімпатыі Гогіберыдзе да меншавікоў.

— Аднак, гэта глупства!—паспяшаўся Андрэй Міхайлавіч.—Мяне ва ўсякім разе гэта не латычыцца.

Але Гогіберыдзе сядзеў моўчкі, пазіраў некуды ў кут і лёганька стукаў пальцамі па стале.

— Я заўсёды любіў свой народ, зямлю бацькоў сваіх,—сказаў ён пасля.—І не вельмі паважаю тых, хто ставіцца абыякава да сваіх сыноўніх абавязкаў. Мяне ашукалі гэтак-жа як тысячы другіх. І можаш быць упэўнены, што не лёгкія гэта „павароты“, калі там, дзе чалавек спадзяваўся ўбачыць адраджэнне народу, ягонай культуры, вялікіх яго сіл, там раптам адкрываецца магіла... Не бу-

дзем гаварыць аб гэтым, Андрэй Міхайлавіч, гэта не вясёлая тэма. Я адплаціў ім тым, што стаў для іх ворагам у пяцьдзесят разоў больш тэй ступені, чым некалі быў другам. І так зрабіў кожны сумленны чалавек, якога ашукалі... Пра гэта пакінем. Ты мне скажы ўсё-ж, пойдзеш ці не?

— Пайду!—адказаў Андрэй Міхайлавіч, згаджаючыся, каб больш не крыўдзіць друга.—Што з табой зробіш...

Гогіберыдзе ціханька засмяяўся, раптоўна супакойваючыся, зноў адкідаючыся на канапу. Ён хутка пераходзіў ад гневу, ці суму да весялосці. Такім заўсёды ён быў—вельмі ўражлівы, шчыры і прастадушны. І можа таму не пакінулі на ім цяжкіх сваіх знакаў гады, што заўсёды жыла ў ім весялосць, шчаслівая спадчына ад бацькоў, карталінскіх сялян.

Такім чынам Андрэй Міхайлавіч нечакана трапіў у гэты вечар у тэатр і пасля не шкадаваў.

* *
*

Вялізарны, высокі, ясна асветлены зал быў перапоўнены. Партэр, ложы, галёрка—усюды быў рух, гоман, стрыманы і незмаўкаемы гоман вялікага натоўпу. Партэр выглядаў шыкарна: калыхаліся султаны вячэрніх, жаночых прычосак, ззялі сапраўдныя і фальшывыя каштоўнасці, блішчэлі гладкія лысіны, адкормленыя шчокі, адвіслыя патыліцы, прылізаныя валасы, бінoклі, ларнеты, ордэны, гузікі, пагоны, газыры чэркесак. Усё што магло блішчэць і прызначана было для аздобы, блішчэла, ззяла, праменіла рознакаляровымі агеньчыкамі, цяжкі пах парфумы ўсё больш насычаў паветра, было душна. Гоман усё ўзрастаў, але гэта шумела галёрка, дзе сабралася публіка ніжэйшага гатунку—у партэры, у ложах, усё было вельмі прыстойна. Тут паказвалі на княгіню царскай крыві—на ёй была дыядэма з сапраўдных брыльянтаў, пасля княжны пайшлі шэпты пра італьянскага спевака, пасля гэтага прыбылі нейкія важныя чыны замежных ваенных місій і яны прайшлі на сваё месца пад адобрываючы гул і нават рэдкія стрыманыя воплескі. Апладысменты дружна загрымелі, калі з ложы, задрапіраванай флагамі, выглянуў адзін з гасцей. Андрэй Міхайлавіч заўважыў толькі ружовую лысіну і круглыя, шырокія плечы.

— Гэта Вандэрвельдэ...—шаптаў Гогіберыдзе.—Той самы Вандэрвельдэ, што ўзнімаўся на аэрастаце ў вайну, на французскім фронце. Не было каму дзіры зрабіць у гэтым аэрастаце... От брат, оперэтка!

Ён змоўк, сустрэўшы ўважлівы, косы пагляд суседа, афіцэра-гвардзейца. Нарэшце пачаўся вечар. Пачаўся ён нудна. Аднастайна гучэлі галасы аратараў, якія віталі гасцей, партэр узнагароджваў тых і другіх далікатнымі воплескамі. Галёрка маўчала. Калі Андрэй Міхайлавіч пазіраў угору, то бачыў у паўзмроку высока над сабою толькі пазалочаны паўкруг бар'ера і над ім шчыльную масу невыразных твараў. Раз на самым патэтычным месцы прамовы аднаго з аратараў, на галёрцы недарэчы і гучна засмяяліся. Аратар заікнуўся, глянуў угору, пакашляў, нехта сагнуўшыся прабег у пра-

ходзе і ўсё пайшло ранейшым парадкам. Нарэшце прывітанні скончыліся, абвясцілі антракт.

У часе антракту Андрэй Міхайлавіч і Гогіберыдзе сядзелі ў фойэ. Ля буфета сабралася тая-ж публіка, што была ў партэры. Цяпер публіка падмацоўвалася. Зноў у цэнтры ўвагі была князёўна з роду даўнейшых грузінскіх цароў, італьянскі спявак, замежныя генералы і нейкі стары, у белай чэркесцы. Паклаўшы далонь на залатую рукаяць кінжалу, ён павольна праходзіў па фойэ, велічна схіляючы сівую галаву, калі з ім віталіся. Аказалася, што гэта таксама князь і бадай што яшчэ з больш знатнага роду, чым князёўна з дыядэмай.

— Тупасць сытасці, бляск багацця...—гаварыў Гогіберыдзе. Яго жвавыя вочы затуманіліся, ён з адкрытай злосцю, крывячы губы, аглядаў тых, што праходзілі міма і сядзелі за столікамі навакол.— У горадзе голад, галеча, хваробы, у цёмных кватэрах пакутуюць галодныя людзі, страшэнная разруха нішчыць краіну, а тут... Ты памятаеш, Андрэй, як мы з табой студэнтамі сядзелі на галёрках Марыінскага і Александрынкі? Як мы ненавідзелі партэр, тлустыя тушы ў мундзірах і фраках... І вось, мы зноў сядзімо побач, цяпер ужо ў партэры... па запрашальных білетах. Нас запрасілі на свае свята тыя, хто абкраў народ!..

Ён кінуў акурак, не клапоцячыся, куды ён трапіць. Андрэй Міхайлавіч пачаў непакоіцца. Яшчэ з даўнейшай практыкі ён ведаў, што такі настрой Гогіберыдзе да добрага не даводзіць. Таму, калі празвінеў званок, Андрэй Міхайлавіч устаў з вялікім задавальненнем і ўзяў Гогіберыдзе пад руку.

— Досыць, Валер'ян!—сказаў ён, ідучы з ім па калідоры.—Па-мойму, калі так, то ўжо лепш дзейнічаць, чым разважаць.

— Як дзейнічаць? Што рабіць?—спытаў Гогіберыдзе.—Уся і бяда ў тым, Андрэй, што мы можам толькі паскардзіцца адзін аднаму за бутэлькай віна. Што мы яшчэ можам прыдумаць?

У пачатку другой часткі вечара, Гогіберыдзе сядзеў пануры і маўчаў. У задрапіраванай флагамі ложы відаць было здалёк невыразныя сілуэты гасцей. Партэр запоўніўся і прыціх. Паступова надышла цішыня, пад столлю загаслі люстры. Па ўскраі сцэны, грацыёзна ступаючы на наскі, рысаком праскакаў распарадчык. Калыхнулася заслона і пайшла ўгару. У душнай цішы ўзвізгнулі скрыпкі. Канцэрт пачаўся. Гэта быў канцэрт, які кожны называў па-свойму. Большасць называла яго—„парад нацый“. Перад самым пачаткам у партэры прайшлі чуткі, што ў праграме канцэрта ёсць вельмі цікавы нумар, сюрпрыз для гасцей і для публікі. У чым заключаўся сюрпрыз, ніхто не ведаў, некаторыя сцвярджалі, што вельмі тонка будуць высмеяны большэвікі.

Як толькі ўзнялася заслона, аркестр заіграў германскі гімн. Партэр грузна ўстаў, апладыруючы гасцям. Калі на сцэну выйшла пара актораў у нацыянальным нямецкім уборы, пачуліся там і тут выгукі, апладысменты ўзмацніліся, афіцэры ў англійскім хакі, найбольш нядаўнія тбіліскія гімназісты, стаялі ва фронт, грымеў германскі гімн. Немец з немкай, кланяючыся, прайшлі праз сцэну. Усё было вельмі прыстойна.

— Гэта яны, відаць, у гонар Кауцкага,—сказаў пацІху Андрэю Міхайлавічу Гогіберыдзе.—Балаган! Сорам! Не маглі нічога лепшага прыдумаць...

Воплескі сціхлі. І зараз-жа зноў ускалыхнуўся партэр устаючы, і аркестр зайграў ангдійскі гімн. На сцэну выйшлі англічанін з англічанкай. Пасля гэтага ішлі гімны Францыі, Бельгіі. Усё так-жа ўставала публіка, схіляліся прылізаныя галовы, стаялі слупам скамянелыя афіцэры, гучэлі воплескі. Усё было вельмі эфектна. Потым з мяккім шолахам апала заслона, з пад яе вылез распарадчык, матляючы хвастамі фрака, зноў прабег па ўскраі сцэны і саскочыў у аркестр. Ён пашаптаўся з дырэктарам, той даў знак аркестру і музыканты расклалі нейкія новыя ноты. У партэры адчулася нецярплівае ажыўленне. Усе здагадаліся, што зараз будзе сюрпрыз. За сцэнай нечага марудзілі, але неўзабаве заслона пайшла ўгору, усе выцягнулі шыі, а найбольш нецярплівыя, нават прыўзняліся, каб лепш бачыць. Сцэна некаторы час была пустой. Рух і гоман у зале не сціхаў, ад ранейшага ўрачыстага і прыстойнага тону, у якім прайшлі папярэднія нумары, не засталося і следу. Сотні вачэй з цікаўнасцю ўпёрліся ў пустую сцэну.

І вось, ускалыхнулася драпіроўка і на сцэну вышаў мужык у чырвонай кашулі, у апоўзлых штанах і ў лапцёх. Пачухваючы свой руды парык, сударгава пазяхаючы, моцна пляскаючы сваімі вялікімі лапцямі па падлозе, ён вышаў на сярэдзіну сцэны, зрабіў нагамі хвацкі выверт і гучна прытупнуў. У тую-ж хвіліну дырыжэр узняў рукі і аркестр пачаў „Інтэрнацыянал". Мужык, выбрыкваючы нагамі, пайшоў па сцэне.

Партэр гучна зарагатаў, пачуліся рэдкія воплескі. Рогат узмацняўся, узвізгі жанчын, хрыплы як брэх рогат фрачных пузаноў, інтэлігентнае хіхіканне больш далікатных асоб рознага роду, заглушылі спачатку аркестр. Мужык вырабляў свае выкрутасы на сцэне. Так было ў першы момант. У наступны, хаця дырыжэр вёў аркестр знарок неахайна, скрыпкі знарок фальшывілі, па тых законах, па якіх напісана была мелодыя рукой яе творцы, узнялася над гоманам і рогатам сытага натоўпу і суровая, велічная запаланіла зал. У гэты момант за адно маленькае імгненне Валер'ян Гогіберыдзе пазнаў можа ўпяршыню на жыцці такой вялікай сілы пачуцці. Ён разумеў музыку і любіў яе і вельмі многа, што трымала цяпер яго ў жыцці, было звязана з гэтым гімнам. У тую хвіліну, калі зарагатаў партэр, і калі Гогіберыдзе зразумеў у чым справа—кроў прыліла да галавы, яго ахапіў гнеў і ён моцна сціснуў руку Андрэя Міхайлавіча. Тады-ж узняліся, перамагаючы шум суровыя акорды і як-бы агонь прашоў па жылах Гогіберыдзе. Ён чуў, як заспявала баявая труба, ён пачуў далёкі гул барабанаў і стрэлаў і вялікую песню чалавечых сэрцаў, песню людзей, што ішлі паміраць з гэтым гімнам, учуў Валер'ян Гогіберыдзе. Грозны вецер паўстання павеяў у гэтым зале, над тоўстым збродам дыхнула бура і у першых словах гімна, якія ведаў і памятаў Валер'ян Гогіберыдзе, быў заклік і будучыня яго народу.

... Паўстань, пракляццем катаваны...

І Валер'ян Гогіберыдзе ўзняўся і стаяў адзін сярод партэру.

Андрэй Міхайлавіч моўчкі цягнуў яго за рукаў, афіцэр-гвардзеец шаптаў, торгаючы за крысо сурдута:

— Сядайце, сядайце! Што з вамі! Хіба вы не разумееце?

Гогіберыдзе коратка глянуў на яго круглымі, шалёнымі вачыма і афіцэр здагадаўся, чаму ўстаў гэты чалавек. Але ён цяпер нічым не мог на яго ўздзейнічаць, бо зараз-жа, высока пад лепнай столлю, на галёрцы, нечы звонкі, дужы голас падхапіў гімн, яго падтрымалі другія, разлегліся ўгары воплескі і вось ужо дзесяткі галасоў спявалі „Інтэрнацыянал“, да іх далучаліся ўсё новыя і аркестра ўжо не было чуваць, хаця ашалелы ад нечаканасці дырыжэр усё яшчэ махаў рукамі, рухаліся смычкі, гралі трубы. На сцэне, разгублены, не ведаючы што рабіць, тупаў актор.

— Вон паяца!—крыкнулі з галёркі.

І тады адусюль пачуліся воклічы.

— Вашá, савецкая Расія!

— Партыя большэвікоў, вашá!

— Прэч жоўтых здраднікаў! Вон з Грузіі...

Палова партэру ўскочыла на ногі, цяпер Гогіберыдзе не быў адзінокі. Узняўся крык, замяшанне, князёўна высокай крыві, апіраючыся на руку італьянскага спевака, прабіралася да выхаду, астатнія рушылі ззаду. Гогіберыдзе стаяў бледны, прыціскаючы руку да грудзей, Андрэй Міхайлавіч не трывожыў яго. Нарэшце сунялі аркестр, апала заслона, афіцэры з партэра, на хаду расшпільваючы кабуры, кінуліся ў калідоры да ўсходаў, што вялі на галёрку. Андрэй Міхайлавіч бачыў, як паспешна засоўваюцца драпры ў ложы, прыбранай флагамі. Госці пакінулі тэатр. Наўкола кіпеў узбунтаваны натоўп, мільгалі спалоханыя перакрыўленыя твары, расшахраныя прычоскі, спатнелыя ілбы. Партэр спяшаўся да выхаду. Раптам загасла святло і роспачлівы крык узняўся з сотні глотак, затрашчалі крэслы, цяпер ужо ніхто не здолеў-бы спыніць гэтых сытых людзей, якія пачулі небяспеку і якія хочуць жыць. Цёмна было адно толькі імгненне, потым успыхнулі ўсе агні і тады ўгары, пад столлю, чародкай белых птахаў узляцелі лістоўкі і густа пасыпаліся ўніз, на ашалелы натоўп.

У зале, у калідорах, у файе панаваў страшэнны шум. Ужо не чуваць было „Інтэрнацыяналу“. Трашчала і ламалася мэбля, плакалі жанчыны, нехта лаяўся апошнімі словамі, на галёрцы свісталі і крычалі: „ганьба!“ Туды нарэшце дарваліся афіцэрыкі з партэру і нарад чыноў, што быў у тэатры для аховы парадку. Неўзабаве, на тым месцы, дзе стаялі Андрэй Міхайлавіч і Гогіберыдзе, было пуста. Астатнія гурткі людзей у вялікім сціснennі лезлі ў дзверы.

— Пойдзем,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—А то ці мала яшчэ!.. На чужым піры пахмелле...

Гогіберыдзе ўсё яшчэ бледны ўсхвалявана засмяяўся, нічога не адказаў і пайшоў першым.

Ля вешалак было цішэй. Гледачы з партэру тут супакойваліся, бо на ўсходах, пры выхадзе ля дзвярэй фойэ, у пачатку калідораў стаяла ўжо варта—з тэатру выпушчалі, не апытваючы толькі тых, хто па выгляду не выклікаў падазрэнняў. Тут гледачам з партэру не было чаго баяцца. У астатніх правералі дакуманты,

некаторых адводзілі ў бок—у куце стаяў ужо гурток людзей, акружаны асобаатрадчыкамі.

Гогіберыдзе накінуў на плечы свой плашч, уздзеў капялюш і ў такім выглядзе, безумоўна мог ісці хоць праз патройныя кардоны асобаатрадчыкаў. Гвардзеец, ягоны сусед, аказаўся тут-жа, са два разы прайшоў міма, але аддаліўся і згубіўся у натоўпе, мусіць вырашыўшы, што там, у зале, было нейкае непаразуменне і што такая асоба спачуваць большэвікам не можа. Яны стаялі з Андрэем Міхайлавічам, чакаючы пакуль скончыцца сціснене пры выхадзе, і да іх прыглядаўся здалёк малады чалавек невысокага росту, худы з твару, у несамавітым гарнітуры. Раз Андрэй Міхайлавіч сустрэўся з ім поглядам, цёмныя вочы незнаёмага ўспыхнулі, ён усміхнуўся і, як здалося Андрэю Міхайлавічу, кіўнуў галавой. Але Андрэй Міхайлавіч яго не ведаў і палічыў, што гэтае прывітанне адносіцца не да яго. І ён вельмі здзівіўся, калі пачуў, што нехта дакрануўся да яго пляча, азірнуўся, і ўбачыў гэтага маладога чалавека. Цяпер ён не ўсміхаўся, выглядаў сур'ёзным і занепакоеным.

— Выбачайце, батоно,—ціха сказаў ён.—Вы не пазнаеце мяне, ці не хочаце пазнаць?

Нешта было ў аблíччы гэтага чалавека, нешта знаёмае нагадвалі яго цёмныя, міндалевыя вочы, тонкія рысы смуглага твару, але Андрэй Міхайлавіч прыпомніць не мог. Незнаёмы гэта зразумеў, не паварочваючы галавы, скосу глянуў на Гогіберыдзе і ціха сказаў:

— Вісарыён Коркія... Памятаеце, вы трапілі ў багна, у Калхідзе?..

— Гэта вы?—усклікнуў Андрэй Міхайлавіч, сціскаючы руку Бесо Коркія.—Вы змяніліся, я не пазнаў вас! Чаму вы не зойдзеце да мяне, я-ж вам даваў адрас? Вельмі прыемна!.. Так нечакана сустрэліся! Валер'ян, памятаеш, я расказваў табе пра выпадак у Калхідзе? Ну, вось, адзін з тых людзей, што выратавалі мяне... Пазнаёмцеся. Інжынер Валер'ян Іванавіч Гогіберыдзе.

Андрэй Міхайлавіч быў шчыра ўзрадаваны. Але Вісарыёну Коркія, відаць не было часу для размоў. Прывітаўшыся з Гогіберыдзе, ён азірнуўся са два разы, потым сказаў ва ўпор, з неспакоем, з несхаванай трывогай пазіраючы ў твар Андрэя Міхайлавіча.

— Вы можаце мне дапамагчы?.. Паспрабуйце правесці мяне на вуліцу. У вас не будуць пытаць пра дакументы. Разумееце?—Ён памаўчаў і зноў азірнуўся.—Я не паспеў упару выбрацца адгэтуль...

Андрэй Міхайлавіч зразумеў усё. Ён глянуў на Гогіберыдзе. Той чуў, што Коркія сказаў Андрэю Міхайлавічу, таксама зразумеў і тут-жа вырашыў, што трэба рабіць. Ён узяў Коркія пад руку і адразу рушыў у тлум. Андрэй Міхайлавіч усхваляваны і занепакоены тым, што Гогіберыдзе ўзяў ініцыятыву, пайшоў за імі. Гогіберыдзе павольна пасоўваўся да дзвярэй, вядучы за сабою Коркія, які няўмела трымаў у руках скамячаны свой капялюш. Перад імі ішоў стары ў белай чэркесцы. Высокі асобаатрадчык у хакі стаяў узбоч дзвярэй, пільна ўглядаючыся. Двое стаялі на самым парозе. Падыходзячы да іх, Гогіберыдзе голасна сказаў на

дасканалай французскай мове, нахіляючыся да Коркія:—Гэта сорам! Урад не можа забяспечыць спакой нават у тэатры! Вы правы, мой друг, патрэбны больш суровыя законы! Што-ж падумаюць нашы госці?!.

Коркія не зразумеў ні слова з таго, што сказаў яму інжынер, ён толькі паківаў галавою. Гогіберыдзе на яго і не разлічваў. Ён разлічваў на князя і не памыліўся. Пачуўшы французскую мову, стары азірнуўся і, убачыўшы надзвычайна прыстойную, абураную асобу, сказаў:

— Што-ж рабіць, мсье... Што рабіць!..

Гэта было ўжо ў самых дзвярах. Высокі асобаатрадчык не звярнуў увагі на Коркія, бо ён быў папросту непрыкметны між двума гэтымі дасканалымі асобамі. Гогіберыдзе глянуў праз плячо на тых, што стаялі пры дзвярах, і гэты погляд абражанага прынца, здаўся ім найлепшым дакументам за дваіх. Іх прапусцілі, следам прайшоў Андрэй Міхайлавіч. Як толькі яны апынуліся на прыступках пад'езду, Коркія паціснуў Гогіберыдзе за локаць і, сыходзячы ўніз, павольна вызваляючы сваю руку з-пад рукі Гогіберыдзе, сказаў паціху:

— Шчырае дзякуй вам... Цяпер нам разам ісці не варта. Будзьце здаровы, дзякаваць! Мы яшчэ ўбачымся!

Ён коратка пакланіўся абодвум, збег па прыступках і знік у натоўпе на тратуары, дзе горача абмяркоўваліся нядаўнія тэатральныя падзеі. Андрэй Міхайлавіч і Гогіберыдзе вышлі на вуліцу. Дзьмуў халаднаваты вецер з усходу. На цёмным небе гарэлі ясныя, восенскія зоры. Нейкі час сябры ішлі моўчкі.

— Аднак-жа ты малайчына, Валер'ян!—сказаў пасля Андрэй Міхайлавіч.—Прызнаюся шчыра, я тут рады не даў-бы! Толькі падвёў-бы гэтага хлапца да фараонаў і ўсё. А далей, чорт ведама, што было-б!..

— Э! Пры чым тут я?...—адказаў Гогіберыдзе.—Гэта ён малайчына! Можаш быць упэўнены, ён не апошняя скрыпка ў гэтым канцэрце і што-ж казаць, яны слаўна адыгралі! Хацеў-бы я заглянуць у тую хвіліну ў жоўтае гняздо, пад флагамі! Хамы! Яны думалі, што можна абсмяяць такі гімн! Няшчасныя балаганшчыкі! Я цвёрда ўпэўнены зараз—не быць Грузіі калоніяй! можа—сённяшні канцэрт, гэта пачатак апошняга акту... Хто ведае?.. Скажу толькі табе, Андрэй, што я ніколі яшчэ не перажываў таго, што давялося перажыць поўгадзіны таму назад. Аказваецца, не ўсе абліваюць слязамі камізэлькі сваіх сяброў. Ёсць хлопцы, якія бяруцца за работу іпакшым спосабам... Што-ж. Я прыду да іх і скажу ім: Валер'ян Гогіберыдзе яшчэ на тое-сёе здатны, і так павінен зрабіць кожны, каму дорага будучыня народу...

Нехта ішоў насустрач. Гогіберыдзе прыціх, потым зноў пачаў гаварыць. Ён быў занадта ўсхваляваны і не мог супакоіцца. Яны ішлі пустой вуліцай. Шумелі дрэвы ў гарадскім садзе. Неспакойны вецер кідаўся над горадам. Цмянымі зарніцамі ўспыхвала неба. То падалі ясныя, восенскія зоры.

(*Канец у наступным нумары*).

*Андрэй Александровіч*

# ПАЛЯРНАЯ НОЧ

Паэма-казка

## Частка першая

Паўночны полюс. Льдзіна. Ноч перад Новым годам. Падаюць сняжынкі. Завывае вецер. Маразяты весяляцца, скачуць танец „Гульня ў снежкі". Паважна ўваходзіць Дзед-Мароз—уладар ледзяных прастораў. Ён спяшаючыся, падымаецца на аснежаную скалу.

Дзед-Мароз

Гэй, вы, хваты-маразяты,
Мае слаўныя ўнучаты,
Будзе ў нас сягоння свята,
Як ніколі не было.

*Аглядае наўкол сябе, сурова:*

Як сумысле, як на зло,
Колькі снегу намяло.

*Голасам загаду:*

Гэй, трасуха-Завіруха,
Снегавая пацяруха,
Супакойся і паслухай!

Маразяты

Го-го-го! Го-го! Паслухай!

Дзед-Мароз

Хопіць сыпацца на льды.
Прыбягай хутчэй сюды,
Не для гульняў і забавы,
А для вельмі важнай справы.

У момант снег перастае сыпацца, толькі вецер яшчэ завывае.

Маразяткі, мае дзеці,
Адшукайце ў полі Вецер,

Не для гульняў і забавы,
А для вельмі важнай справы.
Толькі-ж вы не загуляйце!
За адно—маржэй і зайцаў,
На нараду прыганіце,
Ды мядзведзя пазавіце.
Ну, рэбяткі-маразяткі,
Усё ў парадку.
Марш! Ідзіце.

Маразяты

Чуем мы твой голас звонкі,
Паляцім мы ўперагонкі,
Мы заўсёды вельмі рады,
Выпаўняць твае загады.

Адзяюць лыжы, разбягаюцца. Неўзабаве свіст ветра зацiхае

Дзед-Мароз

Праз туманы ў хмарах шэрых,
Мчыцца волат-самалёт.
Прылятаюць піонеры
Каб спаткаць тут Новы год.
Эх, некранутыя далі...
Чалавечае нагі
Век не бачылі, не зналі,
Былі чыстымі снягі,
Хоць ішлі, хоць наступалі,
На прастор адвечных льдоў,
Франклін, Піры, ну, а далей—
Нансен, Амундсен, Седоў.
Колькі сіл і намаганняў,
Людзі трацілі дарма.
Пакарыць мае ўладанні,
Думаў сіл такіх няма.
Дый прыйшла такая сіла,
Край Паўночны пакарыла,
Сваім ворагам на страх—
Узняла чырвоны сцяг.
Сіла сілу паважае...
Хай шчасліва прылятаюць,
Іх прыму ад сэрца, дбала,
І сярод лядовых скал,
Спраўлю ім шчэ небывалы
Навагодні карнавал.
Чуеш, ночка, едуць госці!
Колькі будзе весялосці
Тут, у нас...

Уваходзіць завіруха.

Завіруха

У добры час!
Я, трасуха-Завіруха,
Снегавая пацяруха,
Я прыйшла на твой загад.
Чула, будзе ў нас парад?

Дзед-Мароз

Чула, чула... Ты ад злосці
Навaліла горы снега.
Пагуляць захочуць госці,
Дзе-ж раздацца ім, пабегаць?

Завіруха

Я-ж нявінна... Усе годы
Ў гэту ночку я заўсёды,
Замятаю снегам горы
Ледзяных тваіх прастораў.

Дзед-Мароз

Усе годы.. Больш не будзе!
Хутка к нам прыбудуць людзі.
Чуеш злюха-Завіруха,
Быць павінна чыста, суха.
Я кажу табе дабром
Будзе тут—аэрадром.
Мётлаў зараз назбірай,
Зайцы прыдуць, ім аддай.

Завіруха

Я, трасуха-Завіруха,
Я цябе павінна слухаць;
Я заўсёды вельмі рада,
Выпаўняць твае загады.

З свістам прыбягае Вецер. Завіруха выходзіць.

Вецер

Добры вечар, добры вечар,
Вось і я, крылаты Вецер,
Цераз горы, цераз снег,
Да цябе, ўладар, прыбег.

Дзед-Мароз

Вось што, Вецер, трэба ўзлесці,
Цераз хмары ў паднябессе,

І без лішняе гаворкі
Запаліць на небе зоркі.
Хай агнём святочным ззяюць,
Хай і месяц выплывае
Ды асвеціць серабром
Ледзяны аэрадром.
І яшчэ, як будзеш лезці
У залатое паднябессе,
Свае крыллі распрастай—
Хмары прэч паразганяй.

Вецер падымаецца ўверх і адразу—разбягаюцца хмары, запальваюцца зоркі, выплывае месяц.

## Дзед-Мароз

У часе яго слоў паступова ўваходзяць маразяты, за імі зайцы, маржы, мядзведзь з медзвежатамі. Увайшлі Завіруха і Вецер. Акружаюць Дзеда-Мароза, слухаюць яго. Ён не заўважае іх. Мядзведзь так захапіўся апавяданнем Дзеда-Мароза, што неўпрыкмет, забраўся на самую вяршыну ледзяной скалы.

Колькі я жыву на свеце,
А жыву я шмат вякоў,
Колькі ўжо як зоры свецяць
Над пустыняй вечных льдоў—
Я не знаў, што бачыць буду,
(Хоць не мала бачыў цудаў),
Каб на полюс мой Паўночны,
Непрыступны, злы і змрочны,
Чалавек з Масквы прышоў,
І парадак свой завёў.
Чалавек той з барадою,
Як мая, даўгой такою,
Што ні скажа, ні гукне—
Увесь падобен на мяне!
З ім было народу шмат,
Цэлы ўзброены атрад.
Што такое—жах і страх—
Кожны з іх і знаць не хоча,
На сваіх, на караблях
Мчацца днём і цёмнай ноччу.
— Скуль народ і хто такі?
Кажуць:—Мы бальшэвікі!
Я спачатку быў сярдзітым,
Завіруху падпусціў.
Пазнаёміўся са Шмідтам,
Пасядзеў, пагаварыў;
Дружба стала паміж намі,
Падпісалі дагавор,
Сталі мы гаспадарамі
На Паўночны ўвесь прастор.

А як скончылі гаворку,
Шмідт устаў, руку падаў,
Залатую гэту зорку—
У падарунак ён мне даў.

На грудзях Дзеда-Мароза заіскрылася чырвонаармейская зорка.

З баявой сваёй дружынай
Збудаваў ён тут хаціну,
А пасля ў сваю краіну,
На сталіцу ўзяўшы шлях,
Паляцеў на караблях.
Чацвярых пакінуў з намі
У акеане сініх льдоў,
І ў тумане, і ў буране,
Тут жылі-былі—Папанін,
Крэнкель, Фёдараў, Ыршоў.
Шчыра я прыму ўсе меры,
Небывалы ў свеце злёт:
Прылятаюць піонеры,
Каб спаткаць тут Новы год.

Мядзведзь ад здзіўлення падняў лапы, пахіснуўся і пакаціўся са скалы ўніз. Маразяты і зайцы зарагаталі.

Зайка-Знайка.

Эх, мядзведзь, каламут,
Папрасіў-бы парашут!

Вецер

Што, вы костачкі пабілі?
Я-ж бы вам пазычыў крыллі!

Завіруха

Не тужы, лятун мой любы,
Забалелі крышку зубы?

Здымае чырвоны фартух, перавязвае мядзведзю морду.

Дзед-Мароз

Што за смех, што за шум?
Супакоіцца прашу.
Не для гульняў і забаў,
Да сябе я вас пазваў.

Усе

О, уладар усемагутны,
Не карай ты нас, пакутных,
Мы заўсёды вельмі рады
Выпаўняць твае загады.

Дзед-Мароз

Чуйце, сёння трэба нам,
Не дурэць, не забаўляцца,
А як след за працу ўзяцца,
Гуртам, як г спадарам.
Знаю я, ўжо чулі вы,
Што лятуць да нас з Масквы,
Нашы госці—піонеры.

Маразёнак

Мы шчаслівыя без меры!

Завіруха

Гэта гонар нам вялікі!

Зайка-Знайка

Гэта радасць!

Дзед-Мароз

Досыць крыку,
Рыхтавацца мы павінны,
Каб гасцей прыняць гасцінна,
Паказаць на што мы здатны,
Чым багат наш край выдатны,
Верна я кажу?

Усе

О, ты,
Творца дзіўнай пекнаты,
Толькі нам скажы хоць слова,
Мы з табой на ўсё гатовы.

Дзед-Мароз

Вось і ўся мая нарада,
Разаб'емся па брыгадам.

*Паважна аглядае прысутных.*

Два маржы і дзве маржухі,
Пад наглядам Завірухі,
Марш на кухню, там вячэру,
Падрыхтуйце піонерам.

Завіруха

Ёсць! Вячэру... піонерам.

Кланяючыся выходзяць маржы і Завіруха.

Дзед-Мароз

Вецер!

Вецер

Я!

Дзед-Мароз

На схіле гор
Пільным станеш на дазор,
Што заўважыш на мяжы,
Мне адразу далажы.

Вецер

Ёсць! Адразу далажыць!

*Кланяецца і са свістам знікае.*

Дзед-Мароз

Гэй, мядзведзь і медзвежата,
Каб вясёлым было свята,
Вы аркестр арганізуйце:
Біце ў бубны, ў трубы дуйце,
Вы, парода музыкальных,
Грайце ў лад і дасканальна.

Мядзведзі ад радасці зараўлі, пакланіліся, вышлі.

Дзед-Мароз

Быстраходныя зайцы,
Удалыя малайцы,
Мётлы ў рукі і гуртом
За работу, каб тут шклом
Заблішчэў аэрадром.

Зайцы

Ёсць! гуртом... аэрадром.

Дзед-Мароз

Нам, рэбяткі-маразяткі,
Там, у лёдавых палатках,
Скарбы дзіўныя ляжаць,
Трэба іх паажыўляць,
Каб гасцей пачаставаць.
Пойдзем...

*(Выходзячы)*

Эх, вы, хваты-маразяты,
Будзе слаўнае ў нас свята!..

Вышлі. Зайцы старанна працуюць, аж снежны пыл віхрыцца.

Першы заяц

Ледзь узяўся за работу,
Як ужо абліўся потам.

Зайка-Знайка

Хто, браточкі, адгадае,
Што мне хочацца цяпер?

Другі заяц

Табе хочацца, я знаю,
Да малых дзяцей на сквер.

Зайка-Знайка

Што ты...

Першы заяц

Хочаш лётаць самалётам.

Зайка-Знайка

Што ты...

Трэці заяц

Табе хочацца кампоту.

Зайка-Знайка

Што ты...

*Збірае ўсіх у круг, таямніча:*

Ой, мне хочацца цяпер,
Не з дзяцьмі шагаць на сквер,
І не лётаць самалётам,
Не салодкага кампоту,
Я хачу, каб вы, зайчаты,
Ой, баюся...

Зайцы

Кінь, куртаты...

Зайка-Знайка

(Толькі гэта паміж намі)
Я хачу, каб вы на свята
Раптам сталі... медзведзямі.

Смех. Зайцы засыпаюць снегам свайго друга-жартаўніка. Увaходзяць мядзведзі-музыканты. Зайцы з мётламі пачынаюць свой танец „Дружная работа". Неўзабаве ўбягае Завіруха з гарачай патэльняй, маржы—апранутыя ў вопратку павароў. Яны далучаюцца да зайцоў, скачуць. Калі-ж увайшоў Дзед-Мароз з маразятамі, музыка сціхла, спыніліся танцы.

Дзед-Мароз

Што, вы скончылі заняткі?

Галасы

— Ўсё гатова!
— Ўсё ў парадку!
— Мы заўсёды вельмі рады,
Выпаўняць твае загады.

З свістам убягае Вецер.

Вецер

Я, схаваўшыся за горы,
Чую раптам гул матораў,
Глянуў—бачу эскадрылля.
Тут свае раскрыў я крыллі
Ї што сіл хутчэй сюды,
Да цябе, ўладар, на льды.

Чуецца далёкі рокат матораў.

Дзед-Мароз

О, ўрачыстая хвіліна!
Як адзін, мы ўсе павінны
Быць з'яднаны дысцыплінай,
Ї сваіх гасцей выдатных,
Мы спаткаем далікатна,
Як ніхто яшчэ, гасцінна!

Гул матораў чуваць усё бліжэй і бліжэй.

Гэй, вы, хваты-маразяты,
З ледзяной маёй гарматы
Дайце выстрэл! Хай ракеты
Нас асвецяць яркім светам.
Хай агністы наш салют
Будзе знак:
— Пасадка тут!

На небе відаць як рухаюцца агністыя кропкі. Гэта блізяцца самалёты. Гул нарастае. Маразяты прыцягнулі ледзяную гармату. Мядзведзі-музыканты заігралі марш. Вось ужо самалёты над льдзінай.

Дзед-Мароз

Маразяты, пачынай:
Раз. Два... Тры—
Агонь!

Раздаецца выстрэл. Успыхвае яркае серабрыстае полымя— і ў момант становіцца зусім цёмна. Толькі чуваць у цемнаце прывітальныя воклічы, гукі марша і крыкі „ура".

---

## Частка другая

На ледзяной скале, як на трыбуне, стаіць Дзед-Мароз у акружэнні сваіх верных маразят. З боку—мядзведзі—музыканты, зайцы, Завіруха, Вецер, маржы. Насупроць іх—жыццёрадасныя, у рознакаляровых лыжных касцюмах, піонеры і піонеркі. Сваёй актыўнасцю і жвавасцю вылучаюцца Толя, Грышка, Майя і Тамара.

Толя

Вам, паўночным жыхарам:
Дзед-Марозу, маразятам,
Мядзвежатам і зайчатам,
Завірусе і маржам,
І табе, крылаты Вецер,
Мы—зямлі совецкай дзеці,
Мы жадаем вам на свеце,
Шмат пражыць і зім, і лет.
Піонерскі вам—прывет!

Піонеры пяюць песню-прывітанне:

Добры дзень, Паўночны полюс!
Прывітанне, Дзед-Мароз!
Кожны ў сэрцы, як ніколі,
Вам на лёдавае поле
Радасць звонкую прынёс.

Мы—шчаслівыя рэбяты,
Залатая ў нас пара,
Мы—совецкія арляты,
Баявая дзетвара!

Будзем дружна весяліцца,
Тут спаткаем Новы год.
Лійся песня, што крыніца,
Ты не ведаеш граніцы,
Ты не знаеш перашкод.

Мы—шчаслівыя рэбяты,
Залатая ў нас пара,
Мы—совецкія арляты,
Баявая дзетвара!

Сустракалі нас пагрозай,
Ураганы і туман.
Прывітанне Дзед-Марозу,
Ї табе, адвеку грозны,
Ледавіты акеан!

Мы—шчаслівыя рэбяты,
Залатая ў нас пара,
Мы—совецкія арляты,
Баявая дзетвара!

Дзед-Мароз

Я ўсхвалёван прывітаннем,
Цяжка словы падабраць,
Каб сардэчнае прызнанне,
Вам, рэбята, перадаць.
Чуйце тут сябе, як дома,
Буду вам найлепшы друг;
Рад, што з вамі я знаёмы,
Я гатоў вам да паслуг.

Адбываецца агульнае знаёмства. Майя, вітаючыся з мядзведзем здзіўлена ўглядаецца на яго морду, перавязаную чырвоным фартухом.

Майя

Што з табой, Мішуха-братка,
Сталі зубы не ў парадку?

Мядзведзь, як-бы ў знак згоды, працяжна завыў.

Скінь ты, Міша, калі ласка,
Непатрэбную павязку.
Завяжы вось так...

Здымае фартух і завязвае мядзведзю на шыю. Жартліва:

Цяпер
Ты сапраўдны піонер.

Толя

Я зусім забыўся—вам,
Вам, паўночным жыхарам,
Далажыць, што з намі разам,
Отто Шмідт ляцеў. На міг—
Па шляху звярнуў на базы
Да зімоўшчыкаў сваіх.
А затым, адтуль, стралою,
Прыляціць сюды да нас.

Дзед-Мароз

Слава мужнаму герою!
Хай ляціць. У добры час.

Маразяты

Шмідт да нас, да нас! Да нас...

Толя

Праз гадзіну і не болей,
На Паўночны грозны полюс,
Ён, бясстрашны, прыляціць.
А цяпер... пара, рэбяты,
Паміж прыяцелеў знатных,
Падарункі раздзяліць.

Зайка-Знайка

Вось, дзе хлопец баявы!

Майя

Падарункі вам з Масквы,
Ад усіх, усіх рэбят.

Толя

Пачынайце з медзвежат.
Ім салодкае заўсёды.
Гэй, падкатывай, атрад,
Залатую бочку з мёдам.

Рэбяты прыкацілі вялікую бочку, абступілі яе медзвежаты і з радасцю пакацілі ў бок ад чужых вачэй.

Грышка

*прыносіць вялікі клумак*

Рукавіцы і валёнкі,
Іх каму аддаць, скажы?

Толя

Іх аддайце маразёнкам!

Дзед-Мароз

*шэпча старшаму маразёнку*

Дзякуй шчырае скажы.

Маразёнак

Шчыра дзякую атрад,
Ад паўночных маразят.

Майя

Вось радыё-парасон,
Каму вызначаны ён?

Толя

Завірусе прыгадзіцца,
Хай пад ім яна садзіцца
Слухаць музыку, калі
Пралятаюць караблі.
Хай не шкодзіць пералётам,
Парасон аддайце ей.

Завіруха

*бяручы парасон*

Я—каб шкодзіць? Што ты, што ты,
Не была я век такой!

Толя

Вецер, сіл ты траціш многа,
Прабягаеш цэлы свет,
Аблягчыць табе дарогу
Авіо-веласіпед.

Грышка

*даючы машыну*

Не забудзь, браток, калі
Пралятаюць караблі—
Ім крылатым, і магутным,
Ты заўсёды будзь папутным!

Толя

Зайцам—морква-асалода,
Дар калгасных агародаў.

Дзеці ўносяць вялікіх памераў ружовую моркву.

Тамара

Вось і морква, вось яна,
Шкода толькі, што адна.

Майя

Хто загадку адгадае,
Той і моркву атрымае.
Згодны?

Зайцы

Згодны!

Майя

Пачынаем:
Мчыцца, мчыцца, мчыцца конь,
З-пад капыт ляціць... ну што?

Сярод зайцоў замяшанне. Паглядаюць то на моркву, то на гасцей.

Першы заяц

Едзе, едзе, едзе конь
З-пад капыт ляціць... гармонь.

Агульны смех, заяц разгублена адыходзіць.

Зайка-Знайка

Я скажу, я адкажу:
Мчыцца, мчыцца, мчыцца конь,
З-пад капыт ляціць... агонь!

Гул адабрэння.

Толя

Малайчына! Гэта лоўка,
Дайце моркву ў прэміроўку.

Але моркаўка з сакрэтам. Яна разнімаецца, а ў сярэдзіне знаходзіцца другая, крышку меншая.

Грышка

Ёсць яшчэ!

Толя

Ну, ўсё ў парадку!
Майя, зноў давай загадку.

Майя

Будзе здатным, будзе знатным,
Той хто вучыцца...

Зайцы

Выдатна!

Толя

Хто-ж не знае гэта, ўсе!
Даць ім морквы па-крысе.

Зноў моркву раздымаюць, у сярэдзіне меншая. Так хапіла і для ўсіх зайцоў. У апошняй моркве ў сярэдзіне аказаўся пірог.

Грышка

Па мастацкі звіты ў рог—
Во, з капустаю пірог!

Толя

Разламайце папалам
Ї раздайце ўсім маржам.

Майя

А табе, Мароз, я знаю,
Ў Шмідта слаўны падарунак,
Прывязе ён сам сюды.

Толя

*глядзіць на гадзіннік*

Толькі доўга штось чакаем.

Тамара

Мо туман, а мо' бураны?

Грышка

Мо ў тумане сеў на льды?

Дзед-Мароз

Ні буранаў, ні туманаў,
Не павінна сёння быць.
Толькі зор агонь ірдзяны,
Над прасторам зіхаціць.
Праўда, ё ў мяне Пагода,
Тып капрызнае пароды,
Ды яна-ж за гаспадыню,
У зімоўшчыкаў на льдзінах.
Так што шлях усюды ясны.

Толя

А паветраную трассу
Ледавітага прастора,
Знае Шмідт, як след, на дзіва!

Тамара

Ён не раз ад Бела мора
Да Берынгава праліва,
Ї над полюсам Паўночным,
Пераможцам пралятаў.

Майя

Але ўсё-ж палярнай ноччу,
Мо што страшнае спаткаў?

Дзед-Мароз

Гм... Не знаю... Не, не знаю.
Штось баяцца пачынаю.
Лепш, давайце пашукаем!
Вецер!

Вецер

Я!

Дзед-Мароз

Падайся ў свет
Сядзь на свой веласіпед.
Як убачыш Шмідта—ўраз,
Прылятай сюды да нас.

Вецер

Ёсць! Убачыўшы—да вас...

Сеў на веломашыну, перад рулём завіхрыўся прапеллер. З гулам і свістам знікае.

Майя

Вось яно і наша свята.

Відаць, як Грышка ляжыць зарыўшыся ў снег, прыклаўшы вуха да льдзіны. Яго акружаюць піонеры.

Толя

Што такое там, рэбята?

Тамара

Грышка—з глузду з'ехаў крышку.

Майя

Прыслухоўваецца штось.

Толя

Мо, злавіў зямную ось?

Грышка

Не чапайце, ціха, ці-ха...

Майя

Уставай, якое ліха
Узяло цябе?..

Тамара

Як п'яны...

Грышка

*устаў, злосна*

Скалазубы. П'яны, п'яны...
Хоць-бы раз уласным вухам,
Мне хацелася паслухаць,
Бурны рокат акіяна.

Толя

Што-ж, пачуў?

Грышка

А што-ж ты думаў?
Ён наліты бурным шумам,
Ён ракоча...

Майя

Ой, Грышуха.
Адмарозіў сваё вуха!

Толя

Трэба даць пуцёўку Грышку,
У лазарэт на перадышку.

Грышка

Разыйшліся, ой-ё-ёй...
Лепш давайце грамадой,
Мы станцуем танец свой.

Мядзведзі-музыканты зайгралі матыў частушкі. Пасля кожнага куплета—пляска.

Толя

Вокам кіну, вокам гляну,
Думкі роем плодзяцца.
Тут усе мерыдыяны
Як у штабе сходзяцца.

Майя

Я-б хацела, каб трава,
Тут расла цяперака,
Добры дзень, табе, Масква!
Добры дзень, Амерыка!

Грышка

Я пяю на поўны голас,
Гэй, дзяўчаты, хлопчыкі,
Нашым стаў Паўночны полюс,—
Пакарылі лётчыкі.

Тамара

Зоркі весела мігаюць,
Ночка гаварлівая.
Хай жыве і расцвітае,
Дзетвара шчаслівая.

Толя

А цяпер, давай, рэбяты,
(Досыць нам адным шумець)
Хай станцуюць медзвежаты,
Хай пацешыцца мядзведзь.

Бяруць у мядзведзяў трубы, бубны, скрыпкі. Іграюць плаўную мелодыю. Мядзведзі танцуюць свой танец „Адпачынак“. Усе ў захапленні.

Толя

Вы авацыі дастойны!

Тамара

Колькі пластыкі, як стройна!

Майя

Я, рэбяткі, неспакойна,
Я трывогаю спавіта,
Што няма так доўга Шмідта
Позна ўжо. І вецер згінуў.
Весялімся мы, а ён...

Дзед-Мароз

Так, трывожныя хвіліны.

Толя

*да завірухі*

Дай радыё-парасон,
Мы звязацца паспрабуем

Бярэ парасон, ставіць яго на сярэдзіне льдзіны. Уключае. Запальваюцца лямпачкі. Надзяе навушнікі. Настраіваецца на хвалю.

Хутка мы яго пачуем.

Майя

Без васьмі хвілін дванаццаць,
Зараз прыдзе новы год.

Грышка

Мо, на пошукі падацца?

Тамара

Мо, заправіць самалёт?
Зверху лепш праверыць лёд!

Толя

Ціха... Чую нейчы голас.
Алло...Што?—Паўночны полюс!
Што?.. Алло... Які маяк?

Убягае Вецер, агульнае ажыўленне.

Майя

Вось і Вецер!

Грышка

Што? Ну як?

Вецер

Як страла сюды ляціць,
Аж паветра ўсё дрыжыць.
Не адзін ён, к нам у госці,
Ён з сабой вязе кагосьці.

Дзед-Мароз

Гэй, сябры мае, пара,
Каб спаткаць багатыра,
Яркім сонечным агнём,
Асвяціць аэрадром.
Зоркі, слухайце!
Адразу—
З ясным месячыкам разам
Свой канчайце харавод,
Апускайцеся на лёд.

Зоркі мігам гаснуць, відаць, як коціцца ўніз месяц. Яны прылятаюць на льдзіну. Чуваць гул матора.

Дзед-Мароз

Для ўрачыстага спаткання,
У знак любві і прывітання,
Агнявым паўночным ззяннем,
Неба яснае ўспыхай.

Маразяты

Неба яснае, ўспыхай.

Загараецца на небе яркае паўночнае ззянне.

Дзед-Мароз

Музыканты, марш іграйце,
Завіруха, Вецер, зайцы
Гэй, паслушныя, за мной.

Толя

Нам дазволь пайсці з табой!

Дзед-Мароз робіць жэст—знак згоды. Радаснае хваляванне. Усе выходзяць на аэрадром. Застаюцца зоркі. Яны наводзяць парадак на льдзіне—танцуюць танец „Урачыстая сустрэча“. Месяц прыносіць два распісаных марознымі ўзорамі крэслы, затым уключаецца ў танец зор.

Чуцен марш, воклічы. Піонеры нясуць на руках Дзеда-Мароза, маразяты і Вецер нясуць Отто Шмідта. Тут-жа ідзе высокая, дзіўна-апранутая (то ў светлых, то ў чорных колерах вопратка) яшчэ незнаёмая нікому жанчына. Як толькі Шмідт сеў у крэсла, яно ўспыхнула яркімі агнямі.

Дзед-Мароз

Пад маім паўночным ззяннем,
Свой прывет і віншаванне,
Отто Юльевічу Шмідту
Ад душы перадаю.
О, мой друг і брат, прымі тут,
Радасць шчырую маю.

*Да ўсіх*

Слаўце ўсе багатыра!

Маразёнак

Дзядзьку Шмідту—ўра!..

Усе

Ура-а!

Отто Шмідт

Шчыра, шчыра вам удзячны...
О, вялікі Дзед-Мароз,
Я табе прывет гарачы,
І любоў сваю прывёз.

*Абдымае Дзеда-Мароза, цалуе.*

Ноч палярную агнямі
Дзед-Мароз нам асвятліў.
Полюс! Вось ён, перад намі,
Непрыступным доўга быў.
Многія пазнаць жадалі
Неразгаданы абшар.
Замярзалі, прападалі,
Шмат лягло людскіх ахвяр.

А каму было па сілах
Не скарыцца вечным льдам?
Толькі нашым, быстракрылым,
Большэвіцкім караблям!
Толькі нашая дзяржава
Ганарыцца мае права,
І спяваць пабедны марш,
Мара—стала яснай явай,
Полюс—наш, совецкі, наш!
Служыць ён цяпер народу,
Шмат багаццяў нам дае.
Важна знаць душу Пагоды
І капрызы ўсе яе?
Вельмі важна, бо Пагода
Як сястра самой Прыроды.
А Прырода наша, знай—
Гэта—сонца і ўраджай.
Гэта—нашы пералёты,
Гэта—будучыня ўсіх.
Дружна, шчыраю работай,
Мы дасягнем мэт сваіх.
Толькі што, на льдзінах шэрых
У зімоўшчыкаў я быў,
Там з Пагодаю яшчэ раз
Я спаткаўся, падружыў.
І сюды прывёз на свята,
Усцешыць хай сваю душу.

Звяртаецца да яшчэ незнаёмай нам жанчыны, паказваючы на піонераў

Гэта—нашы арляняты,
Пазнаёміцца прашу.

Пагода

Я—капрызная Пагода,
Далікатная парода,
Толькі чыхну—
Дождж пальецца.
Кашляну—
Ударыць гром.
Броў нахмуру—
Пранясецца
Сакрушальны буралом.
Буду ў добрым я настроі,
Усміхнуся—
Над зямлёй
Ўзыйдзе сонца залатое,
Прыгалубіць цяплынёй.
Не шкадуюць сіл і сродак
Каб пазнаць мяне, Пагоду.

Я—ўсеўладная Пагода,
Я—сястра самой Прыроды,
Буду дружна з вамі жыць
Буду верна вам служыць,
Ваш вялікі ваявода

*Паказвае на Шмідта.*

Ён прывёз мяне з сабой.

Толя

Добры дзень табе, Пагода!

Пагода

Добры дзень, саколік мой!

Чуецца мілагучны, як бы ўдары Крэмлёўскага гадзінніка, звон. Усе сціхлі. Слухаюць. 12 ударау. З-за ледзяной скалы выплывае расквечаная ёлка—падарунак Дзеду-Марозу ад Шмідта.

Шмідт

Дзед-Мароз, о, велічавы,
Падарунак мой прымай.
Хай уцехі, хай забавы,
Сёння льюцца цераз край.

Дзед-Мароз

Дзякуй, дзякуй... Зоркі, гэй,
Заіскрыцеся ярчэй
Ёлку-ёлачку заліце
Яркім полымем-агнём.

На галінах ёлкі заіскрыліся шматкаляровыя аганькі. З радаснымі крыкамі „Новы год" рэбята здымаюць грым, маскі. Толя стаўшы на ўзгорак звяртаецца да ўсіх рэбят у зал.

Толя

З новым годам, з новым святам,
Вас, шчаслівыя рэбяты.
З новай сілаю за працу,
З новай ярасцю змагацца,
Сустракайце Новы год!
Слаўнай сталінскай дарогай,
Падружыце з перамогай,
Сустракайце Новы год!

Шмідт

З Новым годам, з Новым годам,
Ад душы вітаю вас.
Я жадаю вам заўсёды,
Пераходзіць з класа ў клас.

Я жадаю вам, рэбята,
Ўсім вучыцца на выдатна,
Быць да спраў вялікіх здатным.
І сягоння ў гэтым зале
Гукнем дружна, дзетвара
Хай жыве вялікі Сталін!
За красу жыцця—ура!

Гарачымі воплескамі і воклічамі дзеці славяць Вялікага праваДыра.

## Дзед-Мароз

Новы год! Спяём, рэбяты,
Песню радаснага свята!

Пяюць песню звычна, весела. Ёлка, нібы агністая карусель, віхрам кружыцца. Гукі песні льюцца, іх падхоплівае ўвесь зал.

Нам ласкава свеціць
Празрыстае сонца,
Нам ветлыя птушкі пяюць.
Савецкія дзеці
Ў савецкай старонцы
Шчаслівымі дружна растуць.
Зарой навагодняй
Залоцяцца далі,
Мы ў звонкі сабраліся круг.
Ты з намі, наш родны
Ты з намі, наш Сталін,
Вялікі настаўнік і друг.
Мы песню спяваем
Пра шлях велічавы,
Пра нашы цудоўныя дні.
Ад края да края
Крылатаю славай
Вясёлая песня, звіні.

1937 г.

*Алесь Стаховіч*

# ЧЭСНАСЦЬ

(Апавяданне)

I

Пра выпадак, які адбыўся з Міронам у Менску, было не мала гаворкі. І сам Мірон не ўяўляў сабе, як гэта так раптоўна здарылася з ім.

Раніцой ён збіраўся ў дарогу. Прыземістая жанчына, папраўляючы спаўзаючыя на твар жыдкія пасемцы валасоў, рыхтавала снеданне. Тучная подмазка шыпела на жаркай скаварадзе і ў печы, пад зыркім полымем, хутка раслі, ружавелі пшанічныя бліны.

Мірон сядзеў на лаўцы. Ён макаў у тук кавалкі цёплых наздрастых бліноў і, раз па разу пазіраў на коней, якія ў запрэжцы сталі ля варот.

— Ты-ж не запамятай купіць галошы,—напомніла жонка Мірону, калі ўжо ён падаўся за парог.

Дарога была рыхлая. З усланых сонечнымі праменнямі палёў бурчэлі ручайкі. Яны часам перасякалі прасёлачныя дарогі і тады пара лысых коней, узмахваючы галовамі, асцярожна, але хутка, пераносілі свае доўгія, рысістыя ногі і толькі набракшыя колы рыпелі ў каляінах.

Прыехаўшы, ён хутка распрог каней, прывязаў за драбінкі і, падкінуўшы ім канюшыны, паспяшаўся ў горад.

Пад вечар, убачыўшы ў прыгожа абабітай зялёным аксамітам вітрыне абутак, ён успомніў жончына даручэнне і зайшоў у магазін.

Ля прылаўка таўпіліся людзі. Дзве маладых жанчыны спрытна завіхаліся ля абутку.

Вастраносая, з каштанавымі, завітымі валасамі, адпускала чаравікі, а чорнабровая, з круглым румяным тварам, у цёмна-сінім халаце — маладзіца, пералічвала грошы і хутка падавала ўпакаваныя ў жоўтую паперу бліскучыя галошы.

Мірон вачыма абвёў па напоўненых таварамі паліцах, вымаючы з кішэні грошы, падышоў да прадаўшчыцы.

— Вам якія?—запыталася жанчына.

— Жаночыя, жонцы,—адказаў Мірон.

— А нумар?

— Шосты, на чаравікі.

Жанчына пачала капашыцца на паліцы. У гэты час якісьці рослы хлапец, нахіліўшыся на прылавак, тыркаў раскручаныя галошы і яго крыклівы голас чуўся ў магазіне:

— Не маю часу. Прашу абмяніць на нумар меншыя. Хлопаюць дужа...

Мужчына ў рагавых акулярах, паказваючы пальцам на паліцу, таксама дамагаўся:

— Пакажыце мне гэтыя... Пакажыце!..

Жанчына замяшалася. Тыя галошы, якія яна дастала Мірону, паклала на ніжнюю паліцу і ўзялася адменьваць хлапцу. Затым яна хутка падала Мірону скрутак і ён, заплаціўшы грошы, узяў яго пад паху і вышаў з магазіна.

Мірон спяшаўся. Падабраўшы з-пад ног у коней раструшаную канюшыну, усклаў яе на калёсы і, укладваючы пакупкі, ён рашыў зірнуць на галошы.

„Ці той яшчэ нумар яна дала мне, мо памылілася ў такой сумяціцы",—трывожна пранеслася ў яго галаве.

Раскруціўшы жоўты скрутак, Мірон здзіўлена войкнуў і разгублена апусціў яго на канюшыну.

Замест бліскучых жаночых галош перад яго вачыма ляжала вялікая пачка акуратна складзеных грошай.

— Што за ліха?—разводзячы рукамі бубніў сабе пад нос усхваляваны Мірон.—І колькі грошай?!. Гэта-ж колькі галош можна-б было-б купіць на іх... Ды ці адных галош, а шмат чаго.

II

Цяжкія, масіўныя, шкляныя дзверы гулка хлопнулі і на іх з'явілася невялічкая кардонка з лёканічным надпісам „зачынена."

Жанчына, якая некалькі хвілін таму назад спрытна завіхалася за прылаўкам,—зараз разгублена перакідвала жоўтыя скруткі на паліцах.

— Не можа быць... не можа быць... вось тут-жа, тут ляжалі яны...—разгублена шапталі яе збялеўшыя губы.

У соты раз, дрыжачымі рукамі, яна нервова абмацоўвала тую ніжнюю паліцу, на якую яна паклала ранішнюю выручку ў сем тысяч рублёў. Знясіленая ад хвалявання жанчына цяжка апусцілася на лаўку.

У дзверы нехта моцна забарабаніў. Прыбіральшчыца з мяцёлкай у руках падышла да дзвярэй. Яна зірнула ў шкло і, ссунуўшы бровы, сурова праказала:

— Што не бачыце, зачынена!—і зноў пырскаючы з бутэлькі вадой па падлозе, пачала падмятаць.

Але чалавек ад дзвярэй не адыходзіў і прадаўжаў грукацець:

— Адчыніце!—Адчыніце!..—чуўся яго ўсхваляваны, настойлівы голас.

Жанчына зірнула ў акно і, узняўшыся з лаўкі, падышла да дзярэй.

— Адчыніце-ж вы!..—дамагаўся чалавек.

Жанчына адцягнула зашчапку і чалавек, з жоўтым скруткам у руках увайшоў у магазін.

— Здаецца сюды?—прыглядаючыся да жанчыны, загаварыў Мірон.

Жанчына, убачыўшы сваю ўпакоўку, адразу пачырванела. Яна кінулася да гэтага зусім незнаёмага ёй чалавека і, схапіўшы яго за руку, пачала моцна трэсці яе.

— Дзякую, дзякую вам!.. вы разумееце, што вы зрабілі для мяне...

З яе ветлівых вачэй, ад непамернай радасці, па ўсхваляванаму твару каціліся слёзы і нервовыя спазмы сціскалі яе перасохшае горла.

У гэты дзень Мірон спазніўся на лекцыю, але ўжо пасля агранома калгасны сход з цікаўнасцю слухаў Мірона пра яго апошняе здарэнне. І нават стары Архіп, выходзячы са сходкі, праказаў у дарозе:

— Вось гэта, чэснасць!

*Алесь Стаховіч*

# „МІЛКА“

(Апавяданне)

Чалавеку, які падвозіў нас з Шуміліна, было ўжо больш за поўсотні гадоў.

Але бараду ён чамусьці пачаў галіць у апошнія часы, і таму выгляд яго быў куды маладзейшым.

Ён шавяліў лейцамі па гладкіх, бліскучых баках вараной кабылы, і з-пад яе рысістых ног у вазок ляцелі кавалкі спрэсаванага снегу. Яны часам траплялі ў твар Апанасу і, ён з каўняра змятаючы снег, з нейкім асаблівым здавальненнем бубніў сам сабе:

— От ужо расхадзілася...—і нацягваючы лейцы, ён пазіраў назад, нібы хацеў заўважыць, якое ўражанне ў нас ад рысістай хады гэтай рослай кабылы.

Чалавек ён быў спрактыкаваны і меў не малы вопыт у гадоўлі коней. Працаваў ён ужо больш сямі гадоў старшым канюхам у соўгасе, і было ў яго шмат розных здарэнняў у жыцці. Мабыць таму і завязваў ён з намі ўвесь час гаворку пра коней і, урэшце расказаў ён нам і пра тое здарэнне, якое адбылося ў яго з гэтай вараной кабылай...

Аднаго разу, пасля зацяжнай і цяжкай хваробы „Мілкі“, Апанас вывеў яе за вароты. Тады выгляд у Мілкі быў вельмі страшэнны. З-пад аблезлай, адлежанай скуры, вылупіліся нязграбныя косці, абвіслая галава панура гойдалася на шыі. Здавалася вось-вось яна рынецца вобземлю.

— Застрэліць!—загадаў, падышоўшы дырэктар і азірнуўся наўкола.

Апанас здзіўлена паглядзеў у вочы дырэктару і ціха праказаў:

— Вы жартуеце?..

— Жартаваць тут нечага!..—закрычаў дырэктар, падступаючы да Апанаса.

— Як-жа-ж гэта... Ніканор Лаўрэнцевіч!?.

— Вам сказана застрэліць!!!—усё больш раз'юшваўся Падлізін,— нечага мне тут худобы трымаць... Паскудства!..

Ён плюнуў на „Мілку“ і, пакусваючы барадаўку, якая тырчэла на яго ніжняй губе, падаўся ў кантору.

Разгублены Апанас доўгі час стаяў ля кабылы ў дзіўным замяшанні.

— Як гэта так... гаспадар... застрэліць, „Мілку“...—балючая думка свярліла ў галаве Апанаса.

— Ну, чаго яшчэ думаеш!—ужо праз адчыненае ў алею акно, пачуўся голас дырэктара.

— Ёй-жа ўсяго шосты год пайшоў, нявартa Ніканор Лаўрэнцевіч. Яе-ж падарвалі, яна-ж папраўляецца ўжо...

— Застрэліць гавару!!!—стукнуўшы кулаком аб падакенніцу, сурова загадаў дырэктар і адышоў ад акна.

Апанас рукою ўхапіўся ў Мілкіну грыву і яны паступова схаваліся за гарой.

— Звар'яцеў Падлізін,—суняўшыся ў лагчынцы, прагаварыў Апанас,—але дудкі, ні на тога трапіў... і так ужо загінула колькі...

Ён завярнуў за прысады. Зялёная пахучая трава вабіла да сябе худобу і, яна, суняўшыся, пачала згрызаць маладзенькі мурог.

— От бач, ужо і скубсці пачала... Ці не адвесці кудой на выпас,—мільганула ў галаве Апанаса.—Але каб звер не натрапіў— сумняваўся ён, пацярэбліваючы яе скудлачаную грыву.

Увечары, напаіўшы коней, Апанас узяў аброць, непрыкметна спусціўся ў лагчыну і, забрытаўшы кабылу, завёў яе ў стары, струхлелы будынак, які стаяў на адшыбе сядзібы, завалены ламаччам.

Ён расчысціў у куце, падгарнуў бярэма саломы і, прывязаўшы Мілку, вышаў за вароты.

Дзень пры дні, ён непрыкметна хадзіў у будынак. Туды заносіў харчы, і кабыла хутка набіралася сілы.

Неяк цёплым жнівеньскім адвячоркам, калі Падлізін з партфелем ішоў па двары, у будынку пачулася гучнае іржанне кабылы. Ён крыху пастаяў на сцежцы, зірнуў наўкола і накіраваўся ў той бок, адкуль чулася іржанне.

Адчыніўшы вароты, за грудамі ламачча, ён заўважыў кабылу, ля якой завіхаўся Апанас, суконкай змятаючы пыл.

— Дык вось яно?!.—з нейкай нялоўкай суровасцю праказаў Падлізін.—Ад дырэктара схаваў... Кармы расцягваеш...

Апанас рассмяяўся.

— Але-ж кабыла добрая. Не толькі воз, але і гармату пацягне...—з гордасцю прагаварыў Апанас.

Ён зняў з яе аброць і, хлопнуўшы па яе выгнутай шыі, пусціў за вароты.

Кабыла ўстрахнула галавой і, падбрыкваючы, панеслася да канюшні.

Падлізін упяліў вочы ў зямлю і моўчкі пайшоў у кантору.

— Ну і што-ж было далей?—запыталіся мы ў Апанаса.

— Потым Падлізіна знялі... чужаком ён аказаўся...—апавядаў Апанас, шаволячы лейцамі.

Мілка спорна рысіла па працёртым снежным насцілам і, нібы гуляючы ў снежкі, камлугамі ляпіла ў вазок.

---

*Алесь Жаўрук*

## ЖЫВЫ ЛЕНІН

Я помню ноч. І мур зубчаты,
Спавіты дымнаю імглой,
Як зараз бачу.
Там пачатак
Усёй зямлі, на плошчы той.

Мой брат,
Там спіць вялікі Ленін,
Там баявых сцягоў зара
І строгі мармур маўзалея
Вартуюць сон правадыра.

З павагай светлай паўтараю
Імя настаўніка. Я знаю,
Мне не забыць тае начы!
Я плошчу ўсю прайшоў да краю
І вышаў к рэчцы.
Я сачыў,

Як ноч ішла,
Як гукі стылі,
Як засынаў прасцяг зямлі
І хвалі сонна ў бераг білі.
Але я ведаў, што ў Крэмлі,

Там, за сцяной, яшчэ не спалі:
Павольны крок мне чутны быў,—
Там чалавек хадзіў па залі
І трубку простую курыў.

Аб чым ён думаў ў гэты момант,
Зямлі вялікі стырнавы,—
Аб хворым хлопчыку,
якому
Паслаў ён доктара з Масквы;

Аб новых сцежках, па каторых
Няўхільна заўтра пойдзе свет;

Аб Тэруэлі,
аб шахцёрах,
Аб нас з табой,
аб родных горах,
Ці аб смуглянцы Мамлекет?..

Стаяла ноч. І пад сузор'ем,
Што свеціць над усёй зямлёй,
Ад слуцкіх стрэх
Да хваль Прымор'я
Радзіма ўстала прада мной.

Устала ўся, ў кіпучых буднях,
З жывымі справамі сыноў.
Я бачыў у пустынях студні
І строі светлых гарадоў;

І трактары—
за статкам статак,
І далі—сонца залацей,
Я песні чуў шчаслівых матак
І бесклапотны смех дзяцей.

І ў тое светлае імгненне
Я зноў, мой брат,
У мільёны раз
Адчуў, што ў ім, вялікім,—
Ленін
Жыве па-даўняму між нас.

І, як заўжды, праз перашкоды
На зыркі водблеск маяка
Вядзе ўпэўнена народы
Яго няўтомная рука.

*Джордж Гардон-Байран*

## ЗМРОК НА ДУШЫ МАЕЙ

*(З цыкла „Яўрэйскія мелодыі“)*

Змрок на душы маей...—Хутчэй ігру
Хацеў бы чуць, арфістка маладая;
Няхай з-пад кволых пальцаў тваіх рук
Акорды нараджаюцца і таюць.
Калі надзеі ў сэрцы я прынёс
Яны тваім напевам адгукнуцца.
І калі стоены ў вачах крыніцы слёз—
Яны атруцяць сэрца і пальюцца.

З пачуццем, дзіка йграй, душа мая!—
Вясёлы спеў—не лёгак для мяне ён!
Пад плач журботных струн заплачу я,
Бо йнакш ад гора сэрца скамянее.
Яно, з маленства звыкшыся з тугой,
Пакрытае маўчання плесней,—
Напоўніцца жальбой да берагоў
І узарвецца градам слёз над песней.

*З англійскай мовы пераклаў*
*І. І. СЕМЕЖОНАЎ*

*Б. Лютоўскі*

## СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ

Стаўшы на высокі падаконнік
Ты паволі дыхала на шкло,
А па шыбах коўзалі далоні—
І акно заззяла, зацвіло.

І няхай шуміць лісцем чырвоным,
У прысадах вуліц стромкі клён.
І бяроза ўсёй пажоўклай скроняй
Прыпадае к зараву вакон.

Прыгажосць дзён восенскіх цвярозых
Ад душы прымаю і люблю,
Ладзь-жа, ладзь-жа лістапад марозы,
Усцілай-жа мёрзлую зямлю.

Паглядзі у даль, мая сяброўка,
Як кругі прабеглі па вадзе,
Ты схіліла русую галоўку,
Колькі спее думак і надзей.

Твае вочы горда заіскрацца,
Будзе май, і сонца, і вясна,
Ўпершыню з радзімай прывітацца
Паднясеш малое да акна.

Зашуміць бяроз высокіх голле,
Хлыне песня з матчыных грудзей.
І далёкім рэхам у прыволлі
Адгукнецца сэрцу светлы дзень.

Віцебск, 1938 г.

*Н. Гудзій*

# НАЙВЯЛІКШЫ ПОМНІК СТАРАЖЫТНАЙ КУЛЬТУРЫ

Параўнаўча звычайная падзея старажытнай рускай гісторыі—сутычка ў красавіку—маі 1185 года Ноўгарад-Северскага князя Ігара і трох быўшых з ім у саюзе другіх князёў—яго сваякоў—з полаўцамі, якая канчаецца паражэннем рускіх войск, выклікала да жыцця найвялікшы твор нашага старога гераічнага эпаса „Слова аб палку Ігараве". Храналагічныя даныя, якія вынікаюць з самога помніка, сведчаць аб тым, што ён мог быць напісаным не раней канца 1185 г. альбо пачатку 1186 г. і не пазней 1187 г. Адсюль—датыроўка „Слова" можа быць устаноўлена з дакладнасцю да двух год—факт амаль незвычайны для недатыраваных твораў старажытнай сусветнай літаратуры наогул і рускай у прыватнасці. Такім чынам, на 1936—1937 гг. прыходзіцца 750-гадовы юбілей таго помніка, які з'яўляецца сапраўдным скарбам нашай літаратуры і яе гордасцю.

У 1797 г. у кастрычніцкім нумары французскага часопіса „Spectateur du Nord" з'явілася наступнае паведамленне, якое было напісана на французскай мове і належала Карамзіну: „...два гады таму назад адкрылі ў нашых архівах урывак паэмы пад назвай „Песнь ігаравых воінаў", якую можна параўнаць з лепшымі паэмамі Осіана і якая напісана ў XII стагоддзі невядомым аўтарам. Склад, поўны сілы і пачуцця высокага гераізма, здзіўляючыя адлюстраванні, пачарпнутыя з жахаў прыроды, складаюць вартасць гэтага ўрыўка"... Такой была першая вестка пра „Слова аб палку Ігараве", набытым у 1795 годзе збіральнікам рускіх старажытнасцей графам А. І. Мусіным-Пушкіным у Спаса-Яраслаўскім манастыры. „Слова", як і большасць дайшоўшых да нас твораў старажытнай рускай літаратуры, аказалася ў складзе зборніка, які адкрываўся „Хронаграфіяй" і змяшчаў у сабе яшчэ „Временник", альбо „Летапісанне рускіх князёў і зямля рускія" і тры перакладных візантыйскіх аповесці.

А. І. Мусіну-Пушкіну і яго супрацоўнікам А. Ф. Маліноўскаму і Н. Н. Бантыш-Каменскаму спатрэбілася цэлых пяць год для прачытання помніка, яго пераклада, каментыравання і праўкі карэктур, і толькі ў 1800 г. тэкст „Слова" быў надрукаваны ў Маскве ў колькасці 1200 экземпляраў. Выданне выйшла пад такім загалоўкам: „Ироическая песнь о походе на половцев удельного князя Новгорода-Северского Игоря Святославлича, писанная старинным рус-

ским языком в исходе XII столетия, с переложением на употребляемое ныне наречие". Хутка пасля адкрыцця помніка з яго знята была копія для Екацерыны II, упершыню апублікаваная ў 1864 годзе.

У 1812 годзе дом Мусіна-Пушкіна на Разгуляі ў Маскве згарэў, і сярод іншых рукапісаў загінуў у агні захоўваемы ўладальнікам дома рукапіс „Слова аб палку Ігараве". Такім чынам загінуў адзіны стары спіс яго, і мы маем цяпер толькі познюю копію канца XVIII стагоддзя і першадрукаваны тэкст, большасць экземпляраў якога, складзеных у доме Мусіна-Пушкіна, таксама загінула, дзякуючы чаму гэта выданне стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

У час, калі над рукапісам слова працавалі Мусін-Пушкін і яго супрацоўнікі, палеаграфічная практыка знаходзілася яшчэ ў пачатковым становішчы, і таму і екацерынінская копія і першадрукаваны тэкст „Слова" маюць у сабе рад памылак, якія не выклікаюць у нас зараз ніякіх сумненняў. Паказальна, што ў радзе выпадкаў абодвы тэксты ў дэталях паміж сабой адрозніваюцца: Мусін-пушкінскае выданне выправіла некаторыя памылкі, якія меліся ў екацерынінскай копіі. Аднак, бясспрэчна, што памылкі і скажэнні меліся ўжо ў самім дайшоўшым да нас рукапісу „Слова". Філалагічная і палеаграфічная крытыка екацерынінскай копіі і першага выдання „Слова" прымушае думаць, што загінуўшы яго рукапіс адносіўся да XVI стагоддзя, магчыма, да яго пачатку і, значыць, паміж ім і арыгіналам помніка была розніца больш чым у трыста год.

Але дайшоўшы да нас спіс адносіўся, разумеецца, не непасрэдна да арыгінала, а да нейкага спіса, у сваю чаргу перапісанага з больш ранняга спіса. Якая колькасць такіх прамежных копій аддзяляе адзіна вядомы нам рукапіс „Слова" ад яго аўтографа, нам невядома, але колькі-б іх не было, многа ці мала (хутчэй мала, чым многа), 300 год—занадта доўгі перыяд, за які так своеасаблівы па стылю і так багаты па свайму фактычнаму напаўненню помнік непазбежна павінен падвергнуцца псаванням і скажэнням. Перапісчыку XVI стагоддзя вельмі многае з таго, што і як сказана было ў „Слове", у значнай меры было ўжо невядома. Адсюль—не малая колькасць цёмных месц у нашым помніку, якія на працягу больш 130 год імкнуцца разгадаць шматлікія вучоныя яго каментатары, не толькі рускія, але і заходне-еўрапейскія.

За 20 год, мінуўшых з часу першага выдання твору да яго гібелі, ніхто з працаваўшых над помнікам не заняўся праверкай дакладнасці гэтага выдання, тым больш, што рукапіс увесь час быў у руках яго ўладальніка, і калі настаў час сур'ёзнай філалагічнай крытыкі тэкста „Слова", прышлося ўносіць выпраўленні ў гэты тэкст, кіруючыся толькі сэнсавымі меркаваннямі, а таксама данымі лінгвістычнай і палеаграфічнай навукі.

Ужо хутка пасля выдання помніка сталі раздавацца галасы скептыкаў, якія адмаўлялі яго старажытнасць і нават сапраўднасць. Былі пры гэтым настолькі крайнія адмаўляльнікі сапраўднасці „Слова", якія бачылі ў ім падробку не то самога Мусіна-Пушкіна, не то Карамзіна. Пасля гібелі рукапісу скептычныя чуткі ўзмацніліся. Асаблівай сілы яны дасяглі ў 30-х гадох XIX стагоддзя, калі супроць сапраўднасці „Слова" з вялікай настойлівасцю зага-

варылі Сенкоўскі і—з кафедры маскоўскага універсітэта Качэноўскі. Скептычныя адносіны да „Слова“ былі толькі прыватным праяўленнем скептычных адносін групы гісторыкаў і крытыкаў да мінулага рускай гісторыі, якое ўяўлялася ім як эпоха культурна вельмі бледная, амаль варварская. Спецыяльна-ж у дачыненні да „Слова“ скептыкамі, галоўным чынам, ставілася на від, з аднаго боку, адсутнасць у старажытнай рускай літаратуры помнікаў, якія па сваіх мастацкіх якасцях хоць колькі-небудзь набліжаліся да яго, з другога—указваліся асаблівасці яго мовы, нібы-та не знаходзячыя сабе паралеляў у мове старажытнейшых рускіх помнікаў. Такое ўпартае нежаданне з боку некаторых даследвальнікаў „Слова“ прызнаць яго сапраўднасць прымусіла іх супрацiўнікаў для абгрунтавання свайго станоўчага пункту погляду на помнік дасканальней і настойлівей заняцца вывучэннем папярэдняй і сучаснай „Слову“ старажытнай рускай літаратуры і старой рускай мовы; у выніку гэтых вывучэнняў ужо да 40-х гадоў высветлілася з поўнай відавочнасцю неабгрунтаванасць пазіцыі скептыкаў.

Гарачым абаронцам сапраўднасці „Слова“ быў, між іншым, Пушкін, які яшчэ ў 1832 годзе вёў на гэтую тэму ў сценах маскоўскага ўніверсітэта ажыўленыя спрэчкі з Качэноўскім. За тым Пушкін працаваў над „Словам“ да апошніх дзён свайго жыцця, збіраючыся выдаць яго са сваімі тлумачэннямі, магчыма, са сваім перакладам, але паспеў толькі зрабіць выпраўленні і паметкі ў перакладах—рукапісным Мукоўскага і друкаваным Вельтмана, а таксама напісаць пачатак артыкула, у якім дадзены рашучы адпор скептыкам і прапанавана тлумачэнне некаторых спрэчных месц „Слова“. У 50-я гады „Словам аб палку Ігараве“ жыва цікавіліся Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс у сувязі са сваімі заняткамі па гісторыі славян.

Пачынаючы з 40-х гадоў у нас з'яўляецца рад даследванняў аб „Слове“, звязаных з імёнамі Буслаева, Тіханравава, Ус. Міллера, Александра Весялоўскага, Патэбні, Смірнова, Барсава і іх прадаўжальнікаў, і ў далейшым не мінае года, каб вывучэнне „Слова“ не ўзбагачалася некалькімі работамі рускіх і заходне-еўрапейскіх вучоных, у той альбо іншай меры паглыбляючых наша разуменне і навуковае асваенне вядомага помніка.

У выніку гэтай доўгай не спыняючайся і ўвогуле вельмі плённай работы над вывучэннем „Слова“ удалося, калі і не цалкам растлумачыць многія яго цяжкія, загадачныя месцы, дык ва ўсякім выпадку, значна наблізіцца да іх высвятлення. Шырокае прыцягненне да даследвання твораў сусветнай літаратуры—пісьмовай і вуснай і ў першую чаргу літаратуры рускай—арыгінальнай і перакладнай, а таксама вуснай народнай паэзіі дало магчымасць паставіць „Слова“ ў гісторыка-літаратурную перспектыву, вызначыць яго арганічныя літаратурныя сувязі і яго бліжэйшае паэтычнае асяроддзе. Нарэшце, заняцца вывучэннем „Слова“ ў плане яго ідэйнай сутнасці і яго сувязі з гістарычнай абстаноўкай Кіеўскай Русі XII стагоддзя.

Тое, што здабыта ў выніку вывучэння „Слова“ дазваляе сказаць аб ім наступныя агульныя палажэнні.

Багаты паэтычны стыль яго вызначыўся ўздзейнічаннем на яго аўтара як кніжнай, так яшчэ больш вуснай літаратуры. Пры ўліку кніжных уплываў на „Слова“ не варта аднак упадаць у тыя крайнасці, якія ў свой час дапусціў Ус. Міллер, які дужа пераўвялічыў гэтыя ўплывы. Але тым не менш пункт погляду на „Слова“, як на помнік, які адлюстраваў у сабе вядомыя асаблівасці стылю папярэдняй і сучаснай аўтару кніжнай літаратуры, не адпадае. У перакладных і арыгінальных творах рускай літаратуры XI, XII стагоддзяў мы знойдзем рад устаяўшыхся паэтычных формул, мастацкіх вобразаў і стылістычных зваротаў, якія блізкі да тых, што мы знаходзім у „Слове“, і якія дапамагаюць нам уясніць яго стылістычную традыцыю. Неаднаразова праводзіліся слоўнікавыя і фразеалагічныя паралелі да „Слова“ з бібліі, з летапісу, з перакладной апавядальнай літаратуры, з твораў мітрапаліта Іларыёна і Кірылы Тураўскага, але ўсе гэтыя паралелі гавораць толькі аб існаванні пэўнай стылістычнай традыцыі, у вядомай меры агульнай для „Слова“ і паказаных помнікаў. Карціна атрымоўваецца прыблізна такая, калі-б мы, вывучаючы творчасць Пушкіна, адзначалі ў яго паэтычнай гаспадарцы рад вобразаў і хадзячых формул, якія і да Пушкіна ўвайшлі ў сталы літаратурны ўжытак. Западозрыць толькі на гэтай падставе Пушкіна ў перайманні каго-небудзь з яго папярэднікаў альбо сучаснікаў было-б таксама несправядліва, як несправядліва і аўтара „Слова“ падазраваць у якім-небудзь свядомым перайманні.

„Слова“ супастаўлялася і з радам помнікаў заходне-еўрапейскай сярэдневяковай літаратуры—са скандынаўскімі сагамі, з „Песняй о Роланде“, з „Нібелунгамі“ з германскай паэмай „Ваотарыус“, з французскімі рамансамі XII і папярэдніх стагоддзяў і г. д. Але ва ўсіх гэтых супастаўленнях мы знойдзем толькі тыя агульнага характару зближэнні, якія тлумачацца перш за ўсё тым, што і ў „Слове“ і ў адпаведных заходне-еўрапейскіх помніках мы маем справу з гераічным пісьмовым эпасам, які па самой сутнасці сваёй, паколькі мы маем справу і тут і там з творамі феадальнай эпохі, павінен быў заключаць у сабе агульныя матывы і агульныя стылістычныя формулы.

Яшчэ відавочней глыбокая і арганічная сувязь „Слова“ з рускай народнай паэзіяй, як паказалі гэта шматлікія даследвальнікі, пачынаючы яшчэ з Максімовіча. Негледзячы на тое, што першыя запісы нашага вуснага паэтычнага матэрыяла адносяцца толькі да XVII стагоддзя і значыць мы не ведаем дакументальна ўзораў народнай паэзіі, сучаснай „Слову“, мы ўсё-ж, з прычыны вялікай ўстойлівасці народнай паэтычнай і песеннай традыцыі, маем усе падставы супастаўляць „Слова“ з існуючымі запісамі твораў народнай паэзіі.

Аб сувязі „Слова“ з фальклорам сведчаць і міфалагічныя элементы помніка, яго насычанасць анімістычнымі ўяўленнямі.

Аўтар „Слова“, відаць, належаў да дружыны кіеўскага князя Святаслава і быў не толькі выдатным паэтам, але вельмі адукаваным па тым часе чалавекам, якія, дарэчы сказаць, налічаліся ў старажытнай Русі зусім не адзінкамі. Але высокі кніжны ўзровень

нашага аўтара не адгарадзіў яго ад той багатай фальклорнай стыхіі, якая развівалася ў гушчах шырокай народнай масы, і якая была такой-жа старажытнай, як старажытнай была жывая народная мова. Смелае пранікненне аўтара ў народную творчасць з'яўляецца асноўнай прычынай яго вялікай паэтычнай удачы і вялікай эмацыянальнай і лірычнай сілы яго твора.

Вывучэнне „Слова" з пункту погляду гістарычнага пераконвае нас у тым, што яно ўяўляе сабой вельмі вялікую пазнавальную каштоўнасць, ярчэй, чым усякі другі рускі матэрыял, адлюстроўваючы характэрнейшыя асаблівасці феадальнага быту Кіеўскай Русі і існуючых момантаў яе палітычнага ўкладу. Аўтар не ставіць сабе мэтай захаваць літаральную гістарычную дакладнасць у перадачы паслядоўных момантаў Ігарава пахода, а імкнецца да абуджэння перш за ўсё эмоцыі жаласці і ўдзелу да ігаравай бяды і да ўяснення ўсяго, што адбываецца ў плане пэўнай палітычнай сітуацыі. З гэтай мэтай ён дае рад змяняючых адна другую лірычных карцін, у якіх фактычны элемент адыходзіць на задні план і ўступае месца вобразнаму апісанню паасобных, найбольш драматычных момантаў, звязаных з лёсам Ігара і яго войскам. На словах адмовіўшыся следаваць за „салаўём старога часу" Баянам, аўтар „Слова" на справе ідзе па яго слядах і замест традыцыйнай воінскай аповесці стварае адначасова страсную лірыка-эпічную песню і хвалюючы публіцыстычны памфлет; сам становячыся суддзёю не толькі сучаснага, але і мінулага рускай гісторыі, неаднаразова адыходзячы ад апісання, каб перайсці да разважанняў і горкага раздум'я пра лёс рускай зямлі і, нарэшце, да адкрытай агітацыі за згуртаванне ўсіх рускіх сіл у барацьбе з ворагам. Асабістая аўтарская ацэнка, публіцыстычнае каментыраванне апісваемых падзей увесь час суправаджае апавяданне пра іх у нашага аўтара. Ён стаіць перад намі ў пазіцыі аратара, які гаворыць ад першай асобы і звяртаецца да сваіх слухачоў. Са звароту і пачынаецца „Слова": „Не лепо ли ны бяшеть, братие, начяти старыми словесы трудных повестий о полку Игореве, Игоря Святославича?"—пытаецца аўтар, і далей зварот да „братоў" паўтараецца ў яго яшчэ пяць разоў. Ён адыходзіць на задні план толькі для таго, каб даць „залатое слова" кіеўскаму князю Святаславу, якога ён лічыць увасабленнем сапраўднай палітычнай мудрасці і ў вусны якога ўкладае свае заветныя мары аб спыненні княжаскіх усобіц і саюзе князёў у імя інтарэсаў усяго рускага народа.

Вялікая палітычная ідэя, якая ляжыць у аснове „Слова" знаходзілася ў поўнай адпаведнасці з перадавой палітычнай практыкай свайго веку і з жывымі запросамі сучаснасці, і выключная літаратурная каштоўнасць „Слова" абумоўліваецца як-раз тым, што яно было агульнанародна па сіле і па таленавітасціператварэння ў ім фальклорнай стыхіі.

---

*М. Модэль*

# ЮБІЛЕЙНЫЯ СПЕКТАКЛІ

Асноўныя тэмы юбілейных спектакляў у нашых тэатрах—народная героіка, савецкі патрыятызм, рэвалюцыйная пільнасць. Яны сталі ўнутранай тэмай драматургаў, актораў і рэжысёраў, якія працавалі над стварэннем спектакляў да 20-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэвалюцыі.

„Салавей" знаёміць гледачоў з далёкай гісторыяй беларускага народа і яго барацьбой супроць спрадвечных ворагаў—польскіх паноў. „У пушчах Палесся" і „Партызаны" апавядаюць пра гераізм беларускага народа ў грамадзянскай вайне і партызанскім руху. „Як гартавалася сталь" малюе мужны і гераічны вобраз выдатнай моладзі Сталінскай эпохі, а „Сям'я Авадзіс"—патрыятызм і інтэрнацыянальную дружбу народаў у нашай краіне. „Вочная стаўка" мабілізуе рэвалюцыйную пільнасць на выкрыццё і выкарчоўванне фашысцкіх шпіёнаў.

Юбілейныя спектаклі ўвайшлі ў пачуцці і свядомасць гледачоў перш за ўсё галярэяй рэалістычных сцэнічных вобразаў народных герояў.

Спектакль „Салавей" адкрывае старонкі гісторыі беларускага народа. Сялянскія масы стогнуць пад гнётам прыгоннікаў, якія наладжваюць бясконцыя пакуты беднаму сялянству. Польскія паны руйнуюць сялянскія хаты, сядзібы, разбураюць гаротныя сем'і і разганяюць іх па свету. Яны здзекуюцца над душамі сялянскай моладзі, ксяндзоўскім „катэхізісам прыстойных паводзін" і маральным вызыскам. Нават тэатр, які створаны панам Вашамірскім, служыць для маральных і фізічных пакут. Красамоўна пра гэта гаворыць Язэп Чорнабароды: „Ксёндз Баніфацы душу выймае, а пан Адам скуру на лыка здзірае". Горкія слёзы, сагнутыя дадолу спіны, бязвыхаднае гора нараджаюць у народзе глухое нездавальненне, стыхійны пратэст. Сэрцы лепшых сыноў народа запальваюцца агнём помсты да тых, хто вінен у пакутах народных.

З асяроддзя беднага прыгоннага сялянства выходзіць прывабны белакуры юнак Адам, якога за таленавіты салаўіны свіст пан назваў салаўём.—Герой паказан спачатку паэтам, музыкай, які з маленства імкнуўся да гукаў, „да тысячаструнных гусляў зямлі". Юнак шчыра кахае ладную, прыгожую, як „царыца Клеапатра",—Алёну. Пан Вашамірскі адбірае ў Салаўя каханую дзяўчыну і яна ў тэатры становіцца балерынай Тэрпсіхорай. Бацьку Адама пан

замучыў у муравейніку і ён (бацька) кінуўся ў вір. Сястра Тацяна даведзена да вар'яцтва. А войт з гайдукамі, па панскаму загаду, паласуе бізунамі спрацаваныя сялянскія спіны.

Сэрца юнака поўніцца гневам і ненавісцю. Ён пачынае помсціць панам... Ад яго воўчага вою пані Ізабела звалілася з каня. Салавей павінен быць закатаваны на панскай стайні. Але талент захоўвае жыццё Салаўю. Пан Вашамірскі пакідае яго ў тэатры. Пакрыўджаныя і абяздоленыя збіраюцца навакол Салаўя на барацьбу з панамі. Поруч з Салаўем, сабрат па барацьбе,—чорнабароды Язэп. І каханая Алёна кідае выклік ненавісным панам.

Вобраз Салаўя поўны драматызма і лірыкі. Але ў п'есе ён пазбаўлены якасцяў мысліцеля. Мужнасць яго, героіка, усе яго ўчынкі стыхійныя. Язэп проста называе яго „гарачай галавой". А „гарачай галаве" уласцівы бурныя ўзлёты і імклівыя спады. Розум, мудрасць, спакойная разважлівасць уласцівы чорнабародаму Язэпу, а не Салаўю. Вобраз белакурага юнака раздвойваецца. Інтэрпрэтацыя ролі Язэпа, як ідэйнага зброяносца сялянскага паўстання, а Салаўя толькі, як мечаносца,—сур'ёзная прынцыповая хіба драматычнага твору, у якім асноўная дзейная асоба—герой ідэйна абяскроўлены.

Няправільна было-б зразумець нашу крытыку аб няпоўнацэннасці вобраза Салаўя, як прынцыповае выступленне супроць двух галоўных дзейных асоб—герояў у драме наогул. Мы толькі супроць абяскроўлення аднаго героя другім, як гэта зроблена ў „Салаўі". У гісторыі драмы вядомы частыя выпадкі, калі асноўную лінію барацьбы могуць адначасна весці дзве дзейныя асобы, перажываючыя адну і тую-ж драму, напрыклад, Ромео і Джульета, якія змагаюцца з Монтэкі і Капулецці ў імя свайго кахання. Адзін і другі вобраз у Шэкспіраўскай трагедыі галоўныя, але яны аднолькава поўнацэнныя, і дапаўняюць адзін аднаго.

Л. Г. Рахленка, іграючы ролю Салаўя, апынуўся, такім чынам, перад складанай задачай, якая вынікае з пэўных супярэчнасцяй вобраза. Рахленка—таленавіты ўдумлівы актор. Яму нельга адмовіць у прыродным артыстычным абаянні. У сцэне допыта Салаўя панам Вашамірскім, Рахленка набліжаецца да правільнага раскрыцця вобраза. У актора шчыры, адкрыты і натхненны твар. Ён захапляе пана салаўіным свістам, скрыпічным соло, трапным перадражніваннем яго загадаў. У прастаце і натуральнасці ігры актора ў гэтай сцэне—сапраўдная мастацкасць.

Гэтую мастацкую прастату мы не адчуваем ва ўсёй ігры актора. У сцэне „з цымбаламі", дзе Салавей замаскаваны, ён занадта напружаны, рухі і інтанацыі ў яго не натуральныя. У сцэне ў „старых лозах", у хаце Каспара і асабліва ў фінале Л. Г. Рахленка страсць падмяняе мітуслівасцю. Эмацыянальна не напоўнена акторам „страшная" сцэна „кукавання" Вашамірскага. З прычыны ненатуральнасці становішча актора ў „танцавальнай інтэрмедыі", ён там выпадае з вобраза. Трагічныя перажыванні і жудасны настрой Салаўя для гледача знікаюць за бадзёрай мелодыяй „Лявоніхі" і „Юрачкі". Рэжысура і ў мізансцэнах падкрэсліла гарачнасць Салаўя, яго залежнасць ад Язэпа. Салавей на паваду

ў Язэпа, у сцэне ў хаце Каспара, у „старых лозах“. У вобразе Салаўя ў спектаклі пераважылі інтанацыі гарачнасці і стыхійнасці. Эмацыянальная вібрацыя дамінуе над думкай у ігры Рахленка. Літаратурная вартасць вобраза Салаўя, у драме, і асабліва ў спектаклі не знайшлі належнага ўвасаблення.

Ад далёкай гісторыі беларускага народа спектакль Віцебскага драматычнага тэатра падводзіць нас да велізарных падзей грамадзянскай вайны ў нашай краіне. Драматычны эпізод гэтай барацьбы малюе народны паэт Якуб Колас у аповесці „Дрыгва“ і ў драме „У пушчах Палесся“.

У гэтым народна-гераічным творы Колас адлюстраваў ненавісць беларускага народа да польскіх паноў і беларускага кулацтва, а таксама паказаў гераічную барацьбу беларускіх партызан пад кіраўніцтвам Чырвонай Арміі супроць белапольскіх акупантаў.

Белакурага юнака Адама змяняе ўбелены сівізнай дзед Талаш—кіраўнік партызанскага атрада на Палессі. У манументальным вобразе Талаша Якуб Колас увасобіў народную мудрасць, мужнасць і цёплы лірызм.

Вырасшы ў шырокіх і прасторных палескіх пушчах у нестачы і беднасці, у асяроддзі, у якім былі амаль суцэльная непісьменнасць і лютыя хваробы, Талаш разам з усёй палескай беднатой пацягнуўся да сонечных праменняў Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая асвятліла шлях да шчаслівага жыцця. І калі, як цёмная навальніца ў ясны дзень, па буйных абшарах Палесся, загойсала белапольскае войска, агнём і мячом знішчаючы народнае дабро, заліваючы палескія палі і пушчы кроўю беларускага народа—дзед Талаш пачаў збіраць народ на партызанскую вайну супроць лютых ворагаў.

Дзед Талаш адзін са сваёй паляўнічай стрэльбай блукаючы сярод шматвяковых дубоў, сустракае Мартына Рыля. Радасная сустрэча паклала пачатак арганізацыі партызанскага атрада. У гэтым атрадзе разгортваецца народны талент і гераізм выдатнага палешука.

Талаш—фігура вялікай абаяльнасці. Чырвонаармейцаў і партызан ён любіць бацькаўскай любоўю і кліча іх не інакш, як „голубе“, „голубе мае родныя“. З запалам юнацкага сэрца стары Талаш гаворыць пра „настаяшчую стрэльбу“. Ён бярэ яе ў абдымкі, нібы роднае дарагое дзіця. Стратэгічны талент дапамагае Талашу выратаваць чырвонаармейскі батальён, а аналітычны розум выкрыць правакатарскія махінацыі Саўкі Мільгуна.

Талаш глыбока чалавечны. Яму ўласцівы чалавечыя радасці і ён мужна перажывае вялікае гора. Вобраз Талаша напісан прыгожай, поўнай народнага юмара і фальклорных лексічных зваротаў моваў.

Ролю Талаша іграе А. К. Ільінскі. Бурныя воплескі, якімі ўзнагароджвае гледач Ільінскага пры першым з'яўленні на сцэне—вынік таго, што мастацкае аблічча Талаша ўзнікае пры паяўленні актора.

У ролі дзеда Талаша ўвасоблены галоўныя дадатныя рысы артыстычнай індывідуальнасці Ільінскага, якія далі магчымасць актору стварыць вобраз вялікай прывабнасці і мастацкай сілы.

Іграючы ролю Талаша, Ільінскі разбівае „тэатральную метафізіку“ аб непраложных законах акторскіх амплуа, якія абмяжоўваюць тэмперамент актора.

Актор востра-камедыйнага, нават сатырычнага тэмперамента, ён у ролі Владзіміра Дуброўскага нечакана ўсхваляваў нас новымі для Ільінскага фарбамі рамантычнага героя Пушкіна. Рамкі характэрнага актора былі пашыраны новымі рысамі рознастайных сцэнічных здольнасцяў Ільінскага.

А ў вобразе Талаша Ільінскі ўсхваляваў нас глыбокай псіхалагічнай праўдай, мяккім юмарам, суровай мужнасцю і лірычнай цяплынёй. Талаш—Ільінскага гераічны, манументальны і глыбока характэрны. Каларытны тэмперамент актора зрабіў вобраз і жывапісна выразным. Унутраны малюнак вобраза Талаша арганічны з вонкавым малюнкам—з магутнай упэўненай паходкай, стрыманымі строга прадуманымі жэстамі і разумным разважлівым позіркам.

Усё ў вобразе арганічна, злітна. Праўда, актор, раскрываючы „нутро“ Талаша, яго невычэрпныя душэўныя глыбіні, часам захапляецца бытавымі дэталямі, замаруджвае дынамічны тэмп ігры. І тады, на хвіліну, Талаш губляе рысы героя.

Гэта здараецца тады, калі Ільінскі жадае асабліва рэльефна падкрэсліць фізіялагічную старасць Талаша. Аднак, такіх хвілін не многа і яны амаль не ўплываюць на агульны выразны малюнак вобраза. Прычыну ўдачы Ільінскага ў ролі Талаша можна знайсці ва ўмельстве актора з бясконцага рада захапляючых артыста задач, кавалкаў ролі, скласці яе „унутраную партытуру“, і ў адсутнасці сцэнічнага штампа.

Вобраз, створаны А. К. Ільінскім—надзвычайна радасная падзея ў творчым жыцці беларускіх тэатраў.

Старонкі гісторыі грамадзянскай вайны раскрывае і п'еса Крапівы „Партызаны“, якая пастаўлена Барысаўскім калгасным тэатрам (пастаноўшчык А. Данілаў). „Партызаны“ тэматычна пераклікаюцца з п'есай „У пушчах Палесся“. Крапіву, як і Коласа, хвалюе народная героіка барацьбы з белапалякамі, драматызм самаахвярнасці партызан у гэтай барацьбе.

Вобразу дзеда Талаша блізкі Даніла Дрыль. Селянін-бядняк, ён, як і Талаш, адчуў у Кастрычніцкай рэвалюцыі адзіны шлях да светлай будучыні свайго народа. І таму Даніла вельмі хутка адгукнуўся на заклік партыі большэвікоў і яе прадстаўніка камісара Скібы—біць польскіх паноў, якія на інтэрвенцкіх штыках нясуць працоўнаму сялянству па „тры аршыны“ зямлі.

Даніла Дрыль—арганізатар і душа партызанскага атрада. Трапіўшы ў рукі белапалякаў, ён знаходчывым учынкам выратоўвае сваё жыццё. Засланяючы сына, гіне ад стрэла жаўнера маці героя. Падвойную помсту рыхтуе панам Даніла Дрыль за слёзы і гора свайго народа і за родную маці, якая сваім жыццём захавала сына-байца.

Крапіва малюе героя надзвычайна чалавечным. Многа цяплыні ў маналогу Данілы пра маці, у яго бацькаўскіх клопатах пра сіротку Марылю. Смерць партызан ён успрымае, як балючую страту самых блізкіх і родных людзей. Даніла ўмее мужна стрымліваць

партызан ад гарачнасці, неабдуманых учынкаў. Ён вучыць іх рэвалюцыйнай дысцыпліне і вытрыманасці. Трапная народная лексіка, сакавітасць мовы, робіць вобраз Данілы жывым і пераканаўчым.

У вобразе Данілы ёсць элементы схематызма. Ён недастаткова паказан у дзеянні. У найбольш драматычнай сцэне ў п'есе—у хаце Рыгора—герой Даніла сам не дзейнічае, а дзейнічаюць навокал яго. Ён спіць і выключан з гэтай надзвычайна важнай сцэны.

Аўтар надаў Данілу пераважна функцыі практыка, а кіруючыя функцыі нададзены камісару Скібе.

Дзве галоўныя дзейныя асобы-героі маюць самастойныя функцыі ў п'есе, але адзін і другі мастацкі недаапрацаваны.

У юбілейным спектаклі Барысаўскага калгаснага тэатра (пастаноўшчык А. Данілаў) малады актор Кунцэвіч іграе ролю Данілы Дрыля проста і шчыра. Вобраз мужнага сялянскага хлопца, які ахвяроўвае жыццём за народ, прывабны і пераканаўчы ў гераічных і ў лірычных сцэнах. Не гледзячы на адсутнасць сцэнічнай школы, у яго ігры няма штучнасці і правінцыяльнага найгрыша. У ігры маладога актора многа непасрэднасці і ўнутранай усхваляванасці.

Недахоп майстэрства актор кампенсуе шчырасцю пачуццяў.

Па сіле драматызма, філасофскай глыбіні, незвычайным абаянні—Павел Карчагін належыць да найбольш выдатных вобразаў савецкай літаратуры. І зусім зразумелы вялікі энтузіязм, з якім працавалі рускі тэатр і тэатр юнага гледача над інсцэніроўкамі рамана „Як гартавалася сталь“ Н. Астроўскага, над сцэнічным увасабленнем выдатнага вобраза.

Павел Карчагін—яркі і праўдзівы вобраз новага соцыялістычнага чалавека, самай моцнай страсцю якога з'яўляецца вялікая любоў да свайго народа і палкая ненавісць да ворагаў. Карчагін—абагулены тып пралетарскага рэвалюцыянера, які выхаваны соцыялістычнай рэвалюцыяй, адлюстроўвае вышэйшыя духоўныя якасці маладога пакалення Сталінскай эпохі. Ён стаў прыкладам для пераймання ўсёй моладзі нашай радзімы.

У рамане „Як гартавалася сталь“ разгорнуты слаўны шлях роста Паўла Карчагіна з „чорнавокага ў шэранькай рубашцы і сініх штанах“, хлопчыка ў мужнага рэвалюцыянера і выдатнага пісьменніка: „усё жыццё і ўсе сілы (якога): былі аддадзены самаму прыгажэйшаму ў свеце—барацьбе за вызваленне чалавецтва“, чалавека, які глыбокую асабістую трагедыю адцясніў „дзівоснай непаўторнай радасцю творчасці і свядомасцю, што і твае рукі кладуць цэглы для ствараемага намі прыгожага будынка—імя якому соцыялізм“.

Мастацкая сіла рамана ў вялікай шчырасці, у яркім тэмпераменце і жыццёвай праўдзівасці характараў, надзвычайным харастве пейзажных малюнкаў, у рамантычнай прыўзнятасці і імклівай дынаміцы падзей, якія там адбываюцца.

Спектаклі пастаўлены па розных інсцэніроўках—Рафаловіча ў рускім тэатры, Юдэлевіча і Раймонт—у дзіцячым тэатры.

У сваёй інсцэніроўцы Рафаловіч здолеў паказаць атмасферу, у якой рос і развіваўся і змагаўся Паўка Карчагін—жывы, мужны і разумны юнак. Карчагін становіцца актыўным удзельнікам грама-

дзянскай вайны, якая разгараецца на Украіне. Ён дапамагае матросу-падпольшчыку Жухраю стаць на працу на электрастанцыі, выратоўвае яго ад петлюраўцаў. Шаснаццацігадовы Паўка ў турме, перад немінучай смерцю праяўляе высокія маральныя якасці рэвалюцыянера.

Паўка геraічна змагаецца на франтах грамадзянскай вайны, дзе ён цяжка паранены. Пасля таго, як раны крыху залечаны, Карчагін на адказнейшым вучастку гаспадарчага будаўніцтва. Мужны чырвоны воін, ён паказвае ўзоры гераізма ў пабудове чыгункі, знітоўваючы людзей у найцяжэйшых умовах голада, тыфуса і бандытызма. Толькі цяжкая хвароба выводзіць Карчагіна з радоў перадавых байцоў за аднаўленне народнай гаспадаркі. Разбіты невылечнай хваробай Карчагін перамагае асабістую трагедыю і ўваходзіць у рады змагароў за соцыялізм таленавітым літаратарам.

Аўтар інсцэніроўкі аддае ўвагу і асабістым лірычным пачуццям Паўкі і паказвае, як грамадскі абавязак перамагае нават вельмі інтымныя пачуцці юнага рэвалюцыянера.

Схематызм большасці вобразаў, многаэпізоднасць, агульная рыхласць драматургічнай кампазіцыі—прыкрыя заганы інсцэніроўкі.

М. Юдэлевіч і Е. Раймонт у сваёй інсцэніроўцы імкнуліся падкрэсліць больш выразна ўнутраную псіхалагічную лінію развіцця вобраза Карчагіна. Але яны завастрылі паказ асабістай трагедыі Паўкі (дыялаг з прафесарам у больніцы), унеслі ў інсцэніроўку меладраматызм (другая сцэна ў турме). Інсцэніроўка больш фіксуе вынікі развіцця вобраза Карчагіна, паказаўшы яго ў дзеянні толькі ў адной сцэне—на пабудове чыгункі. Гераічная барацьба Карчагіна на франтах грамадзянскай вайны, яго параненне не паказаны ў інсцэніроўцы.

Прынцыповая хіба інсцэніроўкі, якая ідзе ў дзіцячым тэатры, пры пэўных дадатных яе вартасцях, у залішняй меладраматызацыі вобраза.

У інсцэніроўках Рафаловіча і Юдэлевіча няма вельмі важных рысаў біяграфіі Карчагіна—яго змагання за ідэйную чыстату радоў партыі, з права-левымі апартуністамі, якія перараслі ў прамых ворагаў партыі і савецкага народа.

Ролю Паўла Карчагіна ў рускім тэарты іграе Д. Арлоў, а ў дзіцячым тэатры—Л. Фрыдман. Гэта акторы розных тэмпераментаў, вопыта і культуры. Карчагін у выкананні Арлова—жывы рухавы, крыху ўглаваты, жыццярадасны юнак. Актор на працягу ўсяго спектакля ўзбагачае эмацыянальныя фарбы вобраза новымі нюансамі. У працэсе разгортвання вобраза з'яўляецца востры юмар, мяккі і цёплы лірызм, узнікае нервовая ўзбуджанасць.

Сцэна на фронце, у якой ранены Карчагін у гарачцы ўяўляе сабе ворага спрутам з выпуклым вокам „джала (якога) джала сасе, сасе"—патрасае сваім драматызмам і незвычайным тэмпераментам таленавітага актора. Вытрымка, загартаванасць, бліскучы розум і жыццёвы аптымізм у палітры фарбаў Карчагіна-Арлова невычэрпны. Эмацыянальна напоўнена і хвалюе ў ігры актора—сцэна на пабу-

дове чыгункі, дзе Карчагін з апошніх сіл імкнецца перамагчы адольваючую яго хваробу.

Нават у найбольш трагічны момант у развіцці вобраза, калі перад вачыма Паўкі ясны сонечны дзень становіцца жудаснай цёмнай ноччу, ігра актора вельмі праўдзівая. У ёй не адчуваецца ні кроплі паталогіі, ні сантыментальнай фальшы. Перажыванні Карчагіна ў гэты драматычны момант Арлоў іграе мякка, з тонкім пачуццём мастацкай меры. Кожны рух, жэст, інтанацыі мастацка праўдзівы і пераканаўчы.

Вострая праніклівая мысль, якая ўласціва ігры актора, на працягу ўсяго спактаклю, прыкоўвае ўвагу гледача да ўнутранага руху страсці і эмоцый Карчагіна. Жыццёвай філасофіяй Карчагіна ва ўсім малюнку вобраза застаецца нязменны аптымізм, вера ў тое, што „шчасце многагранна“.

Карчагін-Арлоў захапляе, уздымае бадзёрасць духу, мабілізуе творчую энергію. З пачуццямі бадзёрасці пакідае гледач спектакль рускага тэатра.

У іншым плане іграе ролю Паўла Карчагіна—актор дзіцячага тэатра Л. Фрыдман. Каштоўная ўласцівасць Фрыдмана—мяккі благародны музыкальны голас, у якім моцна гучаць трагічныя інтанацыі. Іншымі інтанацыйнымі нюансамі Фрыдман яшчэ не авалодаў належным чынам. Тэмперамент Фрыдмана адпавядае яго тональнай палітры. Акторская мысль Фрыдмана таксама больш інтэнсіўна выяўляецца ў трагічных сітуацыях.

Фрыдман інтэрпрэтуе вобраз Карчагіна, як трагічную фігуру з самага пачатку. У працэсе ігры, актор згушчае толькі цёмныя, драматычныя фарбы, і ў адным такім плане вядзе ролю да канца. З тае прычыны, што Карчагін у найбольш уласцівай яму стыхіі—у барацьбе з ворагамі на фронце і ў тылу амаль не паказаны ў інсцэніроўцы, найбольш актыўныя, дзейныя элементы для ігры ў Фрыдмана адсутнічаюць. Дынаміка вобраза ў значнай меры падмяняецца статыкай.

Перажыванні, лірызм і асабістую трагедыю Карчагіна Фрыдман раскрывае глыбока, з вялікай мастацкай чуласцю і шчырасцю і гэтае стварае лірыка-трагедыйны эмацыянальны тонус вобраза, у якім аднак недастаткова падкрэслены гераічныя рысы.

Спектакль „Сям‘я Авадзіс“ апавядае аб савецкім патрыятызме, аб сталінскіх клопатах, пра росквіт і шчасце народаў, якія насяляюць вялікі Савецкі Саюз. Ён апавядае аб маральна-палітычным адзінстве савецкага народа. Ахова савецкіх граніц ад напада ворагаў, свяшчэнны абавязак кожнага савецкага грамадзяніна. Лёс радзімы стаў неадрыўным ад асабістага лёсу кожнага савецкага патрыёта. У боях з япона-манчжурскімі інтэрвентамі загінуў слаўны сын соцыялістычнай радзімы Кацельнікаў. Яго мейсца на граніцы заняў родны брат. Калі на пасту—у крывавай бойцы адзін супроць васьмі—загінуў сын патомственнага плытніка Заула Авадзіса—Шлёмка, на яго мейсца таксама становіцца родны брат—Калмен. Старыя бацькі праводзяць Калмена на граніцу з вялікай радасцю, як на вяселле. За Калменам едзе і яго нявеста казачка Ірына.

Галоўная дзейная асоба ў творы Маркіша не Шлёмка, пра якога

ідзе гутарка ў п'есе, чым гераізмам насычаны драматычны твор. Асноўны герой—Завл Авадзіс—бацька, які выхаваў чацвёра слаўных сыноў для радзімы. Перац Маркіш апавядае пра рэволюцыю ў свядомасці старога пролетарыя, які пры царызме перажыў падвойны гнёт—нацыянальны і соцыяльны, а пры савецкай уладзе набыў сабе радзіму ў соцыялістычным Бірабіджане і гонар мець асабістую сувязь з любімымі правадырамі народа, з таварышамі Калініным і Варашылавым.

Колькі гора перажыў і слёз праліў стары плытнік за свой доўгі век. Але нішто не зламала здаровага, бадзёрага Завла. Толькі ў Бірабіджанскім калгасе, будуючы шчаслівае соцыялістычнае жыццё, Завл памаладзеў. Ён узрушаны шчасцем мець сына-пагранічніка. Яму здаецца, што сын выглядае як Варашылаў і пачуццё гордасці захапляе старога.

Вялікая туга па сыну, загінуўшым у бойцы з ворагамі, спалучаецца з пачуццем глыбокай задаволенасці калі яго другі сын—Калмен заступае мейсца Шлёмкі.

Вобраз Завла Авадзіса аўтарам драмы разведзены значнай дозай бытавізма і сантыментальнасці. Перасяленка Мірл збіраецца нарадзіць дзіця. І Завл цэлую сцэну прыслухоўваецца—„пішчыць ці не пішчыць дзіця", аддаючы ўсе свае думкі, усю сваю ўвагу гэтаму „піску". Занадта расцягнута сцэна кармлення дзіцяці Завлам і яго жонкай. Тут таксама многа безсэнсоўнай і нуднай мітусні.

Ролю Завла Авадзіса іграе М. Сокал—тэмпераментны разумны актор. Сокал майстар вострай псіхалагічнай і знешняй дэталі, валодае ўмельствам ускрыцця падтэкстаў. Ёсць акторы, якія працуюць па метаду псіхалагічнага аналіза вобраза. Сокала мы ўяўляем як актора псіхалагічнага сінтэза.

Актор сам піша аб сваёй рабоце над вобразам наступнае: „Спатрэбілася крапатлівая, удумлівая і старанная прапрацоўка асобных кавалкаў, і „прад'ігры". Спатрэбілася падшукаць такія падтэксты, якія-б хвалявалі пачуцці, не парушаючы псіхалагічную лінію". Сокал сапраўды так працаваў, як ён піша. І перад гледачом разгортваецца строга-прадуманы ва ўсіх дэталях вобраз Завл „моцны, як дуб". Гэта адчуваецца ў спакойнай манеры гутаркі, у цвёрдай, упэўненай, крыху маруднай паходцы. Кожны сказ, кожная рэпліка ў Сокала прадуманы, асэнсаваны. У яго няма нечаканых пераходаў. Усё ідзе законамерна, паслядоўна, у развіцці думкі, у псіхалагічнай і эмацыянальнай лініі руху вобраза. Роля сыграна як „па нотах".

Аднак у гэтым ёсць і адмоўнае. Рэалістычна праўдзівыя элементы вобраза з прычыны матэматычна-дакладнага разліку кожнай дэталі, кавалка ролі і гранічнай вастрыні ігры актора часам даходзяць да ступені тэатралізацыі, да „какетнічання пачуццямі" і дурной манернасці, пра якую Дзідро пісаў, што „для чалавека з густам яна больш невыносна, чым агіднасць". А Сокал чалавек з мастацкім густам.

Вельмі выразным прыкладам такой дурной тэатралізацыі і манернасці з'яўляюцца мітусня Сокала пры пошуках тэлеграмы ў кішэнях, „глыбокадумная" паўза пры першым выхадзе Сокала.

У апошнім выпадку ўся мізансцэна пабудавана на падкрэсленні велічы моманту паяўлення „главы сям'і". Гэта манерна і безгустоўна.

Актор трапляе пад уплыў сантыментальнасці і натуралізма, якія ёсць у літаратурнай фактуры вобраза. Ён нудна і сумна абыгрывае піск дзіцяці, нудна і доўга прычмоквае і возіцца з нованароджаным. Гэтыя прыкрыя „дэталі", на жаль, папушчаюць ідэйна-мастацкую маналітнасць і сцэнічную выразнасць вобраза Завла Авадзіса.

Як і „Сям'я Авадзіс"—„Вочная стаўка" напісана на хвалюючую тэму. Подлыя фашысцкія шпіёны—агенты замежных контрразведак, трацкісцка-бухарынскія чорныя здраднікі імкнуцца ўсімі сіламі знішчыць ненавісную ім краіну соцыялізма. Дзякуючы рэволюцыйнай пільнасці совецкай разведкі на чале з Н. І. Ежовым, якая апіраецца на мільёны совецкіх патрыётаў, асіныя гнёзды заклятых ворагаў адно за другім выкрываюцца і ліквідуюцца.

„Вочная стаўка" паказвае большэвіцкую мужнасць і знаходчывасць совецкіх следчых і судовых органаў, якія апіраючыся на народ, здымаюць маскі з лютых ворагаў. Цэнтральны герой „Вочнай стаўкі"—следчы Ларцаў. Гэта таленавіты жыццярадасны чалавек, поўны кіпучай энергіі, большэвіцкай цвёрдасці і яснасці думкі ў самых складаных сітуацыях. Крок за крокам ён разблытвае самыя складаныя ходы подлых шпіёнаў. Ларцаў гарыць на рабоце. Увесь свой вольны час, кожную хвіліну свайго жыцця ён аддае справе выкрыцця і знішчэння ворагаў.

Але Ларцаў не прыватны тып следчага, а абагулены мастацкі вобраз і таму неарганізаванасць асабістага жыцця Ларцава, якая паказана ў п'есе, не тыпова для падобных людзей. Ненатуральная сітуацыя адбываецца і ў сцэне „Вочнай стаўкі", дзе Ларцаў вядзе страсны агітацыйны дыялаг з выкрытым германскім шпіёнам.

Ларцава іграюць—Малчанаў (Віцебскі тэатр), Бірыла (Белдзярждрамтэатр) і Траянскі (Рускі дзяржаўны тэатр).

Прывабны вобраз Ларцава стварыў П. С. Малчанаў. Ключом да раскрыцця вобраза ён абраў незвычайны аптымізм і жыццерадасць. Ларцаў Малчанава дыхае поўнай груддзю ўсімі чалавечымі радасцямі. З вялікім захапленнем ён гаворыць пра прыгожую прыроду, рыбную лоўлю і пра хараство жыцця. Пры першым спатканні Ларцава з Галкіным актор раскрывае мужнае, інтэлектуальнае і маральнае аблічча Совецкага следчага.

Малчанаў ужывае яркія, цёплыя фарбы. Малчанаў захапляе гледача тэмпераментным пераканаўчым правядзеннем допыта Галкіна і Іванова. Малчанаў паказаў прастату і шчырасць следчага, тонкія згібы яго розуму. Кожны ўчынак следчага ў ігры Малчанава прадуманы і пераканальны. Лаўрэнка захоплен энергіяй і працаздольнасцю Ларцава. Чароўны вобраз следчага-большэвіка зніжаецца ў хатняй сцэне, дзе страсць падмяняецца мітуслівасцю. У яго паяўляецца разгублены позірк, раскіданасць і залішняя нервовасць. На паўторным допыце Галкіна, Малчанаў творча зноў уздымаецца, а ў сцэне вочнай стаўкі—дасягае сапраўднага творчага натхнення.

У Белдзярждрамтэатры ролю Ларцава іграе С. С. Бірыла. Бірыла іграе ролю следчага на працягу ўсяго спектаклю спакойна,

сурова у адным танальным і пластычным малюнку, як у дзелавой, так і ў хатняй абстаноўцы.

Жывы, многагранны вобраз Ларцава ў радзе месц замкнуты акторам Бірыла ў схему строгага сухаватага чалавека, у пэўны штамп, які выпустошвае здаровы аптымізм, разумны юмар літаратурнага вобраза.

Наша сцверджанне патрабуе пэўных доказаў—звернемся да іх. У газеце „Літаратура і Мастацтва", у нумары за 5 лютага гэтага года надрукаваны фотаздымак са спектакля „Вочная стаўка"—фінал п'есы. На здымку паказана, што калі Галкін пачынае лаяць Іванова, чаму ён выдаў яго совецкаму суду, Ларцаў-Бірыла ўздымае правую руку з указальным пальцам уверх і гэта азначае „забараняю". Ларцаў забараняе Галкіну крычаць і лаяцца. Гэта трафарэтны жэст.

Можна ўказаць і на іншыя прыклады. У часе другога допыта Галкіна, Бірыла-Ларцаў расхваляваўшыся, стукнуў кулаком па стале так моцна, што ўся сцэна задрыжэла. Замест мастацкага выяўлення пачуццяў просты ўдар па сталу. Вось прыклад другога трафарэтнага жэста. Хвалюючыся Бірыла шпарка крочыць узад і ўперад па пакоі. Гэта трэці прыклад трафарэта ў раскрыцці псіхалагічнага становішча вобраза. Гэтыя элементы ігры ідуць ад капіравання знешніх вынікаў перажывання, ад штампа. Знікла ў ігры Бірыла захапляючае апавяданне Ларцава аб прыгожасцях прыроды і яго любоўных адносінах да палявання і рыбнай лоўлі.

Наглядаючы за ігрой Бірыла мы ўспомнілі артыкул К. С. Станіслаўскага, артыкул „О ремесле" (часопіс „Культура тэатра" № 6 за 1921 г.). К. С. Станіслаўскі піша: Нельга-ж сапраўды раз і назаўсёды заштампаваць чалавечыя пачуцці, страсці, уласцівасці і душэўнае становішча, не забіўшы іх; нельга жыць на сцэне механічна і капіраваць „толькі знешні вынік перажыванняў".

Станіслаўскі апавядае пра „эстэтычны кодэкс" акторскага штампа. Любоў, хваляванне, спакой, радасць, гора, таемнічасць, загад, забарона, сіла, хвароба, смерць—усе гэтыя складанейшыя эмоцыі і становішчы прыхільнікамі штампа іграюцца знешне, незаўсёды ўстаноўленымі і зафіксаванымі для кожнага становішча і эмоцыі прыёмамі.

Некаторыя ўказаныя намі эмацыянальныя становішчы выяўляе ў сваёй ігры С. С. Бірыла такімі-ж штампаванымі прыёмамі.

Мы гэтым не хочам давесці, што ўся роля Ларцава артыстам Бірыла пабудавана на штампе. У асобных месцах ў ігры актора адчуваецца шчырасць і цяплыня. Цёплыя інтанацыі і радасная ветлівая ўсмешка з'яўляецца на твары актора, калі ён гаворыць аб сыне і марыць аб яго будучым.

Уплывы штампа вінаваты ў тым, што Ларцаў у выкананні Бірыла аказаўся ў нейкай меры аднастайным, не заўсёды эмацыянальна напоўненым, што па-сапраўднаму не раскрыты аптымізм і жыццерадаснасць, уласцівыя вобразу Ларцава.

У артыста рускага тэатра Траянскага роля Ларцава—творчая няўдача. Тав. Траянскі цалкам апынуўся ў палоне штампа. Ён іграе Ларцава толькі знешнімі прыёмамі—углаватая паходка, позірк

скоса на Галкіна, сухая дэкламацыя тэкста і не натуральны шэпт у хатняй сцэне. Галоўная загана ў раскрыцці вобраза Траянскага— гэта знешняе капіраванне „выніка перажыванняў“, адсутнасць унутранага апраўдання ўчынкаў, эмацыянальная бескаляровасць і агульная сухасць ігры.

Галерэя галоўных дзейных асоб герояў, якія створаны ў юбілейных спектаклях, не гледзячы на асобныя неудачы, паказвае рост сцэнічнага майстэрства, паглыбленне псіхалагічнага малюнка вобразаў, узмацненне ў сцэнічнай інтэрпрэтацыі ролі мыслі, якая арганізоўвае акторскую інтуіцыю і эмоцыі.

Рад вобразаў, створаных нашымі акторамі ўвойдуць у гісторыю сцэнічнага мастацтва БССР, як вынік вялікай работы тэатраў да гістарычнага юбілея. І калі вобразы, якія створаны нашымі акторамі, яшчэ не беззаганныя, калі паасобныя вобразы неудалыя, то гэта ў значнай меры вынікае з слабых старон драматычных твораў, якія былі пастаўлены да дваццацігоддзя.

У гэтай сувязі варта прыгадаць надзвычайныя бессмяротныя словы Белінскага: „Калі характар, які створаны паэтам, не верны, не канкрэтны, то як-бы ні была выдатнай ігра актора, яна ёсць іскусьнічанне, а не мастацтва, штукарства, а не творчасць. Аслупяненне, а не натхненне“.

Мастацкая сіла юбілейных спектакляў не толькі ва ўдачы ці няўдачы вобраза цэнтральнай дзейнай асобы—героя.

Мастацкая уласцівасць юбілейных спектакляў можна праілюстраваць і на радзе іншых прыкладаў.

„У пушчах Палесся“—спектакль хвалюючага гістарычна-праўдзівага зместа і жывапіснай, арганічнай зместу тэатральнай формы. У спектаклях „Вочная стаўка“, „Як гартавалася сталь“ і „Партызаны“ жывы чалавечы вобраз увасоблены акторам—асноўным носьбітам ідэі драмы на сцэне—дамінуе над усімі іншымі элементамі тэатральнага выяўлення.

У серыі юбілейных спектакляў прынцыповае значэнне набывае „Сям‘я Авадзіс“. Гэтым спектаклем яўрэйскі тэатр стаў на шлях авалодання рэалістычным совецкім мастацтвам. Спектакль насычаны аптымістычным тонусам соцыялістычнага жыцця, інтэрнацыянальнай дружбай і любоўю народаў.

Рэалізм, праўдзівасць пачуццяў, героіка, якая ёсць у драматычным творы, знайшлі адлюстраванне ў рэалізме пастаноўкі (пастаноўшчык В. Галаўчынер) і ў праўдзівай ігры рада актораў.

Акторы яўрэйскага тэатра пасля доўгіх год фармалістычных практыкаванняў, якія над імі рабіў вораг, што кіраваў тэатрам, у гэтым спектаклі ўлічылі мудрыя советы Гамлета: чытаць маналог лёгкім языком, не гарланіць, „не занадта пілiць паветра рукамі“, не „рваць страсць у кавалкі і не раздзіраць вушы партэру“, не ламацца і не завываць.

Выкарыстоўваючы скупыя магчымасці, якія дае драматургічны матэрыял, акторы раскрылі строй думак і пачуццяў рада вобразаў, імкнучыся ўнутрана апраўдаць учынкі сваіх герояў. І рэжысёр і рад актораў дамагліся пэўнай удачы. У спектаклі няма наўмысных штукарскіх мізансцэн, наўмыснай позы, патэтычнай дэкламацыі

і бессэнсоўных трукаў, паявілася мастацкая прастата, якая ў будучай рабоце тэатра над высокамастацкай совецкай драматургіяй, дасць буйныя ўсходы высокаякаснага сцэнічнага майстэрства.

Праўда пачуццяў ёсць у сцэне чакання Шлёмкі з граніцы, у выхадзе атрада паграпічнікаў на сталінскую вахту, у развітанні маці з сынам, які выязджае на граніцу. І не адзін толькі Завл Авадзіс хвалюе сваёй ігрой. Многа шчырасці ў ігры Арончык у ролі маці, у яе любоўных і пяшчотных клопатах пра сына, у вялікім смутку перажыванняў, калі яна даведалася пра забойства сына, ва ўрачыста-суровых провадах Калмена на месца загінуўшага Шлёмкі. Гэтая шчырасць ёсць у ігры Фельдмана ў ролі дзеда Авадзіс, у усведамленні ім вялікай місіі сваіх унукаў—пагранічнікаў. Элементы рэалізма і праўды пачуццяў ёсць у ігры і рада іншых актораў.

Сур'ёзная загана п'есы „Сям'і Авадзіс“—адсутнасць вострых, драматычных калізій. П. Маркіш зусім не паказаў барацьбы ворагаў народа супроць соцыялістычнага будаўніцтва ў Біра-Біджане. Ён абмяжаваўся толькі паказам згуртаванасці ўсяго совецкага народа ў барацьбе з замежнымі інтэрвентамі. Адмоўныя ўласцівасці п'есы не знішчаны і ў спектаклі.

Банальнасць, салодзенькая сантыментальнасць, плоскія жарты, якія прыўнесены драматургам у лірычныя сцэны, спрошчаны трафарэтны лексікон іх, зрабілі адмоўны ўплыў на інтэрпрэтацыю гэтых сцэн і пазбавілі іх эмацыянальнай глыбіні. Лірычныя дуэты Калмена і Ірыны (артысты Бярозкін і Ульрых), Бойка і Брохі (артысты Герштэйн і Блушчынская) праходзяць без выяўлення глыбіні пачуццяў.

Асабліва непрыемны ў спектаклі „Сям'я Авадзіс“ сляды натуралізма і безгустоўнасці.—Яны адчуваюцца не толькі ў вобразе Завла Авадзіс—яны ёсць і ў іншых сцэнах, напрыклад: смачнае прычмокванне і крэхтанне за піццём гарбаты, „кіпучая“ жывёльная страсць брыгадзіра Флома да Мірл і інш.

Спектакль „У пушчах Палесся“,—лепшы з юбілейных спектакляў. Рэалізм спектакля вельмі ярка выражан і ў дэкарацыі мастака Басулаева. Выключная дадатная асаблівасць аповесці „Дрыгва“—дзівосны палескі пейзаж, напісаны так, што чытач уяўляе сабе поўны малюнак абстаноўкі падзей, якія адбываюцца ў аповесці. Гэтая-ж рэалістычная атмасфера падзей адчуваецца і ў спектаклі. У ім малююцца рэалістычныя карціны народных пакут геразма і мужнасці.

Надзвычайны дэкаратыўны фон спектакля ўяўляе сабой шырокі лясны гушчар з магутнымі стагадовымі дубамі, паветра якога напоена вільгаццю, што ідзе ад балот і поўнаводнай прыгожай Прыпяці. На гэтым маляўнічым фоне з суровай праўдзівасцю выглядае бедная хатка і небагаты скарб Талаша, а побач, рэзкім кантрастам, стаіць багатая святліца кулака,—войта Бусыгі, са стала якога ніколі не знікаюць тлустыя смачныя кумпякі і каўбасы і гарэлка, пад хмельнымі парамі якой зладзей і прайдзісвет Саўка Мільгун наймаецца ў правакатары.

На фоне жывапіснай палескай прыроды адбываюцца велізарныя па свайму драматызму падзеі. Польскія паны ў моры народнай крыві аднаўляюць уладу памешчыкаў і капіталістаў. І беларускія партызаны б'юць паноў, разумна, метка, безлітасна знішчаючы подлых інтэрвентаў.

Спектакль вобразна паказвае бязмежную любоў народа да Чырвонай арміі, шчыльную сувязь і ўзаемную дапамогу партызан і Чырвонай арміі.

Драматычны пакуты Аўгінні, ролю якой хвалююча іграе артыстка Кашэльнікава. Самыя інтымныя пачуцці беднай прыгожай дзяўчыны растаптаны войтам Бусыгай. Дачка народа—яна грозна адпомшчвае подлым акупантам за народ і за сябе, за забойства лепшага партызана і друга Мартына Рыля.

У спектаклі многа народнага юмара, які ёсць ва ўсёй п'есе— у вобразе Дарвідошкі (артыст Малчанаў), Талашы і радзе іншых персанажаў. Артысты тэатра вельмі цёпла і шчыра іграюць ролі камандзіраў Чырвонай арміі—камбата Шалёхіна (артыст Іваноў), комузвода Букрэя (артыст Шэлег).

В. А. Дарвішаў увасобіў рэалістычную народную праўду твора Якуба Коласа ў спектаклі праз праўду пачуццяў і перажыванняў, праз чоткае ўскрыццё фабулы. Спектакль жывапісны: у ім многа музыкі, але яна не парушае эмацыянальна-сэнсавай ткані спектакля, а наадварот узмацняе яе. Пазбегнуўшы фальшывай тэатральнасці, Дарвішаў дабіўся выключнай сардэчнасці і шчырасці ўсяго спектаклю.

Галоўная вартасць спектаклю „У пушчах Палесся"—у мастацкай прастаце раскрыцця падзей і характараў. І ў гэтым яго нязвычайная сіла. Выдатны рускі актор рэалістычнай школы А. П. Ленскі у „Заметках артиста" пісаў: „Самае цяжкае ў сцэнічным выкананні—гэта мастацкая прастата. Чым лепшы актор, тым бліжэй ён да гэтай прастаты, але чым бліжэй ён да гэтай прастаты, тым прасцей і даступней усякаму здаецца яго мастацтва."

У спектаклі „У пушчах Палесся" Віцебскі тэатр дасягнуў спалучэння жывапіснасці з праўдзівасцю характараў і сітуацый.

Ёсць у п'есе і спектаклі недапрацоўкі. Недастатковa чотка акрэслен вобраз большэвіка Жыбуля, невыразна паказаны шпіён Гембіцкі. У спектаклі ёсць паўторнасць і аднастайнасць батальных сцэн і гратэскнасць у ігры актораў, выконваючых ролі кулакоў. Гэты гратэск—адзіная фармалістычная „пляма" ў спектаклі.

Спектакль „Салавей" жывапісуе пра вялікія гістарычныя канфлікты, яркія чалавечыя страсці. Гэта спектакль вострай мыслі і вострай тэатральнай формы. Калі пільна ўглядаешся ў спектакль, то становіцца ясным імкненне рэжысуры перадаць драматычныя падзеі праз гранічную вастрыню сцэнічных сітуацый, рэзкую абрысоўку сцэнічных характараў.

Вялікае гора перажывае Вашаміршчына. Свавольная, жорсткая пані Ізабела дзеля ўласных выгод выкідвае сялян на пяскі і каменні. Гэты глыбокі трагізм сялянскага лёсу і народнага гора паказаны ў спектаклі надзвычайна зыразна праз лёс і адчуванні сям'і

Каспара. Адной змрочнай фарбай—безвыходнай тугой і безнадзейнасцю—пранізана сцэна ў хаце Каспара. На абліччы Каспара і Каспарыхі вы не ўбачыце ніводнай рысы прасвятлення. Сумныя постаці прыгнуты горам да зямлі. Змрочныя фарбы нарастаюць. У хату з'яўляецца Салавей, Язэп, а для поўнага згушчэння змрочных фарбаў, прыходзіць звар'яцеўшая Таццяна. І канчаецца сцэна поўным адчаю маналогам Каспарыхі і разбурэннем даху, які валіцца на галовы людзей у хаце.

Тэатр давёў ідэі драматычнага твору да гледача адной, гранічна рэзкай цёмнай фарбай, без усялякіх іншых нюансаў. Што яно сапраўды так, не цяжка давесці і на ігры ксяндза (артыст Зораў), які раскрывае вобраз пераважна адной гранічна-рэзкай фарбай—ехіднай усмешкай і поўнымі сарказма інтанацыямі. Тое-ж з Галінай—пані Вашамірскай, адзіная выразная рыса ігры якой—свавольства, Ядвігай (Ермоліна), Язэпа (Владзімірскі), і войта (Чарняўскі). І гэтыя акторы таксама выпукляюць якую-небудзь адну яркую эмацыянальную фарбу і на ёй будуюць малюнак вобраза.

У Ермолінай апантаны, паталагічны выраз твару і дрыжачы голас, у Владзімірскага—празмеру напружаная постаць і аднастайна-суровыя інтанацыі, а Чарняўскі „рве страсць у кавалкі“ і „пілiць паветра рукамі“.

Просталінейнасць і гранічная рэзкасць, як творчы прыём, ёсць у першым акце, у раптоўным пераключэнні з абсалютнага гора ў незвычайную весялосць.

Поўнакроўны рэалізм патрабуе не адной якой-небудзь рэзка выяўленай фарбы для акрэслення ідэі твора, ці вобраза, а многастайнасці фарбаў. Так разумелі рэалізм вялікія класікі мастацтва.

Пушкін, крытыкуючы Байрана, пісаў: „Байран (у трагедыі) падзяліў паміж сваімі героямі тыя ці іншыя рысы свайго ўласнага характару; аднаму даў сваю гордасць, другому—сваю ненавісць, трэцяму—сваю меланхолію і г. д. І такім чынам з аднаго характару, поўнага, змрочнага і энергічнага стварыў некалькі характараў незначных... „Пушкін тут з усёй яснасцю выступае супроць абмалёўкі герояў якой-небудзь адной фарбай ці адной рысай нават і тады, калі гэта робіць такі геніяльны паэт, як Байран, таму што характар атрымліваецца ўсё-ж нязначны.

Было-б няправільна сцвярджаць, што ўсе вобразы і падзеі ў спектаклі „Салавей“ раскрыты ў такім творчым прыёме. Досыць прыгадаць вобраз Міколы, з уласцівым яму жывым і цёплым юмарам, якога (Міколу) праўдзіва і шчыра іграе артыст Грыгоніс, альбо першую сцэну ў Вашамірскага, каб пераканацца, што гранічная рэзкасць фарбаў і просталінейнасць ужываецца з рэалізмам у спектаклі.

У гэтым спектаклі многа ўнутрана-неапраўданых месц (танцы ў першым акце, залішняя пышнасць і манернасць у сцэне Клеапатры, дзе Алёна выпадае з вобраза сялянскай дзяўчыны), псіхалагічная аднастайнасць многіх вобразаў. І таму спектакль „Салавей“ мае сур'ёзныя ідэйна-мастацкія дэфекты.

Ідэйна-мастацкі ўзровень спектакля „Як гартавалася сталь“ у рускім і дзіцячым тэатры, вызначаецца перш за ўсё і галоўным чынам тым, наколькі правільна раскрыты выдатны вобраз Паўла Карчагіна. А пра гэта мы пісалі вышэй. Застаецца дадаць нямнога. Рэалістычная сіла спектакля рускага тэатра (пастаноўшчык А. Я. Донацці), у адлюстраванні дынамізма і праўдзівасці падзей, у паказе бурнага рытма ўсяго жыцця, якім пранізаны раман Остроўскага.

Многа шчырасці і цяплыні ў ігры артысткі Лукіной, у ролі Тоні Туманавай; многа тэмперамента ў ігры Обуховіч у ролі Рыты. Па мастацку выразна раскрывае агідны твар Віктара Лешчынскага артыст Палякоў. В. В. Кумельскі сакавіта іграе ролю самадура палкоўніка Чарняка. У спектаклі многа і іншых акторскіх удач.

Дысанансам усёй рэалістычнай праўдзе спектакля гучыць адзіная фармалістычная архітэктурная ўстаноўка, якая замяняе сабою мастацка-выразныя дэкарацыі. Каларыт Украіны, дзівосныя маляўнічыя пейзажы Крыма, Каўказа—усё падменена мёртвай бескаляровай канструкцыяй.

У спектаклі дзіцячага тэатра (пастаноўка Міровіча і Палічынецкага) рэалістычна зроблены сцэны на пабудове чыгункі. Многа шчырасці і цяплыні ў сцэне развітання Карчагіна з маткай і ў фінальнай сцэне. Як мы пісалі вышэй, мы прынцыпова нязгодны з меладраматызмам у раскрыцці асабістага лёсу Паўкі. Сцэна ў бальніцы не дапамагае раскрыццю мужнасці і гераізма Карчагіна, а наадварот абвастрае і так вялікія чалавечыя пакуты Карчагіна. Жудасны меладраматызм падмяняе глыбокую трагедыю лёсу комсамольцаў (сцэна ў турме).

У спектаклі не паказаны гераізм Карчагіна на франтах грамадзянскай вайны. Замест гэтага на фронце паказан меланхалічны юнак з гармонікам і бузацёр — „анархіст“. Зніжае героіка-рамантычны каларыт спектаклю, бытавая атмасфера нізкаякаснага афармлення Кіпніса і сумбурна-крыклівая, аглушаючая меддзю, музыка Падкавырава.

У юбілейным спектаклі барысаўскага калгаснага тэатра „Партызаны“ многа цяплыні і непасрэднасці. Ігра маладых нявопытных актораў тэатра, на фоне выразнай жывапіснай дэкарацыі, радуе шчырасцю пачуццяў. Маладыя акторы ігралі проста і праўдзіва. Артыст Кір'янаў захапляюча раскрывае драматызм перажыванняў Рыгора, у якім пачуцці абавязка сына народа змагаюцца з пачуццямі кахання да кулацкай дачкі. Тав. Данілаў—рэжысёр спектакля, унёс многа цяплыні і рамантыкі ў сцэну партызанскага лагера ў лесе. Ён вельмі трапна раскрыў поўныя юмара дыялагі партызан з паняй Яндрыхоўскай. Натуральна пастаўлена рэжысёрам „сустрэча“ вясковай моладдзю жаніха да Марылькі. Не стылізаваная „Лявоніха“ пранізана пачуццямі суму і народнага гора, якое народ перажывае ад белапольскай акупацыі.

Увесь спектакль вытрыманы ў цёплых, лірычных танах.

Зразумела, што было-б перапавялічэннем лічыць гэты спектакль законачаным мастацкім творам, таму што ў ім многа наіўнага, а ў ігры актораў адчуваецца адсутнасць вопыта і дасканалых сцэніч-

ных ведаў. Узровень майстэрства асобных актораў часам нагадвае здольных аматараў культурнага драматычнага гуртка, але паўтараем, галоўная вартасць спектакля ў абаяльнасці, непасрэднасці, вялікай шчырасці пачуццяў і хваляванні, з якім іграюць маладыя акторы.

Да дэталёвага разгляда п'есы „Партызаны", якая яшчэ знаходзіцца ў працэсе даапрацоўкі аўтара, мы звернемся ў сувязі са спектаклем Белдзярждрамтэатра.

Спектаклі „Вочная стаўка" ва ўсіх тэатрах, не гледзячы на большыя ці меншыя, асобныя няўдачы, пастаўлены сур'ёзна з поўным улікам важнасці тэмы. Асабліва гэта правільна ў адносінах спектакляў Белдзяржрамтэатра і віцебскага тэатра (пастаноўшчыкі М. А. Зораў і П. С. Малчанаў). Усім спектаклям уласціва мастацкая прастата, шчырасць, адсутнасць фармалістычных выкрутасаў. Дэкарацыйнае афармленне пры розным узроўні таленавітасці і культуры мастакоў (найлепшае афармленне Шкляева ў БДДТ) беспрэтэнцыёзна і ставрае належную атмасферу для ігры актораў. Такія-ж простыя і мастацка-выразныя мізансцэны ў гэтых спектаклях.

Дзве групы вобразаў давялося стварыць акторам у „Вочнай стаўцы"—вобразы савецкіх патрыётаў, якія ўвасабляюць маральна-палітычнае адзінства нашага народа, яго згуртаванасць навокал партыі Леніна—Сталіна, і вобразы фашысцкіх шпіёнаў, заклятых ворагаў савецкага народа.

Ролі савецкіх патрыётаў сыграны акторамі з творчым натхненнем. Найбольш каларытныя вобразы спектакля—кравец Гурэвіч. Гэта тып чалавека, які пры царызме перажыў падвойны гнёт, і толькі пры савецкай уладзе ён зажыў поўным жыццём шчаслівага грамадзяніна соцыялістычнай радзімы. Ролю Гурэвіча іграюць у БДДТ артыст Глебаў, у рускім тэатры—Вепрынскі, а ў Віцебскім тэатры—А. К. Ільінскі.

Акторы раскрываюць разумны народны юмар, уласцівы нястомнаму аптымісту Гурэвічу, шчырасць пачуццяў краўца, вялікі ўздым і хваляванне гэтага чалавека, калі ён пайшоў да следчага па важнай дзяржаўнай справе. Гурэвіч горды тым, што і ён, звычайны кравец, можа прынесці вялікую карысць савецкай уладзе. Найбольш мякка іграе гэтую ролю Глебаў. Калі Вепрынскі пазбаўляе народны юмар Гурэвіча ўсялякай нацыянальнай афарбоўкі, то Ільінскі некалькі нават пераігрывае ў падкрэсленні яўрэйскага нацыянальнага каларыта юмара Гурэвіча.

З астатніх эпізадычных персанажаў вялікай прастатой і праўдзівасцю вылучаецца фігура калгасніка Талстых, ролю якога іграюць акторы Шаціла (БДДТ) і Смірноў (рускі тэатр). Абаяльнасць Талстых—у шчырым і простым апавяданні пра штодзённы гераізм пагранічных калгаснікаў, які стаў арганічным элементам іх быта. Гэтая прастата і шчырасць удумліва і мякка сыграна артыстам Шаціла.

Надзвычайна шчыры вобраз інжынера Кочына, які стаў ахвярай дыверсіі шпіёна—Вальтэра-Іванова. Ролю Кочына іграюць артысты Звездачотаў у Віцебскім тэатры, Антонаў у БДДТ і Іваноў у

рускім тэатры. Хвалюючы вобраз стварыў артыст Звездачотаў, які з мастацкай чуласцю раскрыў перажыванні Кочына, эмацыянальныя пераходы ў вобразе ад буйнай радасці за ўдачу праекта самалёта „Прыёмыша“ да безвыходнага адчаю ад прапажы чарцяжоў. Праўдзіва іграе гэтую ролю артыст Антонаў. Мастацка менш выразны вобраз Кочына ў выкананні маладога актора Іванова.

Выклікаюць некаторыя супярэчанні ў п‘есе і спектаклях вобраз краўца Харытонава, і ганарлівы „кравец Наркаміндзела“. У інтэрпрэтацыі гэтых вобразаў ім нададзены пераважна забаўляльныя функцыі ва ўсіх спектаклях. У эпізадычнай групе вобразаў вылучаецца цікавай ігрой малады актор Палцэўскі ў ролі студэнта Іванова. Тав. Палцэўскі разумнай і мяккай ігрой надае вобразу вялікую шчырасць. Некаторая разгубленасць, уласцівая Іванову—толькі прыватная характэрная рыса студэнта.

Многа тэмперамента і майстэрства ў ігры актораў, якія выконваюць ролю подлых ворагаў народа—шпіёнаў Галкіна-Келера і Іванова-Вальтэра. Ролю германскага шпіёна Галкіна іграюць акторы Краўцоў (БДДТ), Кумельскі (рускі тэатр) і Сяргейчык (Віцебскі тэатр).

Артыст Краўцоў удумліва, з пачуццём мастацкага такту, крок за крокам раскрывае мерзасць і подласць Келера, які прыкідваючыся спачатку глухаватым, бездапаможным, пад перакрыжаваным агнём допыта Ларцава, нарэшце раскрывае сваю лютую ненавісць да савецкага народа. Пэўная напружанасць у ігры актора ёсць толькі ў першай сцэне, дзе ён пераігрывае ў метадах маскіроўкі Галкіна. Сяргейчык іграе Галкіна спачатку і да канца ў адной танальнасці, у адным пластычным малюнку, пераканаўча раскрываючы вобраз фашысцкага шпіёна. Надзвычайна ясна і праўдзіва іграе ролю Галкіна В. В. Кумельскі. Ён іграе сваю ролю без усякага напружання, проста і глыбока раскрываючы бруднае аблічча закаранелага ворага.

З трох актораў, якія іграюць ролю шпіёна Вальтэра, найбольш поўна ўскрывае двурушніцкі твар ворага, які замаскаваўся партыйным білетам—С. С. Скальскі. Ён „шчыра“ іграе любоў да Пшаніцынай, „пільнасць“ да Коцына. З вялікай страсцю Скальскі ўскрывае варожае аблічча Вальтэра ў трызненні на хірургічным стале, а таксама на апошнім допыце ў Ларцава.

Быліч іграе Іванова больш просталінейна. Іваноў Быліча дэманічны і звераваты. З самага пачатку ў яго вачах блішчыць затоены варожы аганёк. Быліч увесь час крычыць, і ўзмоцнена жэстыкуліруе. Не зразумеў вобраза Вальтэра-Іванова артыст рускага тэатра Марэн. У сцэне з Пшаніцынай Марэн лірычны і пяшчотны, гэта ў вуснах шпіёна гучыць фальшыва. У астатніх сцэнах Морэн бескаляровы.

* * *

Мы на гэтым заканчваем наш агляд юбілейных спектакляў. На некаторых, як нам здаецца, найбольш тыповых элементах гэтых спектакляў мы імкнуліся паказаць, як сапраўднае творчае гарэнне

нашых тэатральных калектываў, шчырае імкненне іх да вялікага 20-ці годдзя стварыць высокамастацкія спектаклі, завяршыліся сур'ёзнымі творчымі ўдачамі.

Юбілейныя спектаклі, не гледзячы на рад памылак і слабых месц наглядна паказалі перамогу рэалізма ў тэатры і крах фармалізма, натуралізма.

Гэтыя спектаклі паказалі, што за 20 год вялікай соцыялістычнай рэволюцыі творчыя работнікі совецкага тэатра выраслі настолькі, што яны здольны стварыць найвялікшай драматычнай сілы вобразы выдатных людзей эпохі вялікага Сталіна.

---

# ХРОНІКА

## ЮБІЛЕЙ ДЖАМБУЛА

**Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 19 мая 1938 года казахскі песняр Джамбул Джабаеў, у сувязі з 75-годдзем яго творчай дзейнасці, узнагароджан ордэнам Леніна.**

■ **18 мая ў Алма-Ата адбыліся юбілейныя ўрачыстасці,** прысвечаныя 75-годдзю творчай дзейнасці народнага паэта Казахстана Джамбула. Урачыстасці пачаліся творчым спаборніцтвам акынаў, якія з'ехаліся з усяго Казахстана.

20 мая адбыўся ўрачысты пленум Алмаацінскага Горсовета разам з Саюзам пісьменнікаў, на якім зроблены шэраг дакладаў аб творчасці Джамбула. У заключэнне Джамбул праспяваў сваю новую паэму, прысвечаную Леніну і Сталіну.

22 мая ўдзельнікі ўрачыстасцей выехалі на радзіму Джамбула ў калгас „Ер Назар".

23 мая юбілейныя ўрачыстасці закончыліся вялікім тоем (народным святам) на радзіме Акына.

У Узун-Агач, цэнтр былога Кастэкскага раёна, зараз Джамбулаўскага раёна, прыехала шмат гасцей. Пасля мітынга ўсе накіраваліся ў аул да Джамбула. Юбіляр вельмі цёпла прыняў гасцей. Абласныя арганізацыі прыпаднеслі ў падарунак Джамбулу пародзістага трохгадовага каня.

■ **20 мая ў Доме пісьменніка адбыўся ўрачысты вечар,** прысвечаны 75-годдзю пясьнярскай дзейнасці Джамбула. Пасля даклада тав. Кучара аб творчасці юбіляра, беларускія паэты тт. Колас, Броўка, Хведаровіч, Александровіч, Агняцвет і іншыя прачыталі пераклады вершаў Джамбула.

## ПЛЕНУМ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

10 мая пачаў сваю работу пленум саюза совецкіх пісьменнікаў Беларусі. На пленуме былі заслуханы наступныя даклады: Справаздача праўлення, даклад т. Лынькова, даклад тав. Кучара аб зборніку вершаў народнага паэта Янкі Купалы „Беларусь ордэнаносная", даклад тав. Аксельрода аб новым творы Урыо Фінкеля „Мендэле Мойхер Сфорым"; даклад тав. Клімковіча аб п'есе народнага паэта Якуба Коласа „У пушчах Палесся"; даклад тав. Гурскага аб п'есе М. Клімковіча „Кацярына Жарнасек", даклад тав. Вольскага аб п'есе К. Крапівы „Партызаны"; даклад К. Крапівы аб лібрэта оперы П. Броўка „Міхась Падгорны", таксама былі заслуханы даклады Кузьмы Чорнага аб аповесці У. Кандрацені „Каханне" і даклад тав. Броўкі аб вершах П. Панчанка.

Пленум працягваўся пяць дзён. Па дакладах разгарнуліся шырокія спрэчкі, у якіх удзельнічалі ўсе паэты, пісьменнікі і крытыкі БССР.

14 мая ўвечары з вялікім дакладам аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР выступіў выконваючы абавязкі старшыні ЦВК БССР тав. Наталевіч. Пасля спрэчак па дакладу т. Наталевіча 15 мая выступіў з прамовай вык. аб. другога сакратара ЦК КП(б)Б тав. Лявіцкі.

Пленум з вялікай любоўю і адданасцю паслаў прывітальную тэлеграму вялікаму правадыру ўсяго працоўнага чалавецтва Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну.

Удзельнікі пленума таксама паслалі прывітальную тэлеграму народнаму паэту Казахстана Джамбулу, з сувязі з 75-гадовым юбілеем яго творчай дзейнасці. Аднадушна прыняты тэкст адказу на пісьмо калгаснікаў калгаса імя Чапаева, УССР.

* * *

Саюз совецкіх пісьменнікаў БССР уключыўся ў падрыхтоўчую работу па выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Драматургі тт. Кузьма Чорны, Ілья Гурскі, М. Клімковіч, М. Ільінскі, Е. Рамановіч, напісалі для тэатраў і клубнай сцэны аднаактныя п'есы, прысвечаныя выбарам. Калектывам паэтаў напісаны

цыкл вершаў аб Сталінскай Канстытуцыі. тт. Калачынскім і Рагуцкім напісаны: „Выбарчая песня“ і „Выбарчы марш“. Кампазітар т. Равенскі напісаў музыку на словы М. Хведаровіча „Песня аб Сталіне“. Шэсць брыгад паэтаў будуць выступаць на выбарчых участках. Усе напісаныя творы будуць змешчаны ў шостым нумары „Полымя Рэволюцыі“, а таксама выдадзены асобнай кнігай да дня выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

■ **28 красавіка Маскоўскі Абласны Выканаўчы Камітэт** зацвердзіў склад акруговых выбарчых камісій па выбарах у Вярхоўны Совет РСФСР па Маскве і Маскоўскай вобласці.

Ад Маскоўскай арганізацыі Саюза Совецкіх пісьменнікаў у склад Краснопрэсненскай акруговай выбарчай камісіі г. Масквы зацверджан тав. А. С. Серафімовіч, а ў склад Герцэнскай акруговай выбарчай камісіі (г. Масква)—В. І. Лебедзеў-Кумач.

■ **Прэзідыум Ленінградскага Совета** апублікаваў пастанову аб складзе акруговых камісій па выбарах у Вярхоўны Совет РСФСР. У спісах членаў акруговых камісій—шэраг пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў. Паэт Нікалай Тіханаў з'яўляецца членам акруговай выбарчай камісіі Маскоўска-Ленінскай акругі г. Ленінграда, Ю. Тынянаў—членам акруговай выбарчай камісіі Дзяржынскай акругі г. Ленінграда.

## ДА 750-ГОДДЗЯ „СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЕ“

У Пуціўлі, дзе адбываліся падзеі, апісаныя ў „Слове аб палку Ігараве“, ідзе вялікая падрыхтоўка да юбілея 750-годдзя „Слова аб палку Ігараве“. У горадзе адбываюцца масавыя экскурсіі да таго месца, аб якім расказваецца ў паэме.

8 мая ў Пуціўлі адбыўся вечар, прысвечаны „Слову“.

У Пуціўль прыязджае група прафесароў-даследчыкаў „Слова“.

Працоўныя Пуціўля ўзнялі пытанне аб арганізацыі гарадскога музея.

■ **Выйшла з друку „Слова аб палку Ігараве“**, перакладзенае на грузінскую мову паэтам Сіманам Чыкавані. Кніга аформлена мастаком Габашвілі. Адначасова друкуецца другі пераклад „Слова“, зроблены Канстанцінам Чычынадзе з малюнкамі Палешан.

■ **Юбілейная камісія пры Саюзе совецкіх пісьменнікаў** зацвердзіла план юбілейных урачыстасцяў 750-годдзя „Слова аб палку Ігараве“. 24 мая ў Цэнтральным парку культуры і адпачынку адбыўся агульна-маскоўскі сход, прысвечаны геніяльнай паэме.

## „БАГДАН ХМЯЛЬНІЦКІ“

Украінскі драматург А. Карнійчук прачытаў творчаму калектыву тэатра імя Шэўчэнка сваю новую п'есу „Багдан Хмяльніцкі“, якая прысвечана нацыянальна-вызваленчай барацьбе украінскага народа супроць польскіх паноў у XVII стагоддзі. Акторы высока ацанілі гэты новы твор тав. Карнійчука.

Тэатр імя Шэўчэнка пакажа п'есу ў пастаноўцы засл. арт. рэспублікі М. М. Крушэльніцкага.

## ЗНОЙДЗЕНЫ РУКАПІС І. ЧАЎЧАВАДЗЕ

Грузінскі паэт Г. Леанідзе знайшоў у архіўных матэрыялах Чаўчавадзе рукапіс яго паэмы „Хвала Чалаубані“. Гэта першая паэма Чаўчавадзе, напісана ім у 11-гадовым узросце.

Паэма змяшчае 120 шаснаццаціstопных радкоў.

## ТРЫСТА НЕВЯДОМЫХ АРТЫКУЛАЎ В. Г. БЕЛІНСКАГА

За апошні год літаратуравед В. С. Спірыдонаў, які ўжо каля 20 год вывучаў творчасць Белінскага, знайшоў звыш 300 невядомых артыкулаў і рэцэнзій вялікага крытыка, якія надрукаваны без подпісу ў розных часопісах.

Знойдзеныя новыя матэрыялы ўключаны ў XIII том твораў В. Г. Белінскага, які здадзены Лендзяржвыдатам у друк.

Да 90-годдзя з дня смерці Белінскага выйдзе з друку аповесць А. С. Далінін-Іскоза аб жыцці вялікага крытыка і кніга Пушкарэвіча „Белінскі лінгвіст“. Акрамя таго будзе выданы асобны том „Філасофскія артыкулы Белінскага“.

## КВАТЭРА, У ЯКОЙ ЖЫЎ МАКСІМ ГОРКІ

У лістападзе 1891 г. 23-х гадовы Аляксей Максімавіч Горкі, тады яшчэ невядомы скіталец, прыбыў у Тбілісі. Тут ён зблізіўся з сасланым на Каўказ А. М. Калюжным, які жыў у доме № 146 па Елізавецінскай вуліцы. Тут у 1892 г. Аляксей Максімавіч напісаў сваё першае апавяданне „Макар Чудра“.

Пастановай Тбіліскага совета, кватэра, дзе 46 год таму назад жыў вялікі мастак, ператвараецца ў сталы музей А. М. Горкага. Кватэра будзе адноўлена ў тым выглядзе, у якім яна была тады, калі жыў у ёй Горкі.

## ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА ПІСЬМЕННІКА

У памяць аб прабыванні А. М. Горкага ў Растове-на-Дану ў новым будынку сталовай порта па Берагавой вуліцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка з надпісам:

„Тут на тэрыторыі Растоўскага-на-Дану порта, улетку 1891 года, працаваў грузчыкам вялікі пролетарскі пісьменнік Максім Горкі (Аляксей Максімавіч Пяшкоў) 1868—1936".

## СОНЦА З КРЭМЛЯ

Дзяржаўнае выдавецтва Украіны выдае серыю кніг мастацкай літаратуры да выбараў у Вярхоўны Совет УССР. Нядаўна выйшла другая кніжка гэтай серыі „Сонца з Крэмля", у якой сабраны украінскія народныя песні аб Канстытуцыі. Кніга апявае гераічныя шляхі барацьбы і перамог, славіць сёнешні дзень краіны соцыялізма.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая 76, Дом Пісьменніка. Тэлефон 22-792.**

# ЗМЕСТ


*Стар.*

**Ц. Карага**—Над калыскай *(верш)* . . . . . . . . . . 3

**Сулейман Стальскі**—Пасланне сваім выбаршчыкам *(верш)* . . . 4

**Сулейман Стальскі**—Першамайскае пасланне *(верш)* . . . . . . 6

**Песня аб паходзе Ігаравым**—*(пераклад Я. Купалы)* . . . . . 7

**К. Чорны**—Макаркавых Волька *(апавяданне)* . . . . . . . 27

**Э. Самуйлёнак**—Будучыня *(раман, працяг)* . . . . . . . 34

**А. Александровіч**—Палярная ноч *(паэма)* . . . . . . . 138

**А. Стаховіч**—Чэснасць, „Мілка“ *(апавяданні)* . . . . . . 161

**А. Жаўрук**—Жывы Ленін *(верш)* . . . . . . . . . 166

**Д. Байран**—Змрок на душы маёй . . . . . . . . . 168

**Люгоўскі**—Светлы дзень *(верш)* . . . . . . . . . 169

**Н. Гудзій**—Найвялікшы помнік старажытнай культуры . . . . 170

**Л. Модэль**—Юбілейныя спектаклі . . . . . . . . . 175

**Хроніка** . . . . . . . . . . . . . . . 193


---


Рэдактар *М. Лынькоў*.

Здана ў набор 25/IV—38 г. Падпісана да друку 28/V—38 г. Аб'ём $12^1/_4$ друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера $60 \times 92^1/_{16}$. Тыраж 4.400 + 250. Зак. № 3384.
Уп. Галоўлітбела № К—5474.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку.

